


# 11

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(756) ЛІСТАПАД, 2016**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар

**Святлана Дзмітрыеўна**
**ВОЦІНАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ**
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп’ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стыльрэдактар: *А.І. САЛАМЕВІЧ*

Падпісана да друку ??.11.2016. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк.??,??. Тыраж ???? экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь



**Кацярына Захарэвіч**

# Рукавічкі

Кася бегае па горадзе і шукае рукавіцы, якія калісьці згубіла. Згубіла яна іх вельмі даўно, і нават не ў гэтым горадзе. Кася тады не была яшчэ Кацярынкай, і нават Касяй не была. Яна была Касечкай. Адкуль прыйшлі гэтыя цудоўныя рукавіцы, яна не памятае. Аднойчы яны проста пачалі быць. Чорныя, бліскучыя, з рознакаляровымі каменьчыкамі на чорных шнурочках.

Касі здавалася, што такія рукавічкі — не для яе. Яны павінны належаць дзяўчынцы-князёўне, маленькай лэдзі у крыналінавых сукенках ды з выкшталцонымі манерамі. А тут яны ў яе — у Касечкі. Насіць іх яна не любіла. Ёй здавалася, што рукі ў гэтых рукавіцах — чужыя, а як жа гэта Касечка — з чужымі рукамі? Нібы прысабечыла тое, на што не мае права, і ўсе адразу пра гэта здагадаюцца. Гэтым рукавічкам не пасуе не толькі Кася. Самае галоўнае — ім не пасуе быць на даўгім матузку, які прасоўваецца праз абодва рукавы, дазваляючы рукавічкам не тырчаць скамечанымі, адцягваючы тканіну кішэняў у бакі, а прыгожа пагойдвацца на матузках падчас хады. Такія матузкі былі на рукавічках Касечкінага сябра Дзімкі — хлопчыка, на два гады меншага за Касю, які заўсёды ўсё губляў. Касечка памятае, папрасіла ў мамы такія ж матузкі зрабіць для яе рукавічак. Мама адмовіла, Кася ўжо і не памятае, чаму. Здаецца, таму, што Кася ўжо не маленькая, каб так хадзіць. А так хацелася ісці і адчуваць, як пагойдваюцца на матузках — абавязкова сіметрычна — рукавічкі.

Потым Касечка падрасла, рукавічкі сталі здавацца ёй дзяцінствам. Не тыя, чорныя, а любыя. Захацелася пальчаткі — як у мамы ці як у аднакласніцы Крысціны. А тыя чорныя рукавічкі проста зніклі, бо ім нічога не пасавала — ні матузок, ні Кася. Яны былі занадта прыгожыя, каб існаваць у такім недасканалым свеце, таму былі проста забытыя.

Рукавічак на матузках Кася потым доўга-доўга не сустракала. А тут не так даўно ўбачыла — у аднагрупніцы ва ўніверсітэце. За гады, у якія Касечка стала Кацярынкай, рукавічкі на матузках, аказалася, зусім не страцілі для яе сваёй прывабнасці. Толькі лепей, калі звісаюць яны асіметрычна. Увогуле з узростам Касечка-Кацярынка стала схіляцца да асіметрыі. І тут абрынуліся ўсе псіхалагічныя абарончыя пабудовы, кшталту высвятлення і нечага там яшчэ. Усплылі ў памяці тыя — найцудоўнейшыя ў жыцці — рукавічкі, чорненькія, бліскучыя, з рознакаляровымі каменьчыкамі на скураных шнурочках. Кацярынка разумее, што ніколі не зможа такія насіць, бо яны павінны належаць якой-небудзь князёўне-лэдзі на высокіх абцасах і з выкшталцонымі манерамі. Ды і рукі ў Кацярынкі зусім не князёўнаўскія. Але ж павінны гэтыя рукавічкі быць недзе — хоць бы ў марах — зоркай, што асвятляе шлях. Вось і шукае іх Кася.

У яе ёсць ужо дзве пары рукавічак. Адны — брудна-белага колеру, народжаныя такімі і не здольныя быць адмытымі да бялюткасці. Затое цёплыя і не шкада. Другія — сляпуча-белыя з чырвоным узорам, падораныя калегамі на дзень нараджэння, ні разу не апранутыя, але ўжо вельмі любімыя. Яны б павінны належаць прыгажуні-Снягурцы. Кацярынка — зусім не Снягурка, але яна імкнецца да гэтага. Не можа ж яна паўтарыць памылку.



**Дзмітрый Шулюк**

## Гэта ж дрэнна?

Я ў тралейбусе. Без слухавак. Калі б быў са слухаўкамі, то, напэўна, слухаў бы ў гэты час «City and Colour». Мне здаецца, што ў грамадскім транспарце якраз не хапае іх чысціні, свежасці. У грамадскім транспарце толькі задуха і шум. Шум бессэнсоўных і асэнсаваных размоў, шум уздыхаў і рогату, шум няспыннага дыхання. Я без слухавак, бо я слухаю гэты шум. Слухаю і, незаўважна для гэтага натоўпу незнаёмцаў, незаўважна і для сябе самога, фільтрую. Ператвараю адзінае мора гуку ў асобныя хвалі. Я быццам фатограф. Толькі той працуе з візуальнай карцінкай, а я з гукам.

Калі ты ў слухаўках, ты робішся цэнтрам сусвету. Астатнія ператвараюцца ў астатніх, у людзей меншай ступені важнасці, чым ты. Ёсць толькі чароўная плынь нот. Плынь, якая зацягвае з сабой і гэты горад, ператварае яго голас у непатрэбства і дазваляе выйсці на першы план колерам.

Я без слухавак. Я слухаю. Чую размову. Размаўляюць жанчына — маладая маці з маленькім дзіцем — і жанчына — ужо ва ўзросце.

— Уявіце сабе, — кажа першая.

Другая ківае і ўяўляе, альбо не ўяўляе, а проста ківае. Хутчэй за ўсё другое. Пра гэта сведчаць далейшыя рэплікі.

— Некаторыя бацькі сваім дзецям за тое, што тыя слухаюцца, даюць грошы, — на чыстай рускай мове і яшчэ з дадатковым гарадскім акцэнтам працягвае маладзіца свой мана-дыялог.

— Ага-ага. Гэта ж дрэнна? Так?

Я не жадаў гэта чуць. Але, калі адмаўляешся ад слухавак, абавязкова ў вушы будзе лезці ўсялякае смецце. Сярод яго тыя фразы, якія прымушаюць штосьці ў страўніку, у грудной клетцы і адначасова ў чэрапе кіпець. Вось адна з іх: «Гэта ж дрэнна?» Якое можа быць мысленне ў чалавека, каб задаць такое пытанне? Якое сумленне? Якая самапавага? Як з энтузіязмам прымаць адсартаваныя за цябе «добра» і «дрэнна»? Застаецца адзін крок — і цябе вучаць, што «прыгожа», а што «агідна». А затым ніякіх больш крокаў.

Я без слухавак, але музыка ўжо ў галаве. Пяшчотная і цвёрдая, быццам зубы малога кацяняці. Здаецца, што хапае і не адпусціць, ды адначасова разумееш, што для цябе няма ніякай небяспекі ў гэтай пашчы ці пастцы. «City and Colour» — гэта не зусім гурт, гэта хутчэй адзін артыст. Яго завуць Далас Грын, але, як ён тлумачыць, з-за сціпласці ён не назваў свой музычны праект сваім іменем, а прыдумаў для назвы своеасаблівы каламбур. Знойдуцца людзі, якія скажуць: «А як жа гонар за сваё прозвішча? Як жа стагоддзі продкаў, якія жылі толькі для таго, каб з'явіўся ён? Гэта ж дрэнна?!»

Такія вось мы істоты — людзі. Нас як магнітам цягне абвінаваціць каго-небудзь. У нас заўсёды знойдуцца прычыны, а вось у гэтых «каго-небудзь» ніякіх прычын быць не можа. Мы раўнадушныя да чужых матываў, і гэта жудасна. Гэта месіва з абвінавачванняў і раўнадушша нават уявіць складана. Толькі не трэба ўяўляць. Дастаткова лішні раз прыслухацца, ці, калі побач нікога няма, зазірнуць ва ўспаміны. Пашукаць на самай паверхні. Каб выключыць дадатковыя цяжкасці, зазірнём у мае.

Той люты я добра памятаю. Гэта быў, напэўна, самы складаны перыяд майго жыцця. Двойчы-тройчы на тыдзень маці ў тэлефонных размовах, між іншым, згадвала, што хтосьці знаёмы памёр. Затым не стала дзядулі. Затым павесілася Таня. Я яе дрэнна ведаў. Аднойчы правёў дахаты і падзяліўся шакаладкай, але гэта ўсё роўна не магло не зачапіць. А можа і магло. Другога каго-не-

будзь, не мяне. Мой лепшы сябар быў у гэты час у Італіі, і я адчуваў сябе жудасна. Дастаткова было апынуцца ў адным памяшканні з любой па памеры групай людзей, каб мая галава разрывалася на часткі. Было адчуванне, што кроў не вытрымлівае ціску, хоча вырвацца і заліць увесь гэты свет. Было сапраўды цяжка. Цяжка наведваць пары і, асабліва, ездзіць у школу на практыку. Ужо сама неабходнасць знаходзіцца ў натоўпе аўтобуса ператваралася ў катаванне. На практыцы адзінае, што я мог, — гэта глядзець неадрыўна ў акно, альбо пісаць. Метадыстам у нас была наша куратар Яўгенія Мар'янаўна. Яна была не задаволена маімі паводзінамі, што і прывяло да наступнага.

Перад класнай гадзінай я забег у агульнік, каб выпіць кубачак кавы. Я спадзяваўся, што кава крыху згасіць палымяны віхор эмоцый, які пагражаў вось-вось выбухнуць. Кава не дапамагла. Выбух адбыўся. Быццам разумеючы, што я раблю, але цалкам існуючы ў невядомасці, я схапіў лязо і правёў на левай руцэ глыбокую баразну. Пацякла кроў. Разам з ёй, знайшоўшы выхад з майго цела, вылецеў гэты эмацыянальны жах.

Калі я прыйшоў на класную гадзіну, кроў усё яшчэ цякла. Важкімі кроплямі падала на падлогу. Мае аднагрупнікі азіраліся, глядзелі на мяне, а шапталіся між сабой. Куратар на хвіліну змоўкла, а затым працягнула, як быццам нічога не адбылося. Працягнула расказваць, якія мы ўсе лянівыя. Напрыклад, я.

— Вось Дзіма, напрыклад. Які з яго будзе настаўнік, калі ён усю практыку глядзіць у акно?

Кроў не трымалася. Кроў выбягала на свабоду. Кроў выбягала за рамкі майго цела. Да яе далучыліся словы, якія я выгукнуў імгненна.

— А які з вас атрымаўся куратар, калі вы нават не можаце спытаць у свайго студэнта аб прычыне яго неадэкватных паводзін?

Як пішуць у дрэнных раманах, на хвіліну паветра захапіла цішыня. Пасля Яўгенія Мар'янаўна працягнула, як быццам нічога не адбылося. Толькі пра мяне нічога не казала. Успрыняла мой крык аб дапамозе як абразу. Захацела застацца без маёй крыві на сваіх руках.

Паважаныя чытачы, калі вам здаецца, што зараз я імкнуся абвінаваціць кагосьці з мінулага, выставіць безабаронную асобу ў адмоўным свеце, калі ласка, перачытайце ўвесь тэкст. А затым толькі можаце пераходзіць далей.

Мая любімая песня «City and Colour» называецца «Girl» («Дзяўчына»). Менавіта з гэтай песні я пачаў сваё знаёмства з гэтым праектам. Акрамя таго, яна песня-сімвал, песня-ўспамін, пра тую чароўную, незвычайную дзяўчыну, якая пазнаёміла мяне з гэтай музыкай. Якая стала сама для мяне сімвалам. Сімвалам адкрытых эмоцый, сімвалам бессэнсоўнай радасці, пазбаўленай пытанняў аб дрэнным і добрым.

Я ў тралейбусе, без слухавак. Чую дзявочы голас:

— Пакуль не прабівай, раптам кантралёраў не будзе.

Рука мацней сціскае прабіты талончык. Я заўсёды прабіваю талончык адразу, не таму, што я такі правільны, і тым больш — не з-за страху перад кантралёрамі. Я раблю гэта з-за дзіцячых капрызаў. Я раблю гэта на зло ўсім тым, хто так не робіць. На зло ўсім тым, хто не хоча адкрыць сваё сэрца для разумення добрага і дрэннага. На зло гэтаму тлустаму, гніламу, неабдымнаму раўнадушшу. На зло… Гэта ж дрэнна?

*«City and Colour» — згодна з Вікіпедыяй, акустычны фолк/кантры праект. Звычайна ж гэтую музыку адносяць да жанру індзі-рок. Стваральнік праекта — канадскі спявак і музыкант Далас Грын. Да 2011 года ён працаваў па сумяшчальніцтве ў гурце «Alexisonfire», але вырашыў, што трэба засяродзіцца на чымнебудзь адным. Акрамя Даласа Грына перыядычна ў «City and Colour» удзельнічаюць розныя іншыя індзі-рок-музыканты, але гэты ўдзел сесійны.*

*У наш час незалежнае (індзі) мастацтва займае ўсё большае і важкае месца. «City and Colour» — адзін з яркіх праектаў гэтага кірунку. Таму кожнаму, хто імкнецца трымаць руку на пульсе часу, рэкамендую азнаёміцца з гэтай казачнай у сваёй прастаце і простай у сваёй казачнасці музыкай.*




**Канстанцін Касяк**

## Няўлоўныя мсціўцы

Добра быць у адпачынку. І выбрацца кудынебудзь за межы Беларусі. Мне дык даспадобы апошнія некалькі гадоў «маленькая Вена» — Львоў, які, у прынцыпе, мала чым саступае ў сваім харастве былым сталіцам Аўстра-Венгерскай імперыі. Гэтай дзіўнай і неверагодна прыгожай манархіі з яе операмі, тэатрамі, кавярнямі, банкамі, дамамі ў югендстылі. І прыгожым размераным жыццём.

Львоў — дзіўны горад, з драматычнай і пакручастай гісторыяй. У адрозненне ад Вены і Будапешта, ён за адно толькі ХХ стагоддзе паспеў пабываць пад юрысдыкцыяй самых розных дзяржаў. Пераходзіў з рук у рукі. Не выязджаючы з горада, можна было паспець пабываць падданым Аўстра-Венгерскай і Расійскай імперый, грамадзянінам Другой Рэчы Паспалітай і Савецкага Саюза. І гэта я бяру толькі працяглыя гістарычныя этапы. Гэта значыць, скажам, калі чалавек нарадзіўся ў пачатку мінулага стагоддзя, дзе-небудзь у 1905 годзе, яшчэ пад аўстрыйскай каронай, то скончыць свой век ён мог ужо ў незалежнай Украіне. Тэарэтычна. Перажыўшы усе тыя рэжымы, што панавалі ў неспакойныя часы.

Львоў — альфа і амега чалавечых лёсаў. У адных тут усё толькі пачыналася, яны выпраўляліся з гэтага горада ў сваю доўгую вандроўку, каб ніколі больш не ўбачыць роднага дома. Як Збігнеў Герберт, сусветна вядомы польскі пісьменнік. Другія ж, не маючы мажлівасці вярнуцца на Бацькаўшчыну, знаходзілі тут прытулак і вечны спакой. Калі не дома, дык хоць бы побач з ім.

Імя Сымона Візунаса Шыдлоўскага не надта шырока вядомае ў Беларусі. Вікіпедыя нават не ведае яго дакладнай даты нараджэння. А менавіта гэты дзяцюк з Віцебшчыны быў у свой час паплечнікам Кастуся Каліноўскага, непасрэдным удзельнікам паўстання 1863 года. Як сапраўдны паўстанец, Шыдлоўскі меў цікавую і пакручастую біяграфію. Народжаны ў шляхецкай сям'і, ён меў добрую адукацыю, вучыўся ў Санкт-Пецярбургу, стаў прафесійным вайскоўцам. Быў ад'ютантам расійскага генерала. Але жыццёвыя перспектывы і кар'еру ў імператарскім войску Шыдлоўскі прамяняў на ўдзел у паўстанні, зрабіўшы вельмі рызыкоўны крок. Ён у прамым сэнсе мог каштаваць яму жыцця. Сымон Візунас разам з сваім атрадам адважна змагаецца на роднай Віцебшчыне, але сілы няроўныя. Паўстанцы вымушаны адступаць. У баях Шыдлоўскі быў нават цяжка паранены.

Пасля паражэння паўстання 1863 года Шыдлоўскі разам з паплечнікамі прарываецца на Захад. Як і многія ўдзельнікі тых падзей, ён апынуўся спачатку ў Францыі, у Марсэлі, а потым у Лондане. Тыповая біяграфія для авантурыстаў і рэвалюцыянераў другой паловы XIX стагоддзя. У той час гэта было нормай. Многія паўстанцы, апынуўшыся па-за межамі Расійскай імперыі, пачыналі шукаць сабе месца ў жыцці.

Мне даводзілася бачыць фотаздымак былога паўстанца, які служыў у Французскім замежным легіёне. А Францыя, як вядома, падтрымлівала паўстанцаў, аказвала ім некаторую дапамогу. І гэтыя стасункі ўсталяваліся задоўга да саміх падзей 1863—1864 гадоў. Што казаць, калі яшчэ сам Жан-Жак Русо, натхняльнік і ідэолаг Вялікай французскай рэвалюцыі, напісаў на замову аднаго заможнага польскага магната працу пра маг-

чымы дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай. Падчас працы ён вельмі шчыльна пазнаёміўся з правам і традыцыямі дзяржавы «абодвух народаў» і нават выказваў жаданне пераехаць туды на сталае месца жыхарства. Вядомы французскі мысляр, які не выносіў публічнага жыцця і шумных гарадоў, мог бы пасяліцца ў Белавежскай пушчы.

Легендарны персанаж з прыгодніцкіх кніжак Жуля Верна капітан Нэма напачатку быў таксама польскім паўстанцам, удзельнікам падзей 1863 года, а ўжо потым стаў удзельнікам антыбрытанскага паўстання сіпаяў. Выдавец проста не хацеў губляць кніжны рынак у Расійскай імперыі, дзе ўсё яшчэ чыталі па-французску і чыталі шмат.

Пад канец жыцця Шыдлоўскі перабіраецца бліжэй да радзімы — у аўстрыйскі Львоў, сталіцу фармальнага Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі. Нягледзячы на тое, што горад, як і ўвесь рэгіён, знаходзіўся з 1771 года пад юрысдыкцыяй аўстрыйскай кароны, тут фактычна панавалі палякі: дзейнічаў краёвы Сейм, на польскай мове вялося навучанне ў школах і ўніверсітэце, было нават дазволена самакіраванне. Нямецкая мова захавалася ў войску, на пошце і на чыгунцы. Ну і ў дакументаабароце канешне ж. Таму ў гэтым горадзе Сымону Візунасу было, безумоўна, камфортна. Пэўна, лепш чым у далёкіх Марсэлі ці Лондане.

У Львове Шыдлоўскі вядзе спакойны лад жыцця, канчаткова асядае. На ўласныя грошы ён адкрывае шпіталь для былых удзельнікаў паўстання, а таксама ўступае ў ветэранскую арганізацыю, стаўшы яе актыўным удзельнікам. Час ад часу ён збірае сваіх хлапцоў, каб згадаць былыя часы. Ягоныя паплечнікі не губляюцца, трымаюцца адзін аднаго.

У 1906 годзе Шыдлоўскі памёр. Як і Францішак Багушэвіч, заўчасна. Мог бы, пэўна, яшчэ і пажыць. На фота ён нават ва ўзросце выглядае крэпкім такім дзядзькам з даўгімі валасамі. У ягоным абліччы ёсць нешта ад індзейца. І абавязкова з харугвай з Віцебшчыны, якая ацалела ў яго яшчэ з часоў паўстання. Шыдлоўскага хаваюць на вядомых у Львове Лычакаўскіх могілках, дзе знайшлі спакой многія вядомыя людзі розных нацыянальнасцяў і культур.

Шпацыруючы па цвінтары, сярод усіх гэтых велічных помнікаў, разглядаючы надпісы, пачынаеш задумвацца. Па-сутнасці выходзіць, што




смерць — гэта чалавечы лёс. На жаль ці на шчасце, але нам наканавана калі-небудзь пакінуць гэты свет. Іншая справа, што адмераны век можна пражыць па-рознаму: перабыўшы яго абы як або ярка, актыўна, з карысцю для іншых. Каб застацца ў памяці нашчадкаў.

Праз чатыры гады пасля смерці Сымона Візунаса Шыдлоўскага на яго магіле з'явіўся велічны помнік: няскораны пры жыцці харунжы стаіць разам з харугваю паўстанцаў з Віцебшчыны. Пад ім надпіс: «На нашым праху паўстануць мсціўцы».

Яго колішнія паплечнікі і сябры-паўстанцы спачываюць побач. Іх помнікі куды больш сціплыя, простыя крыжы. Мясцовыя жыхары даглядаюць за імі.

Як будзеце ў Львове — абавязкова адведайце землякоў.



**Анхела Эспіноса Руіз**

# Арпеджыа душы, альбо мой першы кантакт з Беларуссю

Першы раз апавядаю хоць каму гэтую гісторыю. Здавалася б, стагоддзі мінулі. Яго звалі Мігель. Яго зала была адзінай на першым паверсе. Дырэктар дазволіў яму там выкладаць, каб не прымушаць яго падымацца па сходах. Таму грацыёзныя ноты яго страдывярыуса першымі віталі ўсіх наведнікаў музычнай школы адразу па ўваходзе ў будынак. Мігель быў высокі, худаваты, а твар у яго быў добры і спакойны, хіба стомлены той стомленасцю, якую большасць вучняў такой установы не бачыць і нават не ўяўляе.

Я грала — і граю дагэтуль — на піяніна. Таму мяне з ім доўга звязвалі выключна пратакольныя *добры дзень* у калідорах (ну і, вядома, словы майго настаўніка, якім выпадкова апынуўся дырэктар школы). Затое, як вядома, да кожнага музыкі-вучня прыходзіць ахвота паспрабаваць сябе ў іншым ледзь не метафізічным плане — навучыцца іншай пазіцыі, іншай адчувальнасці, іншым гукам, пахам і эмоцыям. Папросту кажучы, навучыцца граць на чым-небудзь яшчэ. Здагадваецеся, хто згадзіўся вучыць мяне свайму інструменту на год?

Гэта было вельмі даўно. У далёкім 2006 годзе. Як падказвае элементарная арыфметыка, мне было 13 гадоў. Я была нязграбнай падлеткавай дзяўчынкай, але з разумнымі вачыма і пэўным музычным талентам. Мігель настройваў маю скрыпку для пачаткоўцаў, я старалася граць, ён папраўляў, мы размаўлялі. Часта і доўга размаўлялі. Як належыць у такіх выпадках, я шалёна закахалася ў цудоўнага дарослага скрыпача з сумным позіркам і лёгкім кульганнем. Ды кульгання я і не заўважала, пакуль маці мяне не спытала, ці ведаю, ад чаго Мігель кульгае!

Аднойчы Мігель расказаў мне пра аварыю. *А ты ведаеш, Анхела, чаму я кульгаю?* А я не ведала, і мама спытала, таму я паглядзела на яго з зацікаўленасцю. Аказалася, адной зімовай ноччу заўважыў каля дарогі знішчаную машыну і параненую жанчыну. Мігель спыніўся і паспяшаў да яе, так хацеў дапамагчы, што забыў апрануць святлоадбівальную камізэльку. У выніку машына падбіла яго проста ў спіну. Ён расказваў пра гэты выпадак, нібыта вінаваты ён — у нас, зрэшты, еўрапейскі дарожны этыкет, камізэлька абавязковая, — і звычайны сум яго вачэй узмацніўся. Потым Мігель бесклапотна патлумачыў: лекары папярэдзілі аб тым, што шанцаў хадзіць зноў у яго вобмаль, а на скрыпку сказалі нават не спадзявацца. Мігель перапыніў мае змрочныя думкі просьбай заставацца з яго скрыпкай, пакуль ён зойдзе ў прыбіральню (скрыпцы адной нельга заставацца, бо яна — дарагі страдывярыус, гістарычны аб'ект, амаль што музейны экспанат). Няблага ведаў мяне Мігель. Ці разумеў, што гару маладым каханнем да яго?

Я разумела, што на рамантычныя адносіны прэтэндаваць не магу, але мая апошняя надзея заўважыла, што ў яго на правай руцэ няма пярсцёнка. Нярэдка лавіла сябе на думцы, на пытанні, чаму ў такога выдатнага чалавека жонкі не было (паўтару, што мне было 13 гадоў, і яшчэ не ўмела быць цынічнай пры патрэбе). Аднойчы гарачаватым летнім вечарам, нібыта прачытаўшы мае думкі, Мігель загаварыў: *Дзесяць гадоў таму я быў першай скрыпкай Венскай філармоніі. Мы часта гралі канцэрты з прыгожай маладой піяністкай з Беларусі. Мы закахаліся, пачалі жыць разам, планавалі вяселле. А яна знікла ў 1996 годзе, у Мінску. З'ездзіла дадому і не вярнулася. Вецер забраў яе, хто ведае, куды. Я пакінуў Вену і аркестр. З таго часу я адзін... Калі ласка, заставайся з маёй скрыпкай, мне трэба выпіць пігулку, спіна баліць.*

Я засталася сам-насам з таямнічым, знямелым інструментам. Баялася думаць пра сакрэты, якія ён яшчэ

хаваў. Мігель здолеў і хадзіць па аварыі, і граць, як пасля продажу душы д'яблу, але не закахацца зноў. Некалькі тдняў таму я сустрэла яго выпадкова на вуліцы, у сваёй роднай Малазе. Ён дагэтуль працуе ў музычнай школе, іграе на страдыварыусе і не падымаецца па сходах. І дагэтуль без пярсцёнка.

## Страх расчаравання

*Анхела, а можа, аднак, пачакаеш крыху перад тым, як паедзеш у Беларусь?* — спалохана спытаў чарговы мой знаёмы. *Слухай, я добра ведаю клімат нашай дарагой РБ, не едзь у лістападзе, не варта,* — упэўнена параіла мая блізкая сяброўка. *Глядзі мне... Не расчаруйся. А найлепш заставайся ў Польшчы,* — віртуальна прасіў прыяцель, які сядзеў за камп'ютарам ажно ў Мінску. Чаму людзі не давалі мне спакойна планаваць сваю першую паездку ў Беларусь?

Страх (чужога!) расчаравання ў Беларусі — рэальная і дужа актуальная з'ява ў псіхіцы беларуса, пра што я даведалася ў кастрычніку мінулага года. Каб мяне спыталі раней пра беларускую ментальнасць, я б ніколі не называла падобных пунктаў; маё існаванне на беларускай культурнай прасторы пачалося недзе ў 2013 годзе. Публікаваць вершы я пачала ў 2014-м, і калі жыла яшчэ ў Іспаніі, далёка-далёка, беларусы, якія дадаваліся да маіх віртуальных сяброў штодзённа, рэгулярна запрашалі мяне да сябе, дадому. І ў горад, і *да-сябе-дадому-сапраўды-ў-аўтэнтычную-беларускую-вёску-дзе-я-маю-хату-з-краю.* Таму ў мяне склалася (не зусім памылковае, як мне падаецца) уражанне, што беларусы ганарацца сваімі людзьмі, сваёй прыродай, сваімі гарадамі, вёскамі і аграгарадкамі. Гэта тое, што я бачыла здалёк, калі свае санеты прыдумляла каля чужых берагоў паўднёвых мораў, і думала, што беларускі лес поўны мілых міфалагічных істотак, якіх так чароўна апісалі Багдановіч з Барадуліным. Відаць.

У 2015 годзе сітуацыя змянілася кардынальна. Кардынальна нават этымалагічна, бо я вырашыла паслухацца капрызаў свайго маладога сэрца, паступіць на магістратуру па беларускай філалогіі — бацькам так і не ўдалося зрабіць з мяне юрыста — і пераехаць, проста так, у Варшаву. З Малагі гэта недзе 4 000 км. А да Беларусі, як вы ведаеце, ужо значна меней.

Беларуская дыяспара польскай сталіцы прыняла мяне як сваю і адразу. Я атрымлівала гадзіны і гадзіны моўнай практыкі, часцей за ўсё, за півам. Што магло быць лепш? Затое я ці не імгненна заўважыла, што пытанне *а ты ўжо была ў Беларусі?* гучала па-іншаму, а рэпліку *трэба пабываць абавязкова* пасля майго адмоўнага адказу было практычна не чуваць. Пытанне аб тым, якая Беларусь у маім уяўленні, задавалася таксама не без страху. Нарэшце, адзін з маіх новых знаёмых патлумачыў, больш-менш, што да чаго: *У цябе, напэўна, хутка з'явіцца магчымасць зрабіць сабе візу і паехаць у Беларусь. У Беларусі не ўсе людзі як у нас у Варшаве беларусы, з якімі ты тусуешся. Не расчаруйся.* Падумае чытач, што ў Варшаве чытаюць вершы Караткевіча ў кожным пабе, арганізуюць канцэрты Вайцюшкевіча з Вольскім штотыдзень і паказваюць беларускае аўтарскае кіно за 10 злотых (папкорн уключаны) у цэнтры горада. І гэта… ну, *амаль* так. Паверце мне на слова, добра?

У любым выпадку, магчымасць перакрочыць беларускую граніцу з'явілася неўзабаве. На варшаўскім факультэце белфілалогіі, дзе я пару месяцаў вучылася, сабралася група студэнтаў, якія захацелі арганізаваць паездку ў Мінск на выходныя. Я пераканала сваю маці, што едзе група з універа (зразумейце! Гэта было амаль праўда на сто адсоткаў), і, атрымаўшы яе згоду, падала разам з аднагрупнікамі на групавую візу.

Шлях наш быў даволі доўгім і не без неспадзяванак, як я ў глыбіні душы і чакала. У чацвер дабраліся да Беластока, дзе мелі пераначаваць перад цягніком у Гродна. Перш за ўсё здзівілі жарты маіх польскіх спадарожнікаў: *мы едзем у славянскую краіну, таму трэба напіцца, як ніколі ў жыцці! У Беларусі п'юць, як славяне, не тое, што ў нас у Еўропе,* і іншыя словы ў такім самым духу. Як іспанка скажу, што, як на мяне, і ў Польшчы моцна п'ецца; як дыпламаваны славянскі філолаг скажу, што і палякі — славяне. Гарэлка ледзь дапамагала смяяцца, як усе.

Як заўсёды бывае з падарожжамі ў групе, мы селі ў цягнік у апошнюю хвіліну. Пахмелле мела свой уплыў на наш стан і нашыя размовы (дакладней, на іх адсутнасць). Я ведала, што шляху назад ужо няма. Цягнік з'ехаў да світанку, у накірунку terra incognita!



**Святлана Курганава**

## Тэкст улюбёнага ў жыццё

Пісаць пра дзверы ў лета летам недарэчна. Летам адкрыць гэтыя дзверы можа кожны і без праблем. Пра гэтыя дзверы трэба пісаць увосень, яшчэ лепш — зімой, калі гэта — высілак, прынятае рашэнне, прага жыцця.

*«Ён быў цвёрда перакананы, што за аднымі з дзвярэй абавязкова павінна быць лета. Гэта азначала, што кожны раз я павінен быў абыходзіць усе адзінаццаць дзвярэй і трымаць кожныя з іх адчыненымі да таго часу, пакуль ён не пераконваўся, што за імі ўсё тая ж зіма, і не расчароўваўся ў сваіх пошуках».*

Гэтыя дзверы — навукова-фантастычны раман — стварыў для нас Роберт Хайнлайн, адзін з трох кітоў «залатога стагоддзя» фантастыкі. Яго не трэба прадстаўляць — гэта адзін з тых людзей, пра якіх не прынята расказваць, бо пра іх усе ўсё ведаюць. А калі не ведаюць, то стрымана ківаюць і потым гугляць пад покрывам ночы. Зараз вам не трэба нічога ведаць пра біяграфію і прэміі. Вам трэба проста прачытаць «Дзверы ў лета». Зразумець Хайнлайна — гэта зразумець шалёна простыя «Дзверы ў лета».

Дэн Дэвіс — таленавіты інжынер-робататэхнік, які займаецца стварэннем тэхнікі для палягчэння дамашняй працы. Яго жыццё пайшло пад адхон: няма лепшага сябра, няма каханай нявесты, няма любімай справы. Быццам бы ўсё ўжо добра, усё магчыма змяніць: нічога непапраўнага няма. Але жыццёвыя акалічнасці адпраўляюць Дэна ў анабіёз на трыццаць гадоў. І калі герой прачынаецца, то ўцягваецца: атрымлівае прыемнае асяроддзе, вяртаецца ў прафесію. Усё добра? Усё будзе добра, толькі калі вярнуцца назад, выправіць памылкі і дарабіць тое, што не паспеў.

Мы чытаем кнігі, дзе ёсць Абраныя, Магутныя Воіны і г. д. Яны ратуюць свет (свой, чужы, але пазней зноў жа свой — гэта не мае вялікага значэння), таму што яны павінны яго выратаваць. Велічэзны незразумелы размах, магутны герой, сілы ў яго зашмат. А тут перад намі валявы чалавек, які не зусім суадносіцца з сучаснымі ідэаламі і ідэаламі папярэдняга дзесяцігоддзя. Але як часта нам гэтага не хапае? Хто можа сказаць «Я хачу змяніць сваё жыццё!» і сапраўды пайсці мяняць яго?

Жыць трэба вытанчана, прыгожа. Я ўкладаю ў гэтыя словы трохі іншае значэнне, чым наша сучаснасць. Вытанчанасць — гэта цікавая партыя ў шахматы, узровень, пройдзены на «золата». Прыгожую партыю свайго жыцця разыгрывае Дэн Дэвіс. Ён збірае жыццё з вузлоў і плат гэтак жа ідэальна, як свае машыны.

«Дзверы ў лета» — гэта пра любоў і каханне. Да жыцця, да навукі і да жанчыны. Цяпер так мала жадаюць ЖЫЦЬ —ўсюды дэпрэсіі, апатыя, тлен. А Дэн проста хоча ЖЫЦЬ. Сэнс жыцця ў тым, каб ЖЫЦЬ, разумееце?

«Дзверы ў лета» — гэта філасофія катоў.

Цяпер можна сказаць, што мяккія пухнатыя звяры захапілі свет. Маркетолагі, каб прадаць тавар, паказваюць аўдыторыі коцікаў, і аўдыторыя крычыць ад захаплення. Але так было не заўсёды. Цяпер пачуцці не ідуць далей замілавання, а Хайнлайн кажа пра тое, як любіць ката.

Хто можа сказаць «Я хачу змяніць сваё жыццё!» і сапраўды пайсці мяняць яго?

## Тэкст складаецца прыблізна на 30% з таго, што рухае сюжэт, на 30% з апісання тэхнікі. Усё астатняе — каты і філасофія

*«Каты не прымаюць жартаў, яны жудасна эгаістычныя і вельмі крыўдлівыя. Калі хто-небудзь спытае мяне, за што я люблю катоў, я, хутчэй за ўсё, не змагу ўцямна адказаць. Гэта ўсё роўна, што тлумачыць чалавеку, які не любіць вострых сыроў, чаму ён павінен любіць лімбургер. І ўсё ж такі я магу зразумець кітайскага мандарына, які адрэзаў рукаў халата, пакрытага неацэннай вышыўкай, толькі таму, што на ім спала кацяня».*



Графіка Надзеі Савельевай.

Кожны кот — індывідуальнасць. Так, Піт п'е імбірны эль, цалкам свядома адказвае на пытанні самаму блізкаму чалавеку і ахоўвае дакументы. Каты — стварэнні шматгранныя. І многія людзі трохі падобныя на катоў. Такія ж індывідуалісты, якія больш прывязваюцца да месца, чым да людзей. Або прывязваюцца людзьмі да месца — не соль. Гэтая філасофія можа быць цалкам чалавечай. Паглядзіце, можа, вы кот?

*«Яшчэ ў той час, калі быў пухнатым кацянём, Піт выпрацаваў для сябе простую філасофію, згодна з якой я адказваў за жыллё, ежу і надвор'е, а ён — за ўсё астатняе».*

«Дзверы ў лета» — гэта цвёрдая навуковая фантастыка, гэта будучыня вачыма ідэаліста.

Тут шмат сацыяльных прадказанняў, якія спраўдзіліся. Нешта яшчэ вельмі эфемернае і прывіднае (мы пакуль не ўмеем замарожваць людзей на пяць соцень гадоў. Мы наогул не ўмеем іх замарожваць), але газетныя загалоўкі з некаторымі папраўкамі цалкам можна ўбачыць і сёння.

Тут шмат тэхнічных дэталяў. Тэкст складаецца прыблізна на 30% з таго, што рухае сюжэт, на 30% з апісання тэхнікі. Усё астатняе — каты і філасофія. Гэта стварае свет. Мы бачым тое, што адбываецца, праз лямпы Фрэзена і злучэнне дэталяў. Хайнлайн умеў пісаць ярка: потым вы самі раскажаце, як уладкаваны «Чарцёжнік Дэн» і «Разумніца Фрэнк», і не таму, што там шмат апісанняў тэхнікі, а таму, што яны напісаныя цікава.

Чытайце фантастыку. Знайдзіце свае дзверы ў лета.



Маргарыта Дзяхцяр

## Колькі ілжы ў вялікіх вачах?

Цім Бёртан — рэжысёр вялікі без перабольшвання. Ён зняў стужкі, якія лічацца калі не класічнымі, то абавязковымі для прагляду дакладна. Некалькі гадоў таму Бёртан зняў стужку, пра якую казалі шмат. Пра «Вялікія вочы» адгукаліся не толькі добра, але і не вельмі (а рэжысёр у сваёй стужцы, дарэчы, даволі шмат кажа пра крытыкаў праз сваіх герояў). Нягледзячы на рэцэнзіі, фільм паглядзець трэба. Хоць бы для таго, каб даведацца аб гісторыі мастачкі, пра якую многія з нас, напэўна, нават не чулі.

Каб не Цім Бёртан, мы б не даведаліся пра Маргарэт Кін. І гэта сапраўды так, бо праз кіно нашмат лягчэй пазнаёміць чалавека з кімсьці ці чымсьці. Мы глядзім на экран і бачым там не проста відэашэраг, а гісторыю, якая паглынае і не пакідае абыякавымі. Чамусьці многія з нас ведаюць Эндзі Уорхала. А чаму? Таму што яго поп-арт усюды? Таму што мы бачылі яго вядомыя «банкі з супам»? Чаму тады мы ніколі не бачылі «вялікія вочы»? Бо насамрэч нават сам Уорхал быў захоплены гэтымі карцінамі. Нездарма стужка Бёртана пачынаецца са слоў мастака.

Жанчына, якая хуценька здымае са сцен свае карціны, хоча збегчы. Ёй надакучыла папярэдняе жыццё, яна з тых, хто не баіцца пачаць усё з нуля. Таму Маргарэт, тады яшчэ не Кін, забірае рэчы, карціны і маленькую дачку Джэні і едзе ў Сан-Францыска з яго рамантычнымі мастамі.

Прызнаюся, калі адразу ўбачыла адну з карцін «вялікія вочы», не зразумела яе шэдэўральнасці. Мне ўвогуле падалося, што гэта малюнак малой Джэні, хоць і зроблены вельмі якасна і «па-даросламу». Але з цягам часу, угледзеўшыся, пазнаёміўшыся з мастачкай, пачынаеш разумець, што «вялікія вочы» — не проста дзеткі з «анімэшнымі» вачыма. Гэта адбітак жыцця Маргарэт Кін.

Для мяне гэта ад пачатку да канца была стужка пра самаахвярнасць. Я глядзела кіно, а думка пра тое, што чалавек на працягу жыцця чымсьці ахвяруе, не пакідала мяне. Магчыма, вам падасца тое самае. Маргарэт Кін у «Вялікіх вачах» — у першую чаргу, жанчына. Ніхто не ўспрымае яе як добрага мастака, бо ці можа ў жанчыны штосьці добрае атрымлівацца? Ці здольная жанчына ствараць шэдэўры? Ці можа яна зразумець тонка арганізаваны свет? Нават муж Маргарэт не разумеў яе таленту.

Для Уолтэра Кіна карціны жонкі былі заробкам. Не, не, не толькі. Яшчэ лёгкім шляхам да славы. Спачатку здавалася, што ён не збіраецца нажывацца на работах Маргарэт — Уолтэр сумленна насіў яе карціны разам з сваімі па галерэях, хацеў іх выстаўляць, а калі яны падаваліся гледачам агіднымі, ён абараняў іх. І дзе ж той момант, калі ў ім прачнулася прага да славы? Дзе той момант, калі ён «здрадзіў» жонцы?

Уолтэр Кін заўсёды хацеў быць мастаком. Так ён усім казаў. Але я яму не веру. Калі хочаш быць кімсьці, то спрабуеш. Калі хочаш быць мастаком — спрабуеш маляваць, спрабуеш выстаўляцца, спрабуеш раіцца з тымі, хто ўжо мастак. Спадар Кін мог толькі скардзіцца на тое, што «хацеў, але не атрымалася». Для жанчыны, калі ў яе мужчыны штосьці не атрымліваецца, справай №1 становіцца шчасце мужа. І гэтае шчасце становіцца галоўнай яе памылкай.

Кажуць, што «Вялікія вочы» — стужка яшчэ і пра фемінізм, ці пра змаган-



не за фемінізм. Маргарэт у першую чаргу дэманструе пакорлівасць жанчыны. Амаль на працягу ўсёй стужкі яна робіць тое, што скажа муж. Канечне, без жадання, але робіць. Пасля яна скажа, што баялася. Акрамя таго, што яна яго баялася, яна яму яшчэ і верыла, яна яго яшчэ і кахала. У выніку атрымалі стакгольмскі сіндром.

Калі чалавек ахвяруе дзеля дабра — гэта пахвальна. Але дзеля чаго ахвяравала сабой мастачка? Здаецца, яна і сама не да канца разумела гэта. Карціны з вялікімі вачыма былі для яе чымсьці накшталт дзяцей — цяжка было расставацца з імі, цяжка было глядзець, як яны прысвойваюцца чалавекам, якому не належаць.



Кін кіраваў сваёй жонкай. Як толькі яна спрабавала супраціўляцца, Уолтэр казаў: «Не думай пра тое, як сказаць “не”, бо ёсць мільён прычын, каб сказаць “так”». Вось і самаахвяраванне — цяпер Маргарэт жыла ў вялікім, прыгожым доме, мела грошы, расціла прыгажуню-дачку і глядзела па тэлебачанні праграмы, у якіх яе муж расказваў пра «свае» карціны. Усё ж за радасці трэба плаціць, як інакш?

Калі нарэшце людзі, якія глядзелі на карціны, спыталі Уолтэра, «а чаму ў іх такія вялікія вочы?», ён наўпрост не змог адказаць, пайшоў з пытаннем да жонкі. Маргарэт адказала без сумненняў: «Я веру, што ў іх шмат відаць, разумееш, бо вочы — гэта люстэрка душы». Не самы арыгінальны адказ, але самы шчыры.

«Вялікія вочы» зняты па матывах кнігі Маргарэт Кін «Вялікія вочы. Таямнічая гісторыя Маргарэт Кін». Можа, таму і можна сказаць, што стужка — не проста кіно, якое пасля прагляду пакідае эмоцыі, уражанні і «адбітак» на ведах гледачоў: «вялікія вочы» сапраўды існавалі, мастачка сапраўды перажыла ўсё, пра што расказаў Бёртан, Уолтэр Кін сапраўды ўкраў карціны сваёй жонкі.

І гэта сапраўды стужка пра самаахвярнасць. Пра самаахвярнасць Маргарэт Кін як жанчыны, як жонкі, як маці, як сябра і як мастачкі. Мы бачым жанчыну, якая з лёгкасцю змяняе сваё жыццё ў пачатку стужкі, але не можа змяніць яго пасля — ці не талент стаў праклёнам Маргарэт Кін?

Акрамя таго, што карцінка атрымалася прыгожай і яркай, акцёры выканалі свае ролі выдатна, трэба адзначыць саўндтрэк да стужкі — адмысловую песню для «Вялікіх вачэй» напісала вядомая спявачка Лана Дэль Рэй. Паслухаўшы яе песню перад праглядам, можна зразумець, якой будзе стужка, пра што яна будзе, які настрой чакае гледача ў наступныя паўтары гадзіны: «З вялікімі вачыма шмат ілжы».

Галіна Зыранава



**нарадзілася 6 чэрвеня 1982 года ў вёсцы Крывошын Ляхавіцкага раёна. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка, працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Любіць жыццё і слова. Імкнецца перамераць рэкі замежных моў у шкарлупінцы грэцкага арэха. Яе Парыж — мора, прагне ўбачыць яго і жыць доўга-доўга ў творчай радасці. Самая важкая шкодная звычка — абдымаць незнаёмых людзей і называць іх Сонцамі.**

## Дзе рыбы — Птушкі, і дзе птушкі — Людзі

***

Холадна.
У клетцы, апавітай даўкімі лілеямі,
Паміж паліцаў з перагорклымі алеямі,
Дзе з белых дошак вырастаюць камяні.
Мне холадна.
Пад столлю, дзе гірляндамі — агеньчыкі,
Дзе замест вокнаў лесвіцы з парэнчамі,
Якія сонца ўсё імкнуцца засланіць,
Як жа мне холадна...
Сагрэй мяне.
Як птушаня — далонямі,
Дасланымі па павуцінках словамі,
Старымі-новымі,
Сагрэй.
Не быць вясне.
Але як жыць староннімі?
Як галаву схіліць перад умовамі?
Як дыхаць? Словамі?
А ведаеш...
Ты толькі не старэй.
Душу пры ельніку на хвілю затрымай.
Так. Лепей не мяне — яе сагрэй.
Як птушаня — далонямі.
А я сама
Для вогнішча найлепшы бераг адшукаю
І крошкамі пазначу сцежку да вады.
«Прыходзь!» — дашлю табе на крылах чаек,
Ты адгукнешся — рэхам вогненнай хады.
Не будзе клетак больш, выгнання і адчаю,
Адной сярнічкі хопіць, пэўна, на гады...
...Мой новы дзень. Гарачы кубак чаю.
І так нясцерпна точаць сэрца халады.

***

Мора маё, зноўку хваля за хваляй
Па камянях да ўзбярэжжа прастуеш.
Дзень учарашні рупліваю праллляй
З пылам самотным у пальцах нітуеш.

Сонца маё патапляеш у сіні,
Фарбамі белыя воблакі квеціш —
Пэўнасць у пошуме хваляў зноў гіне,
Солі ў вачах ужо больш, чым у свеце.

Мора маё! Абдымі мяне цёпла:
Я не прашу ні плыта, ні пярлінак —
Сіняй пяшчоты адненькую кроплю,
Сэрца відучага дотык адзіны...

***

Калі запытаюся раптам, чым пахне мора,
Скажы, калі ласка, што пахне яно язмінам.
Пра солі прагорклaсць, заіленасць зыркіх зорак
Ты мне не кажы — не рабі надвячорак зімным.

Бо я нарадзілася кветкай з душою сонца,
Бо з кветкавым морам з'яднанае маё сэрца,
Бо песня язміну натканая на красёнцах,
Каб мёдам — не лёдам—
напоўніць тваё вядзерца.

Каб ты зразумеў аднойчы: мора —не мара,
Каб я зразумела, што слёзы — не ёсць крыніца,
Каб мы прастаялі вечнасць тварам да твару,
А морам між намі усё не маглі наталіцца...

***

Ў палёце больш не выпускай маёй рукі,
Каб наша неба не звялося зноў да прыску,
Каб на пасрэднасці іржавыя цвікі
Не напароцца нам, як закружляем нізка .
Ў палёце больш не выпускай маёй рукі,
Каб не падаўся свет ізноў глухім і хіжым,
Каб не прыйшло на думку: «Людзі — мінакі,
Натоўп, ахвочы да хлусні і дробных зніжак».
Маёй рукі ў палёце больш не выпускай,
Хай неба неспасціжным морам будзе,
Дзе таямніцы і адкрыцці — цераз край,
Дзе рыбы — Птушкі, і дзе птушкі — Людзі.

***

У далонях маіх — белы снег,
Кулькай саду, які па вясне
Не прыпыніцца, ані прысне,
Покуль лёд не праб'юць хрызантэмы.
Кветкі-зоркі запозненай тэмай
Расцвітуць на жывым палатне,
Нагадаўшы абноўленай мне
Мора снегу, разлітага крэмам
Па каржах акалелай зямлі,
Што да восені мякка вялі
Паўз лясы, дзе лісцём — матылі,
Закаханыя ў вольнае неба.
Хрызантэмы пад снегам — як мы,
У далонях заўчаснай зімы.
Шлях да лета кароткі, прамы,
Але ж... сонейка, сонейка трэба...

***

Намалюй мяне так, як умееш —
Белай птушкай між шэрых галін.
Можаш крэйдай, а хочаш — алеем.
Толькі ты мяне бачыш. Адзін.
Для астатніх я — рыска пейзажу,
Ліхтаровага кропка святла.
Толькі ты ўсім даводзіш адважна,
Што я птушка, ў якой два крыла.
Што мне неба бясконцасць — радзімай,
Хоць радзілася тут, на зямлі.
Намалюй мяне — іншым на дзіва,
Каб паверыць у лёт мой змаглі.
Намалюй мяне. Так, як умееш.
Цяжка птушцы без дужых галін.
Покуль памяць не засціць завея,
Намалюй. Як ты можаш адзін...



Настасся Нарэйка

**Нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Працуе журналістам і таму, магчыма, здольная ў сваіх тэкстах паспяхова спалучаць вастрыню тэмы з якасным валоданнем моваю. Апавяданні, якія прапануюцца тут, — гэта вопыт пільных назіранняў за жыццём. Прычым убачанае аўтар прапускае праз сябе, перажывае разам са сваімі героямі. Магчыма, менавіта такая эмацыянальная далучанасць, што пранізвае гэтыя тэксты, вызначае непаўторную аўтарскую манеру.**

## Проста падае снег

На лесвіцы было зімна.

Яна стаяла нерухома, нібы не адчувала босымі нагамі холаду, не заўважала, што вязаная хустка адным канцом дакранаецца да падлогі. Унізе цяжка грукаталі крокі ды з металічным звонам саскокваў з прыступкі на прыступку чамадан на колцах.

Пікнулі дамафонныя дзверы — і ўсе гукі зніклі. Аглушаная цішай, яна нібыта ажыла, пабегла ўніз да акна. «Нашто? Нашто ты робіш гэта?» Яна бачыла, як ён аддаляецца, і снег (адкуль толькі ўзяўся?) хавае сляды ды яшчэ дзве паралельныя лініі за колцамі чамадана.

Хустка саслізнула на падлогу. Яна прысела лёгка, як балерына, падняла пульхны белы ком і павольна пайшла наверх. Зачыніла дзверы кватэры. Паклала ключы на паліцу пад люстэркам і толькі тады адчула слабасць у нагах. Трэба было нешта рабіць з ёю...

Навобмацак у цемры яна знайшла крэсла, села, шчоўкнула ўключальнікам лямпы. Святло закавала яе ў кола, нібыта ратуючы ад усяго злога. Падабраць пад сябе ногі, рухі схаваць у хустцы, а сэрца? Куды падзець сэрца?!

Тэлефон маўчаў. Яна баялася яго з той пары, калі пасля любімай мелодыі незнаёмы жаночы голас сказаў, што ў яе няма больш каханага мужа.

— Як вы можаце гэта вырашаць? — спытала яна. — Толькі ад мяне залежыць, каханы ён ці не.

Суразмоўца збянтэжылася, а калі загаварыла, голас яе быў ужо не такі ўпэўнены. Жанчына зусім маладая, амаль дзяўчынка — яна зразумела гэта і адчула... Сполах? Не. Агіду? Не. Крыўду? Не. Гэта не мела назвы.

У пакоі цёпла, але, нягледзячы на гэта, па спіне яе войскам ішлі дрыжыкі. Цяжка быць полем бою. Асабліва, калі вайна ідзе яшчэ і ўнутры. Вайна ў вайне.

Яна абняла калені рукамі і з усіх сіл заплюшчыла вочы. Гэта дапамагала вярнуць адчуванне яго абдымкаў, яна рабіла так кожны раз, калі мужа не было побач. «Нашто? Нашто гэта цяпер?»

Адпушчанай спружынай яна ўскочыла з крэсла, скінула хустку... «Спяшайся!» У прыхожай абула боты на голыя ногі, апранула паліто паўзверх хатняй сукенкі ў клетку, усцягнула шапку на непаслухмяныя кучаравыя валасы. «Спяшайся!»

Сумка падалася занадта лёгкай. Такая не ўтрымае на гэтай Зямлі! Кінула ў яе мабільнік, пальчаткі, шчотку для адзення, пульхную касметычку, тэлефонны даведнік, статуэтку кошкі (навошта?). «Спяшайся!»

Дзверы. Ключы. Выдых. Лесвіца. Яна забылася пра ліфт, як з паўгадзіны таму забыўся муж. Сыходзіць трэба хутка. Яна не ўспамінала пра гэта.

Дамафон пікнуў нешта суцяшальнае. Яна расчыніла дзверы і выйшла проста ў снег. Белыя зорачкі заляпілі ёй вочы, набраліся ў боты, упляліся ў валасы. Яна чхнула і засмяялася — лёгка, зусім не істэрычна. «Тысячи белых ежат». Пашукаўшы на паліцах памяці, яна знайшла аўтара гэтага параўнання — Эдуард Асадаў. Сляпы паэт. У галаве ўспыхнуў вобраз — малады прыгожы твар, на якім свой знак у выглядзе чорнай павязкі на вачах, яшчэ не паспела пакінуць вайна. «А что если просто падает снег и тормоза не визжат? А что если просто идет человек и губы его дрожат?» Бязгучна яна шапатала па памяці гэтыя словы, і слёзы сыпаліся з вачэй. Так выходзіць боль. Ад смеху да плачу — адзін крок...

Яна плакала доўга — напэўна, цэлую вечнасць. Прахожыя нешта гаварылі ёй, разумелі сваё бяссілле і знікалі.

«Спяшайся!»

Яна ўздрыгнула, страсянуўшы з сябе цэлую завіруху, і пабегла. Цераз снег. Цераз боль. Цераз бель.

«Спяшайся!»

Ногі неслі самі, яна давярала ім слепа. Вуліцы змянялі адна адну. Немагчыма было заўважыць іх, не тое, што запомніць назвы. «Рабінавая». Перад гэтым словам яна застыла, прыціснуўшы непад'ёмную сумку да грудзей. Нешта знаёмае... Прынамсі, цяпер не лепшы час думаць пра гэта.

«Спяшайся!»

Упэўненым крокам яна пайшла да дома пад нумарам 5. Першы пад'езд... Каля яго яна села на заснежаную лаўку, абхапіла сумку яшчэ мацней і ўпершыню за ўвесь свой марафон задумалася. «Нашто? Нашто ты робіш гэта?» Адказ быў недзе блізка.

Дрыжачымі ад холаду і сполаху рукамі яна пачала расшпільваць сумку — ніяк. Трэба зняць пальчатку. Калі тысяча калючых сняжынак упілася ў руку, яна адчула сябе дзяўчынкай з запалкамі з казкі, больш падобнай на праўду. Нарэшце! Дзе ж?

Яна шукала і не ведала, што шукае. Яшчэ адны пальчаткі.. Шчотка... Тэлефон... Не тое! Ёй няма каму больш званіць. Сыну раскажа пасля — у яго важныя спаборніцтвы ў іншым горадзе.

А гэта што?

Яна выцягнула на свет божы тэлефонны даведнік. «Нашто?» Здагадка, а дакладней — успамін, прашыла наскрозь, як электрычны ток. Тацянічава! Літара Т. Імгненна адшукала яе, а потым — прозвішча. «Тацянічава Ірына Ігараўна. Вось тут. Нумар тэлефона, адрас... Рабінавая, 5!» Яе сэрца глуха ўпала і пакацілася. Балюча. Цяжка. Горка. Гэта накаўт.

«Нашто я прыйшла сюды?»

— Ты ведаеш, — адказала нешта ўнутры.

Яна пазнала голас нянавісці і спужалася, толькі не паказала гэтага. З вар'ятамі нельга спрачацца.

— Ідзі.

Ані руху.

— Ідзі! Скажы ёй усё, што думаеш!

Ані гуку.

Нянавісць бяссільна тарганулася ўнутры, на што болем адгукнулася сэрца.

— Ідзі!

Тэлефонны даведнік выпаў проста ў снег. І ў той жа момант пачуўся ціхі жаласлівы плач. Яна апусцілася з лаўкі на калені. У халодную без пальчаткі руку тыцнулася носам кацяня, такое белае, што яго цяжка было разгледзець сярод снегу.

— Маленькі мой.

Яна асцярожна прыціснула кацяня да грудзей. Снег уперамешку са слязамі сыпаўся на яго пушыстую поўсць.

— Ты пойдзеш са мной.

Гэта было сцвярджэнне, а не пытанне.

— Мы цяпер разам.

Кацяня ўзняло пыску і паглядзела ёй проста ў вочы. Так асэнсавана і ўдзячна, што ў яе заплакала сэрца.

Калі гучна ляпнулі дзверы пад'езда, у якім жыла саперніца, яна сама здзівілася хуткасці сваёй рэакцыі. Імгненне — і дрэва надзейна схавала дзве адзінокія істоты, што знайшлі адна адну.

На вуліцу без верхняга адзення і ў тапках выбег яе муж. Былы? Напэўна, цяпер трэба так называць яго... Гэта думка, на дзіва, не выклікала болю.

Мужчына, між тым схіліўся каля лаўкі, нешта шукаючы. На чорных валасах пераліваліся і не раставалі сняжынкі, як тады, калі яны падчас першага спаткання забыліся пра час і гулялі пад снегам усю ноч. У адно імгненне яна ўспомніла ўсё: усмешкі, словы, дотыкі, шчасце — і заціснула рот вольнай рукой, каб заглушыць рыданне.

— Сняжок! Дзе ты, Сняжок?

Цішыня. І завея.

— Сняжок...

«Ён цябе шукае».

Яна дакранулася вуснамі да цёплай поўсці кацяняці і ад усёй душы марыла ў той момант быць ім. Каб шукаў... Каб непакоіўся...

— Сняжок! Як толькі яна магла выкінуць цябе?! Эх, Ірка, Ірка!

Пошукі не мелі сэнсу. Ён хацеў было вяртацца ў пад'езд, як раптам заўважыў у гурбе нешта фіялетавае. Змёў даланёй снег і падняў тэлефонны даведнік.

— Дзіўна.

Ён адгарнуў апошнія старонкі, дзе запісвалі нумары ад рукі, пазнаў жончын почырк і цяжка апусціўся на лаўку.

— Ліля.

Яна пачула сваё імя і заплюшчыла вочы. Гэта было суцяшальна да болю. Як напамін пра ампутаваную руку.

Муж сядзеў ціха. Яна лёгка чытала па яго спіне цяжкія, здушаныя рыданні. Невыносна цягнула падысці, пакласці руку на плячо, але нельга... Больш нельга...

Кацяня прыснула, і яна баялася паварушыцца. Хай хоць нехта будзе гэтай ноччу шчаслівы!

Другі раз бразнулі дзверы. Маладая жанчына, зусім дзяўчынка, у адным ярка-ружовым халаціку з выклікам адкінула з вачэй светлыя валасы.

— Алег! Здаўся табе гэты кот! Пайшлі.

Ён здрыгануўся, нібы толькі што заўважыў яе, паглядзеў у лялечныя вочы нябеснага колеру і падняўся.

Толькі калі ён адышоў крокаў на дзесяць, Іра крыкнула:

— Ты куды?

— Дадому.

Маладая жанчына так і застыла з адкрытым ротам. Потым зноў бразнулі дзверы.

Кацяня ціха мяўкнула, калі яе рука машынальна сціснулася.

— О, прабач.

Мужавы сляды ўжо паспеў замесці снег, і яна ўсумнілася нават: а, можа, гэта ўсё было трызненнем?

Нечакана стала невыносна холадна. Яна выйшла з-за дрэва якраз у той момант, калі дзверы пад'езда адчыніліся чарговы раз. І з іх адна за адной вылецелі мужавы рэчы. Чамадан усё яшчэ распранутая Іра вывезла на ганак і злосна адпіхнула нагой. Жонку Алега яна заўважыла не адразу.

— Якая сустрэча! Бачу, ты і ката падабрала. Няхай. Цяпер абодва галадранцы твае.

І яшчэ раз дзверы — як выбух.

Адной рукой яна сабрала рэчы ў чамадан і асцярожна павезла яго за сабой. Колцы танулі ў снезе, але яна не заўважала цяжару. Дарога назад адабрала нашмат больш часу.

Алег сядзеў на лаўцы каля іх пад'езда і ў задуменні гартаў тэлефонны даведнік. Яна нахілілася і асцярожна пусціла на снег кацяня, якое вагалася некалькі імгненняў, а потым пабегла да мужа.

— Сняжок!

Голас Алега зазвінеў шчасцем. Ён паклаў даведнік на лаўку і ўзяў кацяня на рукі — малы, пульхны камок.

— Мы цяпер бяздомныя з табою...

Яе сэрца сціснуў боль.

Тонкая рука апусцілася на яго плячо.

— Хіба я адбірала ў цябе ключы?..

## Падмануць Бога

За маёй спінай дваццаць гадоў хірургічнай практыкі.

Сотні разоў я зазіраў у самае нутро чалавека, ведаў напералік усе яго складнікі і іх функцыі. Я адчуваў сябе амаль што Богам, бо ўмешваўся ў Яго дасканалы твор, мяняў і перарабляў, што хацеў.

За дваццаць гадоў ніводзін пацыент не загінуў на маім аперацыйным стале, і гэта дадавала ганарлівасці. Я ўзносіў сябе, хоць выдатна ведаў старую, як свет, ісціну пра тое, што за бездань чакае мяне.

Тая аперацыя не стала выключэннем. Я выцягнуў маладую жанчыну з іншага свету. Як я ганарыўся сабой! Я выйшаў з аперацыйнай, паведаміў усхваляваным родным (мой любімы момант!), што ўсё абышлося, прагна ўвабраў як мага больш удзячных слоў уперамешку з традыцыйным «Дай Вам Бог здароўя» і павольна пайшоў па доўгім блакітным калідоры. Заўтра гэтыя людзі прынясуць мне дарагія цукеркі і каву, паўпарчуся крыху, а потым прыму — чаму б не? Заслужыў...

Я ўжо адчуваў на вуснах смак салодкага шакаладнага напітку, калі ад сцяны аддзяліўся сіні цень і перагарадзіў мне дарогу.

— Што вам трэба?

Гэта была тая самая жанчына, якую прывезлі на «хуткай» разам з маёй пацыенткай.

— Як яна?

Я кінуў абыякава-стомленае:

— Жыць будзе.

Яна выслухала, а потым задала, як выплюнула, наступнае пытанне:

— Вы бачылі яе знутры. Скажыце, якога колеру яе душа?

Я паглядзеў на жанчыну, як на вар'ятку, не ведаючы, што і яна, і гэтае пытанне, і яе дзённік у клятчастай вокладцы зменяць маё жыццё назаўсёды. Зрынуць з п'едэстала. Знішчаць. Які я Бог, калі ніколі не бачыў чалавечай душы, не ведаю, што яна мае колер?

Больш я не знаходзіў сабе спакою. Мінаў час. Кава была выпіта, цукеркі з'едзены, мая пацыентка на сваіх нагах пакінула бальніцу. Я ўзяў водпуск, але думкі мае раз за разам вярталіся да той жанчыны.

Яна была тады ў сіняй спадніцы і белай кашулі, на якой ужо паспелі высахнуць плямы крыві. Выбітая ў плячы рука, глыбокая рана цераз увесь лоб, больш ніякіх траўмаў. «Пашанцавала», — перашэптваліся медсёстры. Сапраўды, у параўнанні з той, якую я аперыраваў, ёй пашанцавала.

Жанчыны былі ў розных машынах падчас аварыі. Мая пацыентка — за рулём, другая — на заднім сядзенні. Мужчына, што вёз яе, загінуў на месцы. Тое ж самае было б і з той, якую я выратаваў, калі б яе не выцягнула з машыны гэта вар'ятка.

Калі аднойчы вечарам яна з'явілася на маім парозе, я не здзівіўся. Плячо ўсё яшчэ балела, гэта было відаць па вачах. Шрам на лбе хавала светлая грыўка. Яна працягнула мне цераз парог агульны сшытак у клятчастай вокладцы.

— Вам будзе цікава.

Я кіўнуў, а яна павярнулася на абцасах і пабегла ўніз, пераскокваючы цераз прыступкі.

Я не ведаў тады, што буду чытаць усю ноч, а раніцай стану іншым чалавекам.

На першай старонцы таго сшытка почыркам без усялякага нахілу было напісана:

«Гісторыя пра тое, як я не змагла падмануць Бога».

КАЛІ ДУМАЮ ПРА ТОЕ, ЯК ЁН ДАЛЁКА, ПАЧЫНАЮ РАЗБУРАЦЦА ЗНУТРЫ. ГЭТАМУ ЗАНЯТКУ Я АДДАЮ БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ СВАЙГО ЧАСУ, ТАМУ НЕ ДЗІЎНА, ШТО СКУРА МАЯ ПАЙШЛА ТРЭШЧЫНАМІ. ХУТКА РАССЫПЛЮСЯ Ў ПЫЛ. ТАМУ МНЕ ТРЭБА СПЯШАЦЦА ЗАПІСАЦЬ ГЭТА.

З чатырох гадоў мяне выхоўвала бабуля, татава маці. Яна выкладала ў музычным вучылішчы і марыла зрабіць з мяне знакамітую піяністку. Але, на вялікі жаль, сесці за бліскучае фартэпіяна ў бабуліным пакоі мне так і не давялося. Альбіна Маркаўна з горыччу канстатавала поўную адсутнасць здольнасцей.

Не магу сказаць, што бабуля перастала любіць мяне ў той момант, але холад я адчувала добра. Нянавісць да фартэпіяна нарадзілася ўва мне неяк сама сабой, але, павінна прызнацца, толькі дзякуючы яму ў маім жыцці з'явіўся Андрэй.

Чарнявы хлопчык быў поўнай маёй процілегласцю ў плане музыкі. Ён, васьмігадовы, іграў так, што ў мяне спынялася сэрца, а Альбіна Маркаўна хрысцілася на партрэт Моцарта над інструментам і змахвала слёзы.

Тройчы на тыдзень Андрэй прыходзіў на заняткі. Мне дазвалялі ціха сядзець у кутку, і я слухала, слухала, убірала ў сябе яго музыку. Мне было шэсць. Не скажу, што ўжо тады я была закаханая ў Андрэя, але цеплыня паспела нарадзіцца недзе глыбока ўнутры. З часам кволы агеньчык стаў вогнішчам, якое плавіла мяне, ператвараючы ў суцэльны агонь.

Андрэй паступіў у музычную школу, потым — у вучылішча, дзе выкладала Альбіна Маркаўна. Яна малілася на яго, а мяне ігнаравала, але я не крыўдзілася, бо не разумела, як можна не любіць яго.

Мы сустракаліся радзей, але кожны тыдзень, у суботу, Андрэй абавязкова прыходзіў да нас на гарбату. Я сядзела за сталом побач і не магла выдыхнуць салодкага, густога паветра. Альбіна Маркаўна здагадвалася пра мае пачуцці, а я сама адкрыла іх раптоўна. Гэта адбылося ў адну з такіх субот.

Бабуля засцілала стол абрусам, а мы з Андрэем павінны былі прынесці з кухні кубкі і сподкі. Ён здымаў іх з паліцы на сцяне, а я не магла адарваць вачэй ад прыгожых рук — рук музыкі.

Да гэтай пары не разумею, як і чаму паліца абарвалася з цвіка. Памятаю толькі імклівы палёт... Думаць не было калі. Я адштурхнула Андрэя з сілай, якой не ведала ў сабе раней, і ўвесь цяжар прыйшоўся на мяне.

Некалькі сінякоў на галаве, плячы і зламаная рука — усё гэта не мела значэння. Андрэй сядзеў пры маім ложку ў бальніцы, і я задыхалася ад шчасця. Мы ніколі не гаварылі пра каханне, але з той пары былі ўжо разам.

Я развучылася хадзіць па зямлі — толькі лётала. Скончыла ўніверсітэт, стала настаўніцай. Андрэй паспяхова канцэртаваў і з кожнай паездкі прывозіў мне белыя ружы. Я была самая шчаслівая і не заўважала, як мяняюцца на вачах адносіны бабулі да мяне.

Аднойчы яна прывяла ў кватэру Олю. Назвала лепшай сваёй вучаніцай, што засталася без даху над галавой, і адвяла ёй вольны пакой. Я не насцярожылася.

Сустрэча Олі і Андрэя адбылася на маіх вачах. З той пары ўсё змянілася. Мудрая бабуля ведала тое, чаго не ведала я. Іх яднала музыка.

Спярша яны проста слухалі адно аднаго, пасля ігралі ў чатыры рукі. Я зноў, як некалі, сядзела ў кутку, і фартэпіяна плакала над маім каханнем і нада мной.

Яны пачалі ездзіць разам і вярталіся заўсёды трыумфальна. «Створаныя адно для аднаго», — паўтарала Альбіна Маркаўна і не магла не заўважала майго болю. Немагчыма было не заўважыць. Я перажывала сваю страту, а Оля і бабуля па-змоўніцку ўсміхаліся. Пакуль аднойчы...

Я стаяла на балконе, прагна глытаючы халаднаватае паветра, настоенае на ўласных слязах.

Яны абедзве выйшлі да мяне адначасова, і гэта напружвала.

Загаварыла бабуля, і словы яе цвікамі прыбівалі мяне да сцяны. Яна казала, што я павінна адступіцца, знікнуць, пакінуць Андрэя ў спакоі, бо з Оляй яму будзе лепш. Я слухала, не верыла вушам, плакала і мармытала:

— Не, не, не...

— Што ж...

Бабуля кіўнула, нібыта гаворачы: «Так я і ведала...»

— Што ж...

Я паспела заўважыць яе ківок Олі і скаланулася ад прадчування.

Былі прыцемкі. Наш дзявяты паверх, здавалася, плыў па-над вечаровай смугой.

Оля загаварыла. Такіх брыдкіх, агідных, пачварных слоў я не чакала з яе ружовых лялечных вуснаў. А потым... Я пачала губляць раўнавагу. У галаве нараджалася разуменне: яна хоча штурхнуць мяне ўніз... Ні гневу, ні адчаю, ні страху — я не адчувала нічога. Андрэй з'явіўся вельмі своечасова...

Яму сказалі, што я хацела скончыць жыццё самагубствам, а Оля мяне ратавала. Не было сіл пярэчыць.

Я з'ехала на наступны дзень.

Андрэй і Оля пажаніліся праз два месяцы. Я ўбачыла іх падчас вясельнай фотасесіі ў гарадскім парку — жыццё нібыта выпрабоўвала мяне. Наступны год я не памятаю ўвогуле. Яно рыхтавала мне выпрабаванне, вось і стаілася часова. Цяпер я разумею гэта.

У той ліпеньскі вечар я ехала на таксі з вакзала, вяртаючыся з санаторыя. Пасля працяглай спёкі горад залівала дажджом. Нібыта прарвалася неба.

Мы ехалі не вельмі хутка, а вось сустрэчная машына ляцела як на пажар. Наступнае імгненне стала самым доўгім у маім жыцці. Падалося, нібыта ў асфальт паміж машынамі ўдарыла маланка.

Я не памятаю, як выбралася з таксі. Правая рука была нейкай дзіўнай, нібыта не маёй, я варухнула ёю і ледзь не аслепла ад болю. Дождж стаяў сцяной, я магла дакрануцца да яго.

Позірк мой слізгануў па змятай, як бляшанка, машыне і ўтаропіўся ў твар таксіста. Я памацала яго пульс праз разбітае акно і адразу зразумела: усё.

Трэба было праверыць другі аўтамабіль. Чапляючыся рукамі за што папала, я дайшла да вадзіцельскага месца, убачыла твар жанчыны за рулём і... у мяне падкасіліся ногі. Оля! Больш у машыне нікога не было.

Я бачыла, што яе літаральна ўціснула ў сядзенне. На секунду мне закарцела пакінуць усё, як ёсць, але потым...

Сляпая злосць апанавала мяне. З усяе сілы я рванула дзверы на сябе. З вачэй градам пасыпаліся слёзы, калі выбітае плячо абдало варам.

Я выцягнула яе.

Паклала на асфальт.

Павольна апусцілася побач.

Позірк упаў, і я ўбачыла на сваёй кашулі кроў. У той момант нешта абарвалася ўнутры мяне. Я заплакала наўзрыд.

Выццё сірэны «хуткай дапамогі» з'явілася бы з ніадкуль. Нехта падбег і ўкленчыў каля мяне.

— Не плачце. Усё будзе добра. Гэта проста шок.

— Не.

Цёплы жаночы голас накрываў з галавою.

— Боль?

— Не.

— Страх?

— Не!

— Што ж тады? — яна старалася размовай адцягнуць маю ўвагу.

— Нянавісць!

Як я ненавідзела сябе тады! За слабасць. За няздольнасць проста адпомсціць таму, хто знішчыў мяне.

Я шкадавала. Варта было пакінуць яе там, у машыне. Ніхто не стаў бы вінаваціць мяне.

У бальніцы маё плячо зафіксавалі і зашылі рану на лбе. Я не адчувала болю — толькі нянавісць.

Я тады падышла да Вас, доктар. Памятаеце? Я ведала, што Вы выратуеце яе, але ўсё адно спытала. Гэта пытанне было маім. Наступнае падказаў нехта іншы. Відаць, Той, каму вядома пра нас усё.

— Я хачу, каб яе не было, — сказала я Яму.

— Няпраўда, — Ён ласкава ўсміхнуўся. — Адно імгненне ты сапраўды жадала гэтага, а потым зразумела, што…

— … не змагу жыць далей з такім цяжарам унутры, — закончыла я Яго думку.

Ён гаварыў праўду. Цяпер я разумею гэта... Няважна, якога колеру душа чалавека. Галоўнае — у яго ёсць душа. Не мне выпускаць яе.

Я не ведаю, нашто пішу гэта Вам, доктар. Відаць, таму, што для мяне не мае значэння, якога колеру Ваша душа.

Я не змагла падмануць Бога.

Я не падманваю і Вас.

Калі Вы дачытаеце гэта, я буду ў цягніку, што ідзе... не, не ў Вечнасць, не думайце!

Я буду жыць. Бо ў мяне ёсць душа. І не мне выпускаць яе.

Чаму я прынесла гэты сшытак Вам? Відаць, таму, што мы разам ратавалі жыццё чалавеку, які... не знішчыў мяне.

Я спрабаваў шукаць гэту жанчыну, імя якой так і не даведаўся. Дарма.

Мае рукі яшчэ не дрыжаць. І я больш не раўняю сябе з Богам.



## Анатоль Зэкаў



**нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Чалавек шматграннага таленту, у адной творчай асобе ён паспяхова спалучае тонкага лірыка, удумлівага празаіка, дасціпнага гумарыста і сатырыка, а апошнім часам яшчэ і актыўна выступае ў друку як дзіцячы пісьменнік.**
**Марыць, каб рэспубліканскае свята беларускага пісьменства некалі завітала на яно малую радзіму.**

# Як дайсці да цябе

***

У век касмічных скарасцей,
калі ўвесь свет на віражы,
чамусьці хочацца прасцей
на белым свеце век пражыць.

І чым далей ідзе прагрэс,
і чым складаней век штодня,
мне хочацца часцей у лес,
дзе некранута цішыня.

***

І радасць у адно, і боль
завяжа лёс вузлом тугім
і не адпусціць болей, бо
іх нельга адпускаць зусім.

Яны — адно. У тым і соль.
І ні спрабуй іх раз'яднаць,
бо радасць, зведаўшая боль,
нашмат мацнейшая, відаць.

***

Заўсёды дзень ідзе за ноччу,
затым яна яго змяняе.
Мы ж нараджаемся аднойчы,
аднойчы мы і паміраем.

І чалавечы век — імгненне,
і чалавек — як парушынка
у свеце многіх пакаленняў,
што адыходзяць безупынку.

За годам год і век за векам,
бо, як таго б мы ні жадалі,
такіх не вынайшлі шчэ лекаў,
каб мы жылі — не паміралі.

А можа, нам яно й не трэба,
бо, заручоныя з бяссмерцем,
мы не ўзіраліся б у неба,
ды і не так жылі б на свеце.

***

Як мне сумненні ўсе адпрэчыць
і як пазбавіцца турбот,
што сэрца болем невылечным
мне пранізалі навылёт?

Як выйсці з паласы няўдач, і
журбу навек прагнаць з душы,
і жыць пачаць зусім іначай —
іначай, чым дагэтуль жыў?

Пытанне следам за пытаннем...
А як на іх мне адказаць,
калі й само маё каханне
адказаў тых не можа даць?

***

Адчуваю, што нешта не так
і не тое ўсё як бы, аднак

быццам трапілі мы ў снегапад —
і наперад ідзём, як назад,

і вяртаемся зноўку туды,
дзе яшчэ не пад снегам сляды,

дзе пакуль яшчэ ты нічыя,
дзе пакуль і не твой яшчэ я.

Дык павернем назад? Рызыкнём —
і, ўсё сцёршы, спачатку пачнём?

***

Не злуйся дужа, калі раптам
цябе пакрыўджу выпадкова
якімсьці ненаўмысным жартам
або неасцярожным словам.

Перажываю ад таго я,
бывае, й сам пасля нярэдка,
што слова вылецела тое,
як птах з расчыненае клеткі.

Даруеш ты ці не даруеш,
ды ўсё адно, павер мне, потым
табе ўзамен нагавару я
у сто разоў больш
слоў пяшчотных.

***

Як другое дыханне — каханне
мне адкрылася так нечакана.
Бы хлапчук, я лячу на спатканне,
шчаслівейшы з усіх закаханых,

да цябе, да цябе, дарагая, —
той, якой я усё ж дачакаўся…
Ў спіну старасць мяне падганяе,
каб хутчэй як мага паспяшаўся.

І лячу ўжо да вуснаў салодкіх,
смак якіх я сваімі адчую…
І так сумна, што век мой кароткі —
і аднойчы ўсё ж не далячу я.

## Нефармальны

Ляціць жыццё, імгненні
у дні штодня прасуе.
Жыву — нібы нязменна
на «дошцы» балансую.

Імчу па тратуары,
паміж людзей вірую —
насустрач добрай мары.
Куды яна скіруе?

Хай кажа хтось, што марна
жыву на свеце белым.
Я — проста нефармальны,
а так нармальны ў цэлым.

## Не знікай

З галавой, зусім паніклай,
я прашу цябе ў журбе:
«Не знікай, калі і знікнеш.
Дай хоць ведаць пра сябе.

Як жывеш і з кім жывеш ты,
ці шчаслівая хоць з ім?»
Я хачу ўсё знаць дарэшты,
не чужая ж ты зусім.

Не зусім чужы й табе я,
нешта ўсё ж было і ў нас,
і жыла-была надзея,
што надыдзе, пэўна, час —

і з табой мы будзем разам,
і кахаць нам, покуль жыць.
Толькі тое ўсё за часам,
і адно магу прасіць

позіркам, з гадамі згаслым
і збалелым у журбе:
«Не знікай, а час ад часу
дай хоць ведаць пра сябе».

***

Шмат у чым зняверыўся,
шмат у чым раскаяўся,
толькі не ашчэрыўся,
толькі не адчаяўся.

У жыцці дагэтуль я
веру па-ранейшаму
кожны дзень у светлае,
кожны дзень у лепшае.





Андрэй Сідарэйка

**нарадзіўся 16 студзеня 1985 года ў вёсцы Каравацічы Рэчыцкага раёна. Прафесійны журналіст. Змешчанае тут апавяданне — яскравы прыклад таго, як аўтар можа змяняцца, пашыраючы свой творчы дыяпазон. Хай не падманyць вас наўмысная спрошчанасць і відавочная казачнасць аповеду: усё не так проста.**

## Дзе твой сусвет?

*З нататак астранома-пачаткоўца*

Не так даўно я пачаў назіраць за зорным небам.

Такое захапленне ў мяне з'явілася пасля прагляду навуковай праграмы. У ёй ішла гаворка пра невядомыя сусветы, на якіх, верагодна, існавала жыццё. Гэта мяне ўразіла. Я пажадаў апярэдзіць навукоўцаў і першым адкрыць невядомы сусвет. Я апрануўся і накіраваўся ў бліжэйшы ўнівермаг.

Прадавец, нібы ў яе кожны дзень пыталі тэлескопы, зусім не здзівілася маёй просьбе. Толькі пацікавілася:

— Вам які?

Я хацеў задаць пытанне: «Яны што, розныя бываюць?» Але паказваць сябе некампетэнтным не пажадаў.

— Самы магутны, — адказаў лаканічна.

Прадавец на некалькі хвілін знікла, а з'явіўшыся, прадэманстравала тавар, назвала цану.

— Усяго? — здзівіўся я.

Аказалася: мая мара каштавала зусім танна. Я разлічыўся, узяў тэлескоп і накіраваўся дадому.

Азнаёміўшыся з інструкцыяй, тым жа вечарам склаў усе часткі, і, калі добра сцямнела, адправіўся на дах шматпавярховіка. Выхад туды ніколі не быў зачынены. Але, пэўна, ім ніхто не карыстаўся.

Я паставіў тэлескоп на зручнае месца, зазірнуў — і нічога не ўбачыў. Тады зразумеў, што не навёў рэзкасць. Зноў зірнуў.

— За чым назіраем? — раптам пачуўся нечы голас за спінай.

— За зоркамі, — адказаў я і азірнуўся. Але нечаканага субяседніка так і не заўважыў.

— Што цікавага ў гэтым занятку? — зноў спытаў той жа голас.

— Можна знайсці невядомыя сусветы, іх жыхароў, — адказаў я.

— А Муркі там жывуць?

— Якія Муркі?

— Кошкі.

— А пры чым тут кошкі?

— Мне больш ніхто не патрэбны.

— Прабачце, але я не ведаю з кім размаўляю.

— З Мурзікам, — адказаў голас.

— З катом?

Тут толькі я здагадаўся зірнуць сабе пад ногі. Побач з тэлескопам сядзеў чорны кот і таксама ўглядаўся ў зорнае неба.

— А ты часам не адтуль? — кіўнуў галавой я на неба. — Бо хіба звычайныя каты размаўляюць?

— Чаму не? Я — звычайны Мурзік. Проста людзі не заўсёды жадаюць чуць нас.

— А навошта табе Муркі з іншых сусветаў?

— Халодна, то нашы баяцца выходзіць, — адказаў Мурзік.

— Складанае становішча.

— Ага, — пагадзіўся Мурзік і ўставіўся на неба. — Дык што, няма?

Я зноў зірнуў у тэлескоп. Праз некалькі секунд прамовіў:

— Не, не відаць.

— Шкада.

З Мурзікам мы прасядзелі каля дзвюх гадзін, а потым пайшлі па дамах.

Наступнага дня да мяне прыйшла думка, што калі я заняўся астраноміяй, то патрэбна даведацца пра гэта як мага больш.

Я схадзіў у бібліятэку. Цэлы дзень я прасядзеў за кнігамі, як зачараваны. Аказалася, што зоркі дапамагалі нашым продкам яшчэ ў старадаўнія часы. Па іх яны арыентаваліся ў прасторы і часе, адзначалі святы, працавалі. Вялікі метэор у іх уяўленні быў цмокам, які нёс золата. А маленькі быў душой памерлага.

Усё гэта было для мяне дзіўным. Быць можа, я пайшоў у іншых продкаў ці гены не тыя перадаліся. Ва ўсялякім выпадку, у сучасным жыцці вышэй пералічанае мне не было патрэбна. У мяне ёсць найноўшы гадзіннік, у якім прадугледжаны компас, а ў мабільным тэлефоне — GPS. Святы я адзначаю згодна з календаром, працую штодня, пяць дзён на тыдзень. Гародніну набываю ў краме.

Часам мне даводзіцца чуць у свой адрас розныя кпіны. Маўляў, што я не пражыву і дня ў нязвыклых абставінах. Напрыклад, адзін на востраве. Але на гэта я адказваю так: не я ж вінаваты ў тым, што нарадзіўся там, дзе ўсё ёсць.

За вывучэннем кніг не заўважыў, як мінуў дзень. За акном ужо была ноч, а значыць — на небе з'явіліся зоркі. У гэтую ноч, праўда, я вырашыў адпачыць і набрацца моцы. А ўжо наступнага дня пайсці па вялікія адкрыцці.

Я не сумняваўся: яны мяне ўжо чакалі.

Ноччу прысніўся зарапад. Мне падалося: гэта — знак. А таксама вельмі прыгожа. Дагэтуль мне ніколі не даводзілася нічога такога бачыць.

Я прачнуўся шчаслівым, з думкай, што ў гэты дзень маё жыццё зменіцца карэнным чынам. А таксама — што менавіта сёння пашчасціць убачыць зарапад наяве. Таму ўжо з самай раніцы я пачаў чакаць надыходу вечара. За дзень я некалькі разоў падыходзіў да тэлескопа. Але што я мог цяпер у ім убачыць?

Як толькі сцямнела, я хутка сабраўся і палез на дах. Размясціўся і зазірнуў у тэлескоп. Я ўглядзеўся больш уважліва. Зарападу не было. Крышачку расчараваўся. Сон аказаўся не ў руку, але цікавасць да астраноміі не знікла. Усё ж у мяне была мара — знайсці новы сусвет, пазнаёміцца з іншапланецянамі.

Незаўважна з'явіўся Мурзік.

— Зноў шукаеш новыя сусветы? — запытаўся ён.

— Так.

— Дарма, — сказаў Мурзік.

— Чаму?

— Чым табе не падабаецца наш?

— Я не казаў, што ён мне не падабаецца. Проста я хачу адкрыць нешта новае.

— А мне не патрэбна нешта новае.

— Як? — здзівіўся я. — Учора ты пытаўся, ці ёсць на небе іншапланетныя Муркі.

— А сёння сустрэў нашу — з суседняга пад'езда. І зразумеў — што не трэба шукаць асабістае шчасце ў іншых сусветах, часам яно зусім побач. Дарэчы, цяпер я іду да яе.

— Прыемнага вечара, — пажадаў я Мурзіру.

— І табе.

Мурзік выбраў сініцу ў руках, а не стаў чакаць жорава з неба. Што ж, гэта быў яго выбар. Мой жа жораў недзе кружыў пад нябёсамі.

Наступнай ноччу я зноўку выправіўся на дах. За гэтыя дні я больш-менш навучыўся карыстацца тэлескопам. Звычайная ісціна: нішто не замацоўвае веды, як штодзённая практыка. Гэтае няхітрае правіла педагогікі я засвоіў яшчэ ў школе. У той час у мяне не было ніякай цягі да астраноміі. Цягам жыцця, я, як атрымліваецца, пажадаў выправіць гэтую памылку.

Падчас назірання за зорным небам на тэлескоп села ластаўка.

— За чым назіраем? — запыталася яна.

«Можа, міжпланетная госця?», — падумалася мне.

— Вывучаю космас. Хачу знайсці новы сусвет. Ты, дарэчы, не адтуль?

— Не. Навошта табе гэта?

— Магчыма, там таксама існуе жыццё. Было б цікава пазнаёміцца з новымі сябрамі.

— А мой дом тут. І сябры — таксама. Мне новыя сусветы не патрэбны. Мяне чакаюць.

— Хто?

— Дзеткі.

— Чаму ты зараз не з імі?

— Па начам лётае шмат мошак. Я дабываю ежу.

— Магчыма, на іншай планеце табе не прыйшлося б здабываць ежу. Яна сама ляцела б да цябе.

— Магчыма. Але мой дом тут. Пра іншае мне няма часу разважаць.

Сказаўшы так, ластаўка паляцела. Я зноўку застаўся сам-насам з тэлескопам і зорным небам. Мой дом таксама быў тут, пад гэтым дахам. Але я не спяшаўся ў яго, а шукаў іншыя сусветы.

«Пэўна, гэта таму, — падумалася, — што я сам па сабе ў гэтым сусвеце, і таму ў мяне ёсць вольны час на тое, каб адкрываць новыя галактыкі».

У вокнах кватэр адзін за адным гасла святло. Людзі кладліся адпачываць. І толькі я, нібы сапраўдны астраном, заставаўся на даху і працягваў назіраць за зорным небам.

«Што ж, кожнаму сваё, — разважаў я. — Пэўна, і за зоркамі камусьці трэба назіраць. Для каго тады яны дораць сваё святло? Магчыма, яны таксама жадаюць быць кім-небудзь заўважанымі».

Днём я ўспомніў, што даўно не быў у сваёй знаёмай — Элі. Я патэлефанаваў ёй і дамовіўся аб сустрэчы. На шчасце, яна жыла недалёка — дваццаць хвілін пехатой. Па дарозе я набыў печыва да гарбаты, якую сяброўка абавязкова прыгатуе да майго прыходу.

— Дзе ты столькі быў? — запыталася яна. — Даўно не заходзіў.

— Назіраў за зоркамі. Ты таксама «добрая». Калі так хацела пабачыцца, магла патэлефанаваць.

— Займалася хатнімі клопатамі, — у сваю чаргу адказала сяброўка.

Мы стаялі і глядзелі ў вочы адзін аднаму. У гэтае імгненне да мяне прыйшла думка: «Жывуць побач знаёмыя людзі, а бачацца вельмі рэдка. Нібы існуюць на іншых сусветах».

— Навошта табе зоркі? — запыталася за гарбатай Эля.

— Хачу знайсці новыя сусветы. Пазнаёміцца з іншапланецянамі, — адказаў я.

— Для гэтага не трэба назіраць за зоркамі. Іншапланецян дастаткова і на нашай планеце, — усміхнулася знаёмая.

— Дзе?! — не паверыў я.

— Вакол нас. Хіба ты не заўважаў? Часам людзі паводзяць сябе як іншапланецяне.

— Жартуем?

— Зусім не. Вось нядаўна я бачыла, як чалавек размаўляў з некім па таксафоне. Уяўляеш? Мабільная сувязь, інтэрнэт, а ён па таксафоне!

— Здаецца, гэта не той прыклад, — далікатна прамовіў я.

— Чаму не той? — у сваю чаргу здзівілася Эля. — Для мяне — той. А вось яшчэ. Заходжу я неяк у краму, бачу, мужчына патэльню выбірае. Пытаецца ў прадаўца: «Скажыце, у якой яйкі лепш варацца?» Разумееш?

— Хіба гэта значыць, што чалавек з іншай планеты? — не пагадзіўся я. — Проста варыць яйкі ў патэльні яму зручней.

— А з якой тады ён планеты ў такім выпадку? — не пагаджалася знаёмая.

— Усё ж гуманоідаў я ўяўляю крыху інакш.

Мне здавалася, што я і Эля сапраўды з розных сусветаў. За той час, што не бачыліся, мы сталі амаль чужымі людзьмі. А некалі, год назад, я амаль штодня наведваў яе. Адчуваў яе настрой, думкі, а зараз не мог зразумець, хоць сядзеў на адлегласці выцягнутай рукі.

— А ты ведаеш легенду пра Млечны шлях? — запытаўся я ў Элі.

— Не, — адказала яна.

— Калі б мы разам назіралі за ім з тэлескопа, я б змог расказаць яе.

— Яшчэ чаго. Быццам мне заняцца няма чым, — здзівілася сяброўка.

Дапіўшы гарбату, стаў збірацца дадому.

— Заходзь яшчэ, — сказала развітваючыся сяброўка.

— Абавязкова, — схлусіў я, бо разумеў, што не хутка (ці ніколі) адчыню гэтыя дзверы.

Гэтай ноччу я зноў выправіўся на дах. Неба было зорным. Як ніколі дагэтуль, мне было цікава назіраць за знічкамі, якія маленькімі кропелькамі ўпрыгожвалі неба.

Раптам у цішыні пачуўся голас:

— Як там?

Ад нечаканасці я здрыгануўся, азірнуўся. Каля маіх ног круціўся маленькі пацучок.

— Прыгожа, — адказаў я.

— І ўсё? — запытаўся зноў пацучок.

— І ўсе.

— Дзеля гэтага ты ходзіш некалькі дзён запар сюды? Я даўно цябе ўжо запрыкмеціў.

— Так.

— Дзівак.

— Чаму?

— Лепш зірні, чым займаюцца па вечарах іншыя людзі.

— Ведаеш, падглядваць за чужым жыццём я не прывык.

Але ўсё ж накіраваў тэлескоп на акно, дзе гарэла святло. Зірнуў у шкельца. Нічога не разгледзеў. Змяніў настройкі тэлескопа, навёў рэзкасць. Гаспадары кватэры сядзелі за сталом. На ім стаяў торт. Пэўна, адзначалі нечы дзень народзін.

Навёў тэлескоп на іншую кватэру. За сталом дзяўчынка рабіла ўрокі. У трэцяй кватэры мужчына рамантаваў на кухні кран.

— Бачыш, людзі занятыя сапраўднай карыснай справай, — сказаў пацучок.

— А якая карысць з твайго занятку?

— Адкрыю новы сусвет, пазнаёмлюся з іншапланецянамі. Магчыма, стану вядомым астраномам-адкрывальнікам.

— Пакуль гэта здарыцца, можна і лапы ўгору адкінуць, — сказаў госць. — Ты як хочаш, а я пабягу туды, дзе святкуюць. Пэўна, крошак там… Хоць паласуюся.

Я зноў навёў тэлескоп на неба. Зірнуў на зоркі. Назіраць за імі мне было цікавей, чым знаходзіцца ў кватэры. Мне здавалася, што людзі настолькі ўглыбіліся ў індывідуальнае жыццё, што развучыліся глядзець на зоркі, гуляць пад начным небам, чакаць знічку, што згарае, каб загадаць жаданне.

Гэтую ноч я правёў на даху да пачатку світання. Стала прыкмета халадаць. Паколькі я быў лёгка апрануты, то паспяшаў дадому.

На наступны дзень я адправіўся да свайго сябра Сашкі. Сашка — праграміст і на жыццё глядзіць праз прызму тэарэм. Сваё жыццё ён таксама спраграмаваў: за некалькі гадоў працы па спецыяльнасці паспеў набыць уласнае жыллё, машыну, летнік. Словам, спраўдзіў мару жыцця сярэднестатыстычнага абывацеля. Аб высокім і вечным Сашка мог думаць толькі тады, калі ў яго быў поўны страўнік, у супрацьлеглым выпадку яго цікавілі толькі матэрыяльныя каштоўнасці. Таму, ідучы да сябра я спадзяваўся, што ён ужо паснедаў.

— Астраноміяй захапіўся? — перапытаў Сашка, калі я расказаў яму пра сваю тайну.

— Так.

— Канешне, гэта нядрэнна. Па-першае, патрэбна адкрыць невядомую планету. Затым запатэнтаваць адкрыццё. І чакай грошай, вядомасці. Я магу ўкласціся ў праект, але ты мне павінен даць гарантыі, што абавязкова будзе поспех.

— А калі не?

— Тады на фінансаванне праекта не разлічвай.

— Праўда, я не збіраўся нават пра гэта з табой і гаварыць.

— Дарма. А што ты збіраўся?

— Прапанаваць табе зазірнуць у тэлескоп.

— Навошта?

— Ты ўбачыў там шмат цікавага. Напрыклад — Млечны шлях. Ведаеш, некалі гэтае скапленне зорак нашы продкі называлі Птушынай дарогай. Быццам менавіта па ёй птушкі ведалі якім шляхам ім увосень трэба ляцець у вырай, а вясной — вяртацца.

— Навошта мне гэта ведаць? — у сваю чаргу адказаў сябар. — У мяне свой сусвет: планаванне, разлік, вынік. І вянец гэтаму поспех, за якім — грошы. А глядзець на зоркі — справа слабых.

— Няўжо?! — амаль выкрыкнуў я.

— Так. Прабач, але ў мяне вельмі шмат спраў. І траціць час на драбязу не вельмі б хацелася. Калі будуць рэальныя праекты — заходзь, тэлефануй.

Мне не заставалася больш нічога, як развітацца і пайсці.

Я ішоў дадому вельмі расчараваны. Аказалася — мой занятак — нікога не цікавіў. Ніхто не верыў у мой поспех. Усім здавалася, што гэтая справа не вартая і лупленага яйка. Тым больш, у кожнага быў свой сусвет, і кожны у гэтым сусвеце існаваў. Штосьці новае нікому не было патрэбным. Штосьці новае — значыла адмовіцца ад нечага старога, такога звыклага і дарагога.

«Дзе твой сусвет?», — запытаўся я сам у сябе.

Адказ не прыходзіў. Мне чамусьці здавалася, што ён пэўна знаходзіўся недзе ў іншым месцы, але не ў маёй кватэры. Магчыма, тэлескоп дапаможа мне яго знайсці, а магчыма і не.

Быў выхадны. Пасля начных прыгод я правёў яго амаль у ложку.

І зноў наступіла ноч.

Раптоўна зазваніў дамашні тэлефон. Гэта было дзіўным. Звычайна мне тэлефанавалі на мабільны. Я падняў трубку. Гэта была знаёмая.

— Уяўляеш, у мяне сеў акумулятар, — пачуўся яе голас. — Нікога побач не было, каб папрасіць на хвілінку мабільны. Толькі побач знаходзіўся таксафон. Я набыла ў найбліжэйшым кіёску картку і патэлефанавала табе. Уяўляеш: адчуваю сябе гуманоідам.

— І?

— У гэты момант мне чамусьці захацелася зірнуць на зоркі. Ты яшчэ не выкінуў свой тэлескоп?

— Не.

— Тады выдатна. Будзем назіраць разам.

Я стаў збірацца на дах. Сёмае пачуццё падказвала мне: сёння я абавязкова адкрыю новую галактыку, знайду свой сусвет.



**Глеб Ганчароў**

# Каятан Чабор

## *(раман у вершах)*

*(працяг, пачатак у № 9,10, 2016)*

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

XXI

Наступілі Каляды, і з гэтай нагоды
Шэрншэльды наладзілі баль-маскарад,
Бо кароль каля Рыгі вадзіў карагоды
І не змог сапсаваць святкаванне Каляд.

Самадзержцам ніяк не хапае вікторый —
Ад уласнай сям'і да сусветнай вайны —
На старонках падручнікаў розных гісторый,
Куды ўкляпацца ляпай жадаюць яны.

Ну, чаго ў супакоі табе не сядзіцца?
Ну, чаму ты паўсюль чарпакамі ліеш
Чалавечую кроў, як жывую вадзіцу,
Акрапляючы Гробіну[1] і Панявеж?

Вось які парадокс непазбыўны бывае:
Намагаючыся гарадзіць агарод,
Ні адзін чалавек ваяваць не жадае,
Але прагне ваярства чамусьці народ.

Ну, вaюй і далей, мерзні ў халепе золкай
Ды вядзі сваю армію за далягляд,
Калі лічыш сябе незгасальнаю зоркай,
А мы будзем гарэзіць на сваце каляд!

Асляпляльны прыём атрымаўся. На славу!
Не бывала такога з антычных часоў!
З найвялікшай натугай улезлі шалавы
Ў кантрабандныя фіжмы[2] з кітовых вусоў.

Кавалеры пялегавалі эспаньёлкі[3],
Нейкі франт сярод дам заліваўся шчыглом,
Гарадскі галава з-пад аздобленай ёлкі
Перапоўз на карачках храпці пад сталом.

Пастар рэзка адставіў талерку са стронгай —
Дзякуй Богу, нарэшце закончыўся пост! —
І ўдваіх са сваёю дзябёлаю жонкай
Заядаў барановым сядлом кальвадос.

На памосце, што ўкручаны быў галунамі,
Духавая капэла дудзела гавот…
(«Ах, каб вас усёй плоймай панесла цунамі! —
Прабурчэў Каятан, аглядзеўшы народ. —

Што чакаем? Бо гэта пакуль што не свята.
Гэта толькі "засвяцце" наступных хвілін.
Вунь як коцяцца ўніз па адзеннях багатых
Ручаі ўсхваляваных пражэрлівых слін!»)

Каятан неўпрыкмет адышоў да акенца,
Дзе на кожнага кумкі ляпілі ярлык,
Бо гусцейшых няма на зямлі квінтэсенцый
Інфармацыі, чым іх змяіны язык.

— Калі ласка, даруйце, прыстойныя дамы, —
Пакланіўся пакорна пляткаркам Чабор, —
Не здаралася з часу прабацькі Адама
Прыгажэйшых жанчын паміж логаў і гор.

Узгарэліся тыя спачатку ад гневу,
Што нахабнік шушуканне іх перарве,
І адразу ж прабачылі, як каралевы:
«Прыгажэйшых, гаворыць? Тады хай жыве!»

---

[1] Гробіна (цяпер — Гробіня) — горад на поўдні сучаснай Латвіі.
[2] Фіжмы — спадніца з крыналінам.
[3] Эспаньёлка — трохвугольная кароткая барадка, якая пайшла з Іспаніі; была вельмі папулярнай у Швецыі, таму што яе насіў Густаў Адольф.

— Мы каго аніяк, паважаныя пані,
Дачакацца не здольныя на карнавал? —
Запытаў Каятан, і абедзве піранні
На яго тлумачэнняў пасыпалі вал.

У вялікасным вэрхале і тарараме,
Ды бясконцым пляткарстве аб тым і аб сім
Гаварыць замінала прыемнае даме
Дама болей прыемная ў стаўленні ўсім.

Каятану прыйшлося праслухаць пра шашні,
Што вядзе адміральша з французам Жэрве,
Што натарыус выйграў маёнтак у шашкі,
Бо казырнага туза трымаў ў рукаве,

Як праз комін каміна штоноч прапаўзае
Да судзейскай дачкі трансільванскі пасол,
Чаму доказаў аж пад завязку хапае:
Нездарма ж у дачкі нарадзіўся асёл.

— Гэта добра, спадарыні, — мовіў нясмела
Каятан, бо не вытрымаў гэтых марок. —
Мы чакаем чыё паважанае цела?
Хто вялікі павінен ступіць праз парог?

Твары дам азарыла вялікае шчасце,
Бы вясёлка расквеціла свой парасон.
Зашапталі яны з непадробленай страсцю:
— Хутка ў госці прыедзе спадар Петэрсон…

— Прабачайце мне, бо я нядаўна ў сталіцы.
Хто такі Петэрсон? Генерал? Канцыляр?
Губернатар якойсьці з заморскіх правінцый?
Обер-лекар? Паэт? Падарожнік? Гандляр?

Суразмоўніцы на непрыстойнага хама
Спадылба паглядзелі за кобру гразней.
Працадзіла скрозь зубы прыемная дама:
— Петэрсон каралю пяткі чухае ў сне.

XXII

Раптам поўнач прабіла званічная бронза,
І прыняў зухаватую постаць бамонд:
Велізарныя пузы паўцягвалі бонзы,
Па-армейску шпалерай раўняючы фронт.

Верлівокія жонкі ў паклонах паселі
Грацыёзна, так што і не марыў дзюгонь[4].
На нявінных мардасах мясцовых камелій
Разгарэўся румянцам пахабны агонь.

Мітусіўся натоўп насякомага кола,
А ў сярэдзіне шнырлівых тараканят,
Як саміца, што з'ела самца багамола,
Рушыў з добрай усмешкаю чухальшчык пят.

Сябрукоў разнастайных вітала персона,
Непавагай не скрыўдзіла ні аднаго.
Каятан першы раз напаткаў Петэрсона,
Але ў момант навек зненавідзеў яго.

Шэрншэльды ў бакі расступіліся гніла,
Як пад прасам дрыгва расплываецца ўраз,
І ў глыбозную твань перад госцем Гуніла
Апусцілася плаўна, нібы ў рэверанс.

Каятан! Што з табой? Ці няўжо ты раўнуеш?
Ты, якому па чыне няможна кахаць?
Ты дарэмна сабе толькі сэрца змарнуеш,
Каб наслаць над балотам надзейную гаць.

Ты, якога ні разу партовыя шлюхі
Не маглі з раўнавагі вывесці на гнеў?
Ты ж паблізу каварнай любві-завірухі
Прабягаў… Каятан разумець не хацеў!

Яму сэрца абварвала кіпнем гарачым,
Быццам кара за горшы з вядомых грахоў.
О, Гуніла — пастэльны бялюткі гарлачык
Сярод багністай слізі ды тванных імхоў!

[4] Дзюгонь — тоўстая водная жывёла, знешне падобная на цюленя.

Закалоць Петэрсона? Дык заўтра ў калодках
Звалакуць яго стражнікі на эшафот.
І пазбыцца паглядаў Гунілы салодкіх?
А Пярун? А валюш? Непрыяцельскі флот?

Покуль розныя думкі ў яго прабягалі,
Распарадчык вясёласці, нейкі барон,
Абвясціў урачыстасць каляднага балю
І раскаціста выгукнуў: «Першы grand rond[5]»!

Кавалеры і дамы паўсталі па парах
Так дакладна, нібыта палены ў кастры,
Панадзелі касцюмныя маскі на твары,
Ганарліва паднялі насы дагары,

І адчула сябе непамыльнай багема,
Напляваўшы на сорам ва ўсім харастве.
Што абудзяць дзіця між жывёл Віфлеема,
Дык таго не трымаў аніхто ў галаве.

Зазвінелі хрустальныя струны спінета.
Цырымонна пайшоў чарадой першы «рон».
Падхапіўшы Гунілу, пад гук менуэта
Петэрсон на чале тупаў, як першэрон.

Трансільванскі пасланнік з прыемнаю дамай
На прытомленых дыбачках следам наўскач
Па паркеце, нацёртым густой амальгамай[6],
Чыкільгаў, нібы ў пуза заліў спатыкач.

Адміральшыны вочы з-пад цнотнай вуалі,
Пад якой быў запудраны свежы жаўлак,
Заклікальна французу Жэрве намякалі,
Што ён можа садраць храбусткі андарак.

Каятан пад руку вёў дачку Шэрншэльда.
Тая мыкала штосьці патроху: «Бу-бу», —
Са шчыпцоў павітухі бяскроўная Хельга
Толькі ў ноздрах з увагай круціла разьбу.

З Петэрсонам Гуніла шапталася блізка,
Абвявала сянной прахалодай лугоў.
На яе валасах серабрылася нізка
Маціцовая дробных рачных жамчугоў.

Чаргаваліся лур і гавот з сарабандай,
Сарабанду змянялі мюзэт і англез[7]…
Перавезці б Гунілу ў мяшку кантрабандай
У таемны, заблытаны нёманскі лес!

Дзве гадзіны мачаліла рэўнасць Чабора,
Але ўрэшце стаміўся хрустальны спінет,
І пабеглі някормленым статкам танцоры
Да карыта, дзе сервіраваны абед.

Падазвала кіўком Каятана Гуніла:
— Крыстафер, вось ён — гэты бясстрашны герой,
З нашым домам якога вайна ажаніла.
Вы ж вярнуцца яму дапаможаце ў строй?

— Мне ўсе вушы пра вас даражэнькая панна
Прагудзела настойліва, пане Чальборг;
Вы, маўляў, з адміралам служылі старанна
З той пары, калі ён пакідаў Гётэборг,

Каб павесці свой флот да заліва Аліва? —
Згодна з гэтым кіўнуў галавой Каятан,
Паглядаючы на Петэрсона лісліва
Ды абцягваючы перашыты каптан.

— А якая далей вас прывабіць кар’ера? —
Каятан спатыкнуўся, паколькі яго
Свідравалі вачышчы драпежнага звера
Ці найхцівейшага з вавілонскіх багоў.

Але побач яскравыя вочы кахана
На сябе забіралі прыліплівы страх,
І таму Каятан пад удар буздыхана[8]
Ірвануўся, мінуўшчыну дробнячы ў прах:

[5] Grand rond (фр.) — Гран-рон (літаральна, «Вялікі круг»), тэрмін бальнага лексікона; танцы пачыналіся толькі пасля таго, як распарадчык абвяшчаў гран-рон.
[6] Амальгама — вадкі раствор ртуці з іншымі металамі, у старажытнасці выкарыстоўваўся для націрання падлогі.
[7] Лур, гавот, сарабанда, мюзэт, англез — папулярныя бальныя танцы пачатку XVII стагоддзя.
[8] Буздыхан — тое ж, што і пярнач.

— Мне казаў адмірал, нібы верфі Сцякольны
Скончаць хутка зусім будаваць галеон.
Я запэўнены, што ваша мэта міжвольна
Будзе недасягальнаю. Марна, што ён

«У вялікасным ззянні манаршага гневу
Ўсё Балтыйскае мора ахопіць сабой.
Мы пачуем гудзенне анёльскага спеву,
Быццам сёмы анёл затрубіў над вадой».

Петэрсон папярхнуўся і стрэліў вачыма
На Гунілу, гасцей, мажардома, музык,
Лоб памацаў збянтэжана: — Не… Немагчыма, —
І гатовы быў выдраць брахлівы язык.

Пакланіўся Гуніле: — Мая дарагая,
Ці не цяжка вам будзе прынесці віна?
Я ад спёкі пасля сарабанды згараю…
Паплыла паслухмяна па чарку яна.

Петэрсон падазваў асабістую варту:
— Перапраўце выведніка ў мой кабінет,
Толькі ціха, бо нам непакоіць не варта
Ні сцякольненскі свет, ні касмічны сусвет.

XXIII

Ну, і што, Каятан? Дагуляўся ў разведку?
Наскакаўся мюзэтаў, фарлан і пасп'е[9]?
Галавой карыстацца патрэбна хоць зрэдку,
А не толькі засоўваць вяндліну ў яе.

Ты сядзіш паміж двух высачэзных жаўнераў,
Нудна цягнецца грузны, рыпучы дармез[10]
Па сцякольненскіх вулках у процьмавы неруш,
Дзе ніколі табе не пачуць паланэз.

Каралеўскі палац прачыніў сваю браму
Пры мізэрным святле патайных ліхтароў.
— Трэба зверху яшчэ прыкруціць пентаграму
Перавернутую, абмакнутую ў кроў, —

Зло пакпіў Каятан, але два канваіры,
Не прамовіўшы слова, яго правялі
Па глухіх калідорах, дзе слізка і сыра
Разнастайныя цвілі на сценах цвілі.

Кабінет Петэрсона ва ўнутраны дворык
Быў схаваны ад розных цікаўных вачэй:
Мусіць, пан Крыстафер спачываў тут ад зморы —
Непрыкметны падзвіжнік часальных начэй.

Каятана ў кутку кабінета ўсадзілі.
Ён у поўным маўчанні сачыў, як наўкол
З беззаганнай паставай лакеі хадзілі,
Роўна як іх прарэзаў асінавы кол.

На шматлікіх памостах, сталах, антрэсолях
У пасудку хаваліся зёлкі і луг[11],
Памякчальныя мазі, духмяныя солі,
Дражджавата пузырыўся мыльны тузлук[12].

Гарлачы запаўнялі прысыпкі, прымочкі,
На паліцах ляжалі часалкі, скрабкі…
— Вы цяпер, пан Чальборг, бачыце ўвідавочкі,
Што талдычаць аб службе маёй варнакі[13], —

Петэрсон капялюш з велічэзным эгрэтам[14]
На стальніцу паклаў, выняў поўны графін
І наліў у дзве чаркі да краю кларэту —
Фіялетавага, роўна як альмандзін[15].

Вокамгненная пстрычка — і разам прыслуга
Праваліласяў пекла скрозь пліты падлог.
— Пан Чальборг, раю ўважліва вельмі паслухаць
Мой адкрыты і цяжкі, што смерць, маналог…

---

[9] Фарлана, пасп'е — таксама віды бальных танцаў.
[10] Дармез (гіст.) — вялікая карэта для працяглых падарожжаў.
[11] Луг — едкі раствор, прыгатаваны з попелу, залітага варам.
[12] Тузлук — канцэнтраваны саляны ці шчолачны раствор.
[13] Варнак — катаржнік.
[14] Эгрэт — тут: султан з птушыных пер'еў.
[15] Альмандзін — паўкаштоўны камень бардова-фіялетавага колеру. У XVII стагоддзі найбуйнейшае ў свеце радовішча альмандзіну знаходзілася ў Швецыі.

XXIV

— Мне вядома, што велікасвецкае быдла
Па-за вочы гавэндай палошча мяне,
А пры стрэчы раскеўзвае ўсюды павідла:
Волю дай — у павідла ўсяго абмакне!

Хіба служба належная для двараніна —
Казытаць ноччу ступні свайму каралю,
Калі ў арміі зараз канаюць мужчыны,
Праліваючы кроў на чужую раллю?

Хто такі Петэрсон? Баязлівы пасцельнік,
Камергер, нагаворшчык, махляр і шахрай.
На тым свеце яго на чыгуннай патэльні
Будуць смажыць, каб ён і не марыў пра рай.

Толькі, пан Гаэтан, гэта ўсё маскіроўка.
Так маланка ў бяскрыўдны хаваецца гром,
Бо ніхто не заўважыць агрызак алоўка,
Што валяецца побач з каштоўным пяром.

Чалавек сцеражэцца мядзведзя і кулі
Ды не хоча патрапіць у пашчу ваўку,
І не ведае ён, што начная зязюля
Пазаб'е ўсіх астатніх на ўласным вяку.

Так і я назіраю за Швецыяй соннай,
Выкарчоўваючы дрэнны погляд і ўдых.
Аніхто не ўспрымае ўсур'ёз Петэрсона,
І таму Петэрсон знае ўсё ды пра ўсіх.

Вось, напрыклад, дурны гарадскі галава: я
Добра ведаю, што ён без просыпу п'е.
Ды хай Балтыку досуха перахлябтае
Альбо ўсмокча да кроплі ў сваё прэс-пап'е!

Ды пакуль ён наогул на працу не здольны,
З магістрата не выйдзе ніводзін сакрэт,
Бо сакрэтаў няма ў магістраце Сцякольны:
Там да п'янкі — пахмелле, пасля — лазарэт.

Ці распусны пасол трансільванскага князя:
Каб ён поўзаў аддана ў адзін будуар!..
Ён жа ўсе дымаходы ў сталіцы аблазіў
І надраіў да бляску, як той камінар!

Зараз мне кожнай раніцай лёкай пасольства
Носіць новую сажу з ягоных бакоў.
Падлічыў я дакладна, што наша паспольства
З асалодай гадуе сто сем байструкоў.

Мая справа нябачней за сціплую кветку,
Яна можа апоўначы толькі цвісці.
Давялося, Чальборг, вам прыйсці ў контрразведку,
Іншым чынам, сюды на агеньчык зайсці.

Пагадзіцеся — я перад вамі адкрыты.
Вы стаіце на ростанях, дзе два шляхі:
Альбо стаць назаўсёды маім фаварытам,
Альбо ў рай да Хрыста, калі пусцяць грахі.

Я не веру ніводнаму вашаму слову,
Але ўсё ж дакажыце, убогаму, мне,
Што я ўшчэнт памыліўся, зрабіўшы выснову,
Быццам вы непрыяцельскі віж на вайне.

Зараз я вас пакіну на чвэртку гадзіны —
Чорт, а дзе ж я так моцна запэцкаў калет[16]? —
Не забудзьце, што шанец даю вам адзіны,
І каштуйце віно: вельмі добры кларэт…

XXV

Каятан ледзь не страціў прысутнасці духу —
Без прыкрас, менавіта не страціў ледзь-ледзь.
Як лісіцу пражэрлівую ў саладуху,
Зашпурнулі яго ў мураваную клецьl

Хто падкажа, мо ўсе грабянькі і часалкі —
Гэта толькі прылады для жорсткіх пакут?
Петэрсон неўзабаве прачуе з-пад палкі
Тую праўду, якая хаваецца ў кут.

[16] Калет — доўгі камзол.

Што ён будзе рабіць: павышчыквае бровы
Ці прымусіць ад болю на дыбе пішчаць?
І трашчалі ў каміне яловыя дровы,
Нібы костачкі ў ботах гішпанскіх трашчаць.

Каятан з перапуду схапіўся за рыла
Дарагога графіна і выпіў кларэт,
Каб ушчэнт прадзіравіць навостраным шылам
Напаследак варожы дзяржаўны бюджэт.

Не, якія б узоры, якія б падзеі
Ні шукалі ханжы, асуджаючы спірт,
Толькі з гэтым залётнікам зладзіць надзея
Дзеля выратавання закацісты флірт!

Так і тут: скарыстаўшы да дна пачастунак,
Які вымыў з вантробаў ліпучы клубок,
Каятан паступова нашчупаў ратунак,
Калі дапамагчы не адмовіцца Бог.

Як ні сорамна ганьбіць свой розум і гордасць,
Выглядаць счырванелым, падобным на хну,
Будзе лепшай мікстурай казліная ўпёртасць —
Вельмі часта казлы прабіваюць сцяну.

Ах, Гуніла, Гуніла — нявінная ярка,
Чый прыдуманы вопыт — благі павадыр!
На паліцы тваёй — Абеляр і Петрарка,
Фагельвайдэ, Рансар, Арыоста, псалтыр.

Ты сабе падаешся аркадскай пастушкай,
Што згубіла прытомнасць навекі і ўперш,
У якой «Песня песень» ляжыць пад падушкай…
(Прыкусі свой язык, шчаўкапёравы верш!)

Ну, а зараз пачнуцца азартныя ловы,
Дзе загоншчык з ізюбрам адзін аднаго
Будуць звязваць сіламі за кожнае слова
Ці, бадай, паланіць за палову яго,

Каб наладзіць ахвяру на стрэчу са Знічам
У падземную шыр апраметных лугоў.
Засталося даведацца, хто паляўнічы
І каго дэкарыруе пара рагоў.

XXVI

Больш за чвэртку гадзіны чакаць Петэрсона
Давялося Чабору ў дрыготкай журбе.
Гэта даўняя хітрасць: няхай падазроны
Ад спалоху зматае ўсе нервы сабе.

Але ўрэшце з'явіўся ягоны сапернік,
Наймякчэйшы за схіленых самарыцян,
Памаліўся рахмана, заўзята, як вернік,
На абраз, дзе лагодзіў святы Себасцьян[17],

Калатоўкай пабоўтаў задумліва ў тазе,
У якім булькатаў кіславаты булён
Ці асновай для мускуснай пятачнай мазі,
Ці як сродак пакут, каб сазнаўся шпіён.

— Гаварыце, мой мілы, — казаў спачувальна, —
З таямніцы ваеннай здыміце вуаль,
І адразу ж ідзіце сабе ў спачывальню,
А я зноўку пайду да Гунілы на баль.

Мне не трэба ні прозвішча ваша, ні тытул,
Ні якая разведка закінула вас,
Хоць дыван атаманскі, хоць папскі капітул,
Хоць цара Міхаіла Пасольскі прыказ.

Хто вам выдаў сакрэт каралеўскага флоту,
Мо аб гэтым балбочуць п'янчугі ў карчме,
Ды яшчэ і ўжываючы тыя звароты,
Што я сам скарыстаў у прыватным пісьме?

Каятан даў адказ на такія загадкі
(«Адчапіся ж хутчэй ад мяне, скандаліст»):
Ён дастаў з-за благой, нададранай падкладкі
Шматпакутны і ўшчэнт пашкуматаны ліст.

Петэрсон як у мур уваткнуўся з разбегу,
Перачытваў свой ліст за фрагментам фрагмент.
— Можа, вы палічылі, што гетман Сапега
Добравольна аддаў мне такі дакумент? —

[17] Себасцьян — абаронца паліцэйскіх і турэмшчыкаў.

Каятан ставіў тлустую кропку ў малюнку.
Так спартсмен знакаміты, гуляючы ў гольф,
Накіроўвае мяч у фінальную лунку, —
Што зрабіў бы са здраднікам Густаў Адольф?

Покуль наш самадзержац карае Еўропу,
Покуль Рэч Паспалітую ў стойла вядзе,
У ягоным палацы юрлівыя хлопы
Языкамі мятуць, бы вяслом па вадзе.

Ды калі б Жыгімонт пераправіў пасланне
З даўгалыгім фельд'егерам брату свайму,
Ваша міласць малілася б аб чвэртаванні,
Не разлічваючы захавацца ў турму!

Або трэба было на сцякольненскіх вулках
Праз казённых вяшчальнікаў вас выклікаць?
Уяўляю, як погалас хутка і гулка
Разнясецца, што вы — абыякавы тацьᅟ[18]!

Мне спадар Шэрншэльд перадаў асабіста
Перад гібеллю гэты вялікі сакрэт…
А цяпер арыштоўвайце, як аферыста —
Я ўсё роўна ягоны адданы клеўрэт.

Петэрсон з бледным тварам скамячыў паперу
Ды шпурнуў зненавідна ў гарачую печ,
Быццам ён такім чынам паліў ці хімеру,
Ці знішчаў у агні Паспалітую Рэч:

— Пачакайце, Чальборг! Ну, чаго брыдкасловіць?
Каб вы ведалі, колькі ў Сцякольне жулля!..
Я з увагаю выслухаў гэтую споведзь
І запэўнены ў вернасці да караля.

Калі вам пажадана застацца на флоце,
Я не супраць — вы слаўны марак, балазе.
Або льга паслужыць і ў маім асяроддзі —
Мне патрэбны намеснік па левай назе.

Каятан аж рассыпаўся дробненькім макам,
З захапленнем падтакваў яму ва ўнісон;
Петэрсону наогул такая падзяка
Не патрэбна, бо пропуск пісаў Петэрсон.

Згодна з ім спадару Гаэтану Чальборгу
Дазваляўся праход на закрытую верф
Без усякіх граніц, аніякага торгу,
Ад падземных камор на апошні паверх.

У дадатку да пропуску ён арданансам[19]
Загадаў без умоў ад імя караля,
Каб Чальборга таго ж капітан Сёфрынг Хансан
Залічыў бамбардзірам на борт карабля,

Пазмацоўваў паперы дзяржаўнай пячаткай
І, адчайна ратуючы аўтарытэт,
Уручыў Каятану з адкрытай пальчаткай.
Каятан пакланіўся: — Агідны кларэт.

XXVII

Як Чабору хацелася шпарка прабрацца
Ў таямнічую верф паглядзець галеон!
Але трэба сканчэння калядных вакацый
Дачакацца было, бо царкоўны закон,

Нібы чорны Варгін[20], бараніў адпачынак.
Старажытныя догмы біблейскіх ахоў
Лічаць плённую працу ў каляды, магчыма,
Самым кепскім з усіх чалавечых грахоў.

І таму Каятан цэлы тыдзень з Гунілай
Па Сцякольні гуляў ды не думаў пра сон.
Гарадская суполка ўжо загаманіла,
Што ў няміласць папаў Крыстафер Петэрсон,

Што ў дзяружным мяшку ён ляжыць пад ільдамі,
Што на дне яго рыбы з'ядаюць жывым…
(Так шаптала на вуха прыемнае даме
Дама, болей прыемная ў стаўленні ўсім).

[18] Тацьᅟ(старажыт.) — злодзей, злачынец.
[19] Арданансᅟ— загад.
[20] Варгін — персанаж старажытнай беларускай міфалогіі, велізарны чорны кот, уладар кашэчага царства, які вартаваў уваход у пекла.

А Гуніліны вочы зарніцамі ўночы
Паглядалі з пяшчотай такой на яго,
Што Чабор чырванеў, калі дзеўку марочыў,
Быццам бы гугенот з каралевай Марго.

Як ён мог расказаць пра размову ў часальні?
Гэта ж трэба было растлумачыць наўскід
Пра галечу сваю ў нёманскай сукнавальні,
Пра дзіцячую мару, пра «Бэзавы кіт».

Гэта ж трэба паведаміць пра капітана,
Пра ягоную смерць, калі «Сонца» зайшло,
Пра зладзюгу, які яму хлусіў старанна
З чыстым поглядам, роўна багемскае шкло.

Як раскрыцца Гуніле, што ліст Петэрсона
Ён міжвольна з кішэні Сапегі дастаў,
Калі той абдымаў Каятана ўлюбёна
І Дароту актыўна ў нагрузку піхаў?

Як сказаць, што падчас зарабляў кантрабандай
Ды вялікія грошы на ёй заслужыў
Разам з Цітам Пярунам, чый герб Алябанда?..
Ды чаго ж там маніць: толькі гэтым і жыў!

Як хваліцца такой непрыстойнай заганай,
Растлумачваючы, што славіў авантаж?
Кім ён будзе здавацца ў вачах закаханай,
Скарыстаўшы нахабна банальны шантаж?

Не! Не мог Каятан гэта мовіць Гуніле
На кастры, на калу, пад мячом і ў пятлі,
А таму пераводзіў размову ў бяссіллі
На яе чарнаслівавы зрок-сердалік.

О, як добра, што можна адвесці дзяўчынку
Ад любых непрыемных, двухсэнсавых тэм,
Калі своечасова завесці катрынку
Пра яе прыгажосць, паскараючы тэмп!

Ведаў подлы Чабор нездагадлівасць мілай,
Ведаў, што ў пацалунках нямее яна,
Што ласкавыя словы заўсёды Гуніла
Прагна ўцягвае сэрцам, як дождж — цаліна.

Каятан ёй на памяць чытаў «Песню песень»
Ды прыгадваў абшары радзімых мясцін,
І ляцелі радкі Саламона ў Палессе,
Пакідаючы пусткі сваіх палесцін.

XXVIII

*— О, пацалуйце ж мяне, меданосныя вусны,*
*Што саладзей за ружовы пялёстак шыпшыны,*
*І зазірніце мне ў грудзі праменем спакусным*
*Вочы адценняў марошкавых, нібы бурштыны!*
*Я раскажу пра каханне палудзеннай страсці,*
*Што пакрывалам нас хутае ў казачным лесе,*
*На лукавіне дзеля векавечнага шчасця*
*Сэрцу стамлёнаму ціха пяе песню песень.*

*Ты мне бялейшая, мілая, за ўсе лілеі,*
*Зрэнкі алейнага колеру клічуць вяселле.*
*Вілія болей у ліпеньскім пекле мялее,*
*Млее апалавай кропляй на глеевых мелях.*
*З лісця сапрэлага цыркаюць леляка трэлі,*
*Вільгаццю я акраплю тваё цела з крапільні,*
*Выпаю сокам салодкім з пладоў мірабелі,*
*Каб мне зайздросцілі слаўныя волаты Вільні.*

*Трапіў стрыножаны тур у драпежныя нетры,*
*Сэрца прастрэльваюць вострыя церні кастрыцы,*
*Трапна траскучы трыснёг правярае паветра —*
*Стронга сустрэчы са скрытным турпанам баіцца.*
*Стройную страціць турыху — страшэнная пастка!*
*Спрытна стрыжы вастракрылыя стрэляць з застрэшшаў*
*Па-над прасторай люстэркавай возера Мястра.*
*Тура з турыхай сустрэнуць Астрына і Стрэшын.*

*Мужа і жонку пад крыжам звянчае Каложа,*
*Нібы вужамі, гужамі мажлівымі звяжа.*
*З жонкай пад жарам Стажараў узляжам на ложак,*
*Дзе Белавежа, як сторож, пільнуе Яцвяжжа.*
*Жнец на іржышчы жыцця жне жытнёвае збожжа,*
*Кружацца жорны, зжыраючы кожны пажытак…*
*Божухна жорсткі, жахлівы дажынкавы Божа,*
*Хай жа жыве векавечна мая Суламіта!*

XXIX

Калі ў нашы часы на паліцах архіва
Бібліёграфы дзённік Гунілін знайшлі,
Дзе амаль што на кожнай старонцы Ляліва
Красавалася, доўга ўявіць не маглі,

Як такая наскрозь далікатная панна
Са шляхетнага роду сям'і Шэрншэльд
Была здольная здрадзіць радзіме падманна,
Ёй на вушы развешваючы вермішэль.

Апасля беларускай пажадлівай песні
Для яе ўсё зусім зразумела было,
І на сэрцы, бы светлага шчасця прадвеснік,
Адрастала свабоднай арліцы крыло.

Але ў гэтым няма аніякай загадкі,
Бо пры выбары між пачуццём і вайной
Пра пачуцці забудуць адны псіхапаткі,
А Гунілу ніяк не палічыш дурной.

— Што за глупства! — завые чытач падкаваны,
У якога ля ложка ляжыць дэтэктыў. —
Каятана масай[21] з афрыканскай саванны
Рассакрэціць за гэты любоўны матыў.

Так раўці пасярод іншаземнай сталіцы
Аб ліцвінскім варожым падданстве сваім!..
Дзе ж спадар Петэрсон з моцай тайных паліцый?
Хіба можа ён быць аж настолькі глухім?

Гэта верна. І скрэбці не трэба патыліц,
Не ламаць бессэнсоўна пустой галавы:
Каятан закаханы, вядома — не Шцірліц,
Ды і чухальшчык — не Леанід Бранявы.

Петэрсон Каятана да дрыжыкаў сэрца
Ненавідзеў і разам баяўся яго —
Ану, як па-за арыштам да самадзержца
Дублікат той паперы памчыцца ўздагон?

Безумоўна, кароль, да канца ўзвар'яваны,
Петэрсона прыладзіць на вісельню. Ён
Не даруе прадажніку. (Так Вар-Равана
З крыжа ў момант апошні зняў сінедрыён).

Петэрсон быў сапраўдны, трывалы чыноўнік,
Сапсаваны бязмежнаю ўладай навек,
А для гэткіх асоб найгалоўны віноўнік
Ва ўсялякіх правалах — любы чалавек,

Бо ніяк не жадаюць спазнаць дурачыны,
Хоць на макаўцы кол ім сякерай чашы,
Што дабрыты чыноўніка — гонар айчыны,
Скарыстанай дзеля чынадральнай душы!

(Прыгадалася тут, як з тэхаскім пранонсам
І налётам цынізму сапраўдны шакал
Кіраўнік ЗША, прэзідэнт Ліндан Джонсан,
На міністраў сваіх ад душы наракаў:

«Мне ад вас не патрэбна адданасць наогул.
Мне патрэбна такая любоў пазарэз,
Каб мяне цалавалі ў прамежнасць, што бога,
Ды казалі пры гэтым, што пахне, як бэз!»

Бюракрат і ўяўляе такую персону,
А таму аніхто, анідзе, аніяк
Быў не ў здольнасці забараніць Петэрсону
Нюхаць водарны самадзяржаўны сцягняк).

З тых пакут Петэрсон непрыкметных філёраў
Здолеў толькі праз суткі па следу паслаць,
Ды за гэтыя суткі, на шчасце Чабора,
Той пра ўсё Суламіце паспеў расказаць.

Але годзе! Мы лепей ізноў да сюжэта
Шматслаёвага вернемся. Сплыў недавер
Да Чабора. І вось маладому паэту
Быў адкрыты бальшак на таемную верф.

[21] Масаі — карэнны афрыканскі паўкачавы народ.

XXX

Як заціхла Вадохрышча, у панядзелак,
Памаліўшыся Богу, пайшоў Каятан
Для двайнога вянца Ўладзіслава Ягелы
На спатканне з наступным, нібыта ў туман.

Паўставаў са змяркання пейзаж навакольны,
Жаўтакрыжы штандар навісаў, як бізун —
Па чужых, непрыяцельскіх вулках Сцякольны
Ветрык сціпла ганяў алкагольны бадун.

Затрымаўся Чабор каля верфнага тыну.
Зрэшты, гэта не тын, а паркан, альбо плот,
Ці пастаўленая да нябёсаў плаціна —
Каралеўскага флоту гранітны аплот.

Варта, што Каятана спыняла ўжо тройчы,
Затрымала ізноў на пятнаццаць хвілін.
Каравулам такім ганарыліся б Трокі
Ў час, калі на прастоле сядзеў Гедымін!

Камандзір у кірасе і касцы з дазволам
Адлучыўся, вярнуўся пануры, як вол…
Каятан памярцвеў пад суконным камзолам,
Але не: спрацаваў Петэрсонаў дазвол!

І паўторна за некалькі дзён канваіры,
Не прамовіўшы слова, яго павялі
Па глухіх калідорах, дзе слізка і сыра
Разнастайныя цвілі на сценах цвілі.

«О, чаму ж вас гамузам не здзёўб буравеснік? —
Раззлаваўся Чабор. — І халопаў, і знаць!
Трэба хату хоць зрэдку пачысціць ад плесні,
А не толькі забойную зброю кляпаць.

Праўда, дзе нечыстоты, слата і ваніты,
Там кішэнь паспяхова наб'еш у Хрысце.
Зрэшты, наша радзімая Рэч Паспаліта
Гэтаксама запэўнена плесняй цвіце».

Праз вузенькія шчыліны вокнаў нясмела
Заглядала зіма ў памяшканне крадком.
Амяла памялом урачыстым вісела,
Ля стала карабелы стаялі гуртком,

Пазарыўшыся ў невычарпальныя стосы
Раскіданых паўсюль інжынерных таблей,
Праектыўныя схемы, тэхнічныя глосы…
Толькі што ад натугі не нюхалі клей.

Петэрсонаў загад іх журбой скасавурыў:
Ану, як гэты хітры выведнік двара
Данясе абы што, і апошнія скуры
Паздзірае кароль са спіны на-гара.

— Сапраўды вам вядома гарматная справа:
Візантыйскі агонь, абардажны гарпун?
Каятан распачаў прапаведаваць жвава.
(Дзякуй богу за ўсё, незабыўны Пярун!

Вось кажыце, адкуль ён, зусім не вайсковы,
Артылерыю ведаў да самых драбніц:
Апярэджванне стрэлаў, казённік замковы,
Недахопы баліст, умацоўванне кніц[22]?)

Каятан растлумачваў такія нюансы,
Што, прасолены морам, як вэнджаны шпрот,
Пасівелы ў баях капітан Сёфрынг Хансан
Нават бочку Гальфстрыма набраў сабе ў рот.

Шэрншэльдаў наступнік па прозвішчы Флемінг
Усміхнуўся станоўча, што пан Петэрсон
Трохі паразумнеў, і пушысты, як лемінг,
Флемінга падтрымаў карабел Якабсон.

Толькі гэтыя тры мелі поўнае права
Ўсе рашэнні наконт галеона прымаць,
І прызналі чужынца сваім скандынавы!
… А няўжо б і адважыліся не прызнаць?

*(заканчэнне будзе)*

[22] Кніца — трохвугольная металічная пласціна, якой знітоўвалі брусы гарматных лафетаў.

Серж Мінскевіч

**нарадзіўся 12 лютага 1969 года ў Мінску. Працуе ў Інстытуце літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Кандыдат філалагічных навук. Прапанаваныя апавяданні належаць да жанру «іранічная фантастыка». «Наогул фантастыка — гэта разумовы тэлескоп у будучыню (сайнс-фікшн) ці ў чарадзейную рэальнасць (фэнтэзі), — адзначае аўтар. — А вось іранічная фантастыка мае повязь з цяперашнім — праз гумар, праз усмешку, якая можа быць сатырычнай, сумнай ці дабрадушнай. Мы параўноўваем: што было, што ёсць і што можа быць, — і бачым часам шаржавыя падабенствы. Такім чынам, я паспрабаваў намаляваць некалькі такіх фантастычных шаржаў».**



## Проста фантастыка

Сяброўства паміж мужчынамі — найтрывалейшае і, як на духу кажучы, высакароднае пачуццё. Сябар за сябра ўсё зрабіць можа. Кашулю парваць і душу вывернуць навыварат. Пакуль... Пакуль у сяброўства не ўмяшаецца жанчына.

У мяне, не ведаю як сказаць, ёсць — альбо быў — сябар Броня. Майстар, разьбяр па дрэве.

І быў ён шалапут баламутам. Баламут шалапутам.

Не было тыдня, каб ён хоць раз не набраўся і не нарваўся на авантуру.

І ніхто яго правучыць не мог.

Аднойчы чацвёра бамбізаў на нас палезлі. Яны — хоп! Нажы наставілі, а Броня — бразь бутэлькай па стале. Ну, крычыць, давай.

Яны сумеліся.

А ён далей крычыць:

— У вас чатыры фінкі, а ў мяне ружачка ў восем пікаў... І сябар спіну прыкрые!

Што ж, я спіну сябру заўсягды прыкрыю!

Дык яны спалохаліся, адступілі і кажуць:

— Вам пашчасціла, што мы Аліка з абрэзам з сабой не ўзялі...

І хуценька так сышлі.

Карацей, Броня з любой прыгоды сухім, хоць і нападпітку, выходзіў.

А сам ён добры, мухі не кране, толькі ўсё яму нечага не ставала.

Бывала сядзем з ім, вып'ем па грамульцы, а ён бахне шклянкай па стале:

— У мяне, Андрэю, душа гарачая, бранёй скутая. Броняй жа клічуць. І ніхто гэтую браню звонку прабіць не можа. Дый і я сам яе знутры ўзяць не магу. Эх-во!..— і крышыў ён тую шклянку ў сціснутым кулаку.

І сапраўды ніхто яго ўтаймаваць не мог, пакуль не здарылася з ім такая вось гісторыя.

Аднойчы ён ветліва звоніць, а не грукае мне ў дзверы, а мы з ім ужо дзесьці тыдзень не бачыліся. Адчыняю — не пазнаць чалавека — чысты, выгалены, зусім за-ін-тэ-лі-гэн-тыўся.

— Авой, — кажа,— кепска мне.

— Зараз арганізуем.

— Не! — і ледзь не адштурхнуў мяне.

— Дык што здарылася?

— Ведаеш, гэтсамае, піць перастаў...

— О, гэта нагода! — я з прыяцельскай усмешкаю плясь яму даланёй па плячы.

— Зразумей, піць хацець... перастаў!

— Што, ты кажаш... Зусім перастаў! А ты не думай пра гэта! Проста глынеш і ўсё.

— А я, бачыш, галіцца кожны дзень пачаў, шкарпэткі мыю і кашулі прасую. Нават цыгарэты, гэтсамае, нібы атрута — глядзець не магу.

— Та-ак, — я азірнуў яго больш уважліва. — Сапраўды справы дрэнь.

— І, гэтсамае… галава мая зусім лёгкая стала.

— Лёгкая, кажаш. Гэта з непрывычкі. Вядома, вечарам вып’еш, а на раніцу галава бы свінцом налітая, скроні абцугамі сціснуты. Падняць галаву — трэніроўка, як у штангіста, патрэбная. А калі не п’еш, то галава лягчае. Па сваёй маладосці памятаю.

— Але ж мая лёгкая і... пустая.

— Як так?

— Вось так. Нібы цэбар які. Цюкну — і нічога. Не тое што нічога, а вось не адчуваецца, што ў ёй ёсць нешта. Вось давай я табе цюкну. А пасля сябе. І параўнаем…

Ён з узнятым кулаком падаўся да мяне.

— Стоп, ды так ва ўсіх, — я перахапіў руку Броні. — Гэта толькі кажуць, што галава думкамі забітая. Нічога яна не забітая, а такая, як заўсёды. Колькі важыла без думак, столькі важыць і з думкамі, ні цяжэйшая, ні лягчэйшая, ці не так?

— Мо і так? Але хто ўзважваў?

— Не ведаю.

— А давай узважым?

— Ты што?

— Ды нічога. Здаецца, што ў мяне якраз яна лягчэйшая стала апошнім часам.

— Але ж ты думаць не перастаў. Думаць ты можаш?

— Магу, але не ведаю, як і чым?

— Супакойся, мы ўсе не ведаем, як, і чым, і якім месцам думаем. У сэнсе, якім месцам у галаве мы думаем. А каб мы ведалі, як і чым мы думаем, ого-го! Даўно навучыліся б думкі чытаць.

— Не, у мяне наогул там нічога няма. Нібыта вакуум!

— Ну ты сказануў… — прамовіў я. — Вакуум — рэч такая, калі ён ёсць, то нічога і няма. А калі няма нічога, то толькі вакуум і ёсць.

— Гэта праўда. І вось толькі ён у мяне там і застаўся.

Я сумеўся, але потым спытаў:

— А чым жа ты так упэўнены, калі там вакуум?

— У гэтым увесь парадокс.

— О… і я пра тое. А парадокс — рэч такая, што без ста грамаў ні-ні... — я перахапіў яго нахмураны позірк. — Значыць, не-не?...

— Не… Ахвоту адбіла... Магчыма, гэтасамае, калі промні мяне прасвяцілі, мае мазгі, быццам, пшык, і выпарыліся...

Усе ясна, думаю, ад белай гарачкі, разам са спірытусам і выпарыліся, а сам непрыкметна прыкідваю, як гэта, ледзь што, мабільнік з кішэні дастаць і паспець пазваніць куды трэба.

— Гэта ўсё яна, жанчына ў капелюшы, — кажа ён.

— Ага, — у мяне на сэрцы трохі адлягло. — Усё зразумела, закахаўся наш Браніслаў...

Але ён не звярнуў увагі на мае словы:

— Яна як падляціць у капелюшы, як сядзе мне на галаву — і ўсе выпарылася.

— Насамрэч жанчыны — народ такі, што не толькі на галаву, на шыю сядуць, — самым спакойным тонам прамаўляю.

— Ды не. Капялюш маленькі такі быў, лётаў перада мной, туды-сюды, як муха. Я дамоў пасля змены ішоў, бачу, гэтасамае, рамонак, а на рамонку — капялюш лямпачкамі мільгаціць. Я руку падняў — хлабысь па ім, а ён як падымецца, як закружыцца ў паветры. А ўнутры — жанчына паднялася — як у казцы... маленькая, меней за пазногаць майго мезенца. Валасы бліскучыя.

— Можа гэта вусень быў? Цяпер вусені паўсюль.

— Не, у белай сукенцы з вэлюмам. Як маленькі матылёк... Хто ж так вусеня апранаць будзе? Я вочы працёр — думаю — усё, дапіўся. А жанчынка гаварыць пачала: «Як цябе клічуць, індывідзе?» Я кажу: «Бронік». Яна, не памятаю, нейкі нумар сказала, можа нумар тэлефона, і потым, як узляціць на сваім капелюшы, як прасвяціць мне промнямі галаву. Я адразу працверазеў, устаў на ногі. Думаю, гэтасамае, сам сабе з дакорам, чагой-та я набраўся так, што на нагах стаяць не магу. І ўжо дома адчуў: галава мая ўся лёгкая-лёгкая стала і нібыта пустая.

— Ды кінь, табе ўсё здалося, — сказаў як мага дабрадушней, каб ён адчуў ад мяне, свайго сябра, спагаду і спачуванне.

— Не, сапраўды адчуваю, што галава апусцела.

— Табе трэба да доктара. Магчыма, гэта са сну. Бывае, сніш, быццам лётаеш недзе. Адзін мой знаёмы, Толька Вантраўб, апавядаў, што, калі ён быў у войску, вылецеў падчас сну з сябе. А тут трывогу аб'явілі, ён вярнуцца не паспеў. Казаў пасля, што галава была лёгкая, чыстая, нічога не ведаў, нічога не памятаў. Сяржант Сліва спачатку не паверыў, што Толік знаходзіцца не ў сабе, але, калі ўзбраенне пачалі раздаваць, зразумеў, што лепей паверыць і не даваць яму зброю. Толіка ў санчастку адправілі, а пасля і камісавалі. Ён вельмі рады быў. І цяпер нічога сабе пачуваецца, піва жлукціць… Да доктара ў самы раз табе дарога.

— Вось я і прыйшоў да цябе, каб мы разам пайшлі, а то мяне яшчэ не павераць.

Што ж, давялося нам у нашу паліклініку ісці. А там яго адправілі у клініку — нервы лячыць.

***

Праз месяц, я ўбачыў Броню — ішоў пасля змены, у нейкай кепцы, адпрасаваны ўвесь.

Ён распавёў, што калі яго ў лякарні камп'ютарным тамографам прагледзелі, на экран дысплэя тэкст выскачыў. Броня па вялікім сакрэце даў мне пачытаць раздрукоўку.

Вось што там было напісана:

«Я Пека-Селіньяна Варданья Семарына Карпалана з планеты Беліньяна, карыстаючыся правам жанчыны выбіраць сабе мужчын з розных кутоў Галактыкі, усім сэрцам пакахала своеадметную своеасаблівасць індывіда Броніка, забрала яго мозг для ўзнаўлення яго асобы ў біялагічнай мадэлі для майго гарэма пад № 234, а ўзамен адпаведна інструкцыі 889 "А" ўвяла малекулу разумовага кантролю арганізма з усімі маральнымі крытэрыямі адпаведна зямному стандарту. Гарантыйны тэрмін малекулы — 2000 зямных гадоў».

— Неўзабаве мяне ў Амерыку на доследы павязуць, а пакуль далі магчымасць любімай справай пазаймацца, — ці то пахваліўся, ці то паскардзіўся Броня. — Але сказалі нікому нічога не казаць. Хоць і так ніхто, апроч цябе, не паверыў бы

— Дык я таксама не вельмі і паверыў...— пачухаў я патыліцу.— А як наконт пустаты?

— На, прыкінь, — і дае мне сваю кепку.

Ад нечаканай вагі я ледзь яе не ўпусціў.

— Адчуваеш, я ў кепку жалезак натоўк — і добра, прывык ужо.

Вось такая гісторыя. І я не ведаю, ці застаўся ў мяне сябра Броня. Цяпер ён зрабіўся ў нас найлепшым разьбяром, але мы з ім ужо не «засядаем» па душах, і ўсё гэта — праз тую Пека-Селіньяну. Шэршэ ля фам — як французы гавораць — шукайце жанчыну, але дзе ж яе на той Беліньяне адшукаеш... І такую мікраскапічную.

Цікава — Броня цяпер будзе 2000 гадоў жыць?

## Акно ў сцяну

Ваня, якога лепей назваць дзядзька Ваня, сядзеў каля акна ў сваёй кухні. Кватэра была на першым паверсе, блізка да зямлі, і Ваня быццам скурай адчуваў холад снегу, які падаў і падаў за акном. Неўзабаве Новы год. Яшчэ колькі хвілін і двор аглушаць крыкі «ўра!», хлапушкі і звон фужэраў. Ваня сумна глянуў на бутэльку шампанскага, за якую ён так мужна змагаўся ў натоўпе ля віннай крамы. Усміхнуўся сам сабе. Герой! Ён так спрытна ткнуў локцем у рэбры нахабнаму бамбізе, што той войкнуў, злосна азірнуўся, але усё ж не заўважыў, хто гэта зрабіў. А як ён своечасова выставіў бок і не даў праціснуцца да прылаўка мажной кабеціне. А як ён...

Успамінаць можна шмат і доўга.

Але варта было яму пераступіць парог сваёй аднапакаёўкі — адразу чатырохгранная адзінота накідвалася на яго, душыла, сціскала скроні, паралізавала цягліцы, і з аслабелых рук, як бывала нярэдка, выпадалі бутэлькі з моцнымі напоямі і імгненна разбіваліся аб падлогу. Суседзі ненавідзелі Ваню, захлыналіся слінай пры відовішчы бутэлечных аскепкаў у шматградуснай лужыне і, булькаючы лаянкай, праклiналі яго.

— Алкаголік паганы!

— Ну хоць бы сказаў, што ў яго рукі трасуцца. Мы б дапамаглі занесці. Верна?

— А?

Ваня падыгрываў ім, рабіў напалову касыя вочы і няўпэўненым языком мармытаў:

— Кыш… Ша! Гэта была ўж-ж-жо т-т-трэцяя запар. T-tertium н-н-non д-д-datur.

Суседзі ад незразумелай лаянкі інстынктыўна адхіналіся, а Ваня зачыняў дзверы і за дзвярыма ціха смяяўся ад задавальнення.

— Здорава я іх адшыў!.. Ат добра, што разбілася, я ж не алкаголік, столькі жлукціць аднаму.

Але бутэльку «Залатога шампанскага» ён занёс у кватэру дзвюма рукамі — вельмі асцярожна. Новы год жа! Трэба адзначаць.

І вось ён сядзеў на кухні каля акна, глядзеў, як падае снег, а перад ім на стале стаяла адзінокая бутэлька шампанскага і адзінокі фужэр. Сумны нацюрморт.

Ваня не ведаў, чаму вырашыў адзначаць Новы год на кухні, а не перад тэлевізарам. Мабыць таму, што ў тэлевізары ўсе абдымаліся і цалаваліся, а ён пры гэтым яшчэ сам не ведаў, што адчуваў — ці непрыемнасць, ці крыўду, ці зайздрасць.

Чаму ён такі самотны? Ён жа вясёлы, добры і дастаткова прыгожы. І жанчыны ў яго былі. Але кожная з іх чымсьці не пасавала яму: то не надта разумная, то занадта, а адна, з якой ледзь заяву не падалі, пілавала, пілавала яго, і, калі, нарэшце, ён не вытрымаў і запярэчыў, заплакала, абазвала яго мярзотнікам і выгнала.

Але больш за ўсё Ваня (тады яшчэ Ванік) быў ідэальным сябрам. ЛюбАя, а не толькі лЮбая, жанчына магла прыйсці да яго, паплакацца на іншых мужчын і атрымаць супакаенне. Ён мог даць такой жанчыне ўсе адценні сваёй дабрыні, што жыла ў яго шырокім сэрцы. І жанчыны дапамагалі яму, але толькі як сябру, калі можна так сказаць, без права на каханне.

Паступова Ванік звыкся з такой роляй, зрабіўся Ванем, потым дзядзькам Ванем, але асабістая незадаволенасць зрэдку накатвалася халоднай, як слізняк, хваляй. Ну чаму ён гэткі нерашучы, чаму не можа іх узяць жыўцом, голымі рукамі, як хваліліся мужыкі на працы...

Ваня глядзеў, як падае снег. «Цяпер жа навагодняя ноч,— думаў ён,— калі адбываюцца цуды. А я адзін. У самоце. Дзе Снежная каралева? Дзе Снягурка… Дзе хаця б нейкая фея сняжынак?»

— Эх,— уздыхнуў ён.

Вецер пругкім подыхамі ўзнімаў і закружваў снежныя зоркі... І раптам перад акном мільгануў жаночы твар. Да Вані спачатку «не дайшло», а калі «дайшло», ён ускочыў з зэдліка, расплюшчыў нос аб шыбу і вырачыў вочы. Там, у начным горадзе была жанчына! Праўда, ужо далёка ад акна, але Ваня змог заўважыць, што яна была босая і ў празрыстай камбінацыі.

— За-а-а-в-у-у-у,— данеслася да прыціснутага да шкла і разгубленага твару Вані — ці то жаночы голас, ці то скавытанне ветру.

«Фея, фея», — закалацілася сэрца.

Ён адліп ад шыбы і амаль распрануты выбег на двор — даганяць фею...

Веня сядзела за сваім сталом у сваім пакоі — кватэра была «на агульнай кухні», і два пакоі займала іншая сям’я. Суседскія дзеці называлі яе цёта Веня. Цяпер сукватэрнікі паехалі да сваякоў адзначаць Новы год. А яна… Яна не захацела далучацца да шумнай кампаній, у якой адчувала сябе яшчэ больш самотнай, бо рабіла гэтую кампанію няцотнай.

Перад Веняй на ўрачыстым абрусе стаяў разрэзаны на шматлікія кавалкі торт «Птушынае малако».

Яна малайчына! Як яна, абараняючы торт у краме, штурханула аб’ёмістую жанчыну, а як яна выцяла далонню вёрткага мужычка, што лез па-за чаргой. Ён ледзь не выбіў з Веневай рукі дэфіцытны ласунак. Яна малайчына — не дала сябе пакрыўдзіць!

Здаецца, яна заўсёды была такой баявітай...

Але, як толькі яна адчыняла дзверы сваёй кватэры, увесь ваяўнічы дух знікаў, і Веня ператваралася ў бездапаможную ахвяру квадратнай пустэчы. Падкошваліся ногі, гнулася ў крук спіна, здавалася, шыя адмаўлялася трымаць галаву, слабелі рукі, безумоўна, з іх почасту выпадалі ўсе дэфіцытныя прадукты. Сухая каўбаса, памідоры толькі з рынку, яйкі — усё сыпалася і кацілася па бруднай лесвіцы.

Суседкі цярпець не маглі Веню за тое, што яна жыла адна, без плоймы дзяцей і гультая прапойцы-пракурцы мужа, што ёй ставала часу пастаяць у чарзе і ставала зарплаты хоць нешта там набыць.

Яны зглытвалі сліну і праклiналі Веню:

— Разява.

— Ну хоць бы сказала, што ў яе рукі дрыжаць!

А суседскія дзеці ўпотай падымалі з бруду памідоры і хавалі ў свае кішэні:

— Але ж цёта Веня разява,— паўтаралі.

Веня сядзела за сталом у сваім пакоі і глядзела, як падае снег.

— Чаму так?

Маладосць! Венечка заўсёды была душою калектыву. Вакол яе віравалі гурткі дзяўчат, не змаўкалі словы:

— Ой, ведаеце... Ой глядзіце... Ах як цікава...

І хлопцы ж былі. І кветкі дарылі. І цалавалі. А потым неяк зніклі, самі сабой. Мабыць, яна стала непрыгожай? Ды не, і постаць зграбная, і твар прыемны, люстэрка не палохаецца. Ну чаму яна не магла гэтых бычкоў-мужчын за кольца ў іхнім носе ўзяць і прыкаваць да сябе? Яны ж такія бязглуздзенькія, ім так мала трэба, каб прыкавацца — гэтак хваліліся яе каляжанкі па працы.

Белыя матылі танцавалі за акном. Яны іскрыліся і апускаліся долу, а на іх месца прыляталі новыя, новыя, новыя.

«Навагодняя ноч, а я адна. Цяжка нават уявіць, але я сапраўды адна,— думала Веня.— Дзе цуды? Дзе Дзед Мароз, Санта Клаўс, ці які Зюзя ці чарадзей ветру?»

І раптам яна ўбачыла, як за акном асвяціўся і знік твар мужчыны. Веня ўскрыкнула, але адважна пасунулася бліжэй да акна. Мужчына з голым торсам аддаляўся.

— Ідзі-і-іце-е сю-у-у-уды-ы,— пачулася цёці Вені.

«Чарадзей, мой Чарадзей,— падумала яна, — якая магутная постаць!»

Яна накінула паліто і выбегла на двор.

***

Ноч. Цёмны прастакутнік двара, напоўнены колкім марозам і сумётамі снегу. І праз мароз, праз глыбокія сумёты бягуць два чалавекі, бягуць насустрач таемнай мэце.

Яны бягуць, і раптам іх шляхі перасякаюцца, яны сутыкаюцца ля ліхтарнага слупа. Штуршок абуджае іх, і на іхніх тварах з'яўляецца добра вядомы «крамны» выскал.

«Вось мне фея знайшлася», — падумаў Ваня.

«Ну і чарадзей, хэх», — падумала Веня.

Але няўжо яны маглі, у навагоднюю ноч, сказаць адзін аднаму крыўднае?

— З Новым годам! — вымавіў Ваня праз выскал.

— Дзякуй, вас таксама, — адазвалася Веня.

— Дзякуй вялікі. Што ж вы на двары ў такі час і ў такім выглядзе?

— Ды м-м-м, — замялася Веня. — А вы?

— Ай, а-а-а-а, — запнуўся Ваня.— Дый вось вырашыў, тут, смецце вынесці, — знайшоўся ён.

— Смецце? А дзе ж ваша вядро?

«Ну прычапілася», — падумаў Ваня, а ўслых сказаў:

— Калі вяртаўся, згубіў, зараз шукаю. Ну а вы?

— А я э-э-э-э, гасцей сустракаю, — пераможным тонам растлумачыла Веня, — спазняюцца.

Пакуль яны гэта мовілі адно аднаму, іх вочы шукалі некага ў двары, і нечакана, збянтэжана, спыніліся на ліхтарным слупе. Ваня ўбачыў сваю фею, а Веня — свайго чарадзея, вось толькі дзе!

Плоскія выявы чарадзея і феі трапаў вецер.

Спачатку ўсмешкі з'явілася на тварах Вані і Вені, а потым смех, нястрыманы смех над уласнай наіўнасцю захапіў іх. Яны смяяліся доўга, да слёз — ці вінаваты быў вецер са снегам… Веня зрабіла два крокі наперад і абаперлася на плячо Вані. А калі першая хваля смеху прайшла, яна спытала:

— Вы адшукалі сваё вядро?

— А вы сустрэлі гасцей?

Веня ціхусенька адштурхнулася ад Вані.

— Мне трэба ісці… адзначаць. У мяне цудоўны торт «Птушынае малако». З такой цяжкасцю дастала, — неяк сумна пахвалілася яна.

— А ў мяне «Залатое шампанскае». Вырваў з рукамі і нагамі.

— Прыемнага свята!

— Усяго найлепшага ў Новым годзе!

Яны развярнуліся, і кожны пайшоў у свой бок, неўзабаве схаваліся кожны ў сваім пад’ездзе.

***

Ноч. Цёмны двор. Але свяціліся амаль усе вокны ў дамах. Пасярод двара ў невялікім коле святла стаяў самотны ліхтар. Да яго слупа навагодні вецер прыбіў і цяпер нямоцна трапаў два календары старога ўжо года — вялікія каляровыя постары моднай мадэлі і магутнага культурыста.

Гадзіннік пачынаў біць дванаццаць.

***

— Што гэта? — спытаў Максім. — Ён глядзеў на плоскі экран электроннага прыбора.

— Акно ў 1991 год, — адказала Ірына. — У іх гэта быў найбольш эмацыянальны момант жыцця. Таму інфармацыя добра счытваецца сканерам са сцен кватэры. Часціцы папросту набрынялі інфармацыяй.

— Так, працуе файна, — пагадзіўся Максім.

— А як жа… Дзед Іван і бабуля Венера пастаянна ўспаміналі той навагодні вечар.

— І калі яны зноў спаткаліся? — пацікавіўся Максім.

— Як апавядала маці, ўжо хвілін праз пяць. Выбеглі да таго ж ліхтара з тортам і шампанскім.

— Ну зразумела, пасля нарадзілася твая маці, а потым і ты.

— Звычайная гісторыя, — усміхнулася Ірына.

— Ды не вельмі, — задумаўся Максім, — Не выкінулі б людзі старыя календары, не падняў бы іх вецер у паветра, не было б тваёй маці, не было б цябе, і не вынайшлі б мы з табой разам гэты «сканер памяці матэрыялу».

— А ты закахаўся б у іншую…

— Добра, пачынаем рамонт? — перамяніў тэму Максім.

— Нейк не хочацца, — Ірына глянула на сцяну пакоя, потым на экран сканера.

На ім сваволілі сняжынкі.

# Даруйце, я вас з’ем

*…а калі будзе шкода, дык аддай душу за душу,*
*вока за вока, зуб за зуб,*
*руку за руку, нагу за нагу,*
*апёк за апёк, рану за рану, сіняк за сіняк….*

***Выхад, раздзел 21***
***Стары Запавет***

Ён зайшоў.

Мой кат.

Пра гэты візіт загадзя папярэдзілі. Ён захацеў пабачыць мяне на ўласныя вочы ці зазірнуць у мае вочы. Не буду прытойваць, я таксама з цікаўнасцю глянуў на яго.

Разумныя істоты планеты Лодас падобныя да качак, калі толькі ўявіць, што ў качак пад крыламі ёсць рукі. Яны носяць камізэлькі без рукавоў, бо ў іх на руках растуць пёры. А з-пад лапатак тырчаць кароткія крыльцы. Іх моладзь можа нядрэнна лётаць над паверхняй вады. Пасталелым і пацяжэлым ужо не так проста ўзняцца ў паветра. Але бліскучыя і рознакаляровыя пёры на локцях,

плячах, крылцах і галаве яны з задавальненнем дэманструюць, як мы свае валасы. Асабліва асобы жаночага полу. Чыста дзеля прыгажосці. Дарэчы, на Зямлі некалі адкапалі косткі вымерлай яшчаркі. У яе былі «рукі», «ногі» і крылы, якія выходзілі на спіны з рэбраў. Яе празвалі яшчаркаанёл. Але на Зямлі эвалюцыя такой яшчаркі не заладзілася, «рукакрылыя» завалодалі паветрам. А тут, на Лодасе, як відаць, «лапаткакрылыя».

Гэта — планета-возера, дзе-нідзе вельмі забалочаная. Расліны, кузуркі і рыбы тутака стракацяць колерамі і разнастайнасцю формаў, а яшчэ намагаюцца забіць суседа атрутаю, якую час ад часу мяняюць, робяць мацнейшаю. Каб выжыць трэба было мець не толькі высакаякасны імунітэт, але рэакцыю як цягліц, так і думкі. Гэта спрыяла хуткаму развіццю інтэлекту.

Натуральна, што на гэтай планеце-возера «заклёкатаміліся», то бок атрымалі найвышэйшы інтэлект, птахоіды, што паходзяць ад вадаплаўных птушак.

Цяпер адзін такі стаіць перада мною. Ён тыповы прадстаўнік свайго народа. Цела таўсматае, заціснутае ў шэрую з белымі паскамі камізэльку, на нагах шорцікі і падобныя да абрэзаных ластаў пляскатыя боцікі. Цікава, што пад даўгаватай голай шыяй, таксама як і ў нашых франтаў, красаваўся мятлік. Ягоны мятлік быў падобны да празрыстакрылай кузуркі — такой сабе караткахвостай стракозы.

— Мяне завуць Кірэр, — прамовіў птахоід шурпатым голасам.

— А мяне — Шумэр, — я міжволі ўсміхнуўся нечаканай рыфме.

Бацькі, назваўшы мяне такім, скажам, арыгінальным, імем, аддалі даніну памяці народу, які першым на Зямлі вынайшаў пісьмо.

— Я хацеў бы даведацца, чаму Вашэць… — пачаў быў Кірэр.

— Чаму я атрымаў такі вырак?

— Так.

— А Вашэць не чытаў матэрыялы справы? — здзекліва спытаў я.

— Чытаў, назіраў за судом у сеціве, — спакойна адказаў ён, — Але я хачу пачуць гэта асабіста, ад Вашэці.

— Я з'еў рыбу, — чаканна прамовіў я.

— Дакладней, вы з'елі ханкарыса, роду пляската-плаўніковых. Вельмі рэдкі экзэмпляр.

— Даруйце, я з іншай планеты і не ведаў, якога роду рыба.

— І, як даводзяць у энцыклапедыях, — смачны, — шчоўкнуў языком Кірэр.

— Смак тут ні пры чым. Мне трэба было выжываць.

— Смак заўсёды пры чым. Раскажыце падрабязней. — Птахоід апусціў сядушку крэсла, «прылепленае» да сценкі камеры, важка на яго ўсеўся.

— Я прызначыў спатканне сваёй каханай. Яе завуць Альбіна. Мы хацелі адасобіцца, выбралі куток Галактыкі падалей ад шумных трас. Я сеў на свой ровар… Каб Вашэці было зразумела — гэта касмічны ровар. Я адправіўся ў той сектар. Яна абяцала прыбыць трошкі пазней. Дзякуй богу, затрымалася. Усе дзяўчаты затрымліваюцца, і гэтая звычка яе выратавала.

Я міжволі ўсміхнуўся, успомніўшы Альбіну. Перад выхадам з дому, яна спачатку глядзелася на сябе ў вялізным, у поўны рост, люстэрку ў гасцёўні, пасля ў шыбе дзвярэй у калідоры, а потым у люстэрку ў вітальні. Калі нешта ёй не падабалася, яна бегла ў свой пакой, папраўляла… і карусель люстэркаў паўтаралася.

— Яна Вашэць не кахае, — кракнуў ён.

— Чаму Вашэць гэтак падумаў? — злосна вымавіў я.

— Не прыляцела ў свой час.

— У нашых дзяўчат так бывае. Але гэта не азначае, што яны нас, мужчын, не кахаюць, магчыма, нават наадварот, надта рыхтуюцца да спаткання. Удасканальваюць сваю прыгажосць дзеля нас.

— І што было далей?

— Успышка… Гама-ўспышка. Вам вядома?

— Нашы навукоўцы фіксавалі падобныя з’явы ў Сусвеце.

— Дакладна скіраваная гама-ўспышка можа лёгка сарваць атмасферу планеты, такой як Зямля, ці Лодас. А мяне толькі зачапіла.

— Зачапіла?

— Так, прайшлося па абшыўцы і выбіла малекулярную 3D-друкарку.

— Вось тут прыцішце тэмп мовы… Раскажыце, што гэта такое… — папрасіў Кірэр, — Бо нешта каштоўнае, што памятае Вашэць, можа назаўсёды сысці ў нябыт.

Яго круглыя вочкі з чырвоным венчыкам непрыемна ўтараліліся ў мае зрэнкі.

— Вашэць жартуе? — я свой пагляд не адвёў. — Ці ж Вашэць не ведае, што мяне ўжо цалкам высмакталі тутэйшыя навукоўцы. Але ў маёй галаве яны не знайшлі ніякіх каштоўных звестак пра 3D-друкарку.

Дый адкуль! Шчыра кажучы, я, як мог, удаваў, што ведаю ледзь не ўсё сакрэты сваёй цывілізацыі, каб мяне не пакаралі, а пакінулі для навуковых кансультацый. Але я быў звычайным інфарэцыпіентам. Мая прафесія — глядзець кіно, мульт-спам, рэкламу і дзяліцца тым, што я прагледзеў, на сваіх інфастаронках. Вушы, гатовыя слухаць, вочы, гатовыя бачыць, былі маім таварам. І мне на жыццё гэтага ставала. Дый шмат людзей, хто не быў геніем праграмавання, трэйдарам, касматрэкерам ці вынаходнікам, жыў за кошт гэтага. Быць гледачом-слухачом зусім нядрэнна, за гэта нармалёва плацілі, хоць почасту хацелася зваліць з сеансаў. Усё рэкламнае смецце, якое назбіралася мазаічным вірам у маім мозгу, тутэйшыя карыфеі навукі за дзесяць мясцовых гадзін праскáнавалі і перапісалі на свае інфаносьбіты. Больш нічога каштоўнага ці проста цікавага для іх у маёй галаве не было. Цяпер я падаваўся ім нязграбнай жывой абалонкай, якая можа размаўляць, пры тым на іншай мове. Ім давялося стварыць спецыяльную перакладніцкую праграму, якой мы цяпер з Кірэрам і карысталіся.

— Гэтая друкарка — незаменная рэч. Гэта печка выпякае ўсё, што мы жадаем, — прамармытаў я рэкламны слоган. — А дакладней, сінтэзуем, што нам трэба. Напрыклад, рыбнае мяса. А пасля, калі хочам, запякаем. Ведаеце, якія рыбныя катлеты атрымліваюцца!

— Добра. Далей.

— Гама-ўспышка ушчэнт сапсавала электронную начынку друкаркі, а мой ровар адкінула да вас. Да вашай планеты. Фактычна я адкрыў яе для нашых светаў.

— Ну і без Вашэці мы ўжо выйшлі на кантакт з планетай Тэрабегноса. А нядаўна і вашэцева каханая Альбіна даслала нам сігнал. Так што кантакт пашыраецца. Аднак закон ёсць закон… Думаю, Вашэці спадзявацца няма на што. Тым больш апеляцыя адхіленая. — Кірэр непрыемна клёкнуў дзюбай.

Безумоўна, я ўсё гэта ведаў. Яны не пазбаўлялі мяне мясцовых навін. Я нават маю відэасувязь з Альбінай. Яе касмаровар ужо набліжаўся да Лодаса.

— Я ж нічога не зрабіў! — прамовіў я гучна і рэзка.

Кірэр нават страпянуўся.

Не збаўляючы тону я працягваў:

— Няхай хоць Вашэць ясна ўсвядоміць — я паміраў ад голаду.

— Ведаеце, мы таксама часта «паміраем» ад голаду, — спакойна адказаў птахоід, — Не, ежы нам стае. Але дзіўная рэч, яна прыядаецца. Нашы рэцэптары хутка прывыкаюць да смаку. А нясмачная страва голад не наталяе, прынамсі ў нас.

— Як гэта не наталяе?

— Мабыць іншапланетнікам гэта цяжка зразумець… Раней, калі мы елі жывёл ці расліны, яны, для абароны, рабіліся атрутнымі ці мянялі якасць сваёй атруты, і таму каб не труціцца, мы не маглі пастаянна есці ежу аднаго і таго ж віду і смаку. Ну, прыкладна, так. Хоць набіць жывот можна чым заўгодна.

— Але ж я насамрэч галадаў. Мой жывот быў пусты. Я не еў шэсць дзён… Скажу так, голад для цывілізаванага свету незвычайная рэч. Калі 3D-друкарка не працуе — тады нічога няма… Мы ж не возім склады ежы з сабой. Тым больш на ровары. А калі не можаш нічога сінтэзаваць, не можаш атрымаць ежу, то становішся як дзікун!

— Вось правільна, — кіўнуў ён галавою, — як дзікун.

— Што, мне трэба было паміраць? Так?

Ён прамаўчаў.

— Мне трэба было выжыць, — прамовіў я, робячы акцэнт на апошняе слова, — разумееце, выжыць!

— І ханкарысу трэба было жыць, — канстатаваў Кірэр.

— Я злавіў рыбу…Проста рыбу…

— Змайстравалі з чароту прыладу смерці, забілі жывёлу і з'елі.

— Усю з'есці я не паспеў. Ваш патруль мяне арыштаваў… Апяклі электрычнасцю.

— Яны абаранялі ахвяру, — без эмоцый сказаў птахоід. — Мы высокацывілізаваная планета і ўжо шмат стагоддзяў як адмовіліся ад сілкавання жывымі арганізмамі. Жыццё мае права на жыццё. Ці не так?

— Так. У нас тое самае, — горача прамовіў я.

Як мне раней паведамілі, цывілізацыя Лодас навучылася кланаваць тканкі арганізмаў. Ёсць цэлыя банкі «расады» біяматэрыялу, з яго вырабляюць прадукты — мяса, гародніну, садавіну, грыбную масу.

— Мы таксама нікога не забіваем! І кланаваць умеем, — выдыхнуў я, — Пастойце! Вы ж гэтую рыбіну…

— Ханкарыса.

— Ханкарыса замарозілі.

— Так. Следчыя трымаюць яго ў камеры замарозкі. Гэта ж доказ.

— Такім чынам вы можаце яе кланаваць.

— Можам, але не будзем, — хмыкнуў Кірэр.

— Тады мы будзем. Мы таксама маем такую тэхналогію.

Мой кат прыўстаў, хацеў нешта прамовіць, але я не даў яму сказаць.

— Мы самі. Нам гэта нескладана. Мы з Альбінай клануем гэтага ханкарыса — будзе як новы.

— Вашэць адсюль не выпусцяць. Альбіне давядзецца ўсё рабіць самой.

— Дый зробіць. З малекулярнай 3D-друкаркай і бартавой мінілабараторыяй — кожны школьнік гэта зробіць, — пахваліўся я за зямлян.

— Але ж гэта Вашэці нічога не дасць. Вырак не адменяць.

— Чаму? Ханкарыс жа будзе жывы.

— Не ханкарыс, а яго двайнік. Добра, калі Вашэць так хоча, я складу хадайніцтва, і з Вашэці зробяць якаснага клона. Гэта згладзіць пэўныя псіхалагічныя непрыемнасці Альбіне. Яна зможа забраць яго з сабой і ў будучым, магчыма, пакахаць. Мы паважаем пачуцці разумных істот.

І тут я глыбока задумаўся. Мала таго, што мяне заб'юць, дык яшчэ падсунуць каханай майго двайніка, з якім яна будзе гэтаксама песціцца, пяшчоціцца, лашчыцца, мілавацца, хадзіць на спатканні і цалкам забудзе пра мяне…

— Не! Я не дам згоду на кланаванне! — усклікнуў я.

— А чаму Вашэць ўпэўнены, што ханкарыс таксама даў бы згоду на кланаванне?

— А хто б у яго пытаў… Ён жа рыба…

— Рыба? А Вашэць не? — у тоне Кірэра я пачуў кпіны.

— І што гэта значыць? — рэзка спытаў я.

— Вы, зямляне, таксама рыбы. Рыбы, у якіх у працэсе эвалюцыі з плаўнікоў развіліся ногі, рукі, вы носіце свой акіян у сваёй жа абалонцы. Вашэць — рыба, такая ж, як і ханкарыс. Як і я… Толькі я — рыба-лятучая пасля мільёнаў гадоў эвалюцыі… Вашэць — рыба-паўзучая…

— О…гэтыя рыбы, — я ледзь не закрычаў… — Чортавыя, бязглуздыя рыбы!

— Няпраўда… Вельмі нават глуздыя… Паводле дакументаў следства, Вашэць раскроіў яму галаву, і бачыў яго мозг.

— Хіба гэта мозг? Гарошына.

— Нават вузялок — зародак мозгу… Нават судзіна ў раслінах — усё кажа пра жывое стварэнне, здольнае да адбору і аналізу навакольнай інфармацыі. Ды і ўсялякі найпрымітыўнейшы арганізм мае права жыць… І ніхто не можа яго есці. Прынамсі на нашай планеце. Гэта зверства.

— Але ж Вашэць, — я папросту пачаў свідраваць яго вачыма, — хоча, як звер, з’есці мяне.

Такі вырак быў вынесены мне, а Кірэр перамог у адкрытым аўкцыёне на валоданне маім целам і правам яго гатаваць.

— У нас таксама вока за вока, зуб за зуб, як і ў вас… Вашэць з’еў рэпрэзентанта нашай планеты…. Рэпрэзентант нашай планеты мае права з’есці Вашэць.

— Зуб за зуб… У нас гэтак было даўно… Цяпер не так.

— У вас ёсць іншыя формы рэалізацыі гэтага прынцыпу, нават больш беспрынцыповыя.

— А раптам я не смачны… — я ўскочыў і наблізіўся да яго. — Мо я атрутны!?

Завішчала сірэна, і мне давялося сесці на месца.

— Прыкладам, у маіх амінакіслотах іншая хіральнасць, зусім адрозная ад вашых бялковая будова. Гэта пашкодзіць вашэцеваму арганізму.

— Нічога… Я свядома пайшоў на гэта… Апроч таго, аналізы паказалі, што вашэцеў біяматэрыял для нас ядомы. А кухары, якім я добра заплачу, зробяць з вашэцевага рэчыва цудоўную страву, — мне падалося, што ён галодным позіркам абвёў маё ладнае ад фізічных практыкаванняў цела.

— Гасподзе! — усклікнуў я.

— Не трэба гэтак нервавацца. Вашэцевым смакам я не буду гандляваць ці дзяліцца — гэта антыганарова і нагадвала б падачку іншым, не такім паспяховым, як я. Даю сардэчнае слова, што я вашэцеў смак апішу і апублікую ў Агульнапланетарнай кнізе смакаў. Гэта апісанне будзе жыць у гісторыі. Мы маем тамы смакаў: браканьераў-жывёлаедаў, браканьераў-раслінаедаў, грыбаедаў, кузуркаедаў, і нават людаедаў. Нашы людзі любяць чытаць гэтую кнігу, заказваюць стравы з імітацыяй падобных смакаў. Асабіста я лічу гэта сімуляцыяй. Падробкай. А Вашэць — найвышэйшы, сапраўдны далікатэс. Пры тым іншапланетны. Каб выйграць аўкцыён, я спусціў амаль усю сваю маёмасць. І гэта таго варта! І Вашэць праз маё апісанне вашэцевага смаку застанецца ў вечнасці. Я таксама, як і Вашэць, буду галадаць, буду пасціцца тыдзень. І потым колькі трэба буду сілкавацца адным вашэцевым рэчывам. Я сумленна апішу, што адчувалі рэцэптары майго языка, паднябення, гартані, апішу ўсе хваляванні майго стрававода пры глытанні, страўніка пры страваванні, як пачуваўся мой кішэчнік да самага апошняга апусташэння…

— Божа мой! — я схапіўся за галаву.

— Не здзіўляйцеся, я сваіх супланетнікаў называю гурманоідамі. Смак ад ежы для іх, і для мяне, асаблівая асалода і, у пэўнай ступені, неабходнасць. Бо мы заўсёды галодныя. Старымі смакамі, як я ўжо сказаў, нас не накорміш…Такімі нас зрабіла прырода.

У камеры зноў завішчэла сірэна і замігала святло. На сценцы спраектаваўся твар ачольніка аховы.

— Спадар Кірэр, прыйшло паведамленне ад Альбіны — каханай асуджанага. Яе зоркалёт ужо на арбіце. Яна хоча перамовіцца са спадаром Шумэрам.

— Я павінен даць дазвол?

— Не, смяротнік мае права на гэта. Папросту не перашкаджайце ім.

— Добра, — апусціў галаву Кірэр.

Замест ачольніка аховы на белай сценцы выявіўся твар Альбіны.

— Як ты?

— Як ты?

Амаль разам выпалілі мы.

— У мяне ўсё добра, — сказала яна. — Ровар у парадку. Ніякіх гама-успышак больш у гэтым сектары не было. Лячу да цябе… На адкрытую табой планету.

І тут мяне «прарвала»:

— Ляці назад! Яны дзікуны! Канібалы! Хай сюды пашлюць наш флот і знішчаць гэтую планету! Яны… жываглоты! Ён мяне з’есць!

— Ціха, мілы… Я разумею тваю сітуацыю…

— Разумееш!? Гэта немажліва зразумець! — уся мая роспач праз крык вылілася ў эфір. — Чорт, чорт, чорт! Вось трапіла мне ўпасці ў запаведнік, а не на іх плывучы горад…

— У нас уся планета запаведнік, — умяшаўся Кірэр. — У нас нідзе нельга нікога жэрці…

— Што ты сказаў! А мяне можна!? — я адчуў прыступ істэрыкі, кінуўся быў на прыкрага птахоіда. Рукі пацягнуліся да яго качынай дахлячай шыі. Ужо хацеў адкруціць ягоную дынепадобную з рэдкімі пёрамі галаву...

— Стой, — сказала Альбіна. — Не рабі глупства.

«Яна не адчувае ўсёй сур’ёзнасці майго становішча…» — падумаў я. Але раптам сцішыўся і вырашыў прымаць удары лёсу дастойна. Не хацелася выглядаць разбітым, расклееным і растаптаным перад каханай. Усё роўна я нічога не паспеў бы свайму паядальніку зрабіць, схаваныя ў сценах паралізатары пырснулі б у мяне порцыяй электрычнасці.

— Спадарыня Альбіна, — пачуўся голас ачольніка аховы. — усе дакументы мы выслалі Вашэці аўдыяфайлам і Вашэця мела час пазнаёміцца. У спадара Шумэра псіхічны зрыў, гэта зразумела. Але закон ёсць закон. Рыба забіта, ён мусіць быць забіты таксама…

— Так, я пазнаёмілася з дакументамі. І я хачу зрабіць заяву.

— Заяву? — здзівіўся ачольнік аховы.

— Так. Ці можаце мяне звязаць з кампетэнтнымі асобамі? — спакойна прамовіла Альбіна.

— Яны за ўсім назіраюць, — клёкнуў дзюбай ачольнік аховы.

— Як я зразумела, — пачала Альбіна афіцыйным тонам, — кланаванне тут нічога не вырашыць. Аднак, рыба, то бок ханкарыс, то бок яго цела замарожанае, як паведамляецца ў дакументах. Хоць і вельмі пашкоджанае, але яшчэ не расклалася. Правільна? — Альбіна зрабіла невялічкую паўзу і не стала чакаць адказу. — Паводле вашых законаў ханкарыса можна лічыць мёртвым. Аднак паводле законаў Зямлі — не. Я — навуковы супрацоўнік космаакіянарыума і з дапамогай нашых тэхналогій малекулярнага 3-d друку магу аднавіць ханкарысу ўсю ягоную клетачную будову, якая будзе цалкам супадаць з яго папярэдняй будовай. Інфармацыя закадаваная ў ДНК. Такім чынам, гэта будзе не клон, а частковае аднаўленне старога арганізму. Тое самае, як хвораму вырасціць ампутаваную руку. Вы згодныя?

Да размовы падключыўся старшыня Апеляцыйнага суда.

— Калі Вашэця ўсё аформіць згодна з нашымі правіламі, пакаранне можна адкласці. А калі ханкарыс, як Вашэця нам даводзіць, выздаравее, то артыкул «забойства» спадару Шумэру зменяць на «замах на забойства».

— А калі аніякіх шнараў ці іншых наступстваў у ханкарыса не будзе заўважна, што тады?

— Калі ён цалкам акрыяе…кваліфікаваць можна па-рознаму. Можна… э-э-э, — старшыня Апеляцыйнага суда задумаўся, напрыклад, як «нанясенне пашкоджанняў у стане афекту, выкліканым доўгай нястачай патрэбных арганізму рэчываў». У такім выпадку можна і штрафам абысціся.

— О, гэта ўжо бліжэй да тэмы, — Альбіна ўсміхнулася сваёй чароўнай усмешкай.

Яна, дый і я, зразумелі, што старшыня Апеляцыйнага суда быў спадар суворы, але сумленны, і, відавочна, дока ў сваёй галіне.

— Даруйце, а што з маімі грашамі, якія я заплаціў за асуджанага? — умяшаўся Кірэр.

— Ніякіх працэсуальных памылак мы не дапусцілі, усё было бездакорна. Вашэці давядзецца распачынаць новую справу, — безапеляцыйна прамовіў старшыня Апеляцыйнага суда. — Давайце пагаворым пра гэта пазней.

Кірэр шчыльна самкнуў сваю дзюбу.

— Ці магу я разлічваць на спатканне з асуджаным? — спытала Альбіна. — Хацелася б тэт-а-тэт.

— Афармляйце дакументы — і калі ласка, — строга прамовіў старшыня.

На экране узнік ачольнік аховы і загадна прамовіў.

— Спадар Кірэр, прашу пакінуць камеру, час сустрэчы завершаны.

На Кірэра было страшна глядзець. Позірк разгублены, крылцы абвіслі, рукі апусціліся і боўталіся, як вяроўкі. Ён дробнымі крочкамі пайшоў да адчыненых дзвярэй. Кірэр выдатна разумеў, што выцягнуць яго немалыя грошы з судовай махіны будзе нялёгка. І мажліва, амаль ўсё яны пойдуць на тое, каб іх жа адсудзіць назад…

***

Дзесьці праз месяц нам дазволілі спатканне. Альбіна прыйшла да мяне ў камеру. За пэўныя веды па біялогіі ёй дазволілі правесці са мной некалькі гадзін.

Мы цэлую вечнасць не абдымалі адно аднаго.

І потым, песціўшыся ў пасцелі, яна на маіх пазванках аднымі пупышкамі пальцаў, каб ніхто нас не падслухаў, выстукала на прыдуманым намі альфабэце дакрананняў, які чымсьці нагадваў альфабэт Морзэ, вось такую інфу:

«Клеткі ханкарыса я аднаўлю. Ці ажыве ён, ці ўваскрэсне ў ім жыццё — невядома. Але я буду працаваць доўга, і за гэты час мы нешта прыдумаем, знойдзем як уцячы». Потым шапнула:

— Дай слова, што ты заўсёды будзеш мець запас ежы і не будзеш ніколі есці жыццё?

— Даю слова… — адказаў я і «выдаткнуў» пупышкамі сваіх пальцаў на яе плечуках: «Мы будзем рабіць новае жыццё. Так?»

«Так» — таксама дотыкамі яна мне паведаміла .

## Злавіць няўлоўнае

*Дабрыццё разліта, як жыццё…*
***Джэрміс***

— Трапіўся! — радасна ўсклікнуў Мурэннікаў.

Толькі ягоны выкрутлівы розум мог прыдумаць гэтае сіло на няўлоўнага «птаха»…

Насамрэч касмічны кліпер «Цень» формай быў падобны да птушкі з раскрытымі крыламі. Яго капітанам быў Шэкма, якога ўрады 25 зорных кангламерацый прызналі за пірата.

Аднак паміж простага люду Шэкма слыў высакародным разбойнікам, бо абараняў «слабыя», то бок маларазвітыя, планеты. З такіх планет за далёка неперадавыя тэхналогіі ўвішныя купцы няшчадна вывозілі артэфакты. А без артэфактаў — твораў мастацтва, здабыткаў гісторыі і культуры, планета рабілася безаблічнай, пустой і нецікавай як для турыстаў, так і для сваіх жыхароў. Яна не магла займець высокі культурагенны рэйтынг.

Вядома гэта было несправядліва. Але ж ніхто з вонкавых светаў не вінаваты, што планета пачала гэтак позна развівацца, ці ўладу на ёй доўгі час трымалі адсталыя на светаўспрыманне ўзурпатары, якія ваявалі паміж сабой за сферы ўплыву, чым тармазілі прагрэс.

Шэкма дапамагаў «слабаразвітым» планетам скінуць шаты цемрашальства, а таксама рабаваў караваны зоркалётаў, што падманным шляхам вывозілі нацыянальныя багацці і вяртаў іх на радзіму.

Улад Мурэннікаў і Ёнг Натым — паляўнічыя за галовамі — паквапіліся на вялікую ўзнагароду, прызначаную за Шэкму. Аднак хто быў гэты няўлоўны пірат, насамрэч дакладных звестак амаль не было. Пра яго ў партовых корчмах планет, спадарожнікаў і касмічных баз віравалі неверагодныя чуткі, показкі, паданні і ўжо складзеныя паэтамі балады.

Казалі, што ён прадстаўнік таямнічага народа, падобнага да разумных інсектаў. Яны жылі паблізу нестабільнай зоркі, якую звалі ці то Фарнэя, ці то Франэя. Зорка неўзабаве пачала пераўтварацца ў звышновую. Народ Шэкмы спешна пакінуў родную планету і адправіўся ў блуканне па космасе на пошукі новага дома.

Карабель Шэкмы апошнім пакідаў сістэму Фарнэі, і каб пазбегнуць выбуховай хвалі, быў вымушаны зрабіць рэзкі манеўр. Але зорка выбухнула раней і «падкінула» зоркалёт. Праз гэта ён апынуўся ў невядомым для яго каманды сектары галактыкі, далёка ад радакоў. Капітан Шэкма сутыкнуўся з іншымі формамі разумных істот, з іншым ладам жыцця і вырашыў выправіць тое, што яму падавалася несправядлівым.

Так яно ці не так, ніхто не ведаў. А пра яго зоркалёт «Цень» хадзілі легенды. Карабель, як пляткарылі, быў найхутчэйшы і наймацнейшы паводле ўзбраенню ў вядомай частцы галактыкі. Вайскоўцы прылічылі яго да класу кліпераў, за неверагодную жвавасць, а за тое, што яго цяжка заўважыць візуальна і з дапамогай радараў — празвалі «Цень». Як карабель называўся ў сапраўднасці — ніхто не ведаў. А ці называўся ён наагул?..

Толькі імя — Шэкма — было дакладна вядомае — гэтак ён прадстаўляўся пад час відэаперамоваў.

Лоўчы прыгод Улад Мурэннікаў прыдумаў як выклікаць Шэкму на сябе. Ён заплаціў камандзе навуковай лабараторыі «Non troppo», якая даследавала штучнае хронатармажэнне, каб яна стварыла ў ненаселенай сістэме зоркі Джэрэса поле запаволенага часу.

Пасля Мурэннікаў і яго дападзейнік Ёнг Натым — разумны мядзведзепадобны з планеты Гбэлар — заключылі кантракт з урадам «слабаразвітой» планеты Снэіра. Яны перадаюць планеце тэхналогію бесправадной электрычнасці за гэта атрымліваюць права на арганізацыю гастроляў па развітых светах снэірскай дзівы Санктарыі. Неверагодная спявачка папросту заварожвала песнямі. На яе канцэрты зляталіся фанаты з розных куткоў Сусвету. Але выступы адбываліся вельмі рэдка. Бо самой Санктарыі спевы прыносілі невыносны боль. Спачатку ёй трэба было ўваходзіць у транс, сходны з болевым шокам, а потым толькі спяваць. Затое ў транс асалоды ўпадалі ўсе, хто яе чуў. І галоўнае, што ніякі запіс не перадаваў гэтае пачуццё, гэтую раскошу адчуванняў, гэты пік станоўчых эмоцый.

Урад Снэіры, які схіліў Санктарыю дзеля прагрэсу планеты падпісаць кантракт з Уладам Мурэннікавым, фактычна, зрабіў яе добраахвотнай рабыняй двух прайдзісветаў. Вядома, не назаўсёды, але ж на доўгі час. Ёнг Натым прыдумаў падкідаць у стравы спявачкі адмысловыя болепатольныя прэпараты, каб канцэртаў было як мага больш. Гэтая інфармацыя прасачылася ў прэсу і выклікала шуміху. У гарадах, дзе былі абвешчаныя канцэрты Санктарыі, прайшлі маніфестацыі. Абураныя грамадзяне пратэставалі супраць прэсінгу на дзіву, супраць пагрозы зрабіць яе залежнай ад медычных рэчываў.

Праўда, гэтая ўцечка інфармацыі была арганізаваная Мурэннікавым адмыслова, каб падражніць Шэкму. Ён разумеў, што пірат усё роўна сарве гастролі і паспрабуе вызваліць знакамітую спявачку.

***

Апяяны ў баладах кліпер «Цень» стрымгалоў пагнаўся за зоркалётам «Айсберг», дзе Мурэннікаў і Натым трымалі сваю «падкантрактную», і трапіў у падрыхтаваную пастку — касмічны карабель, як матыль ў павуцінні, завіс у цянётах застылага часу. Сталася гэта якраз на далёкай арбіце безыменнага астэроіда ў сістэме зоркі Джэрэса.

— Вось так… Галоўнае — правільна прапкласці гасцінец, — самазадаволена ўсміхнуўся Мурэннікаў.

— І загадзя ўпарадкаваць яго ўзбочыны, — выскаліўся Натым.

— Збіраемся!

Паляўнічыя за галовамі апранулі скафандры і ступілі ў адмысловую шлюзавую камеру. Там вакол кожнага утварыўся пухір нармальнага часу — ноу-хау лабараторыі «Non troppo», якая, несумненна, была ў долі ўсяго мерапрыемства. У сваіх пухірах Мурэннікаў і Натым, выплылі ў адкрыты космас і паволі пачалі набліжацца да застылага ў часе «Ценю».

Неўзабаве яны дасягнулі борта кліпера. Промнерамі ўскрылі абшыўку.

Як яны і разлічвалі, усе робаты, рэпарацыйныя, баявыя і аўтазнішчальнікі таксама былі паралізаваныя дзеяннем поля затарможанага часу.

У сваіх пухірах два прайдзісветы праз лабірынты калідораў дабраліся да капітанскага мосціка. Славуты пірат, як выявілася, выглядаў гуманоідам. Нагадваў абліччам і пастаццю зямлян. Шэкма ў нязграбнай позе сядзеў на анатамічным фатэлі за пультам кіравання — без руху, і амаль не дыхаў.

— Паслаб поле, а то задыхнецца, — параіў Натым.

— Пацерпіць, — Мурэннікаў загадаў скафандру падключыцца да пульту кіравання караблём, запусціў у камп'ютарную сістэму ўніверсальны вірус блакіроўкі электронікі. — Цяпер робаты не ажывуць. Давай, апрані яго.

Абязволенаму — а фактычна, моцна запаволенаму — Шэкме Натым начапіў на шыю металічнае колца, счэпленае ланцугом з кайданкамі, потым замкнуў іх на запясцях знакамітага рабаўніка.

— Гатова.

— Накіроўвай на яго промнер, а я прыбіраю поле, — прамовіў Мурэннікаў.

Натым прыставіў рулю свайго промнера да скроні Шэкмы. Мурэннікаў аддаў мысленны загад — праз хвіліну поле затарможанага часу знікла. Зніклі і абаронныя пухіры вакол яго і Натыма.

Шэкма апрытомнеў, глянуў на свае скаваныя рукі, потым на рулю промнера, што цэліўся ў яго, узняў погляд на сваіх захопнікаў.

— Нават не думай нешта падумаць! — пагрозліва рыкнуў мядзведзепадобны.

— Не пераймайся, Ёнг, — хмыкнуў Мурэннікаў. — Цяпер капітан Шэкма можа кіраваць сваёй пасудзінай толькі ўручную. Але ж рукі ў яго ўпрыгожаныя тытанавымі бранзалеткамі. Ану, — Улад кіўнуў пірату, — Паціху ўставай і тупай за намі. Запрашаю на наш карабель. Пад'ём!

— І не рыпацца! — Натым пагразіў руляй промнера.

Шэкма — знакаміты, няўлоўны пірат — сумна ўздыхнуў, моўчкі падняўся з фатэля і… раптам разляцеўся на рознакаляровыя кропкі.

Ёнг зрэагаваў умомант — націснуў на цынгель. Сіні промень прайшоў у пустое кола металічнага ашыйніка і ўдарыў у падлогу. Ужо непатрэбныя ашыйнік і кайданкі павіслі ў бязважкасці і пачалі дрэйфаваць да чорнага ілюмінатара.

Хмара рознакаляровых кропак вокамгненна пашыралася, некаторыя з іх трапілі на шлем Натыма, заляпалі шкло.

— Чорт! — ён выцер яго рукою.

На сваёй пальчатцы Натым заўважыў маленькія, менш чым макавае насенне, крылатыя кузуркі. Яны хуценька адштурхоўваліся ад паверхні пальчаткі і зляталі ў прастору.

— Што гэта? — усклікнуў мядзведзепадобны.

— Д'ябал! — закрычаў Мурэннікаў, — мурашнік…

Улад ніколі не бачыў такой формы жыцця. Але здагадаўся, што менавіта так яно і ёсць.

— Што? — не зразумеў Натым.

— А дакладней, раешнік, — сказаў Мурэннікаў. — Мы з табой складзеныя з клетак. А ён — з восьтакой жамяры… Мікраскапічныя арганізмы сыходзяцца ў вельмі шчыльны рой і калі што — разлятаюцца.

— Колькі іх можа тут быць? — злосна запытаў мядзведзепадобны.

— Не ведаю, мільёны, мільярды.

— Зараз падлучым пыласос, засмокчам усіх… У нас прасілі адну галаву Шэкмы, а мы прывязём мільярд… — Натым захрыпеў натужаным смехам, з-пад чорных вуснаў бліснулі крукаватыя іклы. — Ты ж, Уладзя, не спалохаўся кузурак?

— Дый што ты мне кажаш, — адказаў Мурэннікаў, хаця яго вочы насцярожана бегалі, фіксуючы, як рознакаляровыя кропкі разлятаюцца па караблі і распаўзаюцца па сценах.

Раптам корпус «Ценю» задрыжаў.

— Ты гэта адчуваеш!? — занерваваўся мядзведзепадобны.

— Так.

— Уключай поле! — крыкнуў Натым.

— Я ўжо загадаў! — не паспеў Мурэннікаў адказаць, як па ўсім пірацкім кліперы пайшлі трэшчыны.

У наступнае імгненне зоркалёт «Цень» рассыпаўся на драбнюткія аскепкі і выбухова разляцеўся па навакольнай прасторы.

Поле затарможанага часу ўтварылася толькі вакол Мурэннікава і Натыма, але адначасова вакол іх зноў з'явіліся абаронны пухіры.

Лоўчыя прыгод апынуліся ў адкрытым космасе. Як нязграбныя лялькі, яны паплылі па чорнай пустой прасторы. Працягнулі адно аднаму рукі, але ўхапіцца не паспелі.

Кліпер «Цень», нібыта з нанапазлаў, сабраўся наноў акурат над зоркалётам Мурэннікава і Натыма, дзе ў асобнай, зачыненай каюце знаходзілася нацыянальная каштоўнасць планеты Снэіра — дзіва-спявачка Санкторыя.

Пірацкі карабель падхапіў зоркалёт паляўнічых за галовамі на буксір і паплыў у касмічную глыбіню. На хвілю прыпыніўся. Выпусціў порцыю энергіі, якая ўдарыла ў шэры астэроід, што пралятаў непадалёку. Там на астэроідзе супрацоўнікі лабараторыі «Non troppo» загадзя ўсталявалі эксперыментальны генератар поля затарможанага часу. Астэроід разам з гэтым вынаходніцтвам разляцеўся ў бясформенны друз, без шанцу на аднаўленне.

Улад Мурэннікаў і Ёнг Натым у тую ж хвілю адчулі, як іх целы раптоўна страцілі вагу, і яны сталі жывымі, штучнымі астэроідамі зоркі Джэрэса. Ім нічога не заставалася рабіць як пераключыць скафандры на доўгатэрміновы дрэйф.

— Пасылаем «СОС» і ўпадаем у анабіёз, — перад тым як страціць прытомнасць загадаў свайму персанальнаму камп'ютару Улад Мурэннікаў.

Той жа вершык у думках прамовіў мядзведзепадобны Ёнг Натым.

## Дождж разняволення

— Спадар Міл-к-Лім, мы за крок да таго, каб пазбавіць Вашэць Родыевага Шалома пераможца Вяліка-Сусветнага ралі, — урачыста прамовіў галоўны рэферы, падобны да вялікага багамола.

— Я чуў, што камітэт мае такі намер, аднак я хацеў быў атрымаць доказы, так сказаць, маіх неспартыўных паводзін, — з гонарам адказаў Міл-к-Лім.

Гэты статны рэптылоід стаяў у цэнтры моцна асветленай цыркавой арэны. Трыбуны вакол яе былі цалкам забітыя разнамаснай публікай. Акрамя рэптылоідаў розных памераў і формаў на іх можна было заўважыць твары інсектоідаў, птахоідаў, а таксама — іхтыоідаў і шматрукіх малюскоідаў. Два апошнія класы хаваліся за празрыстымі, эластычнымі касцюмамі-скафандрамі, напоўненымі вадкасцю.

Вялікае ралі праходзіла на бія-караблях, падобных да касмічных каракаціц, касмічных медуз, арлоў, жукоў, і нават да пляскатых чарапах — каму якой ставала фантазіі. Такая форма зоркалётаў надавалася разумнымі істотамі ў гонар жывёл сваіх планет, часта ўжо даволі рэдкіх, адноўленых паводле сінтэзаваных ДНК.

Маршрут раллі пракладаўся па бездарожжы ў малавядомых сектарах Сусвету. Шырока разрэкламаванае спаборніцтва прываблівала шмат публікі — жыхароў самых розных планет. Прычынай, з аднаго боку, быў азарт і мажлівасць выйграць на таталізатары, а з другога — гоншчыкі маглі сутыкнуцца з новымі формамі жыцця, часам небяспечнымі, драпежнымі і падступнымі. Гэта падагравала цікавасць.

— Слова нашым экспертам, — прамовіў галоўны рэферы. — Спадар Крам-т-Марк, прашу.

— Як мы выявілі, — злева ад Галоўнага рэферы з-за стала падняўся пажылы рэптылоід, апрануты ў старамодны касцюм, — удзельнік Вяліка-Сусветнага ралі пад нумарам 111, спадар Міл-к-Лім, выкарыстоўваў невядомы нам допінг.

Публіка зашумела.

— Я пратэстую, — перапыніў яго Міл-к-Лім. — Прадэманструйце хоць адну малекулу гэтага допінгу.

— Трэба сказаць, што па завяршэнні ралі, — пачаў эксперт, — у судзінай сістэме карабля Міл-к-Ліма мы не знайшлі аніводнай падазронай малекулы. Аднак мы заўважылі, што біявадкасці яго касмічнай каракаціцы падазрона чыстыя. Нібыта біякарабель і не ўдзельнічаў у шматмесячнай гонцы. Такім чынам вадкасці маглі замяніць перад нашымі пробамі, альбо памяняць каракаціцу на яе блізняці, што ўскосна даказвае...

— Гэта ўсё дапушчэнні і нічога наўпрост не даказвае… — запярэчыў Міл-к-Лім. — Мой біякарабель даволі юны, таму цыклы самаачышчэння ў яго адбываюцца нашмат хутчэй, чым у іншых космакаракаціц.

— Спадар Міл-к-Лім, Вашэць яшчэ будзе мець слова, — умяшаўся Галоўны рэферы. — Працягвайце, спадар Крам-т-Марк.

— Гэта па-першае. А па-другое мы маем відэа- і аўдыядоказы. Уключыце калі ласка.

У паветры над цыркавой арэнай з'явілася галаграфічная карцінка — вуліцы горада паліваў летні дождж, які быў залатога колеру. Дождж як нечакана пачаўся, гэтак нечакана і перастаў.

— Гэта кадры з адкрытай у час ралі планеты. Мы перахапілі запісы мясцовых відэакамер і радыёхвалі, — паведаміў эксперт. — А вось і каментарый, які робіць тамтэйшы жыхар. Прашу паслухаць:

***

На фоне ўрбаністычнай трохмернай галаграмы ў эфіры пачуўся вельмі занепакоены мужчынскі голас, які з тымі ж эмоцыямі і адпаведнымі мадуляцыямі аўтаматычна перакладаўся на мовы прысутных у іх персанальных аўдыяапаратах.

Мужчына паведамляў:

— Мною, інспектарам ДАІ, Мармуровічам Пятром Алегавічам, на вуліцы Аранскай горада Мінска назіраецца народнае хваляванне, так бы мовіць, стыхійны ўсплёск эмоцый.

Падзеі пачаліся з таго, што пасля кароткачасовага дажджу на праезджай частцы чырвоная «мазда» і ружовы «сітраен» сутыкнуліся лоб у лоб, як у народзе кажуць, пацалаваліся, а іх кіроўцы, грамадзянка, прыкладна дваццаці гадоў і грамадзянін, на выгляд дваццаці пяці гадоў, вылецелі праз ветравыя шыбы сваіх аўтамабіляў і таксама ў паветры сутыкнуліся. Спачатку аднымі вуснамі, а потым і ўсе цалкам. Па інерцыі яны ўзняліся высока ўгору, а затым упалі на капот «сітраена». Падчас палёту, грамадзянка і грамадзянін, так бы мовіць, захапіліся адно адным, бо на капот яны апусціліся, заключанымі ва ўзаемных абдымках.

За гэтым назіралі пасажыры тралейбуса № 30, які ішоў у бок вакзала і тралейбуса № 3, які накіроўваўся на ДС «Ангарская». У такіх адказных акалічнасцях кіроўцы тралейбусаў № 30 і № 3, з паркавымі нумарамі 2322 і 2534, жанчына і мужчына сярэдніх гадоў, дапусцілі недаравальную нядбайнасць: завярнуўшы галовы да грамадзянкі і грамадзяніна на капоце «сітраена», не справіліся з кіраваннем і сутыкнуліся сваімі машынамі. І мала таго, самі праз пабітае шкло дзяржаўных машын пачалі заўзята абдымацца, чым падалі дрэнны прыклад пасажырам. Тыя павыскоквалі з салонаў праз аварыйныя выхады і, адшукаўшы сабе пару са свайго ці іншага тралейбуса, таксама пачалі абдымацца.

Праз лічаныя хвіліны ў дарожна-транспартны калапс былі ўцягнуты ўсе ўдзельнікі гарадскога руху: і таксісты, і кіроўцы асабістых аўтамабіляў, і пасажыры рэйсавых аўтобусаў, і медперсанал хуткай дапамогі, і пенсіянер, якога тая хуткая дапамога спешна везла ў рэанімацыю; і нават падазроны на выгляд байкер — яго знялі з матацыкла і атакавалі жарснымі абдымкамі дзве невядомыя грамадзянкі.

Становішча значна пагоршылася пасля таго, як на бліжэйшым пераездзе была спынена электрычка Мінск—Орша, у якой адпраўляліся ў дыялекталагічную практыку студэнты філалагічнага факультэту БДУ, у выніку чаго прапорцыя паміж асобамі жаночага пола і асобамі мужчынскага полу рэзка павялічылася на карысць першых. Гэта прывяло да фактычнага праследавання асоб мужчынскага полу, якіх адусюль выцягвалі, вылоўлівалі, абдымалі і нават спрабавалі без дазвольных штампаў у пашпарце пацалаваць.

Але, калі на кандытарскай фабрыцы «Камунарка», што знаходзіцца непадалёк ад месца падзей, закончылася змена, стыхійны ўсплёск эмоцый пачаў набываць больш пратэставы, страйкавы характар. Асобы мужчынскага полу на гэтым участку гарадскіх камунікацый зрабіліся такім вялікім дэфіцытам, што як іх не вылоўлівалі і не дзялілі на колькасць асоб жаночага полу, усё роўна на ўсіх ахвотных іх не ставала. Пачуліся лозунгі: «Дайце мужчын!», «Спадарыні, возьмем абдымкі ў свае рукі!» А потым вылучыўся страйкам і незаконна аб'явіў сённяшні дзень 31 ліпеня Днём свабоднай пяшчоты.

У дадзены момант перадавыя калоны пратэстуючых жанчын з транспарантам «31 ліпеня — Дзень свабоднай пяшчоты» кіруюць у цэнтр горада. Тэрмінова прымайце меры...

Раптам голас інспектара ДАІ змяніўся, стаў больш радасным:

— Няхай жыве Свята свабоднай пяшчоты!.. Ура!.. — разнеслася ў эфіры… — Прабачце, таварышы, гэта мяне пад ялінкай, адкуль я вяду назіранне, заўважыла невялікая купка жанчын… Не памінайце ліхам... Прывітанне сваякам… Ня-а-а-а! Жжы-ы-ы-ы! Пя-я….!!!

Далей пачуліся неразборлівыя выгукі... А потым нехта дзьмухнуў у перадатчык.

— Гэй, раз, раз, раз, — гэта ўжо быў жаночы голас, — чуеце нас! Мы вольныя жанчыны Беларусі патрабуем дэклараваць дзень 31 ліпеня Днём Свабоднай пяшчоты і пачаткам летняга карнавалу! А цяпер спешна высылайце нам атрад АМАПа! Мы іх з нецярпеннем чакаем!..

***

Запіс абарваўся. У цыркавой арэне, залітай святлом сафітаў, на хвіліну ўсталявалася цішыня.

— І што, спадар эксперт, хоча гэтым сказаць? — спытаў Міл-к-Лім.

— Рэч у тым, што гэты дзіўны дождж прайшоў над тым горадам пасля пралёту вашага карабля. Мы накіравалі туды экспедыцыю і высветлілі, што кроплі дажджу ўтрымлівалі малекулы ахаладжальнай субстанцыі вашэцевага бія-зоркалёта, функцыянальна падобнай да поту жывога арганізма. У ёй мы вылучылі гэта рэчыва.

У прасторы засвяцілася хімічная схема допінгу.

На трыбунах пачалі шумець.

Галоўны рэферы націснуў на стале перад сабой чырвоную помку-клавішу. Загучала сірэна. Публіка прыціхла.

— Што Вашэць можа на гэта адказаць? — Галоўны рэферы звярнуўся да Міл-к-Ліма

— Я думаю, — гоншчык трошкі разгубіўся, — гэта элементарнае супадзенне. Ахаладжальная субстанцыя Мілюлі — так завуць маю космакаракаціцу — ўступіла ў хімічную рэакцыю з атмасферай, вось і атрымаўся стымулюючы рэактыў. Так сказаць, м-м-м, рэактыўны рэактыў…

— Гэта памылковае тлумачэнне, якое мае мэту нас заблытаць, — як мага пераканаўча прамовіў эксперт. — Пах гэтага рэактыву ўдыхнулі як тубыльцы, гэтак і сама, як вы кажаце — Мілюля.

— Такім чынам, — сувора сказаў Галоўны рэферы, — спадар Міл-к-Лім за выкарыстоўванне допінгу пазбаўляецца Родыевага шалома пераможцы і дыскваліфікуецца на пяць гадоў. Але за адкрыццё новай жывой планеты ён узнагароджваецца Плацінавай падзорнай трубой першапраходцаў.

Пад фанфары на цыркавую арэну выйшаў апрануты ў зіхоткі скафандр дванаццаціног. Ён спыніўся каля самага Міл-к-Ліма, застаўся стаяць на дзесяці мацках, абутых у лакіраваныя чаравікі, дзвюма астатнімі абняў гоншчыка і павесіў яму на шыю бліскучую падзорную трубу.

Зала выбухнула авацыямі.

— Прашу цішыні, — галоўны рэферы зноў запусціў на пару секунд сірэну, а потым дадаў, — цяпер слова перадаецца прэзідэнту Сусветнага экалагічнага кантролю.

У ложы побач з Галоўным рэферы падняўся высокі птахоід. Ён караценька пакланіўся публіцы:

— Вітаю шаноўных заўзятараў Вяліка-Сусветнага ралі! Цяпер імем Экалагічнай Канстытуцыі загадваю арыштаваць спадара Міл-к-Ліма, за забруджанне жывой планеты.

Тут жа з-пад цыркавых скляпенняў спусціліся два ўзброеныя промнерамі птахоіды, і яшчэ, лунаючы ў паветры, накінулі на Міл-к-Ліма паралізуючае ласо. Потым яны прызямліліся і сталі з нахмуранымі тварамі паабапал яго.

— Хачу патлумачыць, — сказаў прэзідэнт Сусветнага экалагічнага кантролю. — Гуманоіды, адкрытыя спадаром Міл-к-Лімам, найрадзейшы клас разумных істот. Яны мелі найдаўжэйшы шлях да розуму. Іх продкі прайшлі стадыю іхтыноідаў, рэптылоідаў, мамалоідаў і толькі потым з'явіліся гуманоіды. Планеце трэба было мець акіяны, сушу, а потым лясы. З'яўленне розуму на ёй — на мільёны гадоў затрымалася… А неабдуманыя дзеянні спадара Міл-к-Ліма маглі прынесці пагрозу гэтаму класу разумных арганізмаў.

Зала незадаволена загула.

— Аднак! — прэзідэнт Сусветнага экалагічнага кантролю узняў руку — просячы цішыні… — Аднак чыста выпадкова, гэтыя дзеянні прывялі, як сведчыць група маніторынгу, да невялікага дэмаграфічнага ўздыму мясцовай папуляцыі з саманазвай — беларусы. Такім чынам яго пакаранне кампенсуецца станоўчым эфектам ад ненаўмыснага злачынства. Спадар Міл-к-Лім неадкладна вызваляецца на месцы арышту.

Узброеныя птахоіды ўвішна знялі з гоншчыка ласо.

Слова пераняў Галоўны рэферы:

— Чакаем спадара Міл-к-Ліма на нашым ралі праз пяць гадоў. А цяпер мы ўзнагароджваем Родыевым шаломам спадара Апіпу, які заняў другое месца.

На арэну выйшаў хударлявы іхтыноід у спартыўным скафандры. Пакланіўся публіцы. З цэнтра купала па спіралі зляцелі дзве стромкія, з асінымі таліямі, дзяўчаты-інсектоіды. У руках яны трымалі круглы футарал, дзе знаходзіўся найкаштоўнейшы прыз — Родыевы шалом. Пад урачыстыя фанфары дзяўчаты адкрылі футарал, надзелі шалом на пляскатую галаву Апіпы.

— Гэта несправядліва! — закрычаў Міл-к-Лім… — Тубыльцы самі разняволіліся… Пот каракацыцы і паветра горада змяшаліся не па маёй волі! А я тут ні пры чым! Яны самі…

Але праз фанфары яго ніхто не чуў. Дый не бачыў.

Промні святла ўжо скіраваліся на галоўную ўзнагароду знакамітага ралі, што красавалася на галаве Апіпы. Родыевы шалом зырка зазззяў, асляпляючы ўсіх, хто знаходзіўся ў зале.

І гэта зразумела — родый найбліскучы прыродны метал…





**Георгій Марчук нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку. Сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яго п'еса, змешчаная тут, надзённая не толькі для кінематографа, пра які гаворка. Напярэдадні 500-годдзя кнігадрукавання (ці пабачым у наступным годзе кіно пра Скарыну?) мы лічым заклік, які гучыць у фінале, — «Трэба браць вышыню!» — не проста сімвалічным, а нават жыццёва неабходным. Браць вышыню за вышынёй, не збочваць з нялёгкага шляху, не здавацца. Ствараць новае, непаўторнае, сваё, зацята і ўпарта, нягледзячы на шматлікія перашкоды. Мастацтва мусіць жыць і далей.**

*Заўважаю, што знакавыя, гістарычныя асобы, волаты духу, іх лёсы натхняюць на творчасць. Асабіста я зацікавіўся жыццём нашага асветніка Францыска Скарыны даўно. І як вынік — напісаў тры п'есы пра яго хоць і трагічнае, але высокага і светлага сэнсу жыццё. Адну з іх прапаную чытачам часопіса «Маладосць».*

***Аўтар***

**Георгій Марчук**

# Святло вышыні

*П'еса ў дзвюх дзеях*

*Хай дасканалым будзе чалавек боскі*
*і да ўсякай справы добрай падрыхтаваны.*
***З прадмовы Ф. Скарыны***
***да Паслання Апостала Паўла Цімафею***
***Гл. 3***

Час — XVI стагоддзе, XXI стагоддзе

**Дзеючыя асобы:**

***Платон Верас*** — кінарэжысёр, 27 гадоў
***Дзяніс Барэйша*** — артыст, выканаўца ролі Ф. Скарыны, 25 гадоў
***Вікторыя Прылюбка*** — артыстка, выканаўца ролі Маргарыты, 25 гадоў
***Канстанцін Фаміч Аднавухаў*** — уладальнік турфірмы і сеткі магазінаў, 55 гадоў
***Алена Казак*** — супрацоўніца турфірмы, 27 гадоў
***Авідзій Русланавіч*** — уладальнік начнога клуба і казіно, 50 гадоў
***Элен*** — сакратарка Авідзія Русланавіча, 25 гадоў

***Мітрапаліт*** — 70 гадоў
***Скарына*** — 55 гадоў
***Мнішка*** — 60 гадоў
***Гаштольд*** — ваявода віленскі
***Сакратар ваяводы***
***Пісарчук***

## Дзея першая
## Карціна першая

Офіс турыстычнай фірмы «Адвечнае лета». Невялікі кабінет уладальніка. Пад столлю вялікі вентылятар. На стале — адкрыты ноўтбук. Маленькая канапка для наведвальнікаў. Экран — для фота- і відэафільмаў пра экзатычны адпачынак: Антарктыда, палескае балота, Італія, Грэцыя. Мяняюцца краявіды, заахвочваючы турыстаў. Калісьці падобны ролік для турфірмы Аднавухава зняў малады рэжысёр Платон Верас.

Канстанцін Фаміч у маладыя гады быў адміністратарам кінастудыі, а цяпер — бізнесовец сярэдняга ўзроўню. Ён сядзіць пры стале, п'е каву. Побач сакратарка — прыгожанькая Алена. Аднавухаў відавочна незадаволены і раздражнёны.

*Паўза.*

***Канстанцін Фаміч.*** Я прасіў, каб ты трымала яго на адлегласці ад мяне. Я змушаны прасіць, каб ён аддаў доўг, а гэта прыніжае маю годнасць. Разумею, твой аднакласнік. Ты ўжо як-небудзь сама.

***Алена.*** Ён просіць пра асабістую сустрэчу. У яго новая ідэя.

***Канстанцін Фаміч.*** Ідэй зараз — Космас засявай, але ніхто на іх не выдаткоўвае сродкаў, гэта значыць, не робіць інвестыцый. Тым больш на кіно. Нацыянальнае кіно памерла, вер мне, я сёе-тое разумею.

***Алена.*** Ён просіць пра сустрэчу. Вы ж добры чалавек, Канстанцін Фаміч.

***Канстанцін Фаміч.*** Не дагаджай і не падлабуньвайся. Я пачцівы, але зусім не добры. Усім дай… Дзіцячаму садку, спартсменам, дому-інтэрнату. Накіроўваю ўсіх у розныя бакі — ад Антарктыды да Тайланда, а сам ледзь тыдзень знаходжу на Сейшэлы.

***Алена.*** Дзякуй. Я ўсё памятаю. Гэта незабыўна.

***Канстанцін Фаміч.*** Цішэй, без рэкламы. Што было, тое было. Ну добра, запрасі яго.

Алена выходзіць і вяртаецца з Дзянісам, Вікторыяй і Платонам. Дзяніс і Вікторыя апрануты ў касцюмы часоў Сярэднявечча. Дзяніс у мантыі, на галаве чырвоная берэтка. Канстанцін Фаміч трохі здзіўлены.

***Канстанцін Фаміч.*** Не зразумеў? Што гэта за маскарад?

***Платон.*** Дзень добры. Зараз усё растлумачу.

***Канстанцін Фаміч.*** Толькі без казуістыкі. Здагадваюся, пра што прасіць будзеш. Справа, метад і сума прыбытку?

***Платон.*** Ці давяраеце вы мне, Канстанцін Фаміч, як творчай асобе?

***Канстанцін Фаміч.*** Давяраў, але расчараваўся. Кліп, які ты зняў для фірмы, я ўхваліў. Акрамя таго, выплаціў табе аванс у дзесяць тысяч даляраў на стварэння сцэнарыя пра падарожжа нашых турыстаў да цёплага мора. На сувязь ты не выходзіў, хаваўся. Нарэшце сакратарка Алена паведамляе, што сцэнарыя няма. Творчы крызіс, і гэта я разумею, а таму прашу аддаць доўг. Грошы цяпер усім трэба. Мне заробак супрацоўнікам плаціць няма чым. Турцыя закрыта, народ збяднеў, далей за Беласток і Прагу ўжо не выпраўляюцца. Паміж матэрыяльным і духоўным я выбіраю матэрыяльнае, прабач.

***Платон.*** Я прыйшоў з новай геніяльнай ідэяй.

***Канстанцін Фаміч.*** Назаві мне хоць бы аднаго творцу, які б не лічыў сябе геніяльным. Я ашываўся сярод іх, калі быў адміністратарам на кінастудыі. І ў чым твая задума?

***Платон.*** Грандыёзны фільм. Спаўняецца пяцьсот гадоў з дня публікацыі першых кніг нашага асветніка і першадрукара Францыска Скарыны. Сцэнарый гатовы. За тыя дзесяць тысяч баксаў мы наладзілі кастынг — выбралі натуру, зацвердзілі артыстаў на эпізоды. Можам запускаць хоць заўтра.

***Канстанцін Фаміч.*** Хто ж табе замінае, дарагі мой? Ёсць для гэтага міністэрства культуры…

***Дзяніс.*** Мы ўжо былі там.

***Платон.*** Замкнёнае кола.

***Канстанцін Фаміч.*** У якім сэнсе?

***Платон.*** Часы змяніліся. Гэта сусветны праект.

***Дзяніс.*** Гэта будзе сусветны шэдэўр.

***Канстанцін Фаміч.*** Хоць два шэдэўры. Але пры чым тут я?

***Платон.*** Вазьміце на сябе ролю прадзюсара будучага фільма! Міністэрства згаджаецца выдаткаваць працэнт ад агульнай сумы, але патрабуе, каб знайшлі спонсара і каб той уклаў свае трыццаць-сорак працэнтаў.

***Вікторыя.*** Для вас гэта невялікая сума.

***Канстанцін Фаміч.*** І вы ўсе прыйшлі, каб агітаваць мяне за гэту авантуру?

***Дзяніс.*** Вы з гэтым фільмам паедзеце ў Каны.

***Канстанцін Фаміч.*** Дай Божа даехаць да Бабруйска. Якая самаўпэўненасць, аднак…

***Платон.*** Дзяніс, памаўчы.

***Канстанцін Фаміч.*** І якая ж мая доля?

*Паўза.*

***Платон.*** Чатырыста тысяч даляраў *(Паўза.)* Гэта будзе сапраўднае нацыянальнае кіно.

***Канстанцін Фаміч.*** Вось з гэтага і трэба было пачынаць. Замест таго, каб аддаць доўг, ты просіш касмічную суму. Ці не нахабства гэта? Я не самалёт-«кукурузнік», які раскідае ўгнаенні, я грошы на вецер не выкідаю. Каму сёння трэба твой Скарына? Здымай пра алігархаў, вучы маладых, як можна хутка разбагацець, здымай пра праграмістаў, якія ў ЗША зарабляюць шалёныя бабкі, пра чыноўнікаў, якія будуюць катэджы і пазычаюць у банках грошы без працэнтаў. Нацыянальнае знікае, усё глабалізуецца, квітнее касмапалітызм. Метад жыцця дыктуе даляр, а не кніга і не твой фільм.

***Платон.*** Але ж ёсць чалавечая душа, любоў, спасціжэнне пачуцця Радзімы, абавязку, тайны Хрыстовы ёсць.

***Канстанцін Фаміч.*** Састарэлыя ідэі. Усё адмірае. У Еўропе зачыняюцца касцёлы, бо ніхто туды не ходзіць. Мячэці адкрываць будуць.

***Платон.*** Але пачуццё Радзімы — яно святое.

***Дзяніс.*** Сапраўды…

***Канстанцін Фаміч.*** Паняцце няпэўнае. Сяку лес, вывожу ў Германію. Вось лес і ёсць мая Радзіма. Капаю калій у Салігорску — угнаенні мая Радзіма. Усё, што дае прыбытак і корміць, — гэта і ёсць Радзіма. Ваш герой несучасны. Хто ён? Якое адкрыццё зрабіў, як палегчыў жыццё чалавека? Трактар, радыё, тэлефон, скальпель?..

***Вікторыя.*** Ён першы пераклаў кнігі Біблії на нашу мову.

***Дзяніс.*** Гэта наш гонар — філолаг, біблеіст, перакладчык, асветнік, патрыёт.

***Канстанцін Фаміч.*** І што ў яго за асветніцкая дзейнасць? Не разумею… Ну, пераклаў біблейскія кнігі, і што?

***Дзяніс.*** Ён — прыклад станоўчага героя, над пошукамі якога б'юцца ўсе мысляры свету. Гэта герой адукаваны, чалавек, які мае духоўныя сілы і непахісныя перакананні.

***Вікторыя.*** Пры гэтым ён зыходзіў з таго, што ўсе людзі розныя і кожны чалавек з'яўляецца асобай, мае права на адмысловы жыццёвы шлях.

***Платон.*** Ён сцвярджаў, што жыццё чалавека — найвышэйшая каштоўнасць, што ёсць права чалавека, што кожны індывід павінен выкарыстоўваць свой талент на павелічэнне агульнага шчасця, у якім ёсць вялікая доля асабістага шчасця для кожнага.

***Канстанцін Фаміч.*** Ну проста камуніст нейкі. Словы, словы… І ўсё пацвярджаў, як я разумею, прыкладамі з Біблії? А ці быў ён шчаслівы?

***Платон.*** Пра гэта і будзе фільм. Пра яго малітву, любоў, шчасце, пра яго ўсведамленне сваёй далучанасці да народнага лёсу, пра адзіноту ў Еўропе, пра каханне.

***Дзяніс.*** Фільм купяць шматлікія каналы ТБ у Расіі, Польшчы, Літве…

***Канстанцін Фаміч.*** Патрэбны мы Еўропе са сваім кіно, як папуасу атамная бомба. Ды ці ведаеш ты, настырны юнак, што трэба даць хабар у лапу начальству, каб прадаць фільм на папулярныя тэлеканалы? Гэта авантура! Я — аптыміст, матэрыяліст. У сілу Космасу і духу веру, але больш спадзяюся на магутнасць грошай. Не веру, як ваш Скарына, у адвечнае жыццё. Рай тут, на зямлі, які стварае сам чалавек розумам і… правільна — грашыма.

***Платон.*** Радзіма для мяне — гэта народ, яго душа. Яны *(паказвае на Дзяніса і Вікторыю)* без грошай, на адным энтузіязме рэпеціруюць увесь час. Яны ахоплены жаданнем ствараць. Прашу ў вас яшчэ пяць хвілін увагі. Хай яны сыграюць адзін з эпізодаў.

***Канстанцін Фаміч.*** Добра, пяць хвілін, не болей.

Зацямненне.

## Карціна другая

*Гучыць старажытная музыка. Іграюць на лютні. Маргарыта стаіць каля акна. Уваходзіць Скарына.*

***Маргарыта*** (*ідзе насустрач каханаму, абдымае)*. Нарэшце! Госпадзі, Свенты Езус, апоўначы!

***Скарына.*** Заседзеліся ў Бабіча.

***Маргарыта.*** Што вырашылі?

***Скарына.*** Трэба ехаць.

***Маргарыта.*** Я не сумняваюся, што ён цябе адгаворваў, але твая ўпартасць не ведае межаў. Мала табе вандровак. Прага, першыя кнігі, Кракаў… Цябе пазнаюць. Вялікія паны ведаюць тваё імя.

***Скарына.*** Мне кароль Жыгімонт не дазволіў у Кракаве арганізаваць друкарню.

***Маргарыта.*** Хто ж будзе задаволены, калі ў яго землях выдаюць кнігі на чужой мове? Чыя мова ў краіне, таго і ўлада.

***Скарына.*** Але і на сваіх землях у Вільні я чужы.

***Маргарыта.*** Бог трываў і нам загадаў. Яшчэ ў старажытнасці гаварылі, што няма прарока ў сваёй Айчыне. Навошта табе тая слава? Усе гэтыя кнігі, што ты надрукаваў, выдавец Бабіч і купец Онкаў не могуць прадаць. У схоўню панабівалі. Не купляюць і тваю «Малую падарожную кніжыцу», не бяруць людзі «Трою», «Александрыю», не жадаюць чытаць і твайго «Прарока».

***Скарына.*** «Апостала».

***Маргарыта.*** Усё ж такі, дзякуй богу, людзі мы даволі заможныя. Я ўклала грошы і ў прадпрыемства пляменніка твайго Рамана. Шкуры добра прадаюцца. Спадчына — дом маёй дарагой матухны — належыць нам, і сястра мая больш правоў не мае. Закон на нашым баку. Гадуюцца сынкі Сімяон і Францішак. Спакою на цябе няма. Ты ж доктар — лячы людзей. Ад кніжак ніякай карысці.

***Скарына.*** Як ты не разумееш, гэта ж страшна — адчуваць сваю непатрэбнасць. Я хачу служыць людзям. Жывуць як звяры. Праз разумныя кнігі хачу, каб святлейшымі зрабіліся душы, цягнуліся да Бога.

***Маргарыта.*** Цябе епіскап Ян запрашае на пасаду сакратара. Хіба ж гэта не прызнанне твайго таленту? Я ведаю, ты разумны, годны чалавек, разумнейшы за ўсіх, нават за нашага ворага Гаштольда.

***Скарына.*** Ён помслівы зайздроснік.

***Маргарыта.*** Не спрачайся з ім. Ён —ваявода, а мы —падданыя. Ну добра, выправішся ты да прускага князя Альбрэхта. І што гэта дасць табе? Пачне ўхваляць, пагаджацца, ліслівіць… І што? Цябе абяруць канцлерам?

***Скарына.*** Нават калі там я не змагу распачаць друкарскую справу, я перакананы, што атрымаю неабходныя рэкамендацыі. Гэта ўсё ж такі Еўропа. Там усё робіцца хутка.

***Маргарыта.*** Усе аднолькавыя. Без грошай ты ніхто. Хіба ж там людзі не паміраюць, там не галадаюць? А хіба там няма міжусобных войнаў?

***Скарына.*** Усе мы пад Богам. Павагі да асобы там больш і таленты шануюць.

***Маргарыта.*** Яны не дадуць нам пабагацець, тым больш праз друкарскую справу. Да таго ж… Ты падумаў пра тое, як я адна тут застануся з дзецьмі?

***Скарына.*** Я пастараюся ўправіцца як найхутчэй.

***Маргарыта.*** Усе гэтыя рэкамендацыі, паручыцельствы мала чаго вартыя. Грошы маюць сілу, а іх у нас няма для годнага ўтрымання дому і сям'і. Калі памёр мой муж Юрка, вечны спакой яго душы, ты каля яго труны ледзь не кляўся мне ў каханні, гаварыў, што ўсе сем гадоў кахаў і чакаў мяне, што не дазволіш мне прыніжацца. Але галеча — найвялікшае прыніжэнне для чалавека.

***Скарына.*** Хіба ж мы не перамаглі ў судзе?

***Маргарыта.*** Я баюся галечы.

***Скарына.*** Вшыстко. Абяцаю табе, гэта апошняя спроба. Мне трэба ўбачыць князя Альбрэхта. Яго паважаюць і пабойваюцца. Лютэр мае свайго выдаўца. А раптам Альбрэхт, чалавек фанабэрысты, пагодзіцца быць маім выдаўцом ці мецэнатам? Гандаль гэта зусім не маё. Яшчэ бацька ў Полацку намагаўся вучыць, але дарэмна. Адпусці мяне з Богам. На нейкі час. Дай мне шанц…

***Маргарыта.*** Хібы ж я табе не зычу дабра і славы? Прызнання? Ты ўсяго гэтага заслугоўваеш. Не навучыліся мы шанаваць сваё, люд паспаліты не ганарыцца сваім. Такія людзі. Калі чалавек сам не хоча зрабіцца лепшым, яму і Біблія не дапаможа.

***Скарына.*** Яму трэба паказаць прыклад. Ты б хоць прытчы Саламонавы пачытала. Зразумей, што ты маленькая часцінка нябёсаў, але ўсё ж часцінка. Бабіч перадаў дзецям падарунак.

***Маргарыта.*** Што гэта?

***Скарына.*** Масла. *Адкрывае маслабойню.*

***Маргарыта.*** Бабіч застаецца Бабічам, не можа сядзець, склаўшы рукі, не лунае ў нябёсах.

***Скарына.*** Але хтосьці ж павінен цікавіцца і аблокамі. Боскі свет — гэта цуд, які трэба вывучаць усё жыццё.

***Маргарыта.*** Калі ты выпраўляешся з дому?

***Скарына.*** Ды вось заўтра з самай раніцы і выпраўлюся.

***Маргарыта.*** Вох, Госпадзі Ойча наш, апякунка наша Панна Марыя, уратуй нас і злітуйся.

*Зацямненне.*

## Карціна трэцяя

*Дэкарацыі першай карціны.*

***Канстанцін Фаміч.*** Я, безумоўна, не Гайдай і не Міхалкоў, і не хачу ў наш час ацэньваць паводзіны людзей і іхнія здольнасці. Чаго добрага, не тое скажаш, дык па галаве бітай атрымаеш. Сыгралі як быццам бы прыстойна. Гэта Маргарыта, відаць, сварлівай жанчынкай была, аднак гэта характэрная асаблівасць жаночага полу. Стараліся. Але зноў жа, каго гэта сёння зацікавіць? Масаваму гледачу на духоўныя пошукі нейкага Скарыны — чхаць. Ды пра што там гаварыць? Праспект Скарыны гарадскія ўлады перайменавалі ў праспект Незалежнасці. Не высокага палёту птушка…

***Вікторыя.*** Ён зробіць шэдэўр, праўда. Яго пасля запросяць у Галівуд, там і грошы аддамо вам.

***Канстанцін Фаміч.*** Даражэнькая, у Галівудзе і не такіх бачылі… Там казкі са спецэфектамі трэба, а не пошукі міфічнай духоўнасці.

***Дзяніс.*** Я разумею. Чым менш людзей духоўных, моцных духам — тым лягчэй кіраваць светам.

***Канстанцін Фаміч.*** Калі ласка, мітынгуйце, пратэстуйце. Ваш фільм — кропля ў моры.

***Дзяніс.*** Дык дапамажыце спыніць рух грамадства да жывёльнага стану спажывецтва і цынізму. Мы дакажам, што любіць Радзіму, верыць у Бога, спачуваць і дасягаць высакароднай мэты — найвялікшае шчасце.

***Канстанцін Фаміч.*** Гэта лёс святароў — прапаведаваць Евангелле. Кожны чалавек мае права выбару, як казаў ваш Скарына.

***Платон.*** Так, так…

***Канстанцін Фаміч.*** Я зрабіў выбар. А вам даю два тыдні. Дзе хочаш вазьмі, а доўг аддай. Не прымушай мяне наймаць калектараў, яны — хлопцы крутыя, літасці не ведаюць.

***Вікторыя.*** Шаноўны, гэта жорстка. Вы не патрыёт сваёй Айчыны.

***Канстанцін Фаміч.*** Айчына знікае з маёй свядомасці і з вашай, дарэчы, таксама. Я патрыёт сваёй справы і сям'і і гэтага досыць.

*Уваходзіць Алена.*

***Канстанцін Фаміч.*** Слухаю. Гавары.

***Алена.*** У рыбную краму на 1-ы Уральскі нечакана з'явілася санстанцыя. Просяць прыехаць.

***Канстанцін Фаміч.*** Вось табе і голас Айчыны. А заўтра — падатковая, пасля пажарнікі, пасля чыноўнікі і так па чарзе ўвесь год. Іх не цікавяць Скарына і ідэі патрыятызму. Іх цікавіць уласная кішэня і трошкі Айчыне. У вас два тыдні.

*Канстанцін Фаміч ідзе.*

*Паўза.*

***Дзяніс.*** Усе пузатыя на адзін выгляд. Нарабавалі народнага дабра і думаюць, што яны багі. На маю думку, мы дарма жабруем — усюды будзе аблом.

***Вікторыя.*** Мы толькі пачалі хадзіць да спонсараў…

***Дзяніс.*** Платон, ты ж ведаеш, мне трэба адказаць маскоўскаму тэатру. Я твой сябар, але ганарар даражэйшы. Калі ён душыцца за дзесяць тысяч даляраў, дык пра якія чатырыста можна гаварыць? У яго ў вачах замест зрэнак даляры. Пазыч мне на таксі, я павінен паспець на радыё. Хоць і там, блін, плацяць за апавяданне… чатыры талоны на тралейбус.

***Платон.*** У мяне праязны. Бяры.

***Вікторыя.*** А сам?

***Алена*** (*дае грошы Дзянісу*). Трымай. Вяртаць не трэба.

***Дзяніс.*** Высакародны ўчынак.

***Вікторыя.*** Падкінеш і мяне. Я ў тэатр на рэпетыцыю… Тэлефануй.

**Платон.** Касцюм Маргарыты я пакіну ў сябе.

*Дзяніс і Вікторыя ідуць.*

***Алена.*** Дарма ты не згадзіўся здымаць яго сцэнарый з яго палюбоўніцай у галоўнай ролі.

***Платон.*** Паабрастаў палюбоўніцамі. Прымітыў. Пустата. Бегае па пляжы сексуальна заклапочаная кабета і шукае самца-турка.

***Алена.*** Ён кажа, што гэта быў бы касавы фільм.

***Платон.*** Гэткіх пустышак гаць гаці. Як ты? Як Сейшэлы?

***Алена*** (*не адразу*). Як я… Калі груба — рабыня. Люську, нашу аднакласніцу, памятаеш?

***Платон.*** Рудую?

***Алена.*** Яе прагналі, па-сучаснаму — скарацілі праз аптымізацыю, з кінатэатра. Год нідзе не можа ўладкавацца. Таму і маўчу, і трываю.

***Платон.*** Я табе ўдзячны і за тыя яго дзесяць тысяч.

***Алена.*** Чым магла… А ў цябе, прабач, з Вікторыяй раман?

***Платон.*** Раманы вымагаюць часу. А ў мяне час дарагі. Проста так заляцаюся. Мне не варта яе губляць, яна таленавітая. Маргарыта — гэта яе роля. З Дзянісам больш складана, імкнецца ў Маскву. З'едзе — праект лясне.

***Алена.*** І дзе ж ты такія грошы возьмеш?

***Платон.*** Буду шукаць. Не можа таго быць, каб усе багатыя былі аднолькавымі. Разумею, грошы вырашаюць усё. Трэба харчавацца, добра апранацца, адпачываць, лячыцца, гуляць у гольф, але ёсць і нешта вышэйшае — свабода, воля народа, талент, пачуццё радзімы, спачуванне да прыніжаных і пагарджаных. Бо і Скарына праз папулярызацыю Бібліі, кніг гісторыкаў і філосафаў мінулых часоў заклікаў да спасціжэння вышыні чалавечага духу, да ведаў. Ён верыў у боскае прызначэнне асобы.

***Алена.*** Я не змагу яго пераканаць. Не зусім добрыя справы і ў бізнесе. Ён не верыць у духоўнае прасвятленне. Можаш зрабіць яшчэ адну спробу.

***Платон.*** У сэнсе?

***Алена.*** Адпачываў з намі на Сейшэлах уладальнік начнога клуба «Чырвоная жырафа»…

***Платон.*** Хто я для яго? Піжон з вуліцы. Тут не змухлюеш.

***Алена.*** Я пазваню. На маю думку, ён прыстойны, уважлівы чалавек. Завочна вас пазнаёмлю.

***Платон.*** Давай. Не сядзець жа склаўшы рукі. Тэлефануй. А яшчэ… ці не пазычыш даляраў пяцьдзясят? Маці прасіла купіць лекі.

***Алена.*** Знайду, а не — дык вазьму ў касе. Ён пасля Сейшэлаў не надта строгі.

***Платон.*** Я разумею.

***Алена.*** Нічога ты не разумееш. Калі на пероне развіталіся, як ты ў Маскву ў інстытут кінематаграфіі ад'язджаў… нічога не зразумеў. Паплакала я некалькі дзён і змірылася. Гадую дачку і не хачу нікога.

***Платон.*** Даруй. Не зразумеў… Тады, як дарэчы і цяпер, у мяне ў галаве адно — рэжысура. Гэта як хвароба. Я так зжыўся са сваім героем, што сню яго, мы размаўляем.

*Алена вымае з кішэні грошы.*

***Платон.*** Пацалунак у падзяку.

***Алена.*** Толькі ў шчочку.

*Платон цалуе Алену.*

***Платон.*** Тэлефануй у начны клуб, памацаем за вымя Карэйку, як казаў Астап Бэндэр. Тэлефануй…

*Зацямненне.*

## Карціна чацвёртая

*Начны клуб «Чырвоная жырафа». Элен — памочніца ўладальніка — у вельмі легкадумным уборы суправаджае Платона, Дзяніса, Вікторыю ў кабінет шэфа.*

***Элен.*** Калі ласка, сюды. Ду ю спік інгліш? Шпрэхен зі дойч? Чы розуме паньство па-польску?

***Платон.*** Мы тутэйшыя.

***Дзяніс.*** Тутэйшыя, ліцвіны, крывічы, беларусы, рускія. Кердык ёк курбан байрам.

***Элен.*** Не зразумела…

***Дзяніс.*** Гэта па-татарску. Можа, віном пачастуеце?

***Элен.*** Пардон. Я не расшалопала. Вы ў такой дзіўнай вопратцы. Нас даволі часта наведваюць іншаземцы. Клуб вельмі папулярны. Авідзій Русланавіч зараз будзе.

***Дзяніс.*** Двай мінутэн.

***Элен.*** Дык усё ж такі вы размаўляеце па-нямецку?

***Дзяніс.*** Толькі пасля віскі.

***Элен.*** Лікёр, віскі, каньяк… Пяцьдзясят першых грамаў бясплатна.

***Дзяніс.*** Крута. Тады, пліз, па пяцьдзясят бясплатных лікёру, каньяку і віскі.

***Платон.*** Не рабіся нахабным. Пасля перамоў.

***Элен.*** П'яных наша ахова хутка ізалюе. Не хвалюйцеся.

***Вікторыя.*** А каву можна?

***Элен.*** Унізе, у бары. Можа, уключыць танцавальную залу? *(Шукае пульт і ўключае музыку. На танцполе дурэе моладзь і завіхаецца дыджэй).*

***Дзяніс.*** Віскі шатландскі?

***Элен.*** Кантрафакт не выкарыстоўваем. Статус не той. У сярэдзіне ночы ў нас і дэпутаты бываюць, і высокія чыноўнікі рознай арыентацыі.

***Платон.*** У сэнсе — палітыкі?

***Элен.*** І палітыкі таксама. Мы дэмакраты. Пра наш клуб чулі і ў Еўропе.

*Элен выходзіць.*

***Дзяніс.*** Во дзе пажыўнае месца. Аграбаюць бабкі нямерана.

***Вікторыя.*** Трэба яго раскалоць.

*На экране тым часам дэманструюць фірменны нумар: стрыптызёрка на пілоне.*

***Дзяніс.*** Глядзі, глядзі… Лепей, чым у Лас-Вегасе.

***Вікторыя.*** Можна падумаць, што ты быў у Лас-Вегасе.

***Дзяніс.*** Кішэнь — рэшата… Глядзі, як звіваецца…

*Элен нясе паднос са спіртным.*

***Платон*** (*да Дзяніса*). Я сказаў: пасля…

***Дзяніс.*** Данке шон, майн лібэ фройляйн.

***Элен.*** Бітэ.

***Дзяніс.*** Пардон, ваша стрыптызёрка… Наша Вікторыя цікавіцца, добрыя бабкі мае?

***Вікторыя*** (*пакрыўджана*). Нічым я не цікаўлюся. Адвалі…

***Элен.*** Гэта камерцыйная тайна. У нас штомесяц адбываецца конкурс.

*Элен выходзіць.*

***Дзяніс.*** Не крыўдуй, я пажартаваў.

***Вікторыя.*** Жартуй на свой адрас.

*Уваходзіць Авідзій Русланавіч. Рэспектабельны чалавек. На шыі — залаты ланцужок, на пальцах — пярсцёнкі. Рухі плаўныя. Кожны рух дэманструе, акцэнтуе.*

***Авідзій.*** Сядайце, панове. Элен!

*Уваходзіць Элен.*

***Авідзій.*** Вы пачаставалі гасцей?

***Элен.*** Прынесла ўсё, што прасілі.

*Платон выключыў экран.*

***Авідзій.*** Курыце, калі ласка, калі жадаеце. У нас усё дазваляецца. Цыгару?

***Дзяніс.*** Кубінскія?

***Авідзій.*** Іншых не трымаем.

*Дзяніс бярэ цыгару, нюхае.*

***Авідзій.*** Чым магу служыць? Алена ахарактарызавала вас як вельмі таленавітых, перспектыўных юнакоў.

***Платон.*** Я — кінарэжысёр. Зняў некалькі кліпаў. За адзін з іх атрымаў прэмію на фестывалі ў Анапе. Гэта мае сябры, артысты Дзяніс і Вікторыя.

***Авідзій.*** Касцюмы арыгінальныя. Цаню. Цяпер аднавілася мода на ўсё народнае. Вышыванкі, рыцарскія турніры…

***Платон.*** У нас праект новага арыгінальнага фільма. Сцэнарый напісаны. Артысты таксама падрыхтаваныя. Міністэрства культуры можа фінансаваць палову каштарыса. Праект дарагі. Гістарычны фільм пра жыццё Францыска Скарыны. Шукаем спонсара…

***Авідзій.*** Разумею. Прабачце мне, але я не карэнны жыхар, залётная птушка, так бы мовіць. У аднаго іранца перакупіў гэты клуб. Я далёкі ад вашых рэалій. Хто гэта Скарына?

***Вікторыя.*** Гэта наш першадрукар, нацыянальны гонар. Упершыню пераклаў на рускую мову Біблію, напісаў дзясяткі прадмоў і каментарыяў.

***Авідзій.*** Я грэшнай справай падумаў, што ён хакеіст ці энкавэдэшнік…

***Платон.*** Зрабіце высакародны ўчынак дзеля краіны, якая дазваляе вам зарабляць. У вас жа там, у падвале, і казіно. Укладзіце сродкі ў вытворчасць фільма, зрабіцеся генеральным прадзюсарам.

***Дзяніс.*** І ваша імя назаўсёды трапіць у гісторыю.

*Паўза.*

***Авідзій.*** Прынадна, але рызыкоўна. Сума, каб увайсці ў гісторыю?..

***Платон.*** Чатырыста тысяч даляраў.

*Авідзій маўчыць.*

***Дзяніс.*** Для паспяховага бізнесмена гэта два месяцы работы.

*Паўза.*

***Авідзій.*** Дык, вы кажаце, гістарычная асоба?

***Дзяніс.*** А як жа!..

***Авідзій.*** Глухі нумар. Не пойдзе глядач. Ён разбэшчаны амерыканскімі фільмамі. Густы змяніліся. Чым я толькі ў клубе іх не пацяшаў, чым толькі не забаўляў. І тады вырашыў паказаць на ўвесь экран звычайнае спарванне жывёл: сланоў, ільвоў, жыраф і нават птушак. І ніякай парнаграфіі. Усё гэта ёсць на «Анімалпланет» па ТБ. Поспех перасягнуў усе спадзяванні. У вашага ж фільма не той фармат. Патрабуецца прынада. Напаўпарнаграфія, напаўэротыка, зачапіць трэба аднаполыя адносіны, трансвеститаў, з лёгкім намёкам на скаталожніцтва і педэрастыю. Інакш на фестывалі ў Еўропе цяжка будзе прабіцца. Дарэчы, калі я не памыляюся, у Нідэрландах дагэтуль не адмянілі закон, які дазваляе скаталожніцтва. Маленькія краіны, а смела гавораць пра сусветныя праблемы. А вы мне прапануеце выкінуць добрую суму… на што? За славай мецэната я не ганюся. Жанчыны мае задаволены славай на пілоне. За гэта, за мае грошы, якія я вам дам, мяне не вызваляць ад падаткаў. Не…

***Платон.*** Такім чынам вы адкупіліся б ад грахоў, якія тут лунаюць, да якіх правакуюць…

***Авідзій.*** Смела. Я люблю шчырасць, толькі да мяне ідуць не па дабрадзейнасць, а каб спатоліць таемныя жарсці. На Еўрабачанні таксама была памылка: аголены з ваўчыцай, калі не памыляюся. Трэба было шакіраваць: калі з голасам праблемы, дык са сланіхай трэба было. Бомба! Фурор! Па ўсіх кірунках паадставалі ці капіраваннем займаемся.

***Платон.*** Я так зразумеў, што няма патрэбы дэманстраваць вам сцэну з будучага фільма…

***Дзяніс.*** Прабачце. Але мы сёння без сланіхі…

***Платон.*** Дзяніс, кінь.

***Авідзій.*** Малайчына. Я шаную дасціпных людзей.

***Платон.*** У нас духоўны кірунак. Пра душу размова.

***Авідзій.*** І мяне гэта непакоіць. Хоць бы хто з навукоўцаў, хто са святароў ці хто з Газпрама паказаў мне тую душу, з чаго яна складаецца. А так толькі размовы. Гераіня ў вас прыгожанькая.

***Дзяніс*** (*да Платона*). Я не змагу, дружа, знікла натхненне. Усё дарэмна.

***Платон.*** Паспрабуй засяродзіцца. Ты ж магутны артыст. Як цябе вучылі. Пакладзі дыванок і іграй.

***Вікторыя.*** І мне… таксама…

***Платон.*** Ты ж выдатная артыстка.

***Дзяніс.*** Будзем у пралёце. Іронія.

***Платон.*** І чаго мы тады сюды прыйшлі? На бясплатныя пяцьдзясят грамаў? Працуем! Камера! Пачалі!

*Зацямненне.*

## Карціна пятая

Дом Маргарыты і Скарыны. Маргарыта адна. Гарыць свечкі. Маргарыта ўстае, моліцца перад сном. Стук у дзверы. Бярэ свечку, ідзе адчыняць дзверы. Першы ўваходзіць Скарына.

***Скарына.*** Любая жонка, сустракай мужа.

***Маргарыта*** *(ставіць свечку на стол).* Госпадзі, слава табе! Жывы!

***Скарына.*** І здаровы, і вясёлы. *(Выцягвае з торбачкі грамату Альбрэхта).* Хачу прачытаць табе грамату князя Альбрэхта.

***Маргарыта.*** Ты нават не спытаў, як сыны.

***Скарына.*** Пасля. Хай спяць. Сядай і слухай. Гаварылі не адзін дзень. Чалавек ён адукаваны і абазнаны ў біблейскіх кнігах. Сябраваў з Макіявелі, знакамітым навукоўцам з Фларэнцыі. Пра што толькі не гаварылі. Часам спрачаліся. Але мяне, як у нас кажуць, на мякіне не ашукаеш. Ён не толькі паверыў мне, але і сэрца яго схілілася да мяне. Вось ён… найкаштоўнейшы рэкамендацыйны ліст. (*Чытае*). «Просім, каб вышэйназваны доктар Францыск, наш падданы і слуга, не быў пакінуты на волю лёсу, але, згодна з нашым пажаданнем і дзеля неабходнасці і нашага цеснага сяброўства, няхай Ваша слаўная Вялікасць (*гэта да Гаштольда*) будзе ласкавы да яго, параіць і дапаможа ў яго справе з бясстрашнасцю і справядлівасцю, як чалавеку дастойнаму, рэкамендаванаму. За гэта мы Вам, як сябру, вельмі прыязнаму і ўсім Вашым з усякай рупнасцю і дбайнасцю аддзякуем!»

*Паўза.*

***Скарына.*** Ты не ўзрадавана?

***Маргарыта.*** І гэта ўсё?

***Скарына.*** Там цяжка з грашыма, ён не мог пакінуць мяне пры сабе. Хіба ж гэтага мала? І не ўсё. Я чакаў яшчэ некалькі дзён. Заначаваў у добрага чалавека — яўрэя Хаіма, і дачакаўся падарожнай граматы Альбрэхта. (*Чытае.*) «Мы прынялі і прыпісалі да ліку падданых і верных нам слуг выдатнага шырокай эрудыцыі мужа Францыска Скарыну з Полацка, доктара прыгожага мастацтва і медыцыны. Мы па-прыяцельску прапануем і ветліва просім вас усіх і кожнага, згодна з нашым пажаданнем, каб дапамагалі вышэйназванаму доктару ў яго судовых справах, каб не пярэчылі яму ў чым-небудзь, крыўды якой. І дазвольце яму падарожнічаць свабодна. За гэта мы зробім паслугу вам усім і кожнаму. Дадзена ў Кёнігсбергу дня шаснаццатага мая года ад збавення свету праз Хрыста 1530».

*Паўза.*

***Скарына.*** Хіба ж гэта не радуе?

***Маргарыта.*** Не ведаю, не ведаю. Суд мы ўжо і без яго дапамогі выйгралі. Ці дасць табе хлебную пасаду Гаштольд згодна з гэтымі рэкамендацыямі, каб працягваць справу?

***Скарына.*** Думаю, ён зменіць сваё згубнае стаўленне да нас і зменшыць зло ў душы сваёй. А цяпер трэба адпачываць. Спяць мае малыя, не чуюць, што бацька прыехаў. Пакажы, хачу зірнуць (бярэ кандэлябр і ідзе ў пакой, дзе спяць сыны).

*Стук у дзверы.*

***Маргарыта.*** Францыск!

*Уваходзіць Францыск.*

***Маргарыта.*** Хтосьці стукае. Ціха, асцярожна.

***Скарына.*** Уначы: ці сябар, ці вораг.

*Адчыняе дзверы. Вяртаецца разам з пісарчуком з канцылярыі.*

***Скарына.*** Сябра мой, здарылася нешта нядобрае, што завітаў у такі час? Я ведаў, што магу на цябе спадзявацца. Ты ж зямляк мой — палачанін.

***Пісар.*** Можа, лепш… (*Паказвае вачыма на Маргарыту*).

***Скарына.*** У мяне ад яе няма сакрэтаў.

***Пісар.*** Атрымалі данясенне. Увечары. Тэрмінова ад князя Альбрэхта.

***Скарына.*** Вось у чым справа *(усміхаецца).* Зразумела. А я ж толькі ад яго прыехаў. Жонку ўжо азнаёміў з яго рэкамендацыямі. Высакародны, мудры ўладар.

***Пісар.*** Я б так не сказаў. Вось (*вымае з-за пазухі скрутак*).

***Скарына.*** Чытай.

***Пісар*** (*чытае*). Князь Альбрэхт. Вільна. Ваяводу Гаштольду. «Сваім учынкам, ваша Вялікасць, наш і ваш падданы слуга Францыск Скарына зняважыў нашы прыяцельскія адносіны і нахабна пераступіў мяжу дазволенага, чым моцна пакрыўдзіў усіх нас і кожнага. Ён, Францыск Скарына, угаварыў лекара двара яўрэя Хаіма падацца разам з ім у Вільну. Гэты дзёрзкі ўчынак чалавека выклікае ў нас прыкрасць праз крыўду, нанесеную як нам, так і нашым падданым, просім Вас, слаўную Вялікасць, няхай гэтага доктара Францыска Скарыну навучаць неадпаведнасці тайнага вываду нашых людзей. І зазначым, што мы ставімся да яго з незадавальненнем і непрыхільнасцю, і ад яго мы не спадзяваліся на такі незаслужаны ўчынак. Просім асудзіць і адмаўляемся ад папярэдніх рэкамендацый, ануляваўшы тыя, што былі дадзены Францыску Скарыну раней».

*Паўза.*

***Скарына*** *(абдымае пісара).* Дзякуй табе, што пачуў я гэта не ад Гаштольда. Пачуць ад яго было б страшэннай знявагай.

***Пісар.*** Хай бачыць цябе Бог.

***Скарына.*** Усё ляснула.

***Пісар.*** Трымайся за пасаду сакратара епіскапа.

***Скарына.*** Чужы быў, чужым і застаўся.

*Пісар выходзіць.*

***Маргарыта.*** Чаму, Божа, гнеў твой… Ужо колькі гора нам… Цяжка, Госпадзі! Праўду кажуць, шукай прычыну бед сваіх ад любові сваёй празмернай. Бабіч цябе папярэджваў… Не туды едзеш, у Маскву трэба…

***Скарына.*** Любоў бяды не нясе. Няма нічога вышэй за любоў. Бог не пакіне нас.

***Маргарыта.*** Я ўжо не веру. Крыж мой цяжкі. Навошта табе спатрэбіўся гэты яўрэй?

***Скарына.*** Ён разумны чалавек. Вольналюбівая натура. Кожны чалавек шукае, дзе яму лепей. Яму там было няўтульна каля Альбрэхта. У Вільні больш магчымасцей для практыкі і зарабіць можна болей. Ён і на самай справе абяцаў усялякую дапамогу.

***Маргарыта.*** Прынадзіў чалавека на сваю галаву. Чаму я такая няшчасная, Свенты Езус?

***Скарына*** (*абдымае Маргарыту*). Не гнявi Бога. У цябе дзеці, дом, муж кахае, някепскі гандаль. Бываюць і цяжкія часы…

***Маргарыта.*** Чамусьці іх занадта многа.

***Скарына.*** Толькі б не чорныя. Можа, і ў Маскву накіруюся. Новая справа ў нашых землях. Яны не разумеюць, якая сіла тут маецца. Гэтымі літарамі можна рабіць цуды.

*Зацямненне.*

## Дзея другая

## Карціна шостая

*Начны клуб. У кабінеце Авідзій і Элен.*

***Авідзій.*** Яна прыйшла?

***Элен.*** Так.

***Авідзій.*** Малайчына. Ты майстра агітацыі.

***Элен.*** Ваша школа.

***Авідзій.*** Хай зойдзе. Нам марціні, сок, каву.

*Элен выходзіць. Авідзій уключае відэа. На экране «куляецца» стрыптызёрка. Уваходзіць Вікторыя. Авідзій ідзе насустрач, цалуе ёй руку, запрашае сесці.*

***Авідзій.*** Вельмі рады. Прашу. Чароўныя жанчына — гэта мая слабасць. Простаназіраць, як яны кураць, размаўляюць, сачыць за рухам вуснаў, рук — асалода.

***Вікторыя*** (*збянтэжана*). Дзякуй.

***Авідзій.*** Марціні? Сок?

***Вікторыя.*** Не адмоўлюся. Я слухаю вас, Авідзій Русланавіч.

***Авідзій.*** За вочы мяне завуць Авадзень. Але я не рэвалюцыянер. Усе рэвалюцыі пакуль што сціхлі — і сацыяльныя, і сексуальныя. Я за мірныя рэформы, калі яны на карысць грамадству. Не будуць зарабляць члены соцыуму — не будзем зарабляць і мы, бізнесмены. Хачу, каб вы дзеля душэўнай раўнавагі трохі расказалі пра сябе ў рамках адкрытага фармату, не гаворачы, безумоўна, пра непрыемныя факты — іх у вас хапае. Не для гламурнага часопіса, а як блізкаму сябру, які хоча дапамагчы вам пераадолець штодзённыя цяжкасці.

***Вікторыя.*** Біяграфію, ці што?

***Авідзій.*** Асноўныя дэталі.

***Вікторыя.*** Але гэта не мае ніякага дачынення да стужкі, на якую вы адмовіліся выдаткаваць сродкі.

***Авідзій.*** Усё ўзаемазвязана. Менавіта ваша ігра і зрабіла на мяне ўражанне ў тым эпізодзе. У вас прыгожыя вочы, выдатная фігура і жывая душа.

***Вікторыя.*** Дзіцячы садок, школа — гэта нецікава. Першае каханне, віно. З другой спробы акцёрскі факультэт. Размеркаванне ў абласны тэатр. Сям'я рабочая, бацькі няма. Здымаю кватэру на ўскраіне. У тэатры на другіх ролях. Дзяніс прапануе падацца з ім у Маскву. Вось і ўсё. Надзея на будучы фільм. Заробак — сто даляраў з хвосцікам.

***Авідзій.*** Адвечная праблема маладосці — хочацца ўжо жыць прыстойна, а грошай бракуе. А вакол спакусы.

***Вікторыя.*** Варажбітка прадказала, што на парозе перамены да лепшага.

***Авідзій.*** Нясціплае пытанне: малады чалавек…

***Вікторыя.*** Не замужам. Без каментарыяў. Спачатку кар'ера, усё іншае — хобі.

***Авідзій.*** Лагічна. Я, скажу шчыра, прасякнуўся пачуццём спрычыненасці да вашага лёсу. Ваш праект — безнадзейная справа. Кіно, як ідэалагічная структура, страціла сілу. Спорт і шоу. Народ не ўсведамляе сябе напоўніцу нацыяй. Ён абыякавы да сваёй гісторыі, да сваіх герояў, асветнікаў, ваяроў, на жаль, на жаль… прайшоў час духоўнага ўздыму.

***Вікторыя.*** Можа, ён ніколі і не вернецца. Павінен жа хтосьці, у рэшце рэшт, узнімаць свой голас, вучыць народ ганарыцца сваім.

***Авідзій.*** Калі ёсць чым ганарыцца. Я — рэаліст, чалавек справы. Угаварыце вашага Платона супрацоўнічаць з маім клубам у якасці рэжысёра, арганізатара забаў. Фармат трэба ўвесь час абнаўляць. У гэтым сутнасць.

*Элен прыносіць марціні і каву.*

***Авідзій.*** Прашу. За ваш талент.

*П'юць.*

***Вікторыя.*** Але ён фанат кіно. Не прамяняе. Ён хворы на Скарыну. Нават сніць яго.

***Авідзій.*** А калі я і вам прапаную грашовую пасаду? Ён неабыякавы да вас, я так разумею.

***Вікторыя.*** Без каментарыяў.

***Авідзій.*** Такім чынам, правільна разумею.

***Вікторыя.*** Мне грошы, безумоўна, патрабуюцца. Ужо запазычанасць за кватэру. Што вы прапануеце?

***Авідзій.*** Я шчыры чалавек. Люблю праўду. Гэта лепш, чым словаблудства манюкі. У наш час усе прафесіі пачэсныя.

***Вікторыя.*** Прастытуткай пры клубе я не буду. Я таксама шчыры чалавек.

***Авідзій.*** Груба. Хтосьці зарабляе баксы галавой, а хтосьці, прабачце, азадкам. Перад вамі экран. У гэтай артыстКі двое дзяцей, яна маці. Яна іх утрымлівае. З вашай паставай — вы зорка першай велічыні. Вучыцца нескладана. Першыя некалькі месяцаў — чатырыста баксаў, а пасля восемсот. Колькі ў вас народны атрымлівае?

***Вікторыя.*** Дзвесце дзесяць даляраў.

***Авідзій.*** Рабіце высновы. У нас прыстойная публіка, час ад часу прыходзіць намеснік міністра, ваш дырэктар дэпартамента кінематаграфіі. У яго ў галаве не Скарына, а зусім іншае. Падумайце, не спяшайцеся з адказам. Гэта ўжо ніхто не ганіць. Грамадства разняволенае. У нас і камуністы, і лібералы, і нацыяналісты частыя госці. Эротыка ўсіх аб'ядноўвае.

***Вікторыя.*** Гэта не маё. Я чалавек, можа быць, вольных правілаў, але гэта не маё, прабачце. Усё?

***Авідзій.*** Не спяшайцеся з адказам. Магу выплаціць аванс хоць зараз.

***Вікторыя*** (*хоча пайсці*). Дзякуй.

***Авідзій.*** Можа, на таксі… Вяртаць не трэба.

***Вікторыя.*** Удзячна вам.

***Авідзій.*** Добра падумайце. Платон з вар'яцкай ідэяй Скарыны штурхне вас у даўгавую яму.

*Вікторыя выходзіць. Уваходзіць Элен.*

***Элен.*** Пагадзілася?

***Авідзій.*** Пакуль што не. Але вочкі забегалі, калі пачула пра суму. Я ўпарты. Ты разумееш, паглядзеў разам з дырэктарам дэпартамента кіно. Яна яму калісьці адмовіла. А ён спецыяліст выдатны ў галіне спакушэння. Будзе, будзе круціць перад яго вачыма сваім круглым азадкам. Я не люблю прайграваць. У яе суцэльныя даўгі. Вазьмі з касы дзвесце баксаў, трымай яе на кароткім павадку, пазыч грошай. Закажы мне саўну. Папярэдзь ахоўніка: яшчэ раз пачую пах алкаголю ў рабочы час — прэч адгэтуль без матэрыяльнай дапамогі. Гэта ім не сацыялізм.

***Элен.*** Зразумела…

*Зацямненне.*

## Карціна сёмая

*Прыёмны пакой у Экзархаце. Вялікая ікона «Уваскрэсенне Хрыста», пад ёю лампадка. Фікус.*
*У пакоі Платон, Дзяніс, Вікторыя.*

***Дзяніс.*** Сціпла, але з густам. Я думаў, дом мітрапаліта ўвесь у золаце…

*Уваходзіць Манашка.*

***Манашка.*** У вас пятнаццаць хвілін. Заўтра Уладыка асвячае храм у маім родным Тураве. Дзякуй Богу, дачакаліся. Частуйцеся, на стале арэхі, цукеркі, пячэнне.

*Манашка выходзіць.*

***Вікторыя.*** Для сакратаркі, на маю думку, трохі старая.

***Платон.*** Дык і ён не малады.

***Вікторыя.*** Дзіўна, нейкае супакаенне тут лунае.

***Дзяніс.*** І ў іх мітусні хапае. На белым мерседэсе возяць.

***Платон.*** Не варта зайздросціць. Ён на месцы не сядзіць. Заўтра ў Тураве, а паслязаўтра на храмавым свяце ў Мёрах. Не на возе ж яму па краіне раз'язджаць.

***Дзяніс.*** Я думаю, грошы мае добрыя…

***Платон.*** Мы прыйшлі па блаславенне, а пра грошы пасля…

***Дзяніс.*** Не ўпэўнены, што ён прачытаў сцэнарый. Стары.

*Уваходзіць Мітрапаліт.*

***Мітрапаліт.*** Хрыстос уваскрэс!

***Платон, Дзяніс, Вікторыя*** (*разам*). Сапраўды ўваскрэс!

***Дзяніс.*** Уладыка, але ж Вялікдзень ужо прамінуў…

***Мітрапаліт.*** Сорак дзён святое свята Уваскрэсення працягваецца. Сядайце. Частуйцеся. Слухаю вас уважліва.

*Мітрапаліт сядае ў высокае крэсла каля фікуса.*

***Платон.*** Ваша Высокапраасвяшчэнства! Ці мелі вы час прачытаць наш сцэнарый пра асветніка Францыска Скарыну?

***Мітрапаліт.*** Мой памочнік дыякан, айцец Мікалай, азнаёміўся. Я свецкую літаратуру ўжо даўно не чытаю — праблемы са зрокам. Асаблівых заўваг не маю. Трэба кансультант?

***Платон.*** Мы хацелі б, Уладыка, прасіць вас быць кансультантам.

***Мітрапаліт.*** Блаславіць духоўную працу магу, а кансультантам зрабіцца сілы і здароўе не дазваляюць. Думаю, айцец Мікалай дасць згоду. Дарэчы, мой першы візіт пасля прызначэння на пасаду мітрапаліта адбыўся менавіта ў грамадскую арганізацыю на кінастудыю «Беларусьфільм» на прагляд фільма «Ефрасіння Полацкая».

***Платон.*** Дзякуй…

***Дзяніс.*** Мяне, Ваша Высокапраасвяшчэнства, паколькі я выконваю ролю Скарыны, цікавіць цьмяная гісторыя з прыездам Францыска ў Маскву да мітрапаліта Данііла. І чаму наша праваслаўная царква, так бы мовіць, не ўслаўляе першадрукара, папулярызатара Бібліі, нават, я б сказаў, замоўчвае, ігнаруе?

***Вікторыя.*** Праўда, Ефрасіння Полацкая кананізаваная як Святая…

***Мітрапаліт.*** Вы ўсе хрышчаныя?

***Платон.*** У праваслаўнай веры.

***Дзяніс.*** Акрамя мяне. Я сын вайскоўца.

***Мітрапаліт.*** Хрысціцца ніколі не позна. Царква наша не ігнаруе Скарыну, а ставіцца, можна сказаць, стрымана. Мы не ведаем, ці быў ён праваслаўным, а можа каталіком, ці пратэстантам… У Маскву ён прыехаў не ў лепшы час. Цар Васіль Іванавіч памёр, пакінуў двое сыноў, аднаго глуханямога, а другога — будучага Івана Жахлівага, грознага да ворагаў і паклёпнікаў Расіі, валадара моцнага і мудрага. Апекуном зрабіўся мітрапаліт Данііл. І слова, і справа ў тыя гады былі важкімі. Асоба Скарыны, якога называлі Георгіем і які атрымаў каталіцкае імя Францыск, была супярэчлівай. Вучыўся ў Кракаве, працаваў у Празе, жыў у Вільні. Ён быў лацінянінам, а па нашаму — заходнікам. Гэта і не дазваляла Даніілу прыняць станоўчае рашэнне. Новае заўсёды прымаецца з цяжкасцю. Была традыцыя перапісваць Евангелле ад рукі. Скарына са сваімі поглядамі, відаць, выклікаў у мітрапаліта вялікія сумненні. Падданы Жыгімонта і герцага Альбрэхта зрабіўся разменнай манетай варожасці Данііла да караля Жыгімонта. Не ў час прыехаў…

***Дзяніс.*** І ўсё-ткі, ці спалілі там яго кнігу «Апостал»?

***Мітрапаліт.*** Дакументаў, якія б пацвердзілі гэту акцыю, царква не мае. На словах маглі загадаць, але мудры Данііл мог яе і прыхаваць. Падумайце, можа гэты эпізод не надта важны для агульнай канцэпцыі фільма… Цяпер усе народы ўзбуджаныя, знерваваныя. Пакрыўдзіць лёгка, а пасля вельмі цяжка вярнуцца да братэрскай любові. На маю думку, Скарына — ахвяра амбіцыйных валадароў, ён кідаецца ў пошуках скарыстання свайго таленту, але дапамогі не атрымаў. Своеасаблівая трагедыя лёсу.

***Платон.*** І мы, Уладыка, у такой сітуацыі. Не можам знайсці патрэбныя сродкі для рэалізацыі праекта.

***Вікторыя.*** Нейкую частку абяцае Міністэрства культуры.

***Мітрапаліт.*** На жаль, царква не зможа вам дапамагчы. Храмы з Божай дапамогай мы будуем на ахвяраванні вернікаў і спагадлівых мецэнатаў. Часам, праўда, і дзяржава дапамагае, нейкую частку выдаткоўвае. Скарына ж засяродзіўся на Старым Запавеце, імкнуўся данесці да людзей адвечныя ісціны. Гэта заслугоўвае ўвагі. І я бласлаўляю вас на занятак гэты… Хай дапаможа вам Творца наш. (*Усе цалуюць крыж Уладыкі*). На прэм'еру запрасіце. Памятайце словы Святога Евангелля Хрыста нашага: «Хто стукаецца, таму адкрыецца…»

*Платон, Дзяніс і Вікторыя выходзяць.*

*Зацямненне.*

## Карціна восьмая

*У летняй кавярні за столікам Платон, Дзяніс і Вікторыя.*

***Дзяніс.*** Мы заблытаемся, паслухайце мяне. Прайграем. У гэтым эпізодзе — не чапай праваслаўе, у гэтым — далікатней пра яўрэяў, не крытыкуй ксяндзоў, а то вось яшчэ — не крыўдзі пратэстантаў. Але ўсе патроху вінаватыя ў яго жыццёвай трагедыі. Ён быў нікому не патрэбным.

***Платон.*** Праўда пераможа — мой прынцып… Памятаеш, Таркоўскі ў «Андрэі Рублёве» не шкадаваў ні татар, ні рускіх. У кожным чалавеку ёсць частка зла і агрэсіі, вось і даследуем і папярэджваем.

***Вікторыя.*** Дзяніс мае рацыю. Трэба ўсе эпізоды сканцэнтраваць вакол асабістага жыцця Скарыны.

***Дзяніс.*** Да каталікоў таксама ісці бессэнсоўна. Я хадзіў у пілігрымку дзеля цікавасці ў Будслаў. Урачыста, але сціпла. Трэба адкласці праект да лепшых часоў, калі дзяржава пераадолее крызіс.

***Платон.*** Ты пра што гаворыш? У хуткім часе кіно знікне.

***Дзяніс.*** Ну і што з таго? Жывуць жа без свайго кінематографа краіны Лацінскай Амерыкі, калі і дзе ты бачыў кіно Філіпін, Коста-Рыкі? З мяне даволі. Уцячы ў Маскву…

***Платон.*** Глядзі, каб не паўтарыў лёс свайго героя. Прыедзеш — і ад варот паварот.

***Дзяніс.*** Не хвалюйся. Толя Кот паехаў і добра пачуваецца ў фаворы.

***Платон.*** Пачакай яшчэ з тыдзень. Я накіраваў ліст у Адміністрацыю Прэзідэнта. Магчыма, атрымаем стапрацэнтны грант, як на нацыянальную кінастужку…

***Дзяніс.*** Пакуль у дэпартаменце сядзіць твой нядобразычлівец і зайздроснік, а зайздрасць — гэта наша прыродная рыса, гранта табе не бачыць. Задзяўбуць заўвагамі. Табе на кінастудыі новы дырэктар Пугалін сказаў, што гэта не касавы праект. Праз тыдзень бяру білет у Маскву. Там — прастора. Рушу ў Іркуцк, у Хабараўск. У цябе да зарплаты не перахаплю трохі?..

***Платон*** (*дае грошы*). Вось усё, што маю.

***Дзяніс.*** Добра, вазьму палову.

***Вікторыя.*** У мяне нуль.

*Дзяніс бярэ грошы і выходзіць.*

***Вікторыя.*** І што нам цяпер рабіць?

***Платон.*** Аператар раіць праз інтэрнэт кінуць кліч, каб па рублі… Народ павінен адгукнуцца…

***Вікторыя.*** Доўгая песня. Багатыя схаваліся.

***Платон.*** Як ты?

***Вікторыя.*** Уладальнік начнога клуба пасаду грашовую прапануе.

***Платон.*** Ды няўжо?

***Вікторыя.*** Стрыптызёрка каля пілона.

***Платон.*** Гэтага яшчэ не хапала! Здаецца, у хуткім часе стрыптыз у алімпійскія гульні ўключаць.

***Вікторыя.*** Абяцае восемсот баксаў.

***Платон.*** У год?

***Вікторыя.*** У месяц, іраніст.

***Платон.*** У-у-у…

***Вікторыя.*** Дык вось вырашаю, ісці ці не ісці.

***Платон.*** У іх адпрацаваны метад. Месяц-два забабліваюць, бабкі даюць, а пасля — крызісы, падатковая, рэкет… І пазней будуць у цябе тыя ж сто баксаў, якія атрымліваеш у тэатры.

***Вікторыя.*** Вось і раюся.

*Паўза.*

***Вікторыя.*** Табе гэта непрыемна слухаць?

***Платон.*** Угадала…

***Вікторыя.*** Таму непрыемна, што Маргарыту будзе іграць стрыптызёрка?

***Платон.*** І гэта таксама (*адкрывае ноўтбук*).

***Вікторыя.*** Ты чакаеш пошту?

***Платон.*** Не. Заказаў кнігі па Сярэднявеччы. Надта мала звестак пра Гаштольда. Ён тайна і яўна варагаваў з каралевай Бонай, а Скарына падлабуньваўся да яе мужа, караля.

***Вікторыя.*** Ты звар'яцееў на гэтай тэме. Хоць са мной пасядзі без Скарыны.

***Платон*** (*закрывае ноўтбук*). Не крыўдуй. Не будзеш імкнуцца, палаць, любіць — нічога не атрымаецца. Амаль кожную ноч сню…

***Вікторыя.*** Каго?

***Платон.*** Ну не ўладальніка ж начнога клуба, безумоўна. Скарыну. І што дзіўна: ён ведае пра наш праект.

***Вікторыя.*** Ёсць тэорыя, што космас канцэнтруе ўсю інфармацыю. У Бога ўсе жывыя. Пра што размаўляеце?

***Платон.*** Пра адно і тое ж.

***Вікторыя.*** Раскажы. Мне надта ж цікава. Я ў нейкай ступені містык. Інтуітывіст. У пазазямную цывілізацыю веру, у тое, што лёс вызначаны кімсьці зверху — веру, у папярэджанні — веру.

***Платон.*** Тады слухай…

*Музыка.*
*Зацямненне.*

## Карціна дзявятая

*Сон Платона. Ён можа быць у рэальнасці ў гэтай жа дэкарацыі кавярні. Патрабуецца толькі змена святла.*

*Шум дажджу. Уваходзіць Скарына. Стары, сівы, спакутаваны чалавек.*

***Скарына.*** Ты здзіўлены, мой хлопчык? У тваім сцэнарыі я малады, дужы, жыву надзеямі і каханнем. Не перабольшвай. Я меў, як і ўсе, свае слабасці. Часам быў запальным, крыўдлівым, часам дамагаўся свайго, часам мяне ахопліваў адчай. Ты выпусціў з-пад увагі адну дэталь. Я ж пакінуў Полацк, калі мне было сямнаццаць гадоў, і больш туды ніколі не вяртаўся. Але ўсё, што я зрабіў, дакладней, што паспеў зрабіць, я рабіў дзеля майго люду. Менавіта праз маю незалежнасць і вольнадумства — згодна з тайным загадам караля Жыгімонта — мяне пасадзілі ў лёхі Познані, у вязніцу, нібыта за тое, што мой брат і яго сын на сплацілі даўгі сынам уплывовага варшаўскага яўрэя Мойшы. І ўсё ж такі, толькі пераадольваючы нягоды, спадзеючыся на Бога, перажываючы нястачы, я любіў жыццё і чалавека спагадлівага. Дабрыні таксама трэба вучыцца.

Мяне рабілі шчаслівым добрыя сябры, мая любая жонка, кнігі, якія я выдаў. Ты спытаеш, што ў выніку? Скруха. Туга. Вялікая туга праз развітанне з жыццём далёка ад радзімы. (*Музыка*). Цяпер дажываю свой век у магната Фердынанда, раблю садоўнікам. Шчаслівы, што на прыродзе. Людзі ўсе вакол для мяне чужыя. Гэта хуткаплыннае шчасце, але і яно дае сілы жыць. Не паказвай мяне зусім старым. Старасць — адплата за грахі, гэта касмічны працэс. Маладыя павінны рызыкаваць, дамагацца свайго, ісці да сваёй мэты, але мэта на карысць грамадства. Што такое патрыятызм? Гэта ўпрыгожванне радзімы сваім талентам, рамяством, умельствам, вайсковай адвагай, богаўгоднымі справамі. Данііл быў чамусьці злым. У яго ж і Андрэй Рублёў быў у няласцы, і Грэка ён саслаў падалей.

***Платон.*** Ты больш пацярпеў ад улады ці ад людзей? Данііл, Гаштольд, Жыгімонт, каралева Бона?

***Скарына.*** Нават не ведаю, як адказаць. Адказы я шукаў у прытчах Саламонавых, у кнігах Арыстоцеля. Дарэчы, пра яго ёсць фільм?

***Платон.*** Не.

***Скарына.*** Шкада. Ён шмат чаго зведаў. Таксама быў гнаны. І твая сітуацыя падобна на маю. Я таксама ўвесь час шукаў грошы на выданне кніг і ўсё прасіў дазволу. Бо кнігі ж гэтыя чыталі выключна святары. Калі пачуццё радзімы ў тваіх супляменнікаў адсутнічае ці апашляецца, цяжка табе будзе знайсці паплечнікаў і мецэнатаў.

Але запомні словы: «Звяры, што блукаюць у пушчы ад нараджэння ведаюць сховы свае. Птушкі, што лятаюць у паветры, помняць гнёзды свае. Рыбы, што плаваюць у моры і ў рэках, чуюць віры свае, пчолы бароняць вуллі свае. Гэтак і людзі — дзе нарадзіліся і ўзгадаваны ў Бозе, да таго месца вялікую ласку маюць».

***Платон.*** Са школы памятаю.

***Скарына.*** Малайчына. І яшчэ… Бабіч быў росту невысокага і насіў вусы. Ведаю, ты любіш праўду. Пажар у Вільні знішчыў толькі частку дома Маргарыты. Тайны Сонца, Месяца і тайна Бога мяне цікавілі больш за ўсё. Да сустрэчы. Навальніца насоўваецца, а я з дзяцінства баюся навальніцы.

***Платон.*** Да пабачэння. Дзякуй.

*Чуецца гром. Скарына выходзіць.*
*Зацямненне.*

## Карціна дзясятая

*Кавярня. За столікам Платон і Вікторыя.*

***Вікторыя.*** І ты ўсю размову памятаеш?

***Платон.*** Слова ў слова.

***Вікторыя.*** Здараецца, я прачынаюся раніцай і нічога не памятаю, што сніла. Можа, ён там, на нябёсах, нейкім чынам нам дапаможа?

***Платон.*** Сон — дапамога. Ён надае ўпэўненасці праз прарочыя сны.

***Вікторыя.*** Дзе ж узяць грошай, дзе? Пагадзіўся б ты з Аленінай прапановай, зняў бы фільм па сцэнарыю яе шэфа. Пагасіў бы доўг. Нават Феліні так рабіў: здымаў на заказ Казанову, а тады рабіў, што хацеў.

***Платон.*** У мяне не такі характар. Я хворы толькі на гэту тэму. Тая парнаграфія, што мне прапануюць, мяне разбурыць. Я тады перахварэю — і бывай Скарына. Я зразумеў, што епіскап Ян хоць і спрыяў Скарыну, але не надта жадаў, каб той друкаваў кнігі. Хітры каталік.

***Вікторыя.*** Мы ж не можам чакаць дзесяць гадоў, як чакаў Скарына, пакуль яму хто дапаможа, дасць грошай.

***Платон.*** Яшчэ застаецца надзея на Адміністрацыю. Ты застаешся?

***Вікторыя.*** Пасяджу трохі. Калі цябе гэта не абцяжарвае. Да пачатку спектакля ёсць час.

***Платон*** (*працягвае грошы*). Вазьмі сабе пару бутэрбродаў.

***Вікторыя.*** Дзякуй. А ты?

***Платон.*** Я паеду на кінастудыю. Паспрабую яшчэ раз пагаварыць з дырэктарам. Можа, выйдзем як на маскоўскія грошы…

***Вікторыя.*** А наша тэлебачанне?

***Платон.*** Галеча. Ледзь хапае супрацоўнікам заплаціць.

*Платон выходзіць. Вікторыя набірае нумар тэлефона.*

***Вікторыя.*** Прыёмная дэпартамента па кіно? Дзень добры. Калі ласка, ці можна пагаварыць з дырэктарам? Па якім пытанні? Скажыце, па асабістым. Яго сястра. Ды сотавы забыла дома. Дзякуй.

*Паўза.*

***Вікторыя.*** Алё! Дзень добры. Не пазнаеш, Алег Барысавіч? Прыемна, што з першага слова пазнаў. Ды так… Клопаты, мітусня, знерваванасць, беганіна. Трэба ваша мудрая парада і магчымасць разруліць сітуацыю. Я магу прыехаць у міністэрства хоць зараз. Лепш не ў міністэрстве? Добра, у кавярні «Рамашка» праз паўгадзіны. Буду. Да сустрэчы. Пакуль, пакуль…

*Зацямненне.*

## Карціна адзінаццатая

*Кавярня. Бязлюдна. Вікторыя чакае Платона.*

***Вікторыя*** (*набірае нумар тэлефона*). Элен? Прывітанне! Учора я на тваю эсэмэску не магла адказаць. Я кажу канчаткова — не. Перадай мой адказ Авідзію Русланавічу. А як жа, добра падумала, узважыла і пралічыла перспектыву. Канчаткова. Дарэчы будзе сказаць не «да пабачэння», а «бывай».

*Уваходзіць Платон. Ён нясе два кубачкі кавы.*

***Вікторыя.*** Ты ўжо ведаеш? Ён, нягоднік, ужо патэлефанаваў мне з Масквы. Прасілі ж пачакаць тыдзень.

***Платон*** (*ён у задуменні*). Ты пра што?

***Вікторыя.*** Не разумееш? Дзяніс ужо ў Маскве…

***Платон.*** А-а, гэта ўжо значэння не мае. Я быў у міністэрстве, атрыманы ліст з Адміністрацыі з парадай разгледзець пытанне і адказаць заяўніку.

***Вікторыя.*** Гэта значыць, да Прэзідэнта нават не дайшло.

***Платон.*** Так. Усё аддалі на водкуп міністэрству. Стандарт падведамаснай арганізацыі.

***Вікторыя.*** І што ў міністэрстве?

***Платон.*** Намеснік міністра сама ветлівасць. Маўляў, ён «за» абедзвюма рукамі, улічваючы важнасць праекта… Але дырэктар дэпартамента з крывой усмешкай дзяўбе сваё: шукайце сорак працэнтаў сродкаў на баку. Тыцнуў мяне носам у паперы, кажа, у нас пяць прэтэндэнтаў на нацыянальны фільм, які не саступае вашаму ў тэме, а некаторыя яшчэ лепей. Да таго ж, сумесна з Галівудам.

*Паўза.*

***Вікторыя.*** Не можа быць. Ён жа мне абяцаў.

***Платон.*** Не зразумеў? Хто?

***Вікторыя.*** Алег Барысавіч, дырэктар дэпартамента. Я з ім сустракалася. Добра пагаварылі. Ты толькі не думай… Усё ў рамках. Ён хітры ліс, намякаў.

***Платон.*** На хабар?

***Вікторыя.*** Так, ды толькі натурай. Ён згодны парэкамендаваць мяне на галоўную ролю ў гэтым сумесным галівудскім праекце пра нейкага там Авеля.

***Платон.*** І ты паверыла? Навошта ты пайшла? Ён яшчэ больш, няздара гэты, узвысіцца над намі. Мы ў ролі рабоў-жабракоў!

***Вікторыя.*** Не гарачыся Нашу годнасць і так, усе, хто хацеў, прыніжалі. Я не спала з ім, не перажывай. Я яго натуру ведаю даўно. Ён спецыяліст у справе спакушэння студэнтак інстытута культуры. Але трэба ж было рабіць нейкія захады. Мае нервы не жалезныя. Дзяніс у Маскве… там ёсць перспектыва, там здымаюць сто фільмаў на год. Зразумей мяне… Я артыстка, я адчуваю свае здольнасці, шмат чаго магу. Год-другі — і час згублены. Табе шкодзіць твая ўпартасць і манія геніяльнасці. Часам чалавека ратуе кампраміс. Вазьмі і здымі гэтаму самадуру фільм з яго прастытуткай. Табе што, цяжка? Цябе ніколі не цікавіла, а як мне, ці падабаецца мне грамадзянскі шлюб з табой.

***Платон.*** Усе свае эмоцыі я трымаю пры сабе. Няўжо ты думаеш, што пасля гэтага фільма ён зробіцца шчодрым?

***Вікторыя.*** Усё можа быць. Вучыся камерцыі. Колькі будзем гібець у галечы? Я сытая грамадзянскім шлюбам… Адпусці мяне, дай ажыццявіць мару, не псуй мой талент адмаўленнем

таго, што табе не падабаецца. Можа, лічыш сябе Феліні? Апусціся на зямлю. Чаму толькі табе ўсё вінаватыя, а ты нікому? Усё! Досыць! Я купляю білет у Маскву.

***Платон.*** Я падумаю. Супакойся. Пі каву.

***Вікторыя.*** Адчапіся. Не хачу, ужо нічога не хачу. Ступар.

*Вікторыя выходзіць.*

*Паўза.*

*Платон набірае нумар тэлефона.*

***Платон.*** Лена, гэта я. Прывітанне. Неабходна сустрэцца. У скверы насупраць тваёй турфірмы. Дамовіліся. Калі? О'кей, буду праз дваццаць хвілін.

*Зацямненне.*

## Карціна дванаццатая

*Сквер каля турфірмы. Сяваюць птушкі. На лаўцы сядзіць Платон. Ён як заўсёды з ноўтбукам. Уваходзіць Алена.*

***Алена.*** Прабач, затрымалі справы. Прывітанне.

***Платон.*** Прывітанне, даражэнькая (*закрывае ноўтбук*). Ды і чакаў я ўсяго хвілін дзесяць. Неяк развіталіся тады спехам. Нейк татальна не шанцуе. Можа, мой род хто пракляў. Дзед пракурорам служыў.

***Алена.*** Бывае…

***Платон.*** Карацей кажучы, пасля працяглых разважанняў і роздуму я, відаць, згаджуся з прапановай твайго шэфа: здыму фільм па яго сцэнарыю і з яго пратэжэ ў галоўнай ролі. (*Паўза*). Чаго маўчыш?

***Алена.*** Нават не ведаю, з чаго і пачаць. За гэты месяц адбыліся сур'ёзныя змены. Ты спазніўся. У Канстанціна знайшлі жудасную хваробу — анкалогія. Яму ўжо зрабілі дзве аперацыі ў Бараўлянах.

*Паўза.*

***Платон.*** Вось яно што! Нервы ўсё, грахі.

***Алена.*** Толькі Бог ведае. Апошнім часам ён усё з жонкай сварыўся. Перааформіў фірму на мяне і дзве крамы на імя маёй дачкі.

***Платон.*** Я так разумею, гэта яго дачка?

***Алена.*** Так. Такім чынам, цяпер я бізнес-лэдзі. Не ведаю, колькі яму засталося… На ўсё воля Боская. Ён пагадзіўся з маёй прапановай: мы даруем табе доўг у дзесяць тысяч даляраў.

***Платон.*** Высакародны ўчынак… Я чымсьці магу дапамагчы?

***Алена.*** Фільм па яго сцэнарыю ўжо нікому непатрэбны. Усё так дробна, нязначна, калі чалавек на парозе смерці. Ён ужо ў іншай рэальнасці.

***Платон.*** Можа, яшчэ ўсё абыдзецца?

***Алена.*** Баюся, што не. Я змагу, думаю, але з часам, дапамагчы. Завоблачную суму не пацягну, але хоць штосьці. Дзякуй Богу, пайшлі турысты.

***Платон.*** У мяне няма слоў. Ты велікадушная, я не разглядзеў цябе ў школе.

***Алена.*** Не трэба вяртацца да мінулага. Не да месца. Усё прайшло. А ў цябе з Вікторыяй сур'ёзна?

***Платон.*** На стадыі развіцця.

***Алена.*** Аднак творчым асобам уласцівая сямейная безадказнасць. Цяпер пайшла мода мець некалькі жонак, мяняць іх ледзь не кожны год. Дай Бог табе шчасця. Я цяпер зусім па-іншаму гляджу на свет, на людзей. Як нам не хапае любові аднаму да аднаго, Божа мой мілы.

***Платон.*** Пра гэта мой фільм пра Скарыну. Уласна кажучы, імя Алена ты нясеш годна.

***Алена.*** Я зусім не Прыўкрасная Алена з Траянскай гісторыі, ты ліслівіш.

***Платон.*** Я меў на ўвазе іншую Алену, маці імператара Канстанціна, якая прывезла ў Візантыю крыж, на якім укрыжавалі Хрыста.

***Алена.*** Вось як? Я і не ведала. Цяпер буду ведаць. Не разлічвай адразу ад мяне атрымаць грошы. Я сама пазваню. Не цісні. Прабач, мне трэба ісці. Паеду ў Бараўляны. Ён просіць штодзень прыязджаць.

***Платон.*** Перадай, што я ўдзячны яму і жадаю, каб ён пайшоў на папраўку. Гэта шчыра.

***Алена.*** Перадам. Дзеці ў Скарыны былі?

***Платон.*** Двое. Аднаму з іх Фердынанд і адпісаў у Празе нерухомасць і бацькаву спадчыну.

*Алена выходзіць. Платон набірае нумар тэлефона. Тады набірае ізноў.*

***Платон.*** Ніна Цімафееўна, дзень добры. Прабачце, калі ласка, гэта Платон. Не магу дазваніцца да Вікторыі. Яна вам не званіла? Зрабіце ласку, калі патэлефануе, перадайце, што я… што яна мне вельмі трэба. Дзякуй вам. Усё па-старому. Як у Янкі Купалы: «Знаю я прыпеў харошы, трэба грошы, трэба грошы…» Ну, ды нешта будзе. Надзея, як вы нас вучылі ў школе, памірае апошняй. Памятаю. Абавязкова перадам вам пачытаць «Малую падарожную кніжку» Скарыны. Амаль інструкцыя па хатняй гаспадарцы. Да пабачэння. Не хварэйце.

*Зацямненне.*

## Карціна трынаццатая

*Пакой Платона: кніжная шафа, тэлевізар, стол. Над сталом схіліўся Платон. Перад ім бутэлька гарэлкі і шклянка. Ён трызніць. І бачыцца Платону адзін эпізод з будучага фільма. Сустрэча ваяводы віленскага Гаштольда і Скарыны. У магістраце Гаштольд і яго сакратар.*

***Гаштольд.*** Што, перабежчык прыйшоў з пакаяннем?

***Сакратар.*** Чакае, Вашамосць.

***Гаштольд.*** Набегаўся… Хай заходзіць.

*Сакратар выходзіць. Уваходзіць Скарына.*

***Скарына.*** Хай будуць слаўнымі дні вашы, пан ваявода.

***Гаштольд.*** За добрыя словы не грэх і падзякаваць. Вось думаю, ці раскрыць, што піша ў лісце герцаг Альбрэхт?

***Скарына.*** Таму і прыйшоў да вас, ведаючы пра такі намер. Я досыць пацярпеў, прычым несправядліва.

***Гаштольд.*** Не звязвайся з яўрэямі.

***Скарына.*** Хаім цудоўны, разумны чалавек. Кожны мае права жыць у імя сваёй свабоды і выбару.

***Гаштольд.*** Такія ідэі ўжо ўзбуджаюць народ і ў Вялікім Княстве Літоўскім, падданым якога ты быў.

***Скарына.*** І застаюся ім.

***Гаштольд.*** А як жа Альбрэхт? Ён пераконвае, што ты нібыта ўжо яго падданы.

***Скарына.*** Гэта было часова. Мне ў Вільню ходу няма.

***Гаштольд.*** Нашым людзям твае «падарожныя кніжкі» чытаць яшчэ няможна, не прыйшоў час.

***Скарына.*** Калі не будзем вучыць людзей, дык час гэты ніколі не прыйдзе. Еўропа…

***Гаштольд.*** Ды не тыцкай ты мне Еўропу. Я не для таго дваццацігадовым гнаў татараў ажно да Давыд-Гарадка, каб аддаць княства пад уладу Еўропы. Дарэчы, чаму б табе не вярнуцца ў Полацк? Твой таварыш, з якім ты разам вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, Павел Гальшанскі, выдатна пачуваецца старастам маёнтка.

***Скарына.*** Кожнаму сваё.

***Гаштольд.*** А можа, сорамна? Калі я быў ваяводам полацкім, дык уведаў, што род твой не надта і шануюць у Полацку. Ёсць звесткі, што твой бацька Лука разам з іншымі злодзеямі абрабаваў наўгародскіх купцоў і на гэтым нарабаваным разбагацеў.

***Скарына.*** Быў такі грэх. Ён адмаліў яго, дапамагаючы небагатым.

***Гаштольд.*** Мы ўсё ведаем. А пісар, твой зямляк, які прынёс без майго дазволу ліст Альбрэхта, пакараны бізунамі і высланы ў Полацк. Я люблю парадак і служу закону. Нікому не дазволю праваровчаць справы за маёй спінай.

***Скарына.*** Я выйсця не меў. Як вавёрка ў коле… Думаў, мы аб'яднаем намаганні і капіталы з герцагам Альбрэхтам.

***Гаштольд.*** Наіўны. Ім ад нас патрэбны толькі выгада і правіянт.

***Скарына.*** Значыць, я мала чытаў разумных кніг, кепска ведаю людзей.

***Гаштольд.*** Мне шкада тваёй жонкі Маргарыты… Я цаніў яе мужа-нябожчыка Юрыя. Мы не будзем чытаць уголас гнеўны ліст Альбрэхта. Займайцеся гандлем і пакіньце да лепшых часоў друкаванне кніг, карысці будзе больш. Павер мне. Я старэйшы за цябе на два дзясяткі гадоў і таксама вучыўся ў Кракаве. Я трохі лепш за цябе ведаю каралеўскія норавы і інтрыгі, і нашых зямель я нікому не саступлю. Не рабі змовы з імі.

***Скарына.*** Мне застаецца вам падзякаваць і ад імя жонкі маёй Маргарыты, якая прасіла вас аб сустрэчы.

***Гаштольд.*** Табе пашанцавала. Прыгожая і разумная — гэта рэдкасць. Я не зусім здаровы. Пяршыць у горле. Прапішы, доктар, зёлкі, яны дапамагаюць. Хаіму твайму я пакуль што не давяраю, трымаю далей ад палаца, хоць нашы ўсе ўжо да яго морды паварочваюць. Еўропа… Ад чаго людзі паміраюць?

***Скарыны.*** Праз хваробы ў большасці выпадкаў. Ды і старасць…

***Гаштольд.*** Не зусім. Чалавек памірае ад тугі, вялікай тугі па пражытых гадах, асабліва — маладосці. Ідзі. Лекавы настой перадасі сакратару.

## Карціна чатырнаццатая

*Пакой Платона. Ён па-ранейшаму трызніць. І бачыцца яму, што ў пакой уваходзяць дзіўныя госці, у дзіўнай вопратцы. Гэта Скарына ў сталым веку, Мітрапаліт, побач з ім Манашка, Авідзій Русланавіч, Канстанцін Фаміч, Алена.*

*Старажытная музыка. Элементы шуму, какафонія, але недзе далёка.*

***Дзяніс.*** Прапашчая справа. Я сыты па горла. Усё. Ад'язджаю. Вакол злыя людзі, расплюшчы вочы.

***Мітрапаліт.*** Скарына быў надта ж ганарлівы і, можа, звыш меры прагнуў славы. Святасць Іова выявілася больш за ўсё ў яго цярпенні. Блаславіляем і ўспамінаем тых, якія цярпелі.

***Канстанцін Фаміч.*** Госпадзі, як хочацца жыць! Гэта ж цуд вялікі — дрэвы, дзеці, яблыкі, музыка, кветкі, купалы цэркваў! Як усё гэта пакінуць? Столькі кніг не прачытана, столькі фільмаў не глядзеў! Госпадзі, падоўжы мае дні!

***Дзяніс.*** У Маскве ўсё сур'ёзна. Гэта багатая сталіца, а мы галеча.

***Авідзій.*** Ён не разумее замены рынку, капіталізму. Калі тавар не карыстаецца попытам, не прыносіць выгады, навошта займацца вытворчасцю такіх тавараў.

***Мітрапаліт.*** Не хлебам адзіным жывы чалавек. Узмацняйцеся ў Госпадзе і магутнасці Яго сілы.

***Скарына.*** Я ніколі не заклікаў самасцвярджацца праз гвалт. Толькі праз адукацыю і спасціжэнне духоўных каштоўнасцей чалавека.

***Мітрапаліт.*** Трагедыя яго ў тым, што не было пад нагамі роднай глебы, апірышча.

***Манашка.*** Уладыка, у вас мала часу. У вас самалёт на Берлін.

***Канстанцін Фаміч.*** Госпадзі, дапамажы, на Цябе спадзяюся. Уратуй, Найяснейшая Панна Марыя.

***Дзяніс.*** Бога прасі, але і сам пільнуйся. Прачытаў па складах «гад-жэ-ты». Гад жа. Усё мае двайны сэнс.

***Алена.*** Ёсць людзі, якім не шанцуе. Ты з іх. Будзь мужным.

***Мітрапаліт.*** Іоў — люстра нашага жыцця, духоўныя лекі. Ён памёр у Празе, але мы не ведаем, дзе яго магіла.

***Скарына.*** І як пчолы бароняць вуллі свае, гэтак і людзі да месца, дзе нарадзіліся і ўзгадаваны ў Бозе, вялікую ласку маюць.

***Авідзій.*** Дзе добра плацяць, там і радзіма.

*Званок. Платон схамянуўся ад сну. Персанажы пакідаюць пакой. Платон ідзе і адчыняе дзверы. Вяртаецца разам з Вікторыяй.*

***Вікторыя.*** Ты хварэеш? Званю, дасылаю эсэмэскі… Маўчанне. (*Убачыла пляшку гарэлкі*). А-а, зразумела. Вялікае славянскае лячэнне: «патаплю непрыемнасці ў пляшачцы». Давай, давай, знішчай талент. Мала прыкладаў на родным «Беларусьфільме». Колькі таленавітых людзей алкаголь заўчасна звёў у магілу…

***Платон.*** Не крычы. Нешта блага пачуваюся. Галава як у тумане. Перанапружанне.

***Вікторыя.*** Без паветра, у вакууме (*адчыняе акно*).

***Платон.*** Ты не з'ехала ў Маскву?

***Вікторыя.*** Як бачыш, перадумала.

***Платон.*** Навіна ёсць. Нам даравалі доўг у дзесяць тысяч баксаў.

***Вікторыя.*** Гэта няблага.

***Платон.*** Але цана, цана… Канстанцін цяжка захварэў. Амаль усё перааформіў на Алену.

***Вікторыя.*** Пашанцавала кабеце.

***Платон.*** Не трэба зайздросціць. Там вялікае гора. Ён невылечна хворы.

***Вікторыя.*** Прабач. Я не ведала. Давай вырашаць, што будзем рабіць далей.

***Платон.*** У мяне ўжо рукі апусціліся. Уладу крытыкаваць можна, але толькі з яе згоды.

***Вікторыя.*** Але ж міністэрства не распараджаецца бюджэтам. Грошы з нашых падаткаў. З мяне бяруць пятнаццаць даляраў у месяц. Мы можам патрабаваць ад імя народа.

***Платон.*** Культура не толькі для нас. Філармоніі, музеі, інстытуты — усім дай.

***Вікторыя.*** Не пазнаю цябе. Дзе сіла духу, націск, азарт?

***Платон.*** Жыццё паабломвала крылы. Пайду на ТБ прасіць, каб дазволілі зняць кліп.

***Вікторыя.*** Такім чынам, усе нашы надзеі, намаганні, сцэнарый — кату пад хвост?

***Платон.*** А што рабіць? Фартуна…

***Вікторыя.*** Працягваць барацьбу. Беларусь вялікая.

***Платон.*** У табе прачнуўся рэвалюцыянер.

***Вікторыя.*** Барацьбіт… Я ж таксама іншы раз думаю, не толькі іграю. А тут яшчэ сон.

***Платон.*** І да цябе Скарына прыходзіў?

***Вікторыя.*** Не. Першы сон, які я запомніла да дробязей.

***Платон.*** Цікава…

***Вікторыя.*** Прысніла я прадзеда свайго Івана. Ён загінуў пад Берлінам. На Зяелаўскіх вышынях дае мне, ужо смяротна паранены, свой аўтамат і кажа: «Наперад! Вышыню трэба ўзяць! Наперад!»

***Платон.*** І ўсё? Пасля гэтага сну ў цябе з'явілася адвага?

***Вікторыя.*** Яна ў мяне на генным узроўні. Дзе касцюм Скарыны?

***Платон.*** На крэсле вісіць. Не бачыш?

***Вікторыя.*** Апранай.

***Платон.*** Не зразумеў…

***Вікторыя.*** Я пераапрануся ў касцюм Маргарыты. Чорт з ім, з Дзянісам. Ты будзеш Скарынам. Пойдзем зноў прасіць. Паедзем у Салігорск. Майго дзядзьку прызначылі намеснікам дырэктара «Беларуськалія»… У іншыя гарады паедзем. Мы іх прысарамацім, прымусім любіць Радзіму!

***Платон.*** Любоў — гэта таксама на генным узроўні.

***Вікторыя.*** Дойдзем і да генаў. Апранайся.

*Платон апранае мантыю і чырвоную берэтку. Вікторыя апранае сукенку Маргарыты. Чуецца гук званоў.*

***Платон.*** Што гэта? Вялікдзень даўно прамінуў.

***Вікторыя.*** Гэта міжнародны фестываль званароў. Скарына з нябёсаў добры знак нам падае.

***Платон.*** Гэта ў твой гонар.

***Вікторыя.*** У наш. Наперад, любы мой, мой таленавіты рэжысёр! Вышыню трэба ўзяць, наперад!

*Звіняць званы.*

*Заслона.*

*Май 2016 г.*
*г. Полацк*

# Казкі Брытаніі

## Уіцінтан і яго Котка

У час, калі на троне сядзеў славуты кароль Эдуард III, жыў на свеце хлапчук і меў ён імя Рыч Уіцінтан. Ён быў сірата, бацькі памерлі, калі ён быў зусім яшчэ малым. Небарака Рыч не меў яшчэ магчымасці зарабляць, і таму цяжка яму прыходзілася: рэдка ён меў добрую вячэру, а пра снеданне і ўвогуле няма чаго казаць. У вёсцы жылі бедныя людзі, і дапамагчы яму маглі толькі бульбянымі лупінамі або чэрствай скарынкай.

І вось наслухаўся Рыч розных баек пра вялікі горад Лондан. Вяскоўцы ў той час уяўлялі лонданцаў скрозь джэнтльменамі ды лэдзі, якія спяваюць увесь дзень на вуліцах з залатымі тратуарамі, дзе не змаўкае музыка.

Аднойчы, калі Рыч стаяў каля падарожнага слупа, праз вёску праехала карэта, у якую былі запрэжаныя восем коней — усе са званочкамі на вупражы. Рыч падумаў, што яны, напэўна, едуць у славуты горад Лондан, і таму набраўся храбрасці і папрасіў возніка, каб той дазволіў яму ісці побач з карэтай. Калі вознік пачуў, што небарака Рыч зусім адзін на гэтым свеце, калі ўбачыў лахманы, якія былі ў яго за вопратку, то зразумеў, што хлопец ужо наўрад ці будзе ў горшым становішчы, чым ёсць. Таму Рыч атрымаў дазвол ісці побач, і яны рушылі разам.

Так Рыч цэлым і здаровым дабраўся да Лондана. Яму так не цярпелася ўбачыць славутую вуліцу з цалкам залатымі тратуарамі, што ён забыўся падзякаваць возніку. Хлопец бег з усіх ног па вуліцах у пошуках золата. У вёсцы Рыч бачыў залатыя гінеі тройчы ў жыцці і добра памятаў, што гэта вялікія грошы. І таму ён толькі і марыў аб тым, як адкалупае некалькі маленькіх кавалачкаў у тратуары — і грошай яму хопіць аж да канца жыцця.

Маленькі Рыч усю ноч прабыў на вуліцы, а раніцай прачнуўся вельмі галодны і пайшоў бадзяцца па горадзе. Ён прасіў людзей, якія ішлі насустрач: «Падайце хоць паўпені, каб я не памёр з голаду», — але ніхто нават не звяртаў на яго ўвагі, толькі двое ці трое далі яму дробную манетку. Бедны хлопец зусім саслабеў і ледзь трымаўся на нагах. У адчаі ён падыходзіў да прахожых, і адзін з іх злосна кРычнуў яму:

— Ідзі лепш працаваць да якога-небудзь гультая!

— Ды хоць бы і зараз! — адказаў Рыч. — Магу пайсці працаваць да вас, возьмеце?

Мужык нічога не адказаў, толькі аблаяў яго і пайшоў сваёй дарогай.

Нарэшце нейкі шаноўны спадар звярнуў увагу на Рыча.

— Чаму ты не ідзеш працаваць, хлопча? — звярнуўся ён да Рыча.

— Дык я б пайшоў, — адказаў той, — але не ведаю куды.

— Пойдзем са мной, калі хочаш, — сказаў спадар і адвёў Рыча на сенажаць.

Працаваў Рыч добра і шпарка і жыў бы сабе прыпяваючы, але касьба хутка скончылася.

Пасля гэтага Рыч зноў стаў звычайным жабраком і аднойчы напаўмёртвы ад голаду зваліўся на парозе дома багатага купца — містара Фіцуорэна. Там яго хутка заўважыла кухарка — вельмі злая жанчына, якая да таго ж была занята прыгатаваннем ежы для сваіх гаспадароў.

— Што табе тут трэба, валацуга? — кРычнула яна. — Адбою няма ад гэтых жабракоў, ты паглядзі! Выбірайся адгэтуль! Бо зараз пагляджу, як табе спадабаюцца памыі! У мяне і гарачыя знойдуцца!

На шчасце, у гэты час вярнуўся сам містар Фіцуорэн.

— Чаму ты ляжыш тут, хлопча? — спытаў ён, калі ўбачыў на парозе Рыча ў бруднай, падзёртай вопратцы. — Здаецца, ты ўжо дастаткова дарослы, каб працаваць. Лянівы ты, ці што?

— Не, сэр, зусім не, — адказаў яму Рыч, — не ў тым справа. З вялікай радасцю я пайшоў бы на работу, але нікога тут не ведаю. Ды, здаецца, зусім я слабы ад голаду.

— Бедны хлопча! Добра, падымайся, паглядзім, што з табой рабіць.

Рыч паспрабаваў падняцца, але адразу ж яму прыйшлося зноў легчы, бо за тры дні без ежы ён так саслабеў, што нават стаяць не мог, не тое што бегаць па людзях ды клянчыць грошы. Добры купец, убачыўшы гэта, загадаў занесці хлопчыка ў хату, накарміць уволю і даць яму якую работу на кухні.

І жылося б маленькаму Рычу добра ў гэтай сям'і, калі б не злая кухарка.

— Слухайся мяне ды варушыся! — любіла паўтараць яна. — Пачысці ражон ды падкруці ручку, павычышчай бляхі, распалі ў печцы, вымый посуд ды хутчэй! А не тое… — і кухарка замахвалася на Рыча апалонікам.

Да таго ж яшчэ яна вельмі любіла адбіваць і калаціць і, калі не было ў хаце мяса, біла беднага Рыча па галаве і плячах венікам або чым іншым, што трапіць пад руку. Нарэшце пра такую справу даведалася Аліса — дачка містара Фіцуорэна. Яна прыгразіла кухарцы, што выкіне яе з хаты, калі тая і далей будзе так дрэнна абыходзіцца з хлопцам. Кухарка пацішэла і больш не калаціла Рыча, але новая напасць прыйшла адкуль не чакалі. Жыў Рыч на паддашку, і ў падлозе і сценах было столькі дзірак, што ад мышэй і пацукоў ратунку не было. Аднойчы Рыч атрымаў пені за тое, што пачысціў аднаму гаспадару боты, і вырашыў на гэтыя грошы купіць сабе котку. На наступны дзень ён убачыў дзяўчынку, якая гуляла з коткай, і спытаў яе:

— Ці прадасі ты мне сваю котку? Я дам табе пені.

— Бярыце, спадар, — адказала дзяўчынка, — хоць яна каштуе больш, бо надзвычай добра ловіць мышэй.

Котка пасялілася разам з Рычам на паддашку, і ён ніколі не забываў падзяліцца з ёй сваёй ежай. Хутка пацукі і мышы перасталі даводзіць хлопца, ён мог спаць спакойна.

Неўзабаве адзін з гандлёвых караблёў гаспадара пачаў збірацца ў далёкае плаванне. Была такая завядзёнка — каб паспрабаваць шчасця, усе слугі адпраўлялі нешта на продаж ці грошы для пакупак. І гэтым разам гаспадар сабраў усіх і спытаў, хто што хоча адправіць.

Кожны знайшоў, чым рызыкнуць, акрамя Рыча, у якога не было ані грошай, ані рэчаў. Ён нават і ў гасцёўню, дзе ўсе сабраліся, не выйшаў. Гэта заўважыла міс Аліса і загадала паклікаць хлопца.

— Я дам за яго грошы, — сказала яна, але тут запярэчыў бацька:

— Не, так нельга, ён мусіць зрабіць гэта сам.

Пачуўшы гэта, Рыч сказаў:

— Але ў мяне нічога няма, акрамя коткі, што я набыў за пені ў нейкай дзяўчынкі.

— Вось і нясі яе сюды, — сказаў містар Фіцуорэн.

Рыч пайшоў наверх, прынёс котку і са слязьмі ў вачах аддаў яе капітану.

— Цяпер мне зноў не будзе спакою ад пацукоў ды мышэй.

Уся каманда смяялася з хлопца, толькі адна міс Аліса пашкадавала яго і дала грошай, каб ён набыў яшчэ адну котку.

Гэта, і наогул ўвага, якую аказвала міс Аліса Рычу, злавала старую кухарку, і яна неўзабаве стала яшчэ часцей злавацца на Рыча і здзекавалася з яго і коткі.

— Як думаеш, грошай за тваю котку хопіць на новую палку, каб цябе дубасіць? — пыталася яна.

У рэшце рэшт, Рыч адчуў, што болей не здолее трываць такое абыходжанне, і вырашыў бегчы. Так ён сабраў свае рэчы і раніцай першага лістапада — у Дзень усіх святых — пусціўся ў дарогу. Ён дайшоў да Халаўэя, сеў на камень, які звалі Каменем Уіцінтана, і пачаў разважаць, якім шляхам ісці далей.

Пакуль ён думаў, што рабіць, званы царквы Сент-Мэры-ле-Боу — у той час іх было толькі шэсць — пачалі званіць, і ў звоне тым Рычу пачулася:

«Вярніся, Уіцінтан, Тройчы лорд мэр Лондана».

«Лорд мэр Лондана! — сказаў Рыч самому сабе. — Ой, ды я вытрываю ўсё, што заўгодна, каб стаць лонданскім мэрам ды раз’язджаць у карэце! Добра, трэба тады вяртацца. Але не буду больш звяртаць увагу на кухарку з яе лаянкай ды лупцоўкамі, бо я ж будучы мэр Лондана».

Так вярнуўся Рыч дахаты, а кухарка, на шчасце, яшчэ нават і прыходзіла ў кухню.

А зараз накіруемся за міс Пухнаткай да берагоў АфРычы. Доўгі час вандраваў карабель па морах, і нарэшце вятры прыгналі яго да берагоў, дзе жылі маўры — народ невядомы англічанам. Шмат народу высыпала на бераг пабачыць заморскіх маракоў, якія так відавочна адрозніваліся ад іх саміх. Калі яны пазнаёміліся бліжэй, то моцна зацікавіліся таварам на караблі.

Убачыўшы гэта, капітан паслаў іх каралю некалькі лепшых рэчаў, і той быў так задаволены, што загадаў прывесці капітана ў свой палац. Па звычаі, гасцей пасадзілі на шыкоўныя дываны, вышытыя золатам і срэбрам. Кароль з каралевай сядзелі на ўзвышшы. Хутка прынеслі розныя стравы, але не паспелі яны пачаць вячэру, як услед панабягала цэлая процьма пацукоў ды мышэй і з’ела ўсё мяса за раз. Капітан здзівіўся і спытаў, як жа можна такое вытрываць?

— Ой, гэта ж такое ліха, — адказалі яму. — Наш кароль аддаў бы паўкаралеўства, каб яго пазбавілі ад іх, бо яны не даюць спакою не толькі за снеданнем, але і ў пакоях, і нават у каралеўскім ложку. Спаць яму прыходзіцца пад вартай, бо баіцца гэтай погані страшэнна.

Капітан ледзь не запляскаў у ладкі: ён прыгадаў небараку Уіцінтана і яго котку і сказаў каралю, што на караблі ёсць жывёла, якая хутка пазбавіць іх ад усёй гэтай погані. Ад такой навіны кароль падскочыў, ды так высока, што з галавы зваліўся турбан.

— Прынясіце яе сюды, — загадаў кароль, — і калі яна адолее грызуноў, я дам за яе цэлы карабель золата і самацветаў!

Капітан добра ведаў сваю справу і не саромеўся распісаць добрыя якасці міс Пухнаткі.

— Не варта было б нам расставацца з ёй, — сказаў ён каралю, — бо пацукі і мышы на караблі могуць сапсаваць тавары… Але для Вашай Светласці я прынясу яе.

— Бяжы, бяжы па яе хутчэй! — загадала каралева. — Мне так не цярпіцца ўбачыць гэтую дзіўную жывёлу. Пакуль капітан хадзіў за коткай, прыгатавалі новыя стравы. З Пухнаткай за пазухай ён вярнуўся ў палац якраз тады, калі на стале зноў было шмат пацукоў. Котцы нават не трэба было нічога казаць — яна скочыла ў капітана з рук і за некалькі хвілін амаль усе пацукі і мышы ляжалі мёртвыя. Тыя, што засталіся жывыя, ратаваліся ў норах.

Кароль быў у захапленні, што так лёгка пазбавіўся заразы, а каралева зараз жа пажадала, каб котку прынеслі ёй. Капітан паклікаў:

— Кіц-кіц-кіц! — і котка падышла да яго.

Тады ён працягнуў жывёлу каралеве, але тая адхінулася — надта ж баялася стварэння, што так лёгка задушыла столькі пацукоў і мышэй. Але капітан зноў паклікаў: «Кіц-кіц!» — і тады каралева таксама дакранулася да яе і паклікала: «Кіт-кіт», бо не ведала, як правільна. Капітан пасадзіў котку каралеве на калені, і яна адразу пачала варкатаць ды муркаць і гуляцца з рукой яе светласці, а потым і наогул заснула.

Гледзячы на геройствы міс Пухнаткі ды улічваючы, што, калі развесці яе кацянятак па ўсёй краіне, яны пазнішчаюць усіх грызуноў, кароль купіў усе тавары на караблі, а за котку даў у дзесяць разоў больш, чым за ўвесь тавар разам.

Капітан развітаўся з каралеўскай сям'ёй і пад спрыяльным ветрам рушыў на радзіму, і неўзабаве каманда без перашкод дабралася да Лондана.

Аднойчы раніцай містар Фіцуорэн толькі прыйшоў у сваю кантору, каб палічыць грошы і размеркаваць справы на дзень, калі нехта пастукаў у дзверы.

— Хто там? — спытаў містар Фіцуорэн.

— Сябар, — адказалі з вуліцы. — Прынёс вам добрыя навіны пра ваш карабель «Аднарог».

Забыўшыся на сваю падагру, купец кінуся адчыняць. На парозе стаялі капітан і агент са шкатулкай, поўнай самацветаў, і з накладной. Купец першым чынам прагледзеў накладную і падзякаваў Нябёсам за такі шчаслівы вояж.

Потым яму расказалі гісторыю пра котку і паказалі, які шчодры падарунак кароль з каралевай даслалі беднаму Рычу. Як толькі купец пачуў гэта, ён паклікаў слуг:

— Прывядзіце, раскажыце і надалей містарам Уіцінтанам яго завіце.

Містар Фіцуорэн быў чалавекам сумленным, і калі нехта з яго слуг сказаў, што такі скарб — занадта для Рыча, ён адказаў:

— Барані мяне Божа, каб я ўзяў у яго хоць бы адзін пені. Гэта ўсё належыць толькі яму.

Купец загадаў прывесці Рыча, які ў той час чысціў гаршкі і ўвесь запэцкаўся сажай. Яму не хацелася апынуцца ў такім выглядзе перад усімі.

— Падлогу толькі што вымелі, а мае боты запэцканыя ды яшчэ і вялікімі цвікамі падбітыя, — сказаў Рыч.

Але купец загадаў яму зайсці і нават загадаў прынесці яму крэсла, так што Рыч пачаў думаць, што з яго здзекуюцца.

— Хопіць вам кпіць з небаракі-хлопца, лепей дазвольце мне вярнуцца да сваёй справы на кухні.

— Навошта вы так, містар Уіцінтан, — сказаў купец, — мы з вамі размаўляем сур'ёзна. Я шчаслівы, што гэтыя джэнтльмены прынеслі вам добрыя навіны. Капітан прадаў вашу котку Берберскаму каралю, і той даў за яе столькі скарбаў, колькі ў мяне не было за ўсё жыццё. І я жадаю, каб вы з асалодай імі карысталіся як мага больш часу.

— Усё, што цяпер трэба зрабіць містару Уіцінтану, дык гэта змясціць скарбы ў бяспечным месцы, — дадаў містар Фіцуорэн і загадаў паказаць хлопцу шкатулку са скарбамі.

Небарака Рыч нават не ведаў, што рабіць ад такога шчасця. Ён прасіў гаспадара ўзяць частку скарбаў, на знак удзячнасці за яго дабрыню.

— Не-не, — адказаў на гэта містар Фіцуорэн, — гэта ўсё належыць табе, і я не маю ніякіх сумненняў, што ты будзеш карыстацца багаццем правільна.

З такой жа просьбай Рыч звярнуўся да гаспадыні і міс Алісы, але яны таксама не ўзялі ані пені і толькі былі шчаслівыя за хлопчыка. Але Рыч быў вельмі добрасардэчны, і таму ён зрабіў невялікія падарункі капітану, яго памочніку і усім слугам містара Фіцуорэна, нават злоснай кухарцы.

Пасля гэтага містар Фіцуорэн параіў яму наведацца да добрага краўца і набыць вопратку, як належыць джэнтльмену. Да таго ж купец дазволіў хлопцу жыць у іх, пакуль не знойдзе сабе нешта лепшае.

Калі Уіцінтан памыўся, падстрыгся і апрануў шыкоўны гарнітур і капялюш, то стаў выглядаць нічым не горш за усіх тых маладых хлопцаў, што прыходзілі да Фіцуорэнаў. І міс Аліса, што калісьці ставілася да яго з дабрынёй і шкадавала яго, цяпер глядзела на яго як на роўнага і вартага яе кахання. Тым больш, што і сам Уіцінтан жадаў гэтага і рабіў ёй выкшталцоныя падарункі.

Неўзабаве містар Фіцуорэн заўважыў, што яны закахаліся, і прапанаваў зладзіць вяселле. Маладыя адразу ж пагадзіліся. На вяселле ў царкве сабралася шмат багатых купцоў з усяго Лондана, жаніха і нявесту суправаджаў сам лорд-мэр, а таксама старэйшыны і шэрыфы. Усіх частавалі з вялікай пашанай.

Кажуць, што містар Уіцінтан са сваёй гаспадыняй і дзецьмі жылі вельмі шчасліва. Ён быў шэрыфам Лондана, тройчы мэрам і ў час кіравання Генрыха V нават быў узведзены ў рыцары.

Пасля перамогі над Францыяй Уіцінтан прымаў у сябе караля з каралевай з такім размахам, што кароль сказаў:

— Ніводзін кароль ніколі не меў такога падданага!

На што сэр Рычард адказаў:

— Ніводзін падданы ніколі не меў такога караля!

Постаць сэра Рычарда Уіцінтана з коткай у руках, высечаную з каменя, можна было бачыць амаль да канца васямнаццатага стагоддзя над аркай Ньюгейцкай турмы, якую ён пабудаваў для злачынцаў.

*Пераклад з англійскай Ганны Гаворскай*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*

## Як Гобан-Дойлід прасіў сына дарогу скараціць

Ад перакладчыка: Гобан-*Дойлід (таксама* Гоб-*Дойлід і* Гоб-ан-Шор*;* ірл. *— Gobbн Saor, Gobban Saer) —* легендарны ірландскі дойлід VI—*VII* стст.*, народны святы і герой улюбёнага на радзіме цыкла казак пра* «самага мудрага чалавека ў Ірландыі»*. Адну з гэтых гісторый мы і прапануем вашай увазе.*

«Даў Бог Гобану разумнага сына. Але, як гэта водзіцца на белым свеце, дар той быў не без хібы. Часта ясную галаваньку сыночка нібыта хмарай засланяла: і за добрым часам ледзь відно таго розуму, а за якім горшым дык і зусім рабіўся ён непрыкметны.

Выправіўся аднаго разу Гобан з сынам у далёкую дарогу. Ісці трэ было цэлы дзень, і дойлід папрасіў сына: «Скараці нам дарогу!» Азадачаны сын не ведаў, што і адказаць бацьку. «Як жа я скарачу яе», — прамармытаў ён хмурна. — «Як была даўгой, так і будзе, хіба не? Хіба можна чалавеку дарогу скараціць?»

Але Гобан застаўся на сваім. «Ну што ж», — сказаў ён, — «калі ты не можаш скараціць дарогу, нікуды сёння не пойдзем». Сказаў — і павярнуў дадому.

Сын збянтэжыўся і раззлаваўся не на жарт. «Што гэта за пытанне такое? Век у яго адны загадкі!» — падумаў ён і увесь астатні дзень кіпеў ад абурэння, як той кацялок на малым агні.

Наступнай раніцай усё паўтарылася да драбніцы. «Скараці нам дарогу», — папрасіў Гобан свайго нездагадлівага сына. «Сам скараці дарогу, ты…» — але вецер не даў разабраць сынавых слоў, бо сын развярнуўся і пакрочыў дадому, да ўтульнай кухні, дзе яго мамка пякла на патэльні хлеб.

«Што цябе замаркоціла, сынку?» — запытала маці, калі той, горбячыся, зайшоў на кухню. «Ды бацька мой, Гобан-Дойлід. Зусім ужо з глузду з'ехаў, стары дурань», — адказаў маці сын. — «Апошні розум згубіў».

«А што здарылася?» — спытала маці, прадчуваючы, што будзе далей. Жанчыне цяжка перасягнуць такога мужчыну, як Гобан, але не дарма ж яна была яго жонкай, і таму заўсёды імкнулася быць дастойнай свайго мужа, хоць і не магла быць за яго мудрэйшай.

«Ён двойчы папрасіў мяне скараціць нам дарогу, сёння раніцай і ўчора таксама. Што ён, думае, я дурань нейкі?» — «На гэтае пытанне мы не будзем пакуль спяшацца адказваць», — далікатна заўважыла маці. — «А хіба ты сам не ведаеш, як скараціць дарогу?» — спытала яна сына. — «Хіба ты не ведаеш, што як людзі робяцца бліжэй пасля добрай размовы, так і дарога заўсёды робіцца карацейшай з добрай гісторыяй? Заўтра, калі Гобан зноў папросіць цябе скараціць вам дарогу, скажы яму ісці далей і раскажы якую-небудзь байку, каб дарога ляцела хутчэй».

Не дзіва, што наступнай раніцы Гобан зноў папрасіў сына скараціць ім дарогу — што той і зрабіў. Дзень неўзабаве праляцеў, мілі здаваліся цалямі і абодва падарожныя прыйшлі ў добрым гуморы туды, дзе іх чакала работа.

*Пераклад з англійскай Іааны Уладыка*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*

## Велікан-сябелюб

Кожны дзень пасля абеду па дарозе са школы дзеці гулялі ў садзе Велікана.

Сад быў вялікі і вельмі прыгожы, і трава ў ім была мяккая і зялёная. Сям-там у траве зіхацелі кветкі, прыгожыя, нібы зоркі. Увесну дванаццаць персікавых дрэў успыхвалі далікатнымі пялёсткамі колеру руж і жэмчугу і прыносілі сакавітыя плады ўвосень. Птушкі спявалі ў дрэвах так мілагучна, што дзеці часта кідалі гульню, каб паслухаць птушыныя спевы. «Як тут хораша!» — гаварылі яны адно аднаму.

Але аднойчы Велікан вярнуўся дадому. Ён наведваў свайго сябра карнуольскага Людаеда і быў у гасцях сем гадоў. За гэты час Велікан сказаў усё, што меўся сказаць, бо ён быў не бог ведае які добры суразмоўца, і вырашыў, што настаў час вяртацца ў замак. Толькі ён пераступіў парог… ды што за ліха — у яго садзе гуляюць дзеці!

«Хто дазволіў?» — крыкнуў Велікан вельмі няветліва, і дзеці кінуліся прэч.

«Мой сад належыць толькі мне, — сказаў Велікан, — гэта кожнаму зразумела. Толькі мне дазволена тут гуляць, а больш — нікому». І ён пабудаваў высачэзную сцяну вакол сада і паставіў шыльду:

ПАРУШАЛЬНІКІ
БУДУЦЬ ПАКАРАНЫЯ

Велікан быў вельмі сябелюбівы.

Няшчасным дзецям больш не было дзе бавіць час. Яны спрабавалі гуляць на дарозе, ды там было шмат пылу і камянёў, і дзецям тое не падабалася. Яны блукалі вакол высокага мура пасля заняткаў і гутарылі пра прыгожы сад, што за ім хаваўся: «Ах, як там было хораша!»

Потым настала вясна, і ўсюды расцвілі маленькія кветачкі і заспявалі птушачкі. Толькі ў садзе Велікана-эгаіста ўсё панавала зіма. Птушкі не хацелі тут спяваць, бо дзеці больш не прыходзілі, і нават дрэвы забыліся, як цвісці. Аднойчы прыгожая кветка была падняла сваю прыгожую галоўку з травы, але ўбачыла шыльду і так моцна пашкадавала дзяцей, што зноў схавалася ў зямлю спаць. Зіме не маглі нарадавацца толькі Снег і Мароз. Яны крычалі: «Вясна забылася дарогу ў гэты сад, цяпер мы будзем тут жыць круглы год». Снег накрыў траву сваёй вялізнай белай мантыяй, а Мароз пафарбаваў дрэвы срэбрам. Потым яны запрасілі да сябе Паўночны Вецер, і ён далучыўся з ахвотай. Паўночны Вецер, захутаны ў футра, роў у садзе дзень напралёт і тушыў агонь ў комінах. «Выдатнае месца, — казаў ён, — абавязкова трэба запрасіць сюды Град з візітам». Град пагадзіўся, ды кожны дзень па тры гадзіны бразгатаў па даху замка (і ўрэшце пабіў амаль усю дахоўку), а потым што было сілы лётаў між дрэў. Ён апранаўся ў шэрае, і яго подых быў нібы лёд.

«Не разумею, чаму Вясна так спазняецца, — скардзіўся эгаістычны Велікан, седзячы каля акна і пазіраючы на белыя змерзлыя дрэвы. — Дзе тая адліга?»

Але Вясна не настала, а потым не настала Лета. Восень прынесла залатыя плады ў кожны сад, ды абмінула сад Велікана: «Ён надта сябелюбівы». Таму тут панавала вечная Зіма, ды Паўночны Вецер, Град і Мароз узяўшыся за рукі са Снегам скакалі паміж дрэў.

Аднойчы раніцай, калі Велікан ужо прачнуўся, але яшчэ ляжаў у ложку, ён пачуў нейкую цудоўную мелодыю. Яна падалася яму вельмі мілагучнай, і Велікан падумаў: «Напэўна, гэта прыдворныя музыкі ідуць паўз мой сад». Але гэта ўсяго толькі маленечкая канаплянка спявала за акном, ды Велікан так даўно не чуў птушыных спеваў, што палічыў іх найпрыгажэйшай музыкай ва ўсім сусвеце. Град кінуў бразгатаць па даху, а Паўночны Вецер — скуголіць, і чароўны водар данёсся да Велікана праз адчыненае акно. «Мабыць, гэта ўрэшце Вясна», — сказаў Велікан, падскочыў у ложку і паглядзеў у сад.

Што ж ён убачыў?

Неверагоднае дзіва. Праз невялікую адтуліну ў сцяне дзеці прабраліся ў сад і залезлі на дрэвы: на кожным дрэве, колькі было відаць, сядзела маленькае дзіця. Дрэвы вельмі ўсцешыліся вяртанню дзяцей і таму ізноў буйна цвілі, далікатна гайдаючы сваімі галінкамі-рукамі над галовамі дзяцей. Птаства пырхала з месца на месца і задаволена шчабятала, а вочкі кветкі пазіралі з травы і пасміхаліся. Відовішча было цудоўнае, і толькі ў адным кутку саду яшчэ гаспадарыла зіма. Гэта быў самы далёкі куточак, і там стаяў хлопчык. Ён быў такі маленькі, што не мог дастаць да галінак; таму ён блукаў вакол дрэва і горка плакаў. Няшчаснае дрэва яшчэ мерзла пад снежнай коўдрай, а над ім выў Паўночны вецер. «Забірайся наверх, хлопчык», — гаварыла яно і схіляла галінкі нізка-нізка, але хлопчык быў зусім маленечкі.

Велікан паглядзеў у акно, і яго сэрца растала. «Які я быў эгаіст! — крыкнуў ён. — Цяпер ведаю, чаму Вясна не пажадала прыходзіць да мяне. Я дапамагу маленькаму хлопчыку залезці на дрэва, а потым — разбуру сцяну, і з гэтай пары ў маім садзе заўсёды будуць гуляць дзеці». Велікану было вельмі-вельмі сорамна за свае ўчынкі.

Ён на дыбачках спусціўся па сходах і, ціхенька адчыніўшы дзверы, выйшаў у сад. Але дзеці так спалохаліся, калі яго ўбачылі, што пусціліся наўцёкі, і ў садзе зноў настала зіма. Толькі маленькі хлопчык не пабег: ён горка плакаў і з-за слёз не ўбачыў, як прыйшоў Велікан. А Велікан ціхенька наблізіўся, асцярожна ўзяў хлопчыка ў руку і падсадзіў яго на галінку. Раптам дрэва зацвіло, вярнуліся птушкі і распачалі свае спевы, а маленькі хлопчык, выцягнуўшы рукі, абняў шыю Велікана, а потым яго пацалаваў. І астатнія дзеці, убачыўшы, што Велікан больш не злы, прыбеглі назад, а разам з імі вярнулася Вясна. «Цяпер сад належыць вам, дзеці», — сказаў Велікан, схапіў вялізную сякеру ды разбурыў сцяну. Дарослыя а дванаццатай пайшлі на кірмаш і ўбачылі, як Велікан забаўляецца з дзецьмі ў садзе, найпрыгажэйшым ў сусвеце.

Дзеці гулялі цэлы дзень і ўвечары прыйшлі да Велікана, каб сказаць яму «да пабачэння».

«Дзе ж ваш маленькі сябра? — спытаў ён. — Дзе хлопчык, якога я падсадзіў на дрэва?» Велікан упадабаў хлопчыка больш за астатніх, бо хлопчык пацалаваў яго.

«Не ведаем, — адказалі дзеці. — Ён пайшоў».

«Скажыце яму, каб абавязкова прыходзіў заўтра», — сказаў Велікан. Але дзеці адказалі, што не ведаюць, дзе ён жыве, і што ніколі раней яго не бачылі, а Велікан моцна зажурыўся.

Кожны дзень пасля абеду па дарозе са школы дзеці прыходзілі гуляць з Веліканам. Але той хлопчык, якога Велікан так палюбіў, не прыходзіў ніколі. Велікан быў добры з кожным дзіцем, але вельмі хацеў пабачыць свайго маленькага сябра і шмат пра яго гаварыў. «Як хочацца яго ўбачыць!» — не аднойчы паўтараў Велікан.

Прайшлі гады, і Велікан састарэў і занядужаў. Ён больш не гуляў з дзецьмі, а сядзеў у сваім вялізным крэсле, назіраў за іх гульнямі і любаваўся сваім садам. «У мяне тут шмат прыгожых кветак, — гаварыў ён, — але дзеці — найпрыгажэйшыя з іх».

Аднойчы зімовым ранкам ён, апранаючыся, паглядзеў у акно. Ён ужо не ненавідзеў Зіму, бо ведаў: гэта тая ж Вясна, толькі яна спіць, а кветкі — адпачываюць.

Але раптам ён убачыў нешта неверагоднае, старанна працёр вочы і зноў паглядзеў, пільна-пільна. Здарыўся сапраўдны цуд. У самым далёкім кутку саду зацвіло прыгожым белым цветам дрэва. Яго галінкі былі залатыя, на іх віселі срэбраныя плады, а пад дрэвам стаяў маленькі хлопчык — той самы, якога Велікан моцна любіў.

Усцешаны Велікан пабег па сходах проста ў сад. Спяшаючыся, ён бег па траве і наблізіўся да хлопчыка. Але толькі Велікан падышоў да дзіцяці бліжэй, як ажно пачырванеў ад злосці. Раз'юшаны, ён спытаўся: «Хто асмеліўся цябе пакрыўдзіць?!» На далонях дзіцяці былі адбіткі двух цвікоў, і адбіткі двух цвікоў былі на яго нагах.

«Хто асмеліўся цябе пакрыўдзіць?! — зароў Велікан. — Раскажы, і я вазьму вялізны меч і заб'ю гэтага чалавека».

«Не! — адказаў хлопчык. — Гэта раны любові».

«Хто ты?» — спытаў вялізны Велікан, апанаваны дзіўным захапленнем і жахам, і апусціўся на калені перад маленькім хлапчанём.

А ён усміхнуўся Велікану і адказаў: «Аднойчы ты дазволіў мне гуляць ў тваім садзе. Сёння мы з табою пойдзем у мой сад, які ёсць Рай».

Дзеці прыбеглі ў сад пасля абеду і ўбачылі Велікана, які ляжаў пад дрэвам, увесь абсыпаны белымі пялёсткамі. Велікан быў мёртвы.

*Пераклад з англійскай Лізаветы Васілевіч*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*

## Чырвоны бык з Норавэя

Даўным-даўно, у далёкім княстве жыў кароль, у якога было трое дачок. Старэйшая і сярэдняя былі страшэннымі і пагардлівымі, але малодшая дачка была выхаванай і самай чароўнай дзяўчынай ва ўсім свеце. Яна ганарылася не толькі бацькамі, але ўсёй сваёй радзімай. Аднойчы тры прынцэсы загаварылі аб тым, за каго б яны жадалі выйсці замуж.

«Ніжэй за караля мне ніхто не патрэбны», — заявіла старэйшая сястра. Сярэдняя спачатку пагадзілася толькі на прынца, але потым падумала і вырашыла, што някепска было б і з герцагам якім узяць шлюб.

«Жах! — смеючыся, адказала малодшая сястра. — Вы такія пераборлівыя! Мне вось будзе дастаткова і Чырвонага Быка з Норавэя».

Яны не ўспаміналі пра сваю размову да наступнай раніцы. У час снедання за дзвярыма раптам пачулася жудаснае рыканне; гэта Чырвоны Бык з Норавэя прыйшоў забраць сваю жонку. Вядома, дзяўчаты перапалохаліся не на жарт: Чырвоны Бык быў адной з самых жахлівых з усіх вядомых істот. Кароль з каралевай не ведалі, як ратаваць дачку. Напрыканцы яны вырашылі адправіць замест яе старую карміцельку. Яны пасадзілі карміцельку быку на спіну, і той пайшоў сабе. Але толькі дайшоў ён да лесу, скінуў яе з плячэй і вярнуўся да замка, рыкаючы яшчэ болей раз'юшана, чым дагэтуль. Таму кароль з каралевай пачалі адсылаць служак, адну за адной, а калі і гэта не дапамагло, чарга дайшла і да дзвюх старэйшых прынцэс; але ўсіх спасцігла тая ж доля, што і старую карміцельку. Такім чынам, бацькам нічога не заставалася рабіць, акрамя як аддаць быку сваю малодшую і самую любімую дачку.

Дзяўчына і бык вандравалі па лясах ды палях, пакуль не падышлі да велічэзнага замка, каля якога сабраўся цэлы натоўп. Гаспадар замка запрасіў іх застацца, хоць і здзівіўся, што такая прыгажуня робіць побач з такім падазроным спадарожнікам. Калі яны ўвайшлі, прынцэса заўважыла шпільку, што тырчала са скуры быка, і выцягнула яе. Адразу ж, бык ператварыўся ў такога прыгожага прынца, якіх свет не бачыў. Уявіце, як узрадавалася прынцэса, калі ён упаў да яе ног і падзякаваў, што вызваліла ад лютага праклёну. На радасцях у замку справілі свята; але тут прынц раптам знік, і як яго ні шукалі, знайсці не маглі. Але прынцэса вырашыла абысці ўвесь свет у яго пошуках. Доўга яна хадзіла, але пра каханага нічога не было чуваць.

Аднойчы прынцэса згубілася ў цёмным лесе. Надыходзіла ноч, і ёй пачало здавацца, што яна сканае тут з холаду ды голаду, але раптам скрозь гушчар яна ўбачыла святло і неўзабаве дайшла да маленькай хаткі, у якой жыла старая жанчына. Жанчына запрасіла яе ўвайсці і накарміла і дала прытулак. Раніцай яна падарыла прынцэсе тры арэхі, але загадала не лузаць, пакуль «сэрца не будзе рвацца на кавалкі». З гэтым жанчына паказала, як выйсці з гушчару, папрасіла Бога дапамагчы дзяўчыне, і прынцэса зноў рушыла на пошукі каханага.

Не паспела яна далёка адысці ад хаткі жанчыны, як міма яе на вяселле Герцага Норавэйскага праехалі некалькі лордаў і лэдзі з шыкоўнымі падарункамі. Яна пайшла за імі і ўбачыла замак, у якім нікога было не відаць, акрамя мітуслівых кухараў ды пекараў; усе яны былі такімі занятымі, што не ведалі, за што хапацца. Раптам дзяўчына пачула галасы паляўнічых за спінай, і хтосьці крыкнуў: «Дарогу Герцагу Норавэйскаму!» І міма прынцэсы праехаў яе прынц з нейкай прыгажуняй.

Сэрца рвалася на кавалкі, а таму яна разбіла адзін з арэхаў, і раптам з яго выйшла маленечкая старая жанчына і пачала рупліва прыбірацца. Прынцэса ўвайшла ў замак і папрасіла паклікаць лэдзі. Калі тая ўбачыла, як старанна працуе маленькая жанчына, то паабяцала даць прынцэсе што заўгодна за яе.

«Я аддам яе вам, — сказала прынцэса, — але толькі калі вяселле з герцагам Норавэйскім адкладуць на адзін дзень, і калі вы дазволіце зайсці сёння ўначы да яго».

Лэдзі так хацела атрымаць арэх, што адразу пагадзілася. Калі надышла цёмная ноч і герцаг заснуў, прынцэсу пусцілі наведаць яго. Яна сядзела каля яго ложка і спявала:

«Шукала цябе я ў дальніх краях, цяпер я сяджу каля тваіх ног,

Каханы герцаг з Норавэя, пагавары са мной!»

Яна спявала гэтую песню зноў і зноў, але герцаг так і не прачнуўся. Раніцай прынцэса павінна была пакінуць яго, і юнак так і не даznаўся, што яна прыходзіла. Тады дзяўчына разбіла другі арэх, і выйшла маленькая работніца з пражай. Яна так спадабалася лэдзі, што тая пагадзілася адкласці вяселле яшчэ на адзін дзень. Але наступная ноч была не лепей за папярэднюю, і ў роспачы прынцэса разбіла апошні арэх, з якога трэці раз выйшла жанчына і пачала намотваць ніткі на шпульку. Лэдзі зноў пагадзілася выйсці замуж на дзень пазней.

Калі герцаг апранаўся раніцай, яго слуга запытаўся, што за дзіўную песню ён чуў на працягу дзвюх начэй.

«Я нічога не чуў, — адказаў герцаг, — не выдумляй».

«Не піце снатворнага сёння, не прыкрывайцеся падушкай, — сказаў слуга, — і вы таксама пачуеце».

Герцаг так і зрабіў. Дзяўчына зноў увайшла ў яго пакоі, уздыхаючы і думаючы, што бачыць яго апошні раз. Герцаг ускочыў, калі пачуў голас каханай прынцэсы, і патлумачыў, што быў ва ўладзе заклёну, што наклала на яго злая чараўніца, але цяпер усё скончылася.

Прынцэса ўзрадавалася, што вызваліла прынца другі раз, і пагадзілася выйсці за яго замуж. Ведзьма спалохалася гневу герцага і збегла з краіны, больш яе ніхто не бачыў. Замак увесь ходарам хадзіў ад падрыхтоўкі да свята, а прыгоды Чырвонага Быка з Норавэя і дачкі караля скончыліся вяселлем маладых.

*Пераклад з англійскай Ганны Кастуновай*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*

## Джэк — забойца велiканаў

У часы праўлення слаўнага караля Артура, жыў у графстве Корнуал каля мыса Лэндс-Энд адзін фермер. І быў у яго сын, якога звалі Джэк. Быў ён хлопец спрытны і меў такі жывы ды востры розум, што ніхто і нішто не маглі яго адолець.

У тыя дні, востраў Сэнт-Майклс-Маўнт пільнаваўся магутным веліканам Кармаранам. Ён быў пяць з паловай метраў у вышыню і амаль тры метры ў абхват ды меў бязлітасны і люты выраз твару. Быў ён такі жахлівы, што ўсе навакольныя гарады і вёскі баяліся яго. Жыў велікан у пячоры ў самым цэнтры гары на востраве, а калі яму хацелася есці, ён ішоў уброд да вялікай зямлі і хапаў там усё, што траплялася пад руку. Усе хаваліся, як маглі, а ён тым часам забіраў скаціну (лёгка закідваючы за раз на спіну шэсць быкоў), а свіней і авечак падвешваў у вязанку вакол пояса. І вось ужо шмат гадоў трымаў увесь Корнуал у смутку.

Аднойчы ў ратушы склікалі раду, каб вырашыць, што рабіць з веліканам; зайшоў туды і Джэк. Ён спытаўся:

— Якая ўзнагарода будзе таму, хто адолее Кармарана?

— Усе скарбы велікана і будуць узнагародай, — адказалі яму.

— Тады даручыце гэта мне! — сказаў Джэк.

Ён узяў ражок, шуфлік і кірку ды пайшоў увечары да гары велікана. Там да раніцы ён выкапаў сяміметровую яму і накрыў яе тычкамі і саломай так, каб нельга было адрозніць ад роўнай зямлі. Усеўся з супрацьлеглага ад выхаду з пячоры боку і, калі толькі паказалася сонца, узяў ражок і зайграў вясёлую песню. Гэты гоман разбудзіў велікана, і той выскачыў з пячоры з крыкам:

— Ах ты, нягоднік! Ты перашкаджаеш мне адпачываць? Ты дарага за гэта заплаціш. Вось схаплю цябе і засмажу на сняданак!

Але не паспеў велікан скончыць, як праваліўся ў яму ды так, што ўвесь востраў здрыгануўся.

— Ха, велікан, ну і дзе ж ты цяпер? — сказаў Джэк, — Ты трапіў у пастку і цяпер я спытаюся: што ты думаеш наконт таго, каб засмажыць мяне на сняданак? Мабыць знойдзеш штосьці іншае замест няшчаснага Джэка?

Затым, трохі пакпіўшы з велікана, ён стукнуў яго з усяе моцы кіркой у самую макаўку і забіў насмерць.

Джэк закідаў яму зямлёй і пайшоў у пячору, а там знайшоў незлічоныя скарбы. Калі ў горадзе пачулі пра перамогу, то абʼявілі, што называць Джэка цяпер усе мусяць Джэк — забойца веліканаў і падарылі яму меч і пояс, на якім залатымі літарамі было вышыта:

«Карнуольцу пояс гэты пашыты,
Бо ім велікан Кармаран быў забіты!»

Навіна пра перамогу Джэка хутка разнеслася па ўсёй Заходняй Англіі і калі іншы велікан, якога звалі Бландэрбор, пачуў гэта, то пакляўся адпомсціць Джэку. Гэты велікан валодаў чароўным замкам, які стаяў у самым цэнтры пустэльнага лесу. І вось праз чатыры месяцы Джэк, падчас сваёй вандроўкі ў Уэльс, аказаўся недалёка адтуль. Стаміўшыся, ён прылёг каля крынічкі і хутка

заснуў. А пакуль ён спаў, па ваду прыйшоў велікан і пабачыў яго. Па словах на поясе Бландэрбор зразумеў, што гэта знакаміты Джэк — забойца веліканаў. Ён з лёгкасцю закінуў Джэка на плечы і панёс у свой замак. Калі яны праходзілі праз лясны гушчар, шоргат лісця разбудзіў Джэка і ён ніяк не мог зразумець, што зрабілася. Калі яны падышлі да замка, Джэк пабачыў шмат чалавечых касцей, раскіданых навокал, і велікан сказаў, што хутка да іх далучацца і ягоныя косткі. Пасля гэтага Бландэрбор замкнуў няшчаснага Джэка ў пакоі і адправіўся да свайго брата-велікана, які жыў недалёка, запрасіць на абед.

Праз некаторы час Джэк выглянуў у акно і пабачыў двух веліканаў, якія ішлі да замка.

— Цяпер, — сказаў сам сабе Джэк, — усё ў маіх руках: і мая смерць, і маё ратаванне.

У кутку пакоя, дзе знаходзіўся Джэк, ляжалі добрыя моцныя вяроўкі. Ён узяў дзве і зрабіў на іх канцах петлі і, калі веліканы падышлі да жалезнай брамы замка і пачалі адмыкаць яе, закінуў петлі ім на шыі. Потым перакінуў вяроўкі цераз бэльку і пацягнуў з усяе сілы. Пабачыўшы, што твары іх пачарнелі, Джэк споўз па вяроўцы да веліканаў і дабіў іх сваім мячом. Затым, забраўшы ў веліканаў ключы, ён адчыніў іншыя пакоі і знайшоў трох ледзь жывых прыгожых дзяўчат.

— Цудоўныя паненкі, — сказаў ім Джэк, — я забіў гэтую пачвару і яго страшэннага брата. Цяпер вы свабодныя.

Сказаўшы гэта, ён аддаў ім ключы і рушыў у напрамку Уэльса.

Джэк спяшаўся, але заблукаў. Цямнела, а ён усё ніяк не мог знайсці месца для начлегу. Спусціўшыся ў вузкую даліну, ён наткнуўся на вялікі дом. Джэк асцярожна пагрукаў у дзверы. Але ўявіце як ён здзівіўся, калі насустрач яму выйшаў страшэнны двухгаловы велікан! Праўда, ён аказаўся не такім лютым як папярэднія, бо быў уэльскім веліканам і рабіў паскудствы толькі прыкідваючыся сябрам. Джэк папрасіўся пераначаваць, і велікан адвёў яго ў пакой. А пасярод ночы ён пачуў, як гаспадар дома мармытаў такія словы:

Калі зайшоў на вечар у госці,
Ты пераблытаў мабыць штосьці!
Мая дубіна пераліча косці!

— Ах, вось яно што, — падумаў Джэк, — вось і ўэльская выхадка. Але, спадзяюся, я не менш хітры за цябе!

Затым ён устаў з ложка і паклаў замест сябе палена, а сам схаваўся ў куце. А на золку прыйшоў велікан і некалькі разоў ударыў сваёй вялізнай дубінай па ложку, думаючы, што пераламаў Джэку ўсе косткі. Наступным ранкам Джэк, смеючыся сам сабе, сардэчна падзякаваў велікану за начны прытулак.

— Як адпачыў? — спытаўся велікан. — Нічога не чуў ноччу?

— Не, — адказаў Джэк, — нічога, толькі нейкі пацук два ці тры разы прабег па мне.

Вельмі здзіўлены велікан паклікаў Джэка снедаць і паставіў перад ім амаль 20-літровую міску з пудынгам. Джэк не хацеў, каб велікан падумаў, быццам гэта шмат для яго і таму схаваў пад куртку вялікі скураны мяшок, каб можна было незаўважна напаўняць яго сняданкам. Пасля ён сказаў, што хоча паказаць велікану фокус. Джэк узяў нож, успароў мяшок, і з ягоываліўся ўвесь пудынг.

— Ха, і я так магу! — сказаў велікан і, беручыся за нож, разрэзаў сабе жывот ды ўпаў мёртвы.

Адбывалася гэта ў час, калі адзіны сын караля Артура папрасіў у бацькі грошай, каб адправіцца на пошукі свайго лёсу ва Уэльс, дзе жыла прыгожая паненка, якую зачаравалі сем злых духаў. Кароль як мог стараўся адгаварыць сына, але дарэмна. І вось прынц выехаў на двух конях: адзін гружаны грашыма, а на другім ён сам. Праз некалькі дзён дабраўся прынц да ўэльскага мястэчка-

кірмашу, дзе пабачыў вялізны натоўп народу. Ён спытаўся, чаму ўсе сабраліся, а яму і адказалі, што яны сцерагуць нябожчыка, бо той пры жыцці набраў шмат даўгоў і нічога не вярнуў. Прынц здзівіўся жорсткасці людзей і кажа:

— Ідзіце пахавайце мёртвага, а я вам заплачу.

І пайшло да прынца столькі народу, што ўвечары ў яго засталося ўсяго толькі два пенсы.

А тым часам, праз мястэчка праходзіў Джэк-забойца веліканаў і быў так уражаны вялікадушнасцю прынца, што папрасіўся да яго на службу. Прынц згадзіўся і наступнай раніцай яны адправіліся ў дарогу разам. Калі спадарожнікі выязджалі з мястэчка, да прынца звярнулася старая:

— Нябожчык быў вінны мне апошнія сем гадоў два пенсы. Заплаці мне, як ты плаціў астатнім.

Прынц аддаў ёй апошнія два пенсы. І вось днём пасля абеду, за які Джэк таксама аддаў апошнія свае грошы, яны засталіся зусім без грошай.

Калі сонца пачало садзіцца, прынц спытаўся:

— Джэк, у нас зусім няма грошай. Дзе мы будзем начаваць?

Але Джэк адказаў:

— Пан прынц, для нас знойдзецца месцейка. У мяне тут дзядзька жыве недалёка — вялізны і жахлівы трохгаловы велікан. Ды такі, што адзін перамагае пяцьсот латнікаў.

— На жаль, — адказаў прынц, — нам няма чаго там рабіць. Ён за раз пасячэ нас на маленькія кавалачкі. Мы яму на адзін зуб!

— Не хвалюйцеся пра гэта, — адказаў Джэк. — Я паскачу наперад і ўсё для Вас падрыхтую, таму заставайцеся тут і чакайце пакуль я вярнуся.

На гэтым паскакаў ён наперад. Дабраўся да замка і так гучна пагрукаў у браму, што рэха пайшло па суседніх пагорках.

Велікан адказаў голасам падобным да грому:

— ХТО ТАМ?

Джэк адказаў:

— Усяго толькі твой пляменнік Джэк.

— І якія навіны прынёс мне мой пляменнік? — адказаў велікан.

— Ох, кепскія навіны, дарагі дзядзька!

— Годзе! — адказаў велікан, — Якія ж могуць быць кепскія навіны? Я трохгаловы велікан і вядомы ўсім тым, што магу адзін перамагчы пяцьсот латных ваяроў.

— Але, — адказаў Джэк, — сюды ідзе каралеўскі сын з тысячай ваяроў, каб забіць цябе і разбурыць усё, што ты маеш!

— Ох, пляменнічак, — адказаў велікан. — сапраўды кепскія навіны! Я зараз жа пабягу ды схаваюся, а ты замкні ўсе замкі і засаўкі, а ключы трымай у сябе, пакуль прынц не сыдзе.

Схаваўшы велікана, Джэк вярнуўся да прынца, і яны добра адпачылі ў замку, пакуль напалоханы велікан дрыжэў у падвале.

Раніцай Джэк нагрузіў прынца золатам ды срэбрам і адправіў яго наперад за тры мілі, каб велікан нічога не ўбачыў, а сам выпусціў велікана з падвала. Той і спытаўся, чым жа ён можа падзякаваць Джэку за выратаванне.

— Што ж, — адказаў Джэк. — Нічога мне не трэба, а хоць аддай мне старую куртку, боты ды шапку са старым іржавым мячом, што ляжаць у цябе пад ложкам.

— Не ведаеш ты, што просіш, — адказаў велікан. — гэта самыя каштоўныя рэчы, што я маю. Плашч зробіць цябе нябачным, шапка раскажа ўсё, што ты захочаш ведаць, меч рассячэ што заўгодна, а боты надаюць чароўную хуткасць. Але ты вельмі дапамог мне і таму аддаю табе іх з вялікай удзячнасцю.

Падзякаваў Джэк і забраў падарункі. Хутка дагнаў ён прынца, і яны разам даехалі да дома цудоўнай паненкі, якую шукаў каралеўскі сын. У гонар прынца яна зладзіла вялікі банкет. Пасля вячэры гаспадыня сказала, што мае заданне для яго. Яна выцерла яму рот насоўкай і кажа:

— Заўтра раніцай ты мусіш мне паказаць гэтую насоўку ці інакш страціш галаву, — і схавала яе за карсаж.

Прынц пайшоў у свой пакой у вялікай журбе, але чароўная шапка падказала Джэку, як можна здабыць неабходнае.

Пасярод ночы гаспадыня дома загадала духам перанесці яе да Д'ябла. Але Джэк у чароўным плашчы ды ботах дабраўся да нячыстага з той жа хуткасцю, што і яна. Калі паненка прыляцела да Д'ябла, то аддала насоўку яму. А Джэк сцягнуў яе і аднёс да прынца. Раніцай, паказаў каралеўскі сын насоўку гаспадыні дома і тым выратаваў сваё жыццё. Днём пацалавала яна прынца і кажа, што заўтра ён мусіць паказаць ёй вусны, якія апошнімі яна цалавала. Ці страціць сваю галаву.

— Ну калі Вы больш нікога не пацалуеце, гэта не складана! — адказаў прынц.

— Не мае значэння, — адказала яна. — Калі не пакажаш — смерць твая ўзнагарода!

Апоўначы, яна ізноў адправілася да Люцыфера і была вельмі злая, што той згубіў насоўку.

— Але гэтым разам, — сказала паненка, — я абыдуся з каралеўскім сынам яшчэ больш жорстка. Я пацалую цябе, і ён ніколі не зможа мне паказаць твае вусны.

Яна пацалавала Д'ябла і сышла, а Джэк адрэзаў яму галаву і прынёс нябачны да прынца. Наступным ранкам кінуў каралеўскі сын адрэзаную галаву да ног паненкі, і тым самым разбурыў злое вядзьмарства: пакінуў злы дух дзеўчыну і паўстала яна ва ўсёй сваёй прыгажосці. На наступны дзень яны пажаніліся і рушылі да двара караля Артура, дзе Джэка за шматлікія подзвігі пасвяцілі ў Рыцары Круглага стала.

Але хутка Джэк ізноў адправіўся на пошукі веліканаў і не паспеў ён ад'ехаць далёка, як пабачыў пячору. Каля ўваходу сядзеў на бервяне велікан, з вузлаватай жалезнай дубінай. Яго вырачаныя вочы гарэлі пякельным агнём, твар яго быў люты і агідны, шчокі віселі як шматкі бекону, а барада тапырылася ва ўсе бакі, быццам з жалезных прутоў. Валасы спускаліся на моцныя плечы і нагадвалі скручаных змей. Джэк злез з каня і апрануў плашч нябачнасці, падышоў да велікана і ціха сказаў:

— Вось ты дзе. Зараз я схаплю цябе за бараду!

Джэк, нябачны велікану, падышоў да яго зусім блізка і хацеў ужо адсячы пачвары галаву, але незнарок зачапіўся і выдаў сябе. Велікан зароў і пачаў шукаць ворага дубінай і біць ёй навокал, як вар'ят. Але Джэк паспеў аббегчы і ўвагнаць яму меч у спіну. Велікан зваліўся мёртвы. Зрабіўшы гэта, Джэк адрэзаў яму галаву і адправіў з рамізнікам на калясцы да караля Артура.

Пасля гэтага Джэк пайшоў у пячору велікана пашукаць скарбы. Прабраўшыся праз усе павароты і перакрыжаванні, ён дайшоў да вялікага пакоя, пасярод якога стаяў кацёл, а з правага боку — вялізны стол, за якім велікан абедаў. Затым ён знайшоў яму, закрытую жалезнымі кратамі, а ў ёй безліч нявольнікаў, якія пабачылі яго і закрычалі:

— Няшчасны, хутка і ты далучышся да нас!

— Га! Але скажыце, навошта вас трымаюць у палоне? — адказаў Джэк.

— Мы тут, — сказаў адзін, — да таго часу пакуль велікан не захоча есці. І тады самы тлусты з нас ідзе яму на абед.

Джэк адкрыў краты і выпусціў усіх на свабоду. Яны радаваліся і весяліліся, як памілаваныя асуджаныя. Затым ён адшукаў веліканаў куфар і падзяліў на ўсіх золата і срэбра з яго. Потым Джэк адвёў усіх у суседні замак, дзе яны працягнулі радавацца і святкаваць сваё вызваленне.

Але раптам вяшчун прынёс навіну, што двухгаловы велікан Тандэрбэл, пачуўшы пра забойства сваяка, ідзе з паўночных далін, каб адпомсціць Джэку і ніхто не можа яго спыніць. Але Джэк не спужаўся і кажа:

— Няхай прыходзіць. Я палічу яму зубы. А вас, шаноўнае спадарства, я прашу ісці ў сад і стаць сведкамі смерці Тандэрбэла.

Замак знаходзіўся ў сярэдзіне маленькага вострава і быў акружаны ровам — дзевяць метраў у глыбіню і шэсць у шырыню — цераз які быў перакінуты разводны мост. Джэк папрасіў падсячы мост з двух бакоў і, надзеўшы плашч нябачнасці і ўзяўшы чароўны меч, выйшаў да велікана. Той не бачыў Джэка, але адчуваў яго пах і крычаў такія словы:

Фі-Фо-Фах!

Крыві англійскай чую пах!

Я ворага свайго знайду,

Адразу у муку сатру!

— Ах, вось што, — сказаў Джэк. — Тады нам патрэбны млынар і для веліканавых касцей!

Велікан закрычаў ізноў:

— Дык гэта ты забіў майго сваяка? Тады я разарву цябе зубамі, вып’ю тваю кроў і перамялю ў муку твае косці.

— Спачатку паспрабуй злавіць мяне! — адказаў Джэк, зняў плашч нябачнасці, каб велікан пабачыў яго, надзеў чароўныя боты і пабег.

Велікан рухаўся як вялізны замак, ад кожнага кроку трэслася зямля. Джэк прымусіў яго пабегаць, каб жыхары замка маглі паназіраць за бойкай. Але нарэшце, каб скончыць з ворагам, ён лёгка перабег па разводным мосце і спыніўся на сярэдзіне. Велікан пагнаўся за Джэкам, а падсечаны з бакоў мост не вытрымаў ды абваліўся, і вораг апынуўся ў вадзе, і круціўся, і боўтаўся там, нібы кіт. Джэк стаяў над ровам і смяяўся, а калі велікан стаміўся, ён накінуў яму на шыю збрую і адрэзаў велікану абедзве галавы і адправіў іх каралю Артуру.

Джэк правёў некаторы час у святах і вяселлі, але потым пакінуў рыцараў і паненак, каб ізноў адправіцца за прыгодамі. Ён прайшоў шмат лясоў і дайшоў да вялікай гары. Тут, ужо глыбокай ноччу, ён пабачыў самотную хатку. Джэк пагрукаў у дзверы, і яму адчыніў стары з валасамі белымі, бы снег.

— Бацька, — сказаў Джэк, — ці дазволіш ты стомленаму вандроўніку, які збіўся з дарогі, адпачыць у тваім доме?

— Вядома, заходзь у маю бедную хаціну, — адказаў стары.

Джэк зайшоў, яны селі разам і стары загаварыў:

— Сынок, я бачу па тваім поясе, што ты вялікі заваёўнік веліканаў. Дык слухай, што я табе скажу — на самым версе гэтай гары стаіць чароўны замак. Ён належыць велікану, якога клічуць Галіганцюа. Ён, з дапамогай старога чараўніка, заманіў шмат рыцараў і паненак у гэты замак і ператварыў іх у розных істот. Але больш за ўсіх мне шкада дачкі герцага, якую яны выкралі і панеслі па небе ў ахопленай агнём калясніцы, запрэжанай агнядышнымі цмокамі. Потым замкнулі яе ў замку і ператварылі ў белую лань. Шмат рыцараў спрабавалі выратаваць яе, але ніхто пакуль не здолеў, бо каля брамы стаяць два грыфоны і забіваюць усіх, хто да іх наблізіцца. Але ты, сын мой, можаш нябачным пракрасціся каля іх і прачытаць словы над уваходам, якія падкажуць, як зняць закляцце.

Джэк працягнуў старому руку і сказаў, што раніцай ён зробіць усё, каб выратаваць дзяўчыну.

На наступны дзень, апрануў Джэк чароўны плашч, боты і шапку і падрыхтаваўся да бойкі. Ён падняўся на вяршыню гары і пабачыў двух агнявых грыфонаў, але смела прайшоў паўз іх, бо быў нябачны. Ён пабачыў на браме залаты рог са срэбным ланцужком, пад якім было напісана:

Калі падзьмеш у гэты рог,

Зло атрымае свой урок,

І знікнуць чары ўсе затым,

А замак знікне, нібы дым!

Джэк прачытаў гэтыя словы і адразу ж падзьмуў у рог. Затросся замак да самага падмурка, а велікана і чарадзея ахапіў жах. Пачалі яны кусаць локці ды рваць на сабе валасы, разумеючы, што надышоў канец іх злой уладзе. Паспрабаваў велікан схапіць дубіну, але Джэк адным ударам адсек яму галаву, а чарадзей падняўся ў паветра і знік. Пасля гэтага закляцце развеялася, і ўсе палонныя, якіх злы чарадзейператварыў у жывёл, сталі ізноў сабой, а замак знік, ператварыўшыся ў воблака. Пасля гэтага, як звычайна, Джэк даставіў адрэзаную галаву Галіганцюа разам з усімі выратаванымі да двара караля Артура. Ва ўзнагароду за верную службу, кароль пераканаў герцага выдаць яго дачку за шчырага Джэка. І цэлае каралеўства радавалася і святкавала іх вяселле! А кароль узнагародзіў героя шляхетным замкам з багатымі землямі, дзе Джэк і ягоная жонка жылі ў вялікай радасці і шчасці да канца сваіх дзён.

*Пераклад з англійскай Мацвея Бянько*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*

## Білі Дафі і д’ябал

*Уэльская народная казка*

Білі Дафі быў ірландцам, кавалём і п’яніцай. Як сапраўдны кельт, ён адчуваў агіду да ўпорнай працы, і знаходзіўся ў сваёй кузні роўна столькі каб зарабіць на выпіўку. Калі грошы канчаліся, ён вяртаўся да работы.

Адзін раз Білі вяртаўся дахаты з чарговай папойкі, больш цвярозы, чым звычайна, і яго так замучыла смага, што ён усклікнуў: «Богам клянуся! Я б прадаў душу д’яблу, каб б мог набыць яшчэ выпіўкі».

У той жа момант высокі джэнтльмен у чорнай вопратцы падышоў да яго і спытаўся: «Што ты сказаў?»

«Я сказаў, што прадаўся б д’яблу, каб выпіць».

«І колькі табе трэба на сем гадоў, пасля якіх цябе забярэ д’ябал?»

«Ну, вось так адразу цяжка сказаць».

«700 фунтаў будзе дастаткова?»

«Так, я б узяў 700 фунтаў».

«І потым цябе забярэ д’ябал?»

«Ат, няхай, мне ўсё адно».

Калі Білі прыйшоў дадому, у кузні ён знайшоў 700 фунтаў. Ён больш не працаваў і пачаў прапіваць гэтыя грошы, і дзверы яго хаты былі заўсёды адчыненымі для ўсіх ахвотных.

Сярод людзей, якія сцякаліся да Білі, прыйшоў стары вандроўнік, які сказаў: «Я вельмі галодны, амаль што паміраю. Ці не дасі мне чаго-небудзь з’есці ды папіць?»

«Канешне, заходзь і бяры, што хочаш».

Калі вандроўнік паеў ды папіў, ён знік і не з’яўляўся некалькі месяцаў, пасля якіх таксама атрымаў шчодрую гасціннасць і зноў знік. Праз некалькі месяцаў ён ізноў з’явіўся.

«Заходзь, заходзь!» — усклікнуў Білі.

Калі вандроўнік дасыта паеў і папіў, ён сказаў Білі: «Тры разы ты быў добры і шчодры да мяне. Я даю табе тры жаданні, і што б ты ні загадаў, усё здзейсніцца».

«Мне трэба падумаць», — адказаў Білі.

«О, не спяшайся, і глядзі, каб гэта былі добрыя жаданні».

Наступным ранкам Білі сказаў вандроўніку, што ён гатовы. «Ну, я слухаю. Глядзі, каб жаданні былі добрыя», — паўтарыў падарожнік.

«У мяне ёсць вялікі кавальскі молат у кузні, і я хачу, каб кожны, хто яго возьме, калаціў ім па кавадлу і не разбіваў яго, аж пакуль я не загадаю спыніцца».

«О, гэта дрэннае жаданне, Білі».

«Не, не, яно добрае, вось убачыш. Наступнае, што я жадаю — гэта кашалёк, з якога ніхто не зможа выцягнуць тое, што я ў яго паклаў».

«О, Білі, Білі! Гэта дрэннае жаданне. Зараз будзь асцярожны з трэцім жаданнем», — сказаў вандроўнік.

«Наверсе ў мяне ёсць крэсла, і я хачу, каб той, хто сядзе ў яго, не змог устаць, пакуль я не дазволю».

«Але ж, усё гэта нядобрыя жаданні».

«Так, так, мой розум пры мне. Я думаю, урэшце, я зраблю іх добрымі жаданнямі».

Прайшло сем гадоў без трох дзён, і, паколькі ўсе грошы скончыліся, Білі зноў працаваў у кузні, калі джэнтльмен у чорным увайшоў і сказаў:

«Ну што ж, Білі, у гэтыя тры дні ты можаш мець столькі грошай, колькі пажадаеш», — і потым знік.

На апошні дзень вызначаных сямі гадоў Білі апынуўся без ніводнага пені і пайшоў у карчму, дзе было шмат народу.

«Ну што, сябры, — сказаў Білі, — нам усім трэба грошы. Я вас пачастую і дам кожнаму па фунце». І, падняўшыся, ён паставіў свой куфель у цэнтр стала і пажадаў дваццаць фунтаў. Не паспеў ён пажадаць, як вогненны шар прайшоў праз столь, і дваццаць саверэнаў упалі ў куфель. Усе былі ўзрушаны; пачуўся гук, нібыта выбухнула бомба, вогненны шар пакаціўся па садовай сцежцы, а гаспадар гасцініцы пабег за ім услед. Пасля гэтага ўсе выпілі, што хацелі, а Білі даў кожнаму па саверэну і пайшоў дахаты.

Наступным ранкам ён рабіў у сваёй кузні падковы, калі д’ябал увайшоў і сказаў:

«Ну што, Білі, сёння скончыўся твой час».

«Так, добра. Патрымай гэты молат і пастукай пару разоў, каб я скончыў работу напаследак».

І вось д’ябал узяў молат і пачаў калаціць, аднак не мог спыніцца.

Білі засмяяўся, замкнуў яго і пайшоў на тры дні. А на працягу гэтага часу вакол яго кузні сабраліся людзі і падглядалі праз шчыліны ў аканіцах, бо яны чулі стук молата днём і ўначы.

Пад канец трэцяга дня Білі вярнуўся, адчыніў дзверы, і д’ябал застагнаў: «О, Білі, няхай тое быў і добры жарт, але адпусці мяне».

«Што ды дасі мне, калі я цябе адпушчу?»

«Яшчэ сем гадоў, у два разы больш грошай і яшчэ адклад на два дні, калі зможаш жадаць, усё, што хочаш».

Д’ябал заплаціў грошы і знік, а Білі зачыніў кузню і цалкам аддаўся п’янству і азартным гульням, і, такім чынам, пад канец сямі гадоў у яго ізноў не было ні пені, і ён зноў вярнуўся да работы ў кузні.

У апошні вечар гэтых сямі гадоў ён ізноў пайшоў у свой любімы паб і пажадаў сабе пяць фунтаў.

Як толькі ён пажадаў, увайшоў маленькі чалавечак і плюнуў саверэны ў куфель, і яны пілі ўсю ноч.

Наступным ранкам Білі вярнуўся ў кузню. Д’ябал, які стаў падазроным, ператварыўся ў саверэн і з’явіўся на падлозе. Білі схапіў яго і кінуў у кашалёк. Затым ён паклаў кашалёк на кавадла і закалаціў па ім молатам, а д’ябал пачаў енчыць: «Пашкадуй мае бедныя костачкі, пашкадуй мае бедныя костачкі»

«А колькі дасі, калі адпушчу цябе?» — спытаў Білі.

«Яшчэ сем гадоў, у тры разы больш грошай і яшчэ дзень, у які зможаш прасіць усё, што пажадаеш».

Як толькі ў кузні з’віліся грошы, Білі выняў саверэн з кашаля і адкінуў прэч.

Гэтым разам Білі загуляў больш за ранейшае; гуляў у азартныя гульні, піў, удзельнічаў у гонках і праматаў грошы, хоць яшчэ не прайшло сямі гадоў. На апошні дзень вызначанага часу ён, як звычайна, пайшоў у сваю любімую гасцініцу і пажадаў куфель, поўны саверэнаў. З’явіўся маленькі чалавечак з вялікай галавой, вялікім носам, вялікім ротам, маленькім целам, кароткімі ножкамі, вузлаватымі ступнямі і разгалінаваным хвастом і паклаў манеты ў куфель. П’яніцы ў пабе спужаліся, убачыўшы чалавечка, бо ён свяціўся агнём, пакуль падскокваў на стале. Калі ён скончыў, то сказаў: «Білі, заўтра раніцай наш дагавор канчаецца».

«Я ведаю, дружа, я ведаю!» — крыкнуў Білі. Затым д’ябал выбег і знік, а людзі пачалі дапытвацца ў Білі:

«Што гэта было? Здаецца мне, спадар Дафі, гэта ён па тваю душу».

«О, гэта дробязь», — адказаў Білі.

«А мне здаецца, зусім не дробязь», — заўважыў нехта.

«Баюся, рэпутацыя маёй установы значна сапсуецца», — прабурчаў гаспадар.

«Ніколькі! Ты проста баязлівец», — сказаў Білі.

«Аднак, ва імя ўсяго святога, што тут адбываецца? » — усклікнуў нейкі стары.

«О, вы хутка ўбачыце, — адказаў Білі, — нічога асаблівага».

Ён пайшоў дадому і пачаў сварыцца з жонкай, і пакуль ён сварыўся, прыйшоў д’ябал і сказаў:

«Ну, спадар Дафі, я гатовы».

«Так, так, прысядзь на хвілінку. Мне трэба прывесці да ладу некаторыя паперы, перад тым, як я пайду».

І вось д’ябал сеў у крэсла, а Білі пайшоў у кузню і распаліў дачырвана шчыпцы, потым вярнуўся да д’ябла, схапіў яго за нос і адцягнуў, нібыта ён быў з мяккага жалеза. Д’ябал пачаў лямантаваць, але не мог паварушыцца, і Білі ўсё цягнуў і цягнуў яго нос, пакуль не дацягнуў да акна, і потым начапіў на яго капялюш. А д’ябал галасіў і выдыхаў з носа полымя.

Уся вёска сабралася вакол дома Білі — на бяспечнай адлегласці — і пачала крычаць: «Білі і д’ябал! Д’ябал і Білі Дафі!»

Д’ябал зусім раз’юшыўся і ганьбіў Білі Дафі неверагодна, але ўсё было дарэмна. Білі трымаў яго там тры дні, пакуль той не сказаў:

«Спадар Даффі, што мне даць табе, каб ты мяне адпусціў?»

«Толькі адно: я буду жыць давеку дзён сваіх і буду мець столькі золата, колькі пажадаю».

Д’ябал згадзіўся, і Білі яго адпусціў і тут жа разбагацеў. Ён жыў да паважнага ўзросту і ўсё жыццё прамотваў грошы, аднак, урэшце ён памёр, і калі апынуўся каля брамы пекла, вартавы спытаў: «Хто ты?» «Білі Дафі», — адказаў той. І калі гэта пачуў д’ябал, які стаў побач, ён усклікнуў:

«Божа мой! Перагарадзіце браму і замкніце на два замкі, бо калі гэты каваль Білі Дафі трапіць сюды, ён знішчыць усіх нас».

Стары Білі заўважыў распаленыя дачырвана шчыпцы, падняў іх і схапіў д’ябла за нос. Калі тузануў галавой, кавалак чырвонага носа застаўся ў шчыпцах.

Тады Білі Дафі падняўся да брамы раю, дзе святы Пётр спытаў яго, хто ён.

«Білі Дафі, каваль», — адказаў ён.

«Уваход забаронены! Ты дзёрзкі, дрэнны чалавек», — сказаў святы Пётр.

«Божа мой! Што ж мне рабіць?» — усклікнуў Білі і вярнуўся на зямлю, дзе ён сам і кавалачак носа д’ябла расплавіліся ў вогненны шар, і да гэтага дня ён бадзяецца па зямлі, а людзі называюць яго блукаючым агеньчыкам.

*Пераклад з англійскай Вольгі Кісель*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай*

**Дар'я Вакар**

# Тры паверхі Маладзёжкі

**Першае знаёмства гледача з пэўным тэатрам часта адбываецца праз рэпертуарную афішу. Прабег вачыма — выхапіў назву спектакля, набыў білет. Або не зацікавіўся і пайшоў далей. Агляд бягучага рэпертуара дае сінхранічную карціну творчага напаўнення тэатра ў канкрэтны дадзены момант. Вывучэнне рэпертуара ад першай пастаноўкі да апошняй разгортвае перад даследчыкам найцікавейшую гісторыю творчага развіцця. Гэта як чытаць лёс чалавека па лініях яго далоні.**

Мудрагелісты ўзор утвараюць лініі лёсу Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра. Створаны ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя, ён цягам дзесяці гадоў не меў сваіх сцен. Пакуль не скончылася рэстаўрацыя будынка былога кінатэатра «Спартак», які ўлады ў адказ на шматлікія лісты з просьбамі аддалі тэатру, стваралі і паказвалі спектаклі ў сталічных дамах культуры, клубах. Калі ў Сярэднявеччы акцёрам было дастаткова сабрацца, разгарнуць на вуліцы дыван – і ўжо ёсць сцэна, то зараз складана ўявіць традыцыйны тэатр без бетоннага «адзення», гукасветлавога абсталявання, глядзельнай залы, білетнай касы… Сёння ўсё гэта ў Маладзёжнага ёсць. Амаль два гады, з лістапада 2014-га, ён «абжывае» светлы будынак з калонамі на Казлова, 17. Нарэшце з'явілася месца для рэалізацыі маштабных творчых планаў, магчымасць разгарнуцца напоўніцу рэжысёрскім і акцёрскім талентам.

І Маладзёжны, не марнуючы час, здзіўляе сваёй актыўнасцю, адну за адной выпускае прэм'еры. Хтосьці фыркне, маўляў, тэатральны канвеер, аднак у гэтым ён памыляецца. Хуткая нараджальнасць спектакляў – вынік выхаду назапашанай тэатрам за гады існавання ў барацьбе за месца пад сонцам творчай энергіі. Да таго ж, спектаклі ўсе па-свойму адметныя, жанрава і стылістычна розныя, бо і аўтары іх розныя – кожны са сваёй рэжысёрскай «школай», вопытам, мастацкім бачаннем. Гэта і знойдзеныя ў самым блізкім атачэнні, унутры акцёрскай трупы тэатра, рэжысёры Таццяна Аксёнкіна, Яўген Іўковіч, Канстанцін Міхаленка, Дзмітрый Багаслаўскі, а таксама запрошаныя айчынныя таленты: «вольны мастак» Сяргей Анцэлевіч, галоўны рэжысёр Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра Генадзь Мушперт і галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Міхаіл Кавальчык. Спіс рэжысёраў Маладзёжнага дапаўняецца імёнамі прадстаўнікоў сучаснага расійскага тэатра – Міхаіл Ягораў, Максім Астаф'еў, Іскандэр Сакаеў, Вікторыя Лугавая.

> Маладзёжны тэатр вылучае тое, што ў ім адсутнічаюць дзве знакавыя фігуры — галоўнага рэжысёра і мастацкага кіраўніка. Няма такіх вакансій паводле сталага рашэння кіраўніцтва тэатра

Маладзёжны тэатр вылучае тое, што ў ім адсутнічаюць дзве знакавыя фігуры – галоўнага рэжысёра і мастацкага кіраўніка. Няма такіх вакансій паводле сталага рашэння кіраўніцтва тэатра. Спярша былі спробы з боку рэжысёраў «пасватацца», але не склалася. Калісьці два «стаўпы» Маладзёжнага, прадаўжальнікі справы, распачатай Рыгорам Баравіком і Барысам Луцэнкам, — галоўны рэжысёр Віталь Катавіцкі і мастацкі кіраўнік Мадэст Абрамаў праклалі шлях — выгадавалі трупу і сфарміравалі моцны рэпертуар Маладзёжнага тэатра. Яны задалі высокую планку якасці, з якой паслядоўнікам, безумоўна, трэба суадносіцца, аднак рабіць ужо іншы тэатр, у адпаведнасці з патрэбамі цяперашняга часу. Сёння рэжысёры Маладзёжнага нічым не скаваныя ў сваёй творчасці. Свабода пошуку і самавыяўлення — асноўная ўмова развіцця, своеасаблівае крэда тэатра.

Ухвалілі новую тэатральную палітыку і акцёры. У сітуацыі адсутнага творчага кіраўніцтва яны (найбольш вопытныя і адданыя Маладзёжнаму тэатру людзі) бяруць на сябе частку яго функцый, такім чынам, акцёры адчуваюць сябе паўнавартаснымі сатворцамі не толькі ў пастановачным працэсе, але і ў вызначэнні напрамкаў агульнага руху. Іерархія захоўваецца, але дыстанцыя паміж яе ступенямі настолькі скарачаецца за кошт выключаных звёнаў, што яна ўжо не мае такога значэння. Прынамсі, у пытаннях творчага характару.

Пра рэжысёрскія дэбюты акцёраў Маладзёжнага згадалі вышэй. А вось зусім «свежы» факт: Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, вядучы майстар сцэны і «ветэран» Маладзёжнага Аляксандр Шароў прапанаваў паставіць класіку, рускую п’есу пачатку дваццатага стагоддзя — «Дзяцей Ванюшына» Сяргея Найдзёнава… і — паставілі. У Санкт-Пецярбургу знайшлася малады рэжысёр Вікторыя Лугавая, яе метад — жорсткай праўды, яе надзейныя паручыцелі — Ібсэн і Бэрфус. Усё раптам супала. Час: наш, мабільных і няпільных людзей, шчырых вернікаў кансьюмерызму (ну чым не сапернік абаянню старой буржуазіі?). Месца: беларускі дзяржаўны тэатр, дастаткова не кансерватыўны, не закансерваваны, каб спарадзіць нетыповае, нечаканае, бадзёрае — бо яшчэ і «маладзёжны»…

Нездарма тэатр неаднойчы станавіўся полем для фантазіі, тэатральнага шаманства і заклёнаў Іскандэра Сакаева, «лідара сучаснага расійскага інтэлектуальнага тэатра», як пра яго піша беларускі тэатральны крытык Валянцін Пепеляеў. Лідар — дакладна. Рашучы, упэўнены ў сабе, Сакаеў тройчы «ўзяў» сцэну Маладзёжнага. Яго тры спектаклі — таямнічны і спакушальны, як пекла, пагібельна прыгожы «Казіны востраў» У. Бэці, па-постмадэрнісцку іранічная, інтэртэкстуальна насычаная ітэрпрэтацыя «Чэхаў. Камедыя. Чайка» паводле А. Чэхава, наркатычна сюррэалістычная, яркая і энергічная пастаноўка шэкспіраўскага «Сну ў Іванаву ноч»… Ён пакінуў іх у рэпертуарнай гісторыі тэатра, як драпежнік у чадзе палявання пакідае на зямлі глыбокія сляды кіпцюрастых лап. Побач з лёгкай чатырохпалай пячаткай летуценнага і трапяткога «Палкоўніка-Птушкі» ў пастаноўцы Сяргея Анцэлевіча…

Гэта толькі тыя спектаклі, якія паказваюцца ў вялікай залі на другім паверсе Маладзёжнага тэатра. Ён найбольш папулярны, мае буфет пад цёплым бокам і прымае ў сваю прасторную залю асноўную масу гледачоў. Сустракае аднолькава добразычліва як спажыўцоў лёгкіх французскіх камедый, так і шукальнікаў больш арыгінальнага, няпростага для засваення прадукту. Але ёсць яшчэ два паверхі, быццам бы адкрытыя не для ўсіх, толькі для абраных… Насамрэч, тут няма ніякай таямніцы, масонства ці чагосьці падобнага. Пра тое, што некаторыя харэаграфічныя пастаноўкі балетнай трупы Маладзёжнага тэатра — у

> Усё раптам супала. Час: наш, мабільных і няпільных людзей, шчырых вернікаў кансьюмерызму (ну чым не сапернік абаянню старой буржуазіі?). Месца: беларускі дзяржаўны тэатр, дастаткова не кансерватыўны, не закансерваваны, каб спарадзіць нетыповае, нечаканае, бадзёрае — бо яшчэ і «маладзёжны»…

прыватнасці, пластычныя мініяцюры — дэманструюцца ў Малой залі на трэцім паверсе, даўно ведаюць аматары перформанса і contemporary dance, асабліва прыхільнікі творчасці тэатра танца «Skvo’s Dance Company», чые выхаванцы рэалізоўваюць ідэі яго заснавальніцы Вольгі Скварцовай у пастаноўках для Маладзёжнага. А часам і самі выступаюць у ролі аўтараў эксперыментальных праектаў. Так, сёлета ў пачатку вясны адбылася прэм’ера так званага вечара сучаснай харэаграфіі, які ўключыў тры невялікія «лабараторныя» пластычныя работы вучняў Скварцовай — «Дурніцы», «Паводле сябе» і «Мы знаёмыя?».

У лютым гэтага года да дзвюх сцэн Маладзёжнага тэатра дадалася трэцяя, самая камерная — на мінус першым паверсе, пад зямлёй, усяго на сорак месцаў. Дала свой плён ініцыятыва Дзмітрыя Багаслаўскага, акцёра Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра, вядомага драматурга і актывіста ў справе прасоўвання сучаснага беларускага тэатра. Яго вострасацыяльная пастаноўка на тэму наступстваў украінскай вайны, вайны ўвогуле ў яе прамым дачыненні да чалавека і сям’і «Саша, вынесі смецце» па п’есе сучаснага ўкраінскага аўтара Наталлі Варажбіт стала першым і пакуль што адзіным спектаклем на Малой сцэне Маладзёжнага тэатра. Так, пакуль што. Ведаючы Багаслаўскага і яго любоў да дакументальнага тэатра…

Пра будучыню эксперыментальнай сцэны Маладзёжнага, як і пра будучыню самога тэатра можна сказаць, выкарыстоўваючы ўласны выраз Дзмітрыя Багаслаўскага. Ім ён скарыстаўся ў адным з інтэрв’ю, калі яго папрасілі назваць тую з сваіх п’ес, якую ён лічыць лепшай.

Лепшае заўсёды наперадзе.

## Вітаўт Чаропка

# Каб можна было сказаць…

Упершыню ягонае імя я пачуў у класе чацвёртым. Тады я і не падазраваў, што мой лёс дзіўным містычным чынам пераплятаецца з лёсам гэтага чалавека, тады я яшчэ не ведаў пра наканаваную заканамернасць выпадку. Настаўніца беларускай мовы і літаратуры — Валянціна Мацвееўна Зуёнак — жонка цяпер ужо мэтра паэзіі Васіля Зуёнка, усяляк намагалася ўбіць у нашыя бязглуздыя галовы беларускую мову, якую тады пагардліва называлі «дзеравенскай» тыя «калхознікі», якія зрабіліся гараджанамі і размаўлялі на дзікай трасянцы, па-культурнаму на «гарадской». Колькі я нацярпеўся за сваю «дзеравеншчыну» ад аднакашнікаў, для якіх быў парыем, калі мяне прама з вёскі ад бабулі кінулі ў асяродак азлобленых сабачанят. Сваім наіўным розумам я не мог зразумець, што я размаўляю на зусім іншай мове, чым яны, з якой яны смяяліся ідыёцкім смехам. Я не мог уцяміць, чаму вочы раптам ператварыліся ў незразумелыя «глаза», вусны — у грубыя «губы», вёска — у цяжкую для вымаўлення «деревню», хутчэй — у «быстрей» і г. д. Я не ўмеў не окаць, не чвокаць, не праглынуць у сябе пявучае ў. Незразумелыя словы, самае іх нязвыклае гучанне рэзалі мой слых, як раздражальны віск бензапілы. Я не так цяўкаў як яны, у мяне была воўчая інтанацыя. Яны адразу адчулі, што я не іх, і збіліся ў зграю, каб расправіцца са мной. Так данялі сваёй «дзярэўняй», што я аднаго разу выхапіў у дзяўчынкі скакалку і адлупцаваў ёю усіх, хто трапіў пад руку. Тады я не ўсведамляў, што гэта быў мой першы бой за мову, тады я хацеў хутчэй забыцца пра яе, вытравіць з душы, стаць такім жа паўнавартасным сабачонкам, як і мае аднакашнікі. І праз год, калі прыехаў да бабулі ў вёску, мяне пахвалілі за тое, што хараша кажу па «гарадскому». Так адна мова ўвайшла ў маю душу сваёй моўнай стыхіяй, а першасная, як бедненькі ўродзец, забілася некуды ў яе куточкі і затоілася, каб не выдаць сябе і не падставіць мяне на смех і кпіны.

І вось вар'яцкая беларусічка ўдоблівае нам гэтую «дзеравеншчыну», сабачаняты скуголілі і ціха ненавідзелі і яшчэ больш баяліся гэтай няміласцівай настаўніцы. Але ж на гэтай мове



Уладзімір Караткевіч. Фота Валянціна Ждановіча. 1980 год.

размаўляла мая любімая бабуля і мая матуля, і мова гэтая была мне сваёй і ў адрозненне ад аднакашнікаў я свабодна размаўляў на ёй і ахвотна чытаў беларускія кніжкі. Хоць чытаць не было чаго. Мяне, натуральна для майго ўзросту, прыцягвалі прыгоды і гісторыя з іх дынамічнымі сюжэтамі, а ў беларускай літаратуры гэтага дабра, як кот наплакаў. Паблукаў з палескімі рабінзонамі па лясных гушчарах, пабываў на акіянскіх выспах дзякуючы Янку Маўру — і ўсё, а там пайшло: мушкецёры, каўбоі, індзейцы, піраты і іншая экзатычная публіка. А хто з беларускіх пісьменнікаў мог напісаць нешта захапляльнае на ўзроўні таго ж Маўра? Мяркуючы па школьным курсе беларускай літаратуры, у ёй пісалася аб горасным лёсе забітага і дурнога, як варона, мужыка-бедака, пана касы і сахі, або хвалебныя опусы партыі, Леніну і ўсім іхнім сярпам і кавалдам з чырвонай зоркай заадно, камсамольскім і партыйным білетам і іншым атрыбутам улады савецкіх бюракратаў. Уражанне ад такіх твораў

падобнае на пакуту, якую вымушаны трываць толькі таму, што ты беларускі школьнік і павінен усю гэтую лухту чытаць. Настаўніца вырашыла калі не ў галовы ўбіць мову, дык крануць ёю нашыя душы. Яна вадзіла нас у тэатры на «Паўлінку» і «Несцерку», у музеі Купалы і Коласа, круціла на ўроках кружэлку славутых «Песняроў» з іх нябеснымі галасамі. Запрашала да нас на сустрэчы пісьменнікаў. Усяляк прышчапляла да нашых заскарузлых языкоў беларускае слова. На адным з урокаў паказала кнігу і параіла прачытаць аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» нейкага невядомага мне Уладзіміра Караткевіча, бо аповесць такая захапляльная, што зачытаешся. На жаль, у школьнай бібліятэцы такой кнігі не было, і маё знаёмства з творчасцю Караткевіча адклалася на гады. Можа гэта і добра. Можа на той дзіцячы час я і не дарос да ўспрымання Караткевіча, і ў «Паляванні» мяне заняў бы толькі захапляльны сюжэт, а патаемны сэнс аповесці гэтак і застаўся б для мяне патаемным. А пасля з-за сваёй прадузятасці да белліту я доўгі час не браў у рукі кніг Караткевіча, як і іншых беларускіх аўтараў. Можна было смела паставіць мне дыягназ: бульбаш-беларусін зрабіўся амаль рускім чалавекам.

Пэўна, так было заўгодна Богу, ці наканавана лёсам, што гэтае знаёмства ўсё ж адбылося. Ужо ў старэйшых класах на сумным уроку фізікі, каб не мурыжыць сябе фізічнымі законамі, я выцягнуў з шафы, што стаяла побач з маім сталом, часопіс «Нёман», пагартаў яго і патрапіў на «Ладью отчаяния» Уладзіміра Караткевіча (рускі пераклад ягонай «Ладдзі роспачы»). Тут і згадалася, як некалі хваліла яго аповесць Валянціна Мацвееўна, і пачаў чытаць «Ладью», балазе па памерах яна ўкладвалася ў школьны ўрок. Цяпер, зразумела, цяжка выказаць усе пачуцці, выкліканыя гэтым творам. Ён уражваў сваім фантасмагарычным сюжэтам — гульня ў шахматы з самой вешчай смерцю і выйгрыш у яе рагачоўскага шляхціча і весялуна Гервасія Вылівахі — як гэта незвычайна. Такога ў літаратуры я дагэтуль не сустракаў. Гэта ўражвае і запамінаецца. І гэты схаваны сэнс, што вабіць сваёй неразгаданай таямніцай, бо ў ёй схавана нешта, што табе яшчэ ці не падуладна разуменню ці рана ведаць. Гэта не проста дарослае жыццё, якое, хоць і пужае сваёй невядомасцю і складанасцю, але ўяўляецца цудоўным, гэта смерць, пра якую ў юнацтве не думаеш, ведаеш, што яна ёсць, але не для цябе, бо жыццё такое доўгае, што ні ты да смерці не дойдзеш, ні яна да цябе, і ваша сустрэча не адбудзецца, бо ты бессмяротны. Не мог і ўявіць, што і мне прыйдзецца іграць на сваё жыццё.

У той жа дзень у школьнай бібліятэцы я ўзяў кнігу прозы Караткевіча «З вякоў мінулых» і выбраў сабе лёс. За вечар прачытаў у запой «Дзікае паляванне». Дзякуй, Валянціна Мацвееўна, за добрую параду! Угадвалася падабенства сюжэта з «Сабакам Баскервіляў» Артура Конан-Дойля. Але ж гэта не было сляпым перайманнем. Сюжэт Караткевіча больш распрацаваны і разнастайны, героі больш жывыя і каларытныя, чым у знакамітага дэтэктыўшчыка; метады дэдукцыі ім невядомыя, яны не шукаюць у балотах пачвару, пачвары акружаюць іх у жыцці, яны высвятляюць ісціну, як такое магло здарыцца з іх краінай, і гэтую ісціну ніякімі дапушчэннямі, лагічнымі канструкцыямі не высветліш. Трэба ісці навобмацак, амаль невідушча, як у непрыглядных мінойскіх лабірынтах, шукаць выхад на святло, выхад з безнадзейнасці і баязлівасці. А за ісціну даводзіцца плаціць дорага, бо наша ісціна заўсёды трагічная.

Да паловы аповесці я гэтак і не зразумеў, што я чытаю: дэтэктыў, ці нейкую фантасмагарычную містыку, ці раман жахаў — усё перамяшалася тут, як у чортавым кубле. Увогуле, Уладзімір Сямёнавіч, як мне здаецца, любіў змешваць розныя жанры, а ў выніку атрымлівалася тое адмысловае, дзе кожны знаходзіў сваё — адзін прыгоду, другі інтрыгу, трэці каханне, чацвёрты рамантыку, пяты эстэтыку стылю і мовы, а таму, каму балела сэрца за радзіму, горкія лекі суцяшэння ад адчаю, хоць у адчаі знайсці сілы супрацьстаяць непазбежнаму і фатальна-разбуральнаму. Ці не аб гэтым сведчыць хітраваты Вылівахa, ягоны адчай ад боязні згубіць каханую, наш адчай ад шматлікіх горкіх страт… і пошук выйсця. «Горка стала беларускаму майму сэрцу, калі пабачыў я такую занядбаласць нашых лепшых, залатых нашых слоў і спраў». Дзеля гэтых слоў варта было падымаць з нетраў мінуўшчыны прывідаў караля Стаха і саджаць іх на коней, каб імчаліся яны ў сваёй спрадвечнай пагоні за намі, каб ведалі мы: іх мячы

свой скарб, каб, калі прыйдзе час аддаць яго людзям.

І так Караткевіч павёў мяне, як валанцёра, за сабой. Тады і ўзнікла ў мяне жаданне быць пісьменнікам. Я не ведаў як пісаць, што пісаць, як нешта вартае прыдумаць, але ведаў дакладна: буду, як Караткевіч, пісаць гістарычнае і пабеларуску.

Набраўшыся смеласці, я даслаў Уладзіміру Сямёнавічу ліст. З нецярпеннем чакаў адказу, дык так і не дачыкаўся. Я не крыўдую на яго, бо я павінен быў прайсці свой прызначаны лёсам шлях, без апекі добрага дзядзькі, без ягонай клапатлівай рукі і асцярагальнай падказкі. Зрэшты разабрацца ў самім сабе, бо, хто сказаў, што я змагу пісаць, калі яшчэ і жыцця не ведаў і не ведаў, што такое пісьменніцтва. Але нічога няма мацнейшага для рамантычнага юнака за юнацкую мару. «Буду і ўсё», — вырашыў я. І вось я ёсць, можа і не пісьменнік, але ўсё ж прыдумваю і пішу, як вось гэтае эсэ.

На выпускным экзамене, цяпер ужо ў далёкім 1978 годзе, па белліце мне патрапіўся білет з пытаннямі пра жыццё і творчасць Максіма Багдановіча і сучасную беларускую літаратуру. Сорамна прызнацца, але тагачасны вучань Чаропка ведаў больш па гэтых пытаннях, чым сённяшні пісьменнік Вітаўт Чаропка. Шмат ужо забылася, але свой трыумф не забываецца. Пра Багдановіча я расказаў усё, што вычытаў пра яго, нават і санет «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…» прачытаў на памяць і перайшоў да сучас-



Пятро Драчоў. Фота Валянціна Ждановіча.

заўсёды вісяць, як вечны праклён, над нашымі галовамі. Гэткі боль сцяў і маё маленькае беларускае сэрца. Караткевіч раскрыў мне вочы на тое, што, апроч, вялікага магутнага Савецкага Саюза, у нас ёсць і маленькая Беларусь! Ну і сапраўды, што гэта такое — нічога ў нас няма, усё раскрадзена, разграбавана, разбурана, затаптана ў бруд. Чым жа ганарыцца? Беднасцю і ўбоствам! Як напіцца чыстай вады, калі крыніцы забруджаныя? Было мне скрушна, што нашы храмы зруйнаваны ціператвораны ў склады ці спортзалы, што наша спадчына разрабавана, што наша гісторыя перакручана і аплёвана. Як можна было жыць у такой краіне сярод людзей без сваёй нацыянальнасці і культуры? І адно адхланне для душы — кнігі Караткевіча (зноў кнігі — гэтыя святыя носьбіты чалавечых думак і пачуццяў), і думаю, не толькі для мяне. У тым галодным бездухоўнасцю грамадстве ягоныя творы, як манна нябесная, насычалі людзей духоўнай ежай (пра якую так хораша пісалі нашы асветнікі), у пустых ад безнадзейнасці сэрцах запальвалі іскаркі веры.

Але Беларусь была не такая, як нам намагаліся давесці, хаваючы сваё злачыннае разгільдзяйства і абыякавасць, і я ганарыўся ёй, калі чытаў «Каласы пад сярпом тваім». Жылі ж на ёй людзі, якія не толькі перажывалі за гаротную долю радзімы і свайго народа, але гатовы былі дзейнічаць, змагацца, ахвяраваць сабой дзеля яе светлых ідэалаў і дзейнічалі, змагаліся, ахвяравалі сабой. І маё маленькае беларускае сэрца зрабілася вялікім, каб увабраць у сябе ўсё, што ўбачу, аб чым даведаюся, што знайду. Там я схаваў ад пракуратараў і наглядчыкаў, добраахвотных вяртухаяў і сэксотаў

най белліт, сыпаў прозвішчамі, называў творы-імёны-творы-імёны-творы. Хто аб рэвалюцыі што напісаў, хто аб сацыялістычным будаўніцтве, хто аб вайне, хто аб нашым светлым грамадстве — імён хапала. Здзіўленай настаўніцы белліт ніяк няўцям: ці гэта Чаропка — злосны прагульшчык, абармот і абібок, які па сваім разумовым развіцці не дарос нават да 6-га класа? Ідыёт самы пастаянны, што тут скажаш! Называю і раман Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». У настаўніцы, яшчэ маладой выпускніцы педагагічнага філфака, радасна загарэліся вочы, відаць, і ёй спадабаўся гэты раман. Вырашыла яна праверыць мяне, так бы сказаць, на «вашывасць» — ці чытаў я раман, і пайшлі пытанні. Каго яна хацела праверыць? — мяне, які двойчы прачытаў «Каласы» — першы раз у перакладзе на рускую мову, а другі ўжо ў арыгінале! І тады я пачаў тлумачыць, што хацеў данесці чытачу аўтар, і сам пытацца ў яе, ці зразумела яна гэта сама. У членаў камісіі ў вачах свяшчэннае здзіўленне, нібыта загаварыў сам Сфінкс. Ды што там Сфінкс? Ён маўчаў эпохі вечнасцяў і ў будучыні ніхто і нічога ад яго не пачуе. Гэта гаварыў беларус, амаль ужо нацыяналіст, і такога члены камісіі не чулі, што Алесь Загорскі марыў аб свабоднай Беларусі. У камісіі нечаканая праблема: як ацаніць мой адказ. На «пяцёрку», дык ніхто не паверыць у выдатныя веды такога асталопа, як Чаропка, а паставіць «чатыры» несправядліва, бо лепш за яго ніхто з чатырох выпускных класаў не здаў іспыт па белліт. Атрымаў я «пяць» і праславіўся на ўсю школу. Толькі і размоў было, што прыйшоў заспаны Чаропка, не ведаючы нават які экзамен, і здаў яго на «выдатна з плюсам». Так у промнях Караткевічаўскай славы пагрэўся і я, думаю, заслужана, і пераканаўся, што на правільным шляху.

А «Каласы» і дагэтуль для мяне святая кніга. Праўда, не наважуся яе перачытаць: а раптам знікне тое светлае рамантычнае ўражанне, якое яна пакінула ў юнацтве. Гэта як сяточная кашуля — вышыванка: дастанеш з шафы, паглядзіш на яе, палюбуешся, згадаеш былыя святы і схаваеш да лепшых часоў, ведаеш, што яна ў цябе ёсць, таму і не знікае адчуванне свята. Памятаю, як прачынаўся раніцай у доме сваёй бабулі Алесі ў вёсцы з гістарычнай назвай Літвінава, дзе жылі нашчадкі шляхты (адсюль і настальгічная любоў да назвы Літва, бо літвінам я быў раней за беларуса), з радаснай думкай, што зноў сустрэнуся з героямі «Каласоў». Бег у сад па сакавітыя медавікі (смачнейшых за іх не еў яблыкаў) і зноў забіраўся ў ложак з кнігай у руках. Там быў мой свет, туды ляцела мая душа на сустрэчу з душамі высакародных і прыгожых людзей. Што і яднала мяне з гэтым светам, дык сонечныя промні, якія праз шыбы забіраліся ў пакой і клаліся светлымі палосамі на старонкі кнігі. Гэтае адчуванне светласці засталося ў маёй душы назаўжды!

Памятаю начныя размовы з сябрам Аляксандрам Жаўняровічам (светлая яму памяць), рэдкім разумнікам, будучым вучнем знакамітага філосафа Аляксея Фёдаравіча Лосева, і ягоная дзіўная пашана да творчасці Караткевіча. Перад паэзіяй Караткевіча не ўстаяла халодная філасофія. Ёю, як высветлілася, наталялі душу і ягоныя сябры-аднакурснікі: Алесь і Кася Камоцкія, Сяргей Купцоў і маладзейшы Ігар Бабкоў. Колькі мы знаходзілі шматзначных сімвалаў у ягоных вершах і ў любімай Сашавай «Баладзе аб трыццаць першым сярэбраніку». Памятаю катэгарычную заяву Сашкі: «Ды што там саюз пісьменнікаў, яны пяткі Караткевіча не варты». Чаму менавіта пяткі, не растлумачыў. Ці маглі яны параўнацца з гэтым незвычайным чалавекам? І хто яны? Тады я не ведаў. Здаваліся, што з большага яны  непрыкметныя, звычайныя асобы з чорнымі душамі тайных агентаў упраўлення кіравання, асабовага складу, што даносілі адзін на аднаго і арганізавалі «шмон» у ягонай кватэры, украўшы ягоныя рукапісы. Як маглі яны параўнацца з творчымі палётамі ягонай свабоднай душы, з яго радасным ап'яненнем жыццём, з яго сумнай усмешкай добрых вачэй, слязамі за здзек з беларускай мовы, свяшчэннапрыхіленасцю да герояў беларускага змагання, з яго болем за нас і за іх? Але ж былі і сабраты па пяру і духу, што валодалі дарам са слоў ствараць свет, хай і адрозны ад ягонага, кранаць чужую душу ці радасцю ці болем. Усе разам яны ўяўляліся мне манахамі па сваёй ідэалагічнай натуры. А манахі не пішуць пра каханне, яны служаць свайму Богу, забываючыся пра чалавека, яны не бачаць у ім Боскае асветленае каханне, сяброўства і красу — тое, чым жыў Караткевіч. Таму ён быў ерэтыкам у ордэне пісьменнікаў,

у іхнім змрочным кляштары на Фрунзэ, 5: быў не служнікам, а вясёлым сябрам Бога, з якім, пэўна, і піў крупнік, калі сцвярджаў, што Бог жыве на Беларусі. Меў рацыю Сашка, калі казаў, што Караткевіч зрабіў для Беларусі больш за ўсіх носьбітаў пісьменніцкіх білетаў. На той час я не стаў з ім спрачацца. А жыццё падрыхтавала мне амаль Караткевічаўскі сюжэт. Вырашыла выпрабаваць і мяне на сталасць.

Падобна Выліваху, я гуляў у шахматы не са смерцю, а з адным з яе генералаў (назавём яго так), не на жыццё, а на права быць самім сабой. Адбылася гэтая партыя падчас маёй службы ў Савецкай Арміі. Я служыў у элітным батальёне аховы Штаба ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння, што знаходзіўся пад Масквой. Аднаго разу мне выпала суправаджаць ў Крэмль галоўнакамандуючага ракетнымі войскамі генерала арміі Талубка. Вырвацца з абрыдлай казармы ўжо было за шчасце, а тут я еду ў Маскву ў адной машыне з самім Талубка. Ён за рулём, як чалавек, які нікому не давярае адказную справу і робіць яе сам. І як сапраўдны ліхач, гоніць «Волгу» на ўсю магутнасць яе канячых сіл, аж машына суправаджэння, лабасты «Уазік», безнадзейна адстаў. Я на заднім сядзенні кайфую. За акном лясны краявід змяніўся высокай цаглянай агароджай, што, як кітайская сцяна, адгарадзілася ад свету. Талубка праз плячо коратка загадвае мне: «Схавайся, баец». Я няўклюдна прагінаюся, але «калаш», што стаіць паміж кален, замінае мне. Убачыўшы маю замінку, генерал па-простаму раіць: «Пакладзі аўтамат на сядзенне і прыгніся». Я так і раблю. Праехаўшы агароджу, Талубка растлумачыў: «Урадавыя дачы, ахоўны аб'ект». Нават гэты ўсёмагутны генерал, павяліцель ракетнай моцы краіны, асцерагаецца ахоўнага аб'екта, дзе была калісьці дача і Сталіна, і здаецца, там блукае ягоны крывавы прывід.




Калядная паштоўка, намаляваная Уладзімірам Караткевічам і падораная Пятру Драчову.

Вось мы ўязджаем у Маскву, мінаем Трыумфальную арку на Кутузаўскім. Па прыёмніку гучыць голас Зыкінай пра вечную плынь ракі Волгі. Павольны, пявучы голас гучаў як голас самой Расіі. Усё паходзіла на фантасмагорыю. Я ўзброены да зубоў: «калашом», штыкнажом, ды яшчэ пісталет у кабуры на рамні, імчуся па Маскве з камандуючым ракетнымі войскамі. Ці не быў тады сам лёс краіны ў маіх руках? Мы ўрываемся на Красную плошчу і каля сабора Васіля Блажэннага спыняемся. На вачах здзіўленых людзей з чорнай «Волгі» з'яўляецца юнак у ваенным абмундзіраванні, узброены, як амерыканскі камандас. Не ведаю, што яны падумалі, але я апынуўся ў цэнтры ўвагі, адчуваючы на сабе людскія погляды, не трывожныя, а зацікаўленыя. Рэдка ўбачыш чалавека з баявой (а не халастой, як на парадах) зброяй на Краснай плошчы, а ў тыя мірныя часы і падаўна. Але я іх, я свой! Яны ўсміхаюцца мне і радасна вітаюць узмахамі рукі. Прадстаўленне хутка закончылася, бо я перасеў у машыну суправаджэння, а Талубка на сваёй «Волзе» з ад'ютантам ірвануў у апраметную зеўру Спаскай вежы на даклад вышэйшаму начальству, хоць, пэўна, сам Бог быў яму начальнікам. Пасля мы ў нейкай падваротні чакалі па аўтамабільным тэлефоне загаду забраць галоўнакамандуючага. У такія часы бяздзеяння, вымушанага

і безальтэрнатыўнага, міжволі пагружаешся ў дрымоту. У маёй галаве мроіліся адрыўкі нейкіх фантасмагарычных відзежаў. Відавочна, што я стаў наркаманам неверагоднага рамантычнага, летуценнікам са зброяй у руках.

Назад мы вярталіся ў цемры, і мне ўжо не давялося хавацца ад пільнага зроку аховы важнага аб'екта. Талубка моўчкі, пагружоны ў свае дзяржаўныя праблемы, гнаў машыну, што яскравым святлом фар працінала наскрозь начныя сутарэнні. За акном мільгалі далёкія агеньчыкі чалавечага жытла. Я ўсведамляў сябе маленькім салдатам, дзякуючы якому на зямлі і пануе мір і людзям можна спакойна спаць у цёплым ложку. А мы — генерал і салдат — стомленыя і прагаладалыя, мы на іх ахове. У такія хвіліны напаўняешся адчуваннем адказнай місіі, што выпала табе. У кожнага чалавека ёсць свая місія, толькі не кожны выконвае яе, бо аказваецца кволым, непадрыхтаваным і нявартым свайго прызначэння. А мне вось даверылі ахоўваць жыццё вось гэтага маўклівага і засмучонага чалавека, ад вытрымкі і розуму якога так шмат залежала на ўсёй зямлі.

Тая ноч была доўгай. Пачалося вучэнне, і Талубка застаўся ў штабе, а я пры ім, бо па статуту не мог яго пакінуць. Я сядзеў у прыёмнай з аўтаматам на каленях, і выгляд узброенага байца надаваў генералам і афіцэрам, што прыходзілі на прыём да галоўнакамандуючага, пачуццё ўсёй сур'ёзнасці становішча, амаль баявога. Іх было так шмат, што я стаміўся аддаваць ім чэсць, выцягваючыся ў струнку са стула, зрэшты перастаў зважаць на іх. Крайком вока бачыў у прыадчыненыя дзверы генеральскага



Апошні прыжыццёвы партрэт Уладзіміра Караткевіча.
Фота Валянціна Ждановіча. 16 ліпеня 1984 года.

кабінета на сцяне край электрычнай карты, на якой гарэлі і мігацелі рознакаляровыя агеньчыкі. То была тайна тайнаў — месца знаходжання нашых атамных падлодак, ракетных баз, стратэгічных бамбардзіроўшчыкаў, спутнікаў. Там за дзвярыма вызначаўся іх рух, і ставілася ім задача. Ды любы амерыканскі камандас, любы галівудскі Рэмба і супермэн, нават усёпераможны Джэймс Бонд памёр бы ад зайздрасці і шмат аддаў бы, каб хоць разок зірнуць на гэтую карту, а мне давяралі гэтую тайну. Калі арганізацыйны тлум сціх, і генералы і афіцэры, атрымаўшы загады, разышліся, была ўжо позняя ноч. Я, як стойкі алавяны салдацік, заставаўся на пасту, мужна змагаючыся са сном, што хіліў маю галаву ўніз. І раптам з кабінета выходзіць Талубка без кіцеля ў афіцэрскай кашулі, толькі па лампасах можна было прыняць яго цяпер за генерала. Ён быў неяк па-дамашняму просты і па-свойску блізкі, нібыта не генерал, а заклапочаны гаспадар выйшаў да свайго госця і пацікавіўся, ці не стаміўся ён. Хоць я, выцягнуўшыся ў струнку, бадзёра адказаў: «Ніяк не, таварыш генерал арміі», але па маіх стомленых вачах ён здагадаўся, што мяне адольвае сон. Ён моўчкі вярнуўся ў кабінет і неўзабаве выйшаў адтуль, несучы ў руках раскладушку. Ад уражання я нават разгубіўся, стаяў слупам, пакуль генерал раскладаў яе, і апамятаўся, калі ён мне сказаў: «Адпачывай, баец, спатрэбішся — падыму». Я не мог уцяміць, нават уявіць, каб сам галоўнакамандуючы не тое што прапанаваў мне, шараговаму салдаціку, начлег, але сам падрыхтаваў мне ложак, як свайму дарагому госцю ці малодшаму сябру. Ён праявіў да мяне і клопат начальніка, і павагу старэйшага, і дабрыню чалавека — вось што мяне кранула, больш чым уразіла: чалавечнасць. Яна




Пятро Драчоў. З падарожжаў па рацэ Прыпяць з Уладзімірам Караткевічам. 1984 год.

так кантрасна адчувалася пасля рэзкай грубай лаянкі сержантаў, абыякавай знявагі афіцэраў у роце, што я нібыта вярнуўся ў нармалёвае жыццё. Ад удзячнасці да генерала я працягваў стойка сядзець на стуле, сцеражучы яго сон. Калі ён выйшаў зноў і ўбачыў маю пільнасць, прыязна ўсміхнуўся. «Не спіцца? Дык давай згуляем у шахматы, калі ўмееш», — нечакана прапанаваў Талубка. У шахматы я ўмеў гуляць на ўзроўні дзіцячай забавы. Такой несур'ёзнай падрыхтоўкі відавочна не хапала для гульні ў шахматы з генералам, і я гатовы быў ужо адмовіцца, як ён прапанаваў мне спакуслівы стымул. «Выйграеш у мяне, баец, паедзеш у адпачынак на дзесяць дзён». Гэта быў варты прыз, каб хоць паспрабаваць пазмагацца за яго, а калі нават і прайграю, дык самаму галоўнакамандуючаму ракетных войскаў, а за адно гэта варта іграць, як Вyліваху са смерцю. Не скажу, што ў той момант прыгадаў Выліваху, я больш думаў, каб прыстойна прайграць, але становішча нечым было падобным на ягонае — такая ж спакуслівая прапанова дасягнуць немагчымага, і я пагадзіўся. Ды йграў я не са смерцю, а наадварот, з тым, хто стрымліваў яе вар'яцкую лютасць на хісткіх раўнавагах паміж спакоем і разбурэннем.

Да гульні генерал рыхтаваўся, як да свяшчэннага рытуала, відавочна ён багатварыў гэтую старажытную разумную гульню, у якой, здаецца, ты вяршыш лёсамі каралёў і іх армій, а атрымліваецца, яны кіруюць табой. Афіцэр прынёс нам гарбаты і печыва і мы, сеўшы за стол адзін супраць аднаго паміж сваіх армій на шахматным полі бітвы, пілі са шкляніц у металічных падстаканніках гарбату і размаўлялі, як даўнія сябры. Талубка адразу ж забараніў мне называць яго доўгай афіцыйнай тытулатурай таварыш генерал арміі, проста звяртацца на вы, Уладзімір Фёдаравіч. Ён пацікавіўся, адкуль я, і, пачуўшы, што з Беларусі, з Мінска, неяк адразу падабрэў, нібыта сустрэў зёму (земляка). А на пытанне, кім я хачу быць, адказаў, што гісторыкам, але, пэўна ведаючы: пісьменнікам, гістарычным, што для мяне было адно і тое, бо гістарычны пісьменнік — гэта таксама і гісторык, а гісторык не можа быць не пісьменнікам, не можа не валодаць словам. І ўся розніца паміж імі ў тым, што гісторык дзеліцца з людзьмі сваімі ведамі аб жыцці, а пісьменнік — жыццёвым вопытам.

І мы пачалі нашу гульню. Для генерала гэта была разрадка, баўленне часу, для мяне магчымасць хоць неяк неверагодным чынам вырвацца на кароткі час на радзіму, удыхнуць яе паветра, убачыць яе зоры і абняць матулю і за гэта варта было верыць у цуд. Але цуда не адбылося. Вопытнай рукой пераможцы генерал рушыў сваю армію на маё воінства. Як мог я супраціўляўся, губляў сваё воінства і пачаў зацягваць час немінучага паражэння. Можна было, як Выліваха, забалбатаць генерала і скарыстацца яго няўвагай, але з Талубкам такі фортэль наўрад ці прайшоў бы. Хоць у мяне надарылася такая спакуслівая маг-

чымасць, калі ён на нейкі час вяртаўся ў свой кабінет, размаўляў па тэлефоне мовай кодавых слоў і лічбавых сімвалаў: «сокал даляцеў», «дваццаць першы прыбыў», і «архангелы падняліся» і г. д. Будзь бы я сам Выліваха, я ўсе ж не выйграў бы ў гэтага «анёла смерці». І не таму, што ягоная фенаменальная памяць, напэўна, утрымлівала ўсе кропкі, рухі і маршруты «дваццаць першых» «сокалаў і архангелаў» (а значыць ведаў, як табліцу множання, становішча свайго воінства на шахматным полі), таму фортэль Вылівахі не прайшоў бы. Думаю, што Выліваха не змог бы падмануць ягоны давер да сябе, як да роўнага з ім чалавека. Цікава, ці змог бы выйграць Выліваха ў смерці ў аблічы даверлівай і крохкай дзяўчынкі, якая глядзела б на яго закаханымі вачыма? Ці змог бы падмануць яе даверлівасць? Усё ж я дацягнуў партыю да ганаровага паражэння і заслужыў цвёрды поціск мужнай рукі майго саперніка. Я прызнаў, што ён выдатна гуляе ў шахматы, чым не толькі схаваў сваю дзіцячую кволасць, але ўсцешыў яго гонар шахмаціста, і для большага ўражання сказаў:

— Вас і Выліваха не абыграў бы.

У яго стомленых вачах адбілася здзіўленне, нібыта ён пачуў нешта незвычайнае.

— А хто ён, гэты Вылівага? — спытаўся генерал (менавіта так — Вылівага).

— Як жа, — ува мне прачнулася мая жартаўлівая натура, і я асмеліўся жартаваць пасля таго, як прайграў свой адпачынак. — Выліваха выйграў у шахматы ў самой смерці.

Пэўна, паведамленне аб налёце амерыканскіх першынгаў не здзівіла б Талубка, як гэтая мая фраза. Ён няўцямна паглядзеў на мяне, чакаючы адказу, можа нават злуючыся на сябе за няведанне гэтага Вылівагі, такога выдатнага шахмаціста. Тады мне і давялося збольшага пераказваць «Ладдзю роспачы». Маўляў, жыў у беларускім Рагачове такі вясёлы і бесшабашны гуляка Гервасій Выліваха, якога захацела правучыць смерць. Але пакуль перапраўляўся ён на той свет, дык закахаўся ў пяшчотную дзяўчыну, ды так, што захацеў выратаваць яе ад смерці. А смерць прапанавала сыграць з сабой у шахі на яго і дзявочае жыццё. Смерць не пераможаш, яна ўсё ведае наперад. А Гервасій перамог.

— І як жа? — спытаўся зацікаўлены маім апавяданнем генерал.

— Проста ён адбурыў яе, схітрыў і сцягнуў з дошкі некалькі яе фігур, а яна не магла ўцяміць, як такое адбылося, як чалавек уцёк ад свайго лёсу, дзе яна праглядзела, дзе яно не так.

— Прыгожае паданне, — задумліва сказаў Талубка. — Дык ты, баец, лічыш, што Вылівага не перамог бы мяне? — Усё ж ён не ўтрымаўся, каб завочна не памерацца сіламі з Вылівахам праз мяне, трацейскага суддзю.

Мой прысуд, канечне, быў на ягоную карысць не з-за падхалімства, а проста ёсць людзі, якіх нават заўзяты махляр пасаромеецца аблапошыць, рэшткі сумнення не дазволяць, таму што яны хоць і бачаць яго махлярства, але вераць у яго прыстойнасць. Нешта падобнае я сказаў Талубка, і адказ мой яму спадабаўся, ён задумаўся, і рассмяяўся, пакачаўшы галавой.

— За тваё адважнае змаганне, ведаеш, баец, адпушчу цябе ў адпачынак. Люблю чэсных, будзь такім. Перамагчы можна і чэсна, заслужыць перамогу.

Бывае, забываеш цэлыя гады свайго жыцця, яны правальваюцца ў беспамяцтва аднастайных дзён, а вось такія імгненні ўпісваюцца ў кнігу жыцця назаўсёды, і не з-за пачуцця радасці, а вось з-за гэтага амаль бацькоўскага пажадання заставацца чэсным, хоць гэта цяжка, а трэба быць чэсным хоць перад самім сабой.

Гэтую гісторыю я часам за трункам расказваю знаёмцам, а яны недаверліва сумняваюцца: з галоўнакамандуючым гуляў у шахматы? Не вераць ці не могуць паверыць, быццам тут было нешта неверагоднае, быццам лёс не зводзіць нас па жыцці з самымі рознымі людзьмі ад простага недарэкі да вялікага Гэтсбі. Вось і Выліваха гуляў у шахі са смерцю і, дзякуючы Караткевічу, мы гэта прызнаём як факт, хоць не гістарычны, але літаратурны дакладна. У гэтым і сіла літаратара — знайсці патрэбныя словы, сугучныя чытачу пачуцці, каб самае неверагоднае ўспрымалася ім за праўдзівае. І калі я скажу, што гісторыю з Талубкам я прыдумаў, дык цяпер, калі яна напісана, мне наўрад ці паверыць; заўважаць, што такое нельга прыдумаць і ўздыхнуць са шкадаваннем, бо так хочацца, каб гэта было праўдай, хай і прыўкрашанай. Вось каб я напісаў, што я выйграў у Талубка і той, трымаючы нашу дамову, адпусціў мяне ў адпачынак, дзе я пазнаёміўся з чароўнай



Пятро Драчоў.

дзяўчынай і мы пакахалі адзін аднаго і далейшы шчаслівы галівудскі хэпі-энд, — гэта было б чыстай вады сачыніцельства і скепсіс на вуснах чытача, я зразумеў бы і сам разам з ім пасмяяўся з майго сачыніцельства.

У адпачынак я ўсё ж не з'ездзіў: ці Талубка забыўся за ўсімі сваімі галоўнакамандуючымі клопатамі даць належны загад, ці мяне проста не захацелі адпусціць.

Усё ж я не перажываю, што гэтак і не скарыстаўся сваім выйграным прызам — адпачынкам па начальніцкай ласцы. Няма худа без дабра — раю ўсім няўдачнікам узяць гэтае выслоўе за жыццёвы імператыў. І ў самай горкай горасці ёсць свае станоўчае і добрае, што дапаможа табе. Некаторыя салдаты з нашай роты служылі на дачы Талубка і нават прайгравалі яму ў шахматы, але ніхто з іх так і не атрымаў ад галоўнакамандуючага галоўнага прыза — адпачынку за пройгрыш. Цяпер можна ўявіць, кім мог зрабіцца і я, дачны салдат галоўнакамандуючага: якім пасланцам па асабістых даручэннях, вечным прапаршчыкам, і даслужыцца спакойна пры штабе да ваеннай пенсіі, а пасля наракаць, што мог бы быць пісьменнікам, а зрабіўся задаволеным жыццём пенсіянерам і замест крылаў — іх рудыменты — пагоны, як у Караткевічаўскай «Баладзе пра архангелаў». Гэта пра такіх дачных салдатаў, прыстасаванцаў і шукальнікаў цёплага месца, разбуральнікаў сваёй мары напісаў ён. А я выйграў права быць тым, кім хацеў быць, — самім сабой!

Так творчасць Караткевіча ўвайшла ў маё жыццё, у значнай ступені перайначыла яго, ды хіба толькі мяне аднаго. Як прызнаваўся мне Анатоль Казлоў, ён плакаў над старонкамі рамана «Нельга забыць» — гэтай кранальнай гісторыі кахання. Цяпер любяць называць мяне вучнем Караткевіча, мабыць ім відней ці хочуць так бачыць, бо вялікі пісьменнік не можа не паўплываць на іншых пісьменнікаў. У «вучні» Караткевіча я залічыў бы ўсіх, хто пайшоў пракладзеным ім шляхам, — і Уладзіміра Арлова, і Вольгу Іпатаву, і Генрыха Далідовіча, і Леаніда Дайнеку, і Мар'яна Віжа, а з маладзейшых таго ж Анатоля Казлова з яго фантасмагорыямі, і Алеся Наварыча, і Фёдара Конева, і можна доўжыць гэты спіс. Хоць непасрэдна сам Караткевіч нічому мяне не вучыў, але настаўнік не той, хто вучыць, а той, у каго мы вучымся.

І як жа мне было паверыць у смерць любімага пісьменніка? Паведаміла пра яе матуля: маўляў, чула па радыё, што памёр твой Караткевіч. Гэтыя словы прагучалі жахліва, як страшны прысуд, які ўжо ніяк не адменіш. На нямое пытанне: «Як жа так?» мне ніхто не мог адказаць, і сам я не мог адказаць. Такога не можа быць. Я не верыў, не хацеў паверыць у гэтую страшэнную смерць. Гэта немагчыма — страціць такі талент, бо толькі яму было пад сілу ўславіць у творах Беларусь на ўвесь свет, як Джойсу свой шэры Дублін ці Гамсану сваю ўбогую Нарвегію. Балюча і горка было ўявіць, што засталіся незавершаныя «Каласы» і не будзе ўжо новых ягоных твораў. Смерць адпомсціла за свой крыўдны пройграш, украла ў нас самы вялікі літаратурны талент, і, пэўна, не адзін я адчуваў і

смутак, і халоднае сіроцтва, нібыта пазбавіліся мы не толькі сябра і мудрага дарадчыка, а клапатлівага апекуна нашай зямлі, якую ён ахінаў сваімі белымі крыламі і саграваў сваёй любоўю. Зноў у нас, беларусаў, забралі каштоўнае.

Страта ў якую я не хацеў верыць, нават пачуўшы па радыё паведамленне, убачыўшы па тэлевізары яго жалобны партрэт, прачытаўшы ў газетах некралогі — усё роўна, здавалася, адбылася нейкая фантасмагарычная памылка. І калі на афішы Тэатра юнага гледача ўбачыў прозвішча рэжысёра Уладзіміра Караткевіча з радасцю падумаў, адбылася памылка: Уладзімір Сямёнавіч жывы, працуе рэжысёрам, а нехта яго ўжо пахаваў. Толькі на магіле я паверыў у яго смерць.

З таго часу я не люблю прысутнічаць на пахаванні сяброў ці блізкіх і дарагіх людзей, не хочацца ўвачавідкі бачыць, як смерць распісваецца ў сваёй усёмагутнасці на вяночнай лентачцы: «Быў ён, а цяпер няма і не будзе». У гэтай жорсткай нечалавечай гульні з ёй я хаваю сваіх сяброў у маё сэрца, яны жывуць там, як дагэтуль жылі ў сваіх дамах. Там, у памяці сэрца, яны заўжды былі, ёсць і будуць, і смерць бяссільная перад імі, яны ўжо бессмяротныя ў сваіх творах і нашай памяці.

Нешта містычнае звязвае мяне з гэтым чалавекам. Вось і тады, шукаючы ягоную магілу на Усходніх могілках (якія недарэчна называюцца Маскоўскімі), я патрапіў на магілу невядомага мне паэта Анатоля Сербантовіча. Уразілі радкі з ягонага верша, выведзеныя на металічнай блясе, прымацаванай сіняй ізалентай да сціплага металічнага помнічка:

Не думайце з трывогай пра вечнасць,
Забудзьце пра хвіліны забыцця:
Складаецца з трагедый чалавечых
Вялікая трагедыя жыцця.

Так я адкрыў гэтага невядомага паэта. Сапраўды, нешта містычнае ў гэтым ёсць. Нібыта сам Дух вялікага сачыніцеля з мінулага лунае над нашай зямлёй і дапамагае нам знайсці тое, што згублена, убачыць тое, што не ўбачана, пачуць яшчэ не пачутае. Таму, пэўна, так і здарылася, што лёс мяне звёў з сябрамі Уладзіміра Сямёнавіча, і яны за яго падтрымалі мяне і дапамаглі і справай, і словам. Рукапіс майго першага рамана «Храм без Бога» чытаў Адам Мальдзіс. Каму яшчэ я, нікому не вядомы ў літаратуры, мог даверыцца, хто яшчэ мог прыязна паставіцца да мяне і да майго сырога і няўклюднага, як толькі што народжанае немаўля, опуса, як не сябар Караткевіча? Адам Мальдзіс сапраўды прыязна і з мудрым разуменнем паставіўся да матэрыяла, з якога трэба было выпячы нешта ядомае для чытача. Ён нават заручыўся падтрымкай маскоўскага мэтра Аляксея Каўкі, і той, цярпліва адолеўшы мае старонкі, вынес свой прарочы вердыкт: «Гэты хлопец будзе пісаць». Вось і пішу.

І дзіўным чынам мой лёс пераплёўся з лёсам яшчэ двух сяброў Караткевіча. Так бывае, калі нехта сыходзіць, а памяць пра яго перадаюць іншым ягоныя сябры, ён робіцца адчувальна блізкім табе, а не вобразам у напісаных (а значыць, выверaных і правераных) успамінах, і можна даведацца пра тое, што не адносіцца да друку. Валянцін Ждановіч і Пятро Драчоў, з якімі Уладзімір Караткевіч у ліпені 1984 года разам падарожнічаў па Прыпяці ў сваім апошнім падарожжы па любімай Беларусі. Ждановіч і падлавіў Караткевіча ў хвіліну ягонай тугі, калі той, паглыбіўшы ў сябе, сядзеў на пясчаным прыпяцкім беразе з недапітай паходнай конаўкай у руцэ і, прыжмурыўшы вочы, глядзеў некуды наперад, удалечыню. Караткевіч смутны, ён абстрагаваны нават ад сяброў, ён здаецца адзінокім, гэткім філосафам, якому вось раптам адкрылася ісціна, і ён не ведае, што рабіць з гэтай ісцінай, бо яна не патрэбна, калі яе не зразумеюць іншыя, і няма часу яе давесці і абараніць. Можа ён убачыў смерць…

З мастаком Пятром Драчовым я працаваў шэсць гадоў (1998—2004 гг.) у рэдакцыі «Беларускага гістарычнага часопіса». Пятро аформіў кнігі Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі», «Чорны замак Альшанскі», за што аўтар быў яму вельмі ўдзячны, і апошнюю ўжо пасмяротную «Быў. Ёсць. Буду». (Не магу не нагадаць і пра своеасаблівы мастацкі подзвіг Пятра, а менавіта аднаўленне рукапіснага Жыровіцкага Евангелля — шэдэўра беларускага кнігапісання, сапраўдны мастацкі подзвіг!) Пэўна, не толькі з-за мастацкага таленту Караткевіч сябраваў з Пятром, канешне не так. Пятро быў хлопец свойскі, просты ў абыходжанні, зычлівы да людзей, жартаўлівы, умеў працаваць і адпачываць, асабліва на прыродзе. З такім пры-

*Уладзімір*
*Караткевіч*



Дарагому другу Пецю Драчову ад усяго сэрца і душы, і каб помніў мяне, колькі я таго заслугоўваю.
Ул. Караткевіч
4.I.82 г.

# ЗБРОЯ

АПОВЕСЦЬ

СЛОВА АД АЎТАРА

Той, хто чытаў мой раман «Каласы пад сярпом тваім», памятае, вядома, галоўнага героя рамана князя Алеся Загорскага, князя паходжаннем, селяніна выхаваннем, дэмакрата перакананнямі. Памятае блізнюкоў-братоў Кагутоў, названых братоў героя, «дзядзьку» (і старэйшага сябра) Халімона Кірдуна і іншых, пра якіх аповесць толькі ўпамінае.

Як яна ўвогуле ўзнікла, аповесць «Зброя»? Як вы памятаеце, першыя дзве кнігі рамана канчаюцца «на парозе» паўстання 1863—64 гадоў, заключную фазу якога ўзначаліў на Беларусі і ў Літве сябра Алесеў Кастусь Каліноўскі.

Вядома, што трэба для кожнай рэвалюцыі. Перш за ўсё **ўмовы**, калі большай часткі грамадства робіцца немагчыма існаваць так, як раней, немагчыма цярпець далей сацыяльны і нацыянальны прыгнёт. Умовы, пры якіх меншасць забылася на справядлівасць і штохвілінна папірае нагамі гонар Чалавека, які працуе, корміць, **думае** (а з такіх заўсёды складаецца большасць усякага грамадства, калі гэта не грамадства разбойніцкае, якое здабывае сабе хлеб не плугам, а доўбняй; бывалі ў гісторыі і такія).

**Па-другое**, патрэбна **думка** аб нясцерпнасці свайго становішча і аб тым, як гэта становішча змяніць. Думка, якую ўспрыняла як сваю большая ці меншая частка Гра-

*Мал.* **А. Марачкіна**

4* 51

Старонка часопіса «Маладосць», № 10 за 1981 год.

емна сябраваць і рабіць агульную справу. У сяброўскай бяседзе з любоўю і павагай успамінаў ён пра Караткевіча. Нават расказваў каго Караткевіч падазраваў у абкраданні сваёй кватэры. Назваў яго імя, якое цяпер даволі вядомае. І калі ўжо Караткевіч не «выдаў» яго следству, даючы яму шанц стаць чалавекам, дык і я прамаўчу. Скажу адно, Караткевіч убачыў скрадзены ў сябе пярсцёнак на ягонай руцы і не пачаў высветляць, што да чаго, бо на той час гэта быў яшчэ хлопчык. Па інтанацыі, з якой казаў Пятро пра гэты выпадак, адчувалася, што ён нібыта перадае тую пагарду, з якой Караткевіч пачаў адносіцца да гэтага «хлопчыка», які, дарэчы, цяпер умела гандлюе ягонай памяццю.

Тады я і не падазраваў, што смерць ужо крадзецца і да Пятра. Ён паспеў напісаць успаміны пра тую фатальную вандроўку і надрукаваць іх у «Беларускім гістарычным часопісе». На памяць аб Караткевічу ў мяне захоўваецца невялічкая акварэльная замалёўка ягонага сябра, мастака Пятра Драчова. Чорная хмара паглынула заходзячае сонца, толькі водбліскі промняў таюць у нябёсах і вечаровая чырвань параненага неба, як кроў, сцякае на зямлю. Смутнае пачуццё выклікае гэтая акварэль. Недасказанасць, незавершанасць, разбуральнае… Пятро маляваў яе вечарам таго дня, калі хворага Караткевіча ў суправаджэнні Валянціна Ждановіча на хутканогай «Ракеце» павезлі ў Тураў. І цяпер углядаючыся ў акварэль, гледзячы на тое месца, адкуль Караткевіч адправіўся ў свой вечны шлях, я нібыта застаўся там, на Прыпяцкім беразе, як на беразе вод часу, каб усё ж даплыць да намечанай мэты, за яго і ягоных сяброў, здзейсніць іх мару. Хтосьці ж павінен гэта зрабіць.

У адным са сваіх інтэрв'ю я сказаў, даволі неразважліва, што працягваю тое, што хацеў бы зрабіць Караткевіч. А ён, прынамсі, марыў напісаць два тамы біяграфій славутых беларусаў, дык так і не паспеў. Вось я і ажыццявіў ягоную мару, напісаўшы «Імя ў летапісе» і «Уладары Вялікага Княства», ды яшчэ ў дадатак «Лёсы ў гісторыі» — ажно тры тамішчы. Можа, і не так як ён таленавіта і красамоўна, толькі там, дзе прабіваешся праз зараснікі заблытанага да невядомасці, не да красамоўства, там патрэбны рэзкасць і дакладнасць. Прынамсі, гэтыя кнігі маюць сваю каштоўнасць, хоць бы як крыніца гістарычных ведаў. Як я кажу, я проста пайшоў у лес, у самыя чашчобы і пад атакі машкары і крывасмокаў сабраў для вас дароў лясных, а цяпер ці частуйцеся, ці варыце сабе варэнне ці супы, а я сваю справу зрабіў.

Магчыма, я больш нічога вартага не напісаў і не зрабіў, але я ажыццявіў мару Караткевіча — і ў гэтым ёсць ажыццяўленне ягонай мары.

Ён пайшоў ад нас, але ягоная прысутнасць сярод нас адчуваецца. Памятаю, як у 1987 годзе мы, група маладых тутэйшых, ладзілі мітынг каля помніка Янку Купалу, спраўлялі Дзяды. Народу сабралося небагата і масоўку пераважна склалі шэрыя людзі з адпаведных органаў пільнасці. Памянулі мы нашых песняроў, у тым ліку і Караткевіча. А пасля азяблыя ад вільготнага восеньскага надвор'я сабраліся на кватэры ў Кастуся Тарасава. Маленькую перамогу над рэжымам мы атрымалі, і гэтая перамога абяцала нам лепшую будучыню. Наш святочны настрой не сапсаваў і жахлівы аповед Зянона Пазняка пра Курапаты. Гэта было жахліва чуць, а не толькі ўявіць. Але мы з надзеяй глядзелі ў будучыню, бо сёння мы былі пераможцамі. Тады нехта і заўважыў: «Вось бы абрадаваўся Караткевіч, калі быў бы ён з намі». Шкада, зразумела, што ён не дажыў да гэтага часу, калі Беларусь галасна абвясціла аб сваёй дзяржаўнай годнасці, калі мы выйшлі ў свет і захацелі быць гаспадарамі на сваёй зямлі. Ён, як ніхто, меў права на гэтую радасць, бо жыў і тварыў дзеля гэтага. А можа, лёс збярог яго ад вялікага расчаравання? Балюча было б яму бачыць, як утапталі ў гразюку дарагія яму сімвалы, як канае родная мова. Горка яму было ўсведамляць, што 31 сярэбранік апынуўся ў кішэнях тых, хто гандлюе ягонай Радзімай. Ці вытрымала б ягонае сэрца, калі б ён апынуўся, як народныя пісьменнікі, забытым і апляваным? Ці не вымушаны быў бы пакінуць няўдзячную для яго Радзіму? Ці не зганілі б ягоную творчасць? Ці не забаранілі б ягоныя, асабліва «нацыяналістычныя» творы для вывучэння ў школе, як гэта адбылося з творамі Купалы і Коласа і іншых няўгодных пісьменнікаў? Ці не пра гэта думаў ён на беразе Прыпяці, самотны і паніклы ад цяжару гэтых нярадасных думак?

Але творчасць Караткевіча належыць народу (а гэта не толькі сённяшняе пакаленне, але і будучае), яе не забароніш, не выкрасліш — яна з намі, як наша дастаянне. Пройдзе час, і можа нічога лепшага і адметнага мы не створым, хай хоць сотня Чаропак возьмуцца за асадкі. Час усё расставіць па сваіх месцах, і я ўпэўнены: і праз сто гадоў той, хто прачытае гэтыя радкі, скажа: «Меў рацыю Вітаўт, і не трэба было чакаць сто гадоў».

На Радаўніцу ў 2009 годзе наведалі мы, я і Мікола Сцепаненка, магілу Караткевіча. У мяне ў Серабранцы, і Міколу на яго Уруччы афэлкі (паводле Сцёпы) аднолькава называюць пісьменнікамі — такое мы атрымалі паганяйла. Для ўсіх гэтых далёкіх ад культуры і літаратуры людзей, Кракадзілаў, Павукоў, Тараканаў, Худых, Сухіх, Дохлых і г. д., імёны якіх замянілі «паганяйлы», мы з Міколам пісьменнікі, бо мы нешта пішам. Не важна што, не важна як, не важна колькі, не важна навошта, бо ніхто з іх і радка не прачытаў з нашых твораў, мы ўсё роўна пісьменнікі. Яны ведаюць нас і ганарацца гэтым і просяць напісаць пра іх, бо мы пісьменнікі. А такіх пісьменнікаў хапае, аж на два саюзы пісьменнікаў. І толькі смерць, а пасля запатрабаванасць нашай творчасці людзьмі і часам вызначаць, ці назавуць нас пісьменнікамі, ці забудуць, бо вялікімі пры жыцці не сталі.

Мы сядзелі з Міколам каля магілы Караткевіча, на якой узвышаўся магутны камень з выбітымі на ім імем і прозвішчам пісьменніка — своеасаблівы помнік, створаны не людскімі рукамі, а прыродай, нібыта сама Беларусь увекавечыла памяць свайго вялікага песняра. Побач прыбірала магілу свайго мужа, нейкага генерала, яго сіратлівая ўдава ў чорным жалобным уборы. Пачуўшы нашу размову пра Караткевіча, яна падышла да нас і мовіла:

— Гэта быў вялікі чалавек, але вось магілка яго не прыбрана. Забываецца пачалі пра яго ці няма каму дагледзець.

У яе словах гучаў дакор, і мне зрабілася сорамна і за сябе і за ўсю беларускую нацыю. Не, пра Караткевіча не забылі! Нехта прынёс на яго магілу кветкі і нават навязаў на галінку дрэўца бела-чырвона-белую стужку, але жаўтаваты жвір каля магілы ўсыпала хваёваяігліца. Тады пазычыўшы ў кабеты венік, я падмёў пляцоўку. Хай будзе так — чыста! Але справа не ў праяўленні нашай памяці ці пашаноце таго ці іншага чалавека, а ў тым, якую мы самі пакінем пра сябе памяць і якую прыдбаем пашану, каб людзі сказалі пра нас «Быў. Ёсць. Будзе» і прыбралі засохлыя кветкі з нашых магіл.

*2005, 2011, 2016 гг.*

*У афармленні выкарыстаны фотаматэрыялы з архіваў «Беларускага гістарычнага часопіса» і Вітаўта Чаропкі.*

**Вера Міцкевіч**

# Швагер Якуба Коласа — ахвяра ГУЛАГа

*І таму прарасцем з магілаў,*
*Цераз краты і кайданы,*
*Каб свабодай зямля ўскаласіла,*
*Яе праўдай засеюць сыны!*
Л. Геніюш

Сёлета споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння швагра Якуба Коласа Аляксандра Дзмітрыевіча Каменскага, беларускага настаўніка і выхаваціеля, простага сціплага чалавека, які любіў жыццё, людзей, сваю працу. Лёсам яму было наканавана пражыць 56 гадоў, 4 месяцы і 2 дні.

Аляксандр Дзмітрыевіч Каменскі, пяты сын у сям'і Марыі Цімафееўны і Дзмітрыя Аляксандравіча Каменскіх, нарадзіўся 24.02.1886 г. (08.03. па н. ст.) у г. Ашмяны Віленскай губерні (цяпер — у Гродзенскай вобласці), ахрышчаны ў Ашмянскай Васкрасенскай царкве, дзе служыў псаломшчыкам яго бацька [1]. Праз пяць гадоў там жа пахрысцілі яго малодшую сястру Марыю, будучую жонку Якуба Коласа, у іх сям'і Аляксандр Каменскі пражыў больш за 20 гадоў. Дзядзька Саша, як ласкава называлі яго сямейнікі, у нечым паўтарыў лёс Коласавага дзядзькі «новазямельца» Антося. Сваёй сям'і Аляксандр Дзмітрыевіч не стварыў, а быў клапатлівым сынам, любімым братам, сябрам народнага паэта, выхаваціелем сваіх пляменнікаў Данілы, Георгія (Юркі), Міхася. Аляксандр Дзмітрыевіч быў хросным бацькам першынца Міцкевічаў — Данііла. Пра гэта заўсёды памятаў яго хроснік, мой бацька. Першыя дзіцячыя ўспаміны Данілы Канстанцінавіча звязаны менавіта з дзядзькам: «Пра пермскі перыяд жыцця я нічога не памятаю — мне не было і трох гадоў. Але ўсё ж запомніўся адзін эпізод — мяне трымае на руках дзядзька Саша на беразе вялікай ракі Камы, памятаю шырокую раку і параходы, што плылі па ёй» [3, с. 28].

У архіўным фондзе № 205 БДУ, што знаходзіцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, захаваліся дакументы выкладчыка рабфака БДУ Каменскага. Асаблівы інтарэс для нас уяўляе яго аўтабіяграфія 1925 года, тэкст якой з захаваннем арфаграфіі прыведзены ніжэй:

«*Curriculum Vitae.*

Настаўніка Рабфака

Аляксандра Зьмітравіча Каменскага.

*Радзіўся я ў г. Ашмянах Віленскай губ. ў 1886 г. ў сям'і настаўніка. Калі мне было года чатыры, бацька мой пераехаў жыць на вёску ў Гарадзеншчыну, у Слонімскі павет, дзе і займаў пасаду настаўніка (вёска Харобравічы Слонімскага павету).*

*Вучыўся я ў Жыровіцкай духоўнай школе, а адтуль паступіў ў Віленскую духоўную сэмінарыю.*

*У 1906 г., дзякуючы рэвалюцыйнаму руху, па сканчэнні чацьвертае клясы я атрымаў магчымасць паступіць у Казанскі Унівэрсітэт, дзе і працаваў* [вучыўся. — **В.М**.] *на гісторыка-філёлёгічным аддзяленні.*

*У 1910 г. быў настаўнікам у м. Дуббэльне ў мужчынскай і жаночай гімназіях на Рыжскім узьбярэжжы.*

*У 1912 г. быў настаўнікам у Дзьвінскай Рэальнай школе, і адсюль з пачатку вайны ў 1914 г. быў пераведзены ў г. Бельск у Гарадзеншчыну.*

*У 1915 г. эвакуіраваўся ў г. Абаянь у Курскую губ., дзе з 1915 да 1922 года весь час служыў ў якасці настаўніка і загадчыка цэнтральнае бібліятэкі. У 1922 г. паступіў настаўнікам у санітарную дзіцячую калёнію на Клязьме, каля Масквы. У 1923 г. атрымаў пасаду настаўніка і загадчыка пятай сямёхгадовай школы ў Менску.*

*1923 г., як толькі прыехаў у г. Менск, праслухаў шасці-тыднёвыя курсы па беларусазнаўству і маю аб гэтым пасведчанне. Настаўнік А. Каменскі. 1925 г.*» [4, арк. 3—4].

Удакладнім, што пераезд у Слонімскі павет, хутчэй за ўсё адбыўся не раней другой паловы 1891 — пачатку 1892 года, калі Аляксандру было 5—6 гадоў. Жыровіцкае духоўнае вучылішча ён скончыў у 1902 годзе. У Дзвінскім рэальным вучылішчы выкладаў гісторыю і геаграфію, а ў Бельску — рускую мову, гісторыю і геаграфію ў Прыватнай васьмікласнай з правамі ўрадавых мужчынскай гімназіі.

Падчас Першай сусветнай вайны А. Каменскі быў эвакуіраваны ў г. Абаянь Курскай губерні разам з маці і яе зводнай сястрой Кацярынай Васільеўнай Кукін, апошняя там і памерла ад чорнай воспы ў 1917 годзе. Верагодна, Аляксандр Дзмітрыевіч тады ж ездзіў у Перм, каб дапамагчы



Злева направа: Аляксандр Каменскі, Іван Каменскі, Данііл Цэбрыкаў. Вільня. 1908—1910 гады.

сястры Марусі, на руках якой былі трохмесячны Юрка і амаль трохгадовы Данік, пераехаць да яго і маці ў Абаянь. Да Курска ў адным эшалоне з імі ехаў на Румынскі фронт падпаручнік Канстанцін Міцкевіч. Неўзабаве Якуб Колас вярнуўся да сям'і. Каля чатырох цяжкіх галодных рэвалюцыйных гадоў сям'я Коласа жыла на Куршчыне. Вясной 1921 года Міцкевічы вярталіся на Бацькаўшчыну праз Маскву. Як відаць з аўтабіяграфіі, Аляксандр Дзмітрыевіч на некаторы час застаўся ў Клязьме пад Масквой у старэйшага брата Міхаіла. У 1923 годзе ён пераехаў на сталае месца жыхарства ў Мінск у сям'ю Якуба Коласа, скончыў беларусазнаўчыя курсы, выкладаў у БДУ гісторыю на рабфаку. Апрача расійскай і беларускай валодаў лацінай, грэчаскай і нямецкай мовамі [4, арк. 1].

Настаўнічаў А. Каменскі ў школах і тэхнікумах Мінска. Пра яго з павагай, цеплынёй і любоўю ўспаміналі яго былыя вучні — прарэктар Беларускага політэхнічнага інстытута Мікалай Юркштовіч, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР Георгій Гаранскі, юрыст Рыгор Федарэнка, блізкія і знаёмыя сям'і народнага паэта Канстанцін Самахвал, Анатоль Лавыш, Маргарыта Прозарава-Аліханава, Валянціна Процька (Сай), Галіна Уладамірская і іншыя. Славуты скульптар Заір Азгур прыгадваў у сваіх успамінах, як упершыню пераступіў парог Коласавага дома ў 1924 годзе і як першым яго ветліва сустрэў дзядзька Саша, пры гэтым Азгур адзначыў яго маладжавы выгляд і заўважыў, што ён быў трохі ссутулены, безбароды, але з вусамі.

Як успаміналі сыны народнага паэта, у сям'і панавала атмасфера павагі, любові, шчырасці. Дзядзьку Сашу ўсе любілі. Ён выхоўваў пляменнікаў сваім прыкладам, далучаў да працы ў доме і па гаспадарцы; развіваў цікавасць хлопцаў да вучобы, а калі патрабавалася, дапамагаў у засваенні школьнага матэрыялу, навучыў гуляць у шахматы. З лістоў А. Каменскага да брата Міхаіла ў Клязьму (цытуем у перакладзе на беларускую мову): *«Цяпер я загадваю дзвюма школамі і акрамя таго працую ў якасці выкладчыка ва Універсітэце… Я з Данікам займаюся нямецкай мовай. Абодва яны, Данік і Юрачка, вучацца ў беларускай школе. Дзеці вельмі жвавыя, Юрачка — хлопчык гарэзлівы.»* (без даты, да 1926 г.); *«Канстанцін Міхайлавіч служыць і працуе. Маруся завіхаецца па гаспадарцы. Данюша ў 7-й групе сямігодкі, яму пайшоў ужо 14-ы год. Юрачка ў трэцім класе, а Міхась усё ходзіць па лесвіцы з першага паверха на другі і назад. Ён вельмі слаўны хлопчык.»* (ад 6.12.1927 г.) [5].

У 1926—1927 гадах Міцкевічы пабудавалі хату на сядзібе, што месцілася на пачатку 2-га Шпітальнага (Вайсковага) завулка, цяпер гэта тэрыторыя дзіцячага парка імя Горкага. Арганізатарам будаўніцтва стаў Аляксандр Дзмітрыевіч. Па яго парадзе Міцкевічы выбралі тып двухпавярховага дома з замежнага будаўнічага часопіса, які дзядзька Саша прывёз ад старэйшага брата Міхаіла з Клязьмы. Марыя Дзмітрыеўна шкадавала высякаць пладовыя дрэвы на ўчастку, таму было вырашана пабудаваць двухпавярховы дом на манер англійскага катэджа. Аляксандр Дзмітрыевіч прыцэньваўся, падбіраў розныя брыгады

рабочых, працаваў з імі, стараўся ўвайсці ў курс будаўнічай справы. Дом атрымаўся на славу, чатырнаццаць гадоў пражыла там сям'я народнага паэта. Падчас летніх адпачынкаў сям'і Коласа ў розных маляўнічых мясцінах Беларусі дзядзька Саша часта заставаўся ў горадзе, даглядаў сядзібу.

Лёс Аляксандра Дзмітрыевіча, тады выкладчыка архітэктурна-будаўнічага тэхнікума, зрабіў круты паварот у 1938 годзе. У ноч з 5 на 6 лютага ў доме Якуба Коласа арыштавалі дзядзьку Сашу. У 1930-я гады падчас масавых сталінскіх рэпрэсій загінулі мільёны грамадзян Савецкай краіны, лепшыя прадстаўнікі нацыянальных эліт. Арышт А. Каменскага быў не выпадковым. Органы НКУС рыхтавалі новую «справу» на Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, Кандрата Крапіву, Петруся Броўку, Пятра Глебку, Анатоля Багатырова і іншых дзеячаў беларускай культуры. Паколькі гэты «сцэнарый» не быў здзейснены, А. Каменскі атрымаў па прыгаворы *5* гадоў лагераў. Але і гэтага тэрміну было дастаткова, каб родныя больш ніколі не ўбачылі дзядзьку Сашу.

Спачатку А. Каменскага трымалі ў Мінску ў турме. У адпаведнасці з Пастановай «Особого Совещания при НКВД СССР» ад 10 кастрычніка 1938 года за «контррэвалюцыйную агітацыю» Аляксандр Дзмітрыевіч быў зняволены ў папраўча-працоўны лагер — Усольлаг, куды прыбыў 12 снежня этапам праз Аршанскую турму. Спробы адшукаць справу А. Каменскага № 36844-БССР дагэтуль не мелі поспеху. Архіўную даведку аўтарка атрымала з горада Салікамска Пермскага краю Расіі.

Усольлаг (Усольскі папраўча-працоўны лагер) быў заснаваны 5 лютага 1938 года загадам НКУС СССР. Гэта было звязана з будаўніцтвам Салікамскага сульфіт-цэлюлознага завода і дапаможнай вытворчасці як нарыхтоўка лесаматэрыялаў і будаўніцтва дарог. У 1938—1941 гадах Усольлаг быў падпарадкаваны ГУЛАГу НКУС СССР, а з 1941 года — УЛЛП (Упраўленне лагераў лясной прамысловасці) НКУС СССР. Усольлаг займаў амаль усю поўнач Молатаўскай (Пермскай) вобласці, плошча яго складала 270 тыс. кв. км, на 220 км працягнуўся ён з захаду на ўсход і на 270 км — з поўдня на поўнач. На такой тэрыторыі магла б змясціцца не адна еўрапейская дзяржава, а колькі яшчэ было такіх лагераў!


ГЛАВНОЕ УПРАВЛЕНИЕ ФЕДЕРАЛЬНОЙ
СЛУЖБЫ ИСПОЛНЕНИЯ НАКАЗАНИЙ
ПО ПЕРМСКОМУ КРАЮ
ФЕДЕРАЛЬНОЕ КАЗЕННОЕ УЧРЕЖДЕНИЕ
ЦЕНТР ИНЖЕНЕРНО-ТЕХНИЧЕСКОГО
ОБЕСПЕЧЕНИЯ
(ФКУ ЦИТО ГУФСИН РОССИИ ПО ПЕРМСКОМУ КРАЮ)
ИНФОРМАЦИОННО-АРХИВНАЯ ГРУППА
20 лет Победы ул., 128, г. Соликамск,
Пермский край, 618540
тел.(34253) 7-70-29
телефакс (34253) 7-61-04
14.03. 2013 № 60/61/13-132
На №

Мицкевич В.Д.

АРХИВНАЯ СПРАВКА

По документальным материалам информационно-архивной группы ФКУ ЦИТО ГУФСИН России по Пермскому краю значится **Каменский Александр Дмитриевич**, 1886 года рождения, белорусс, образование высшее, по специальности педагог, уроженец г. Ошмяны, Виленской губернии, до ареста проживал г. Минск, ул. Военная,1.

Осужден 10.10.1938 Особым Совещанием при НКВД СССР за контрреволюционную деятельность сроком на 5 лет. Начало срока 05.02.1938, конец срока 05.02.1943.

В Усольлаг прибыл 12.12.1938. Умер 10.07.1942 в Ораловском ОЛПе №10, Молотовской области (ныне Пермского края). Причина смерти – пеллагра. Точное место захоронения установить невозможно за давностью лет.

Настоящая справка составлена на основании личного дела № 34128 Каменского А.Д.

Начальник архива Н.А. Келорева

Асноўнай спецыялізацыяй лагераў УЛЛП былі лесанарыхтоўкі і дрэваапрацоўка [6, с. 67].

Аляксандра Каменскага ўтрымлівалі ў АЛП (асобны лагерны пункт) № 10 Аралава, што знаходзіўся ў падпарадкаванні Спецкамендатуры пасёлка Усць-Язьва Краснавішэрскага раёна Молатаўскай (Пермскай) вобласці. Праца на лесараспрацоўках ва ўмовах суровай поўначы, калі нават у канцы красавіка ляжаў глыбокі снег, а рэкі яшчэ былі скаваны марозам, была цяжкая. Каменскія з Клязьмы і Міцкевічы з Мінска пісалі Аляксандру Дзмітрыевічу лісты і зрэдку дасылалі пасылкі. У адказ атрымлівалі ад яго паштоўкі. Дзядзька Саша пра сябе пісаў стрымана, як гэта было дазволена вязням: «жыццё маё праходзіць у бесперапыннай фізічнай працы», «жыву так, як толькі тутака жыць і можна, працую кожны дзень фізічна, вельмі мяне даймаюць халады», «я вельмі часта думаю пра ўсіх вас, і калі іду ў лес на работу, і калі вяртаюся назад», «калі даведаецеся што-небудзь аб лёсе маім — чырканіце пару слоў». У лістах ён заўсёды цікавіўся, як вучацца пляменніцы і пляменнікі. Паштоўкі Аляксандра Дзмітрыевіча 1940—1941 гадоў захоўваюцца ў нашчадкаў Каменскіх у Клязьме.



Сядзяць злева направа: Марыя Міцкевіч, Вольга Каменская, Якуб Колас, Міхась Міцкевіч, Міхаіл Каменскі; стаяць злева направа: Георгій (Юрка) Міцкевіч, Аляксандр Каменскі, Яўгенія Увядзенская, Даніла Міцкевіч. Менск. 1932 год.

Родныя ведалі, што Аляксандр Дзмітрыевіч меў сардэчна-сасудзістыя хваробы (міякардыт, атэрасклероз), рабілі ўсё магчымае, каб вызваліць яго. На працягу 1938—1941 гадоў Якуб Колас куды толькі ні звяртаўся! Пісаў заявы пракурорам БССР і СССР, быў на прыёме ў Варашылава, а вось наркам унутраных спраў БССР Цанава Коласа не прыняў. У лісце ад 18 красавіка 1940 года з Масквы Якуб Колас пісаў жончынай пляменніцы Вользе Каменскай, што бачыўся з Б. Емяльянавым (цытуем на мове арыгінала): «Он хлопочет, старается. Но с делом дяди Саши какая-то заминка из-за Минска. Минск представил не всё дело. Словом, надо по приезде в Минск выяснить, в чем тут сила. Я вторично подал здесь заявление с просьбой ускорить пересмотр и сообщить результаты мне. Б.[орис] А.[лександрович] будет тебе звонить» [2, с. 266]. Захавалася недатаваная тэлеграма Якуба Коласа Б. Емяльянаву, якая была адпраўлена з Мінска ў Маскву (друкуецца ўпершыню на мове арыгінала): *«Дело Александра Дмитровича Каменского Прокурор республики переслал [в] Прокуратуру Союза и своё заключение о прекращении. Выслан приговором Особого Совещания. Справься. Сообщи. Колас»* [5]. Імя расійскага пісьменніка Барыса Емяльянава сустракаецца ў лістах народнага паэта да С. Гарадзецкага (1939 г.). У лісце да М. Лынькова ад 11 ліпеня 1942 года Якуб Колас з болем у душы ўспамінаў нябожчыка Янку Купалу, непаразуменні, што былі паміж імі ў гэты цяжкі першы ваенны год, яго — Купалы — «кампанаванне з Емяльянавым і падстаўленне свайго подпісу пад яго пісаніну» [2, с. 394—395]. Апошняе выклікае шмат пытанняў. Чаму Якуб Колас звяртаўся менавіта да Б. Емяльянава па справе свайго швагра? Дзе працаваў у перадваенны час Б. Емяльянаў? Якую ролю ён адыграў у лёсе Янкі Купалы? Але гэта ўжо тэма іншага даследавання.

Справа А. Каменскага, як лічыў Якуб Колас, была перагледжана і даслана Пракурору СССР на спыненне. Але мінуў год, дзядзька Саша па-ранейшаму заставаўся ў ссылцы. Здароўе яго пагаршалася. Як успаміналі родныя, з-за моцных халадоў Аляксандр Дзмітрыевіч яшчэ ўзімку 1939—1940 гадоў абмарозіў нагу. Лячылі амбулаторна, ампутацыі не рабілі, а перавялі на так званую «лёгкую працу».

22 чэрвеня 1941 года фашысцкая Германія напала на Савецкі Саюз. 7 жніўня, у дзень ад'езду з Масквы ў Ташкент у эвакуацыю Якуб Колас напісаў яшчэ адну заяву Пракурору СССР, якая заканчвалася словамі (цытуем на мове арыгінала): «Во имя справедливости я прошу Вас принять соответствующие меры для освобождения Александра Дмитриевича Каменского как осужденного и высланного невинно» [3, с. 44].

З пачаткам вайны значна пагоршылася становішча вязняў ГУЛАГа. У тым жа Усольлагу рэзка павялічылася іх колькасць. Людзі галадалі, не ставала вопраткі, пагоршыліся ўмовы ўтрымання. Гэта прывяло да росту хвароб, фізічнага знясілення і вялікай смяротнасці. Наогул, смяротнасць вязняў у ГУЛАГу павялічылася ў 4—5 разоў у параўнанні з даваеннымі гадамі [6, с. 46, 68, 336]. Падчас вайны ліставанне з родным чалавекам перарвалася. Міцкевічы і Каменскія хваляваліся, перажывалі за дзядзьку Сашу, але, на вялікі жаль, нічым не маглі яму дапамагчы.

Архіўная даведка сведчыць, што Аляксандр Дзмітрыевіч Каменскі памёр 10 ліпеня 1942 года ў Аралаўскім АЛП № 10, прычына смерці — пелагра. Прасцей кажучы, авітаміноз!.. Да заканчэння (а ці было б гэта заканчэнне?) тэрміну зняволення дзядзька Саша не дажыў сем месяцаў.

Як і мільёны грамадзян «шчаслівай савецкай краіны», свой зямны шлях Аляксандр Дзмітрыевіч скончыў заўчасна, далёка ад роднай зямлі і блізкіх людзей. Які здзеклівы збег акалічнасцей! У Пярмі нарадзіўся сярэдні сын Якуба Коласа — Георгій (Юрка), ён жа прапаў без вестак крывавай восенню 1941 года пад Вязьмай пры абароне Масквы. А дзядзька Саша ніколі не мог нават уявіць сабе, трымаючы на руках маленькага Даніка на беразе ракі Камы ў Пярмі, што праз якія дваццаць гадоў яго, зняволенага, бязлітасна закіне лёс сюды, на поўнач Пермскага краю, і што ён ніколі ўжо не пабачыць родных і застанецца тут назаўжды. Гэта жудасная невядомасць, страты сына і роднага брата хутка забяруць жыццё Марыі Дзмітрыеўны, вернай спадарожніцы і любай жонкі Якуба Коласа. А сам пясняр у наступныя гады ўжо не будзе адчуваць «ніякай радасці, ніякага смаку жыцця», а толькі спустошанасць і невыразную тугу па тым часе, калі ўся сям'я была разам з ім.




## Літаратура


1. Дзяржаўны Літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. — Нд-3005.

2. Колас, Я. Збор твораў : у 20 т. / Я. Колас. — Мінск : Беларуская навука, 2012. — Т. 18 : Лісты 1908—1942.

3. Міцкевіч, Д. Любіць і помніць : Успамінае сын Якуба Коласа / Д. Міцкевіч. — Мінск : Полымя, 2000.

4. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. — Фонд 205. — Воп 3. — Адз. зах. 3415.

5. Прыватны архіў Міцкевіча Д.К. — Лісты Каменскага А.Д. да брата Каменскага М.Д. і яго сям'і ў Клязьму.

6. Суслов, А. Спецконтингент в Пермской области (1929—1953 гг.) / А. Суслов. — Екатеринбург—Пермь : Пермский государственный педагогический университет, 2003.

**Леанід Лаўрэш**

# Лідскі піярскі калегіум

**Можна сцвярджаць, што, прагнаўшы правінцыйныя сны, піяры зрабілі значны ўплыў на фарміраванне Ліды XVIII стагоддзя, увёўшы існаванне горада ў сучасны еўрапейскі кантэкст. Уплыў піяраў на развіццё горада можна параўнаць толькі з уплывам чыгункі, якая з'явілася ў канцы XIX стагоддзя і аказала вызначальны ўплыў на далейшае развіццё горада.**

У першай трэці XVIII стагоддзя ў Лідскім павеце з'явіліся манахі-піяры. Пачала працаваць піярская школа з Шчучыне і Верэнаве (цяпер — Воранава)[1].

Юрыст і гісторык, піяр, ксёндз Мацей Догель, лідзянін па паходжанні і хатні настаўнік лідскіх старастаў Сцыпіёнаў, першым падаў думку перанесці верэнаўскі калегіум «*у шляхетны каралеўскі горад Ліду*». І ў 1756 годзе па прапанове лідскага старасты Ігнацыя Сцыпіёна піярскі калегіум, створаны ў 1730 годзе ў Воранаве, быў перанесены ў Ліду. Верагодна, менавіта ў Лідзе, а не ў Воранаве 12 снежня 1756 года староста ў прысутнасці Францішка Александровіча, пісара земскага і Самуэля з Кастравіц Кастравіцкага, пісара лідскага гродскага, падпісаў акт пераносу, які пакідаў воранаўскі касцёл піярам і замацоўваў за гэтай рэзідэнцыяй фундушовую суму ў 20 000 злотых, забяспечаных маёнткам Мерач Франскевічаўская. Астатнія ж фундушы пераносіліся на лідскі калегіум, прычым Сцыпіён дадаў яшчэ свой пляц у Лідзе каля вуліцы Віленскай, набыты ў 1749 годзе ў Людвікі Гадэмбскай, пінскай стольнікавай. Таксама ва ўласнасць калегіума ён запісаў яшчэ свой фальварак Асава Лапацінская. У той жа дзень гэты акт быў зарэгістраваны ў Лідскім гродскім судзе, а 9 сакавіка таго ж года пацверджаны віленскім біскупам Міхалам Зянковічам. Аднак на пачатку справа пераносу калегіума ў Ліду і павелічэнне колькасці выкладчыкаў-святароў у бедным павятовым горадзе, якім была Ліда, стрымлівалася закулiснымі інтрыгамі. Хранікёр і рэктар калегіума, ксёндз Юзафат Вайшвіла ў XIX стагоддзі пісаў, што «*як сведчаць лісты, якія знаходзяцца да гэтага часу ў плябаніі, лідскія кармеліты звярталіся з просьбай у Апостальскую сталіцу, каб піярам не дазволілі асесці ў Лідзе, бо хваляваліся, што паменшацца іх касцельныя даходы*»[2].

У цэнтры горада Ліда, недалёка ад старадаўняга рынку, каля ўніяцкай царквы Св. Мікалая[3] на пачатку XVIII стагоддзя Сцыпіёны мелі вялікі пляц, які з фронту прылягаў да рынку і месціўся паміж існаваўшымі да 1941 года вуліцамі Камерцыйнай і Пераца, а з тылу абмяжоўваўся ракой Лідзеяй. Пасля Другой сусветнай вайны гэтых вуліц не стала, але паглядзеўшы на карту горада 1930-х гадоў, няцяжка зразумець, пра якую пляцоўку ідзе гаворка. На гэтым пляцы з часоў Сцыпіёнаў змяшчаліся гарадская канцылярыя, турма і аптэка. Тут жа быў і жылы двор, у якім жылі лідскія старасты падчас сваіх прыездаў у горад. Спераду, пры самым рынку ці вуліцы Віленскай стаяла вялікая драўляная заезная карчма[4].

У часы вакацый 1756 года піяры перанеслі свой калегіум з Верэнава ў Ліду і размясціліся менавіта на пляцы Сцыпіёна — часова занялі частку заезнай карчмы. «*Відочна, перарабілі карчму ў школу і павешаны на ёй званок адразу, з першых дзён вучэбнага года пачаў згуртоўваць дзятву да навукі*»[5], — пісаў ксёндз Вайшвіла. Па легендзе павесіць школьны званок на карчму прапанаваў бургамістр горада.

Як бы там ні было, але піярская школа адразу пачала працаваць, сюды пераехала большасць вучняў з Воранава, агульнай колькасцю каля 50 чалавек. Таму адразу паўсталі і старэйшыя класы[6].

---

[1] Сборник материалов для истории просвещения в России. Т. 1. С.-Петербург, 1893. С. 221.
[2] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №9, grudzień 1936. S. 3.
[3] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага благачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.
[4] Гэтая карчма згарэла ў пажары горада Ліда ў 1827 годзе, на яе месцы ў 1840 годзе Беньямін Каменецкі пабудаваў двухпавярховы мураваны дом, у якім павятовыя ўлады месціліся да 1915 года. У 1920—30-я гг. гэтай нерухомасцю валодаў Фрума Крэйна Ілютовіч. Некалькі дзесяткаў іншых уладальнікаў забудавалі былы сцыпіёнаўскі пляц ажно да ракі Лідзеі.
[5] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №9, grudzień 1936. S. 4.
[6] Kurkowski Jarosław. Pijarzy w Werenowie i Lidzie // Z dziejów Ziemi Lidzkiej. Warszawa, 1997. S. 68.

Узначальваў кляштар і калегіум рэктар[7]. Навучальна-выхаваўчым працэсам у калегіуме кіравалі прэфекты[8].

Пляц, запісаны Ігнаціем Сцыпіёнам, не быў дастаткова вялікім, каб на ім маглі быць пабудаваны касцёл, калегіум і гаспадарчыя будынкі. Тады Юзаф Барымоўскі, лідскі земскі суддзя, уступіў за 2 000 імшоў піярам ва ўласнасць свой пляц, які прылягаў да сцыпіёнавага. Уласнікі Воранава Аляксандровічы за перапісаны ім піярамі ва ўласнасць пляц каля рынку ў Воранаве аддалі манахам свой пляц пры вуліцы Віленскай у Лідзе. Кароль Аўгуст III у 1762 годзе зацвердзіў гэтую фундацыю піяраў у Лідзе і ў тым жа годзе 25 кастрычніка ў Варшаве падпісаў дакумент перадачы ва ўласнасць піярам запісаных за імі пляцоў[9].

Плённым было 25-цігадовае рэктарства Аляксандра Вольмера (1732—1802). Атрымаўшы пасаду ў 1768 годзе, ён пачаў актыўна разбудоўваць кляштар і ўпарадкоўваць маёмасныя справы. У выніку яго старанняў 4 мая 1774 года з'явілася ўхвала экстраардынарнага сейму ў Варшаве пад назвай «Зацвярджэнне фундацыі Ксяндзоў Піяраў Лідскіх з дазволам дакупіць новыя пляцы»: *«Са згодай усіх станаў, фундуш Ксяндзоў Піяраў у горадзе нашым Лідзе праз Ураджонага Ігната Сцыпіёна, падстолія ВКЛ, судовага Лідскага старасты, на пляцах земскіх, якімі ён аднаасобна валодае, а другім Шпорцікаўскім, ад ... Юзафа Барымоўскага, суддзі лідскага земскага, саступленым, зацвярджаем. Так сама, з-за невялікіх памераў памянёных пляцаў, дазваляем прыкупіць тым жа ксяндзам Піярам прылеглы пляц для добрай пабудовы касцёла, кляштара і школ. Salvis oneribus, terragio, et jurisdictione civitatensibus»*[10]. Такім чынам піяры павялічылі сваю нерухомасць у Лідзе да 6 моргаў. Згодна з планам 1851 года яны мелі 4 дзесяціны і 36 квадратных сажняў.

Пасля атрымання нерухомасці ў Лідзе піяры пабудавалі невялікі драўляны касцёл у паўночным канцы пляца. Візітацыя 1802 года захавала наступную інфармацыю: *«Касцёл драўляны, благаславёны, не высвечаны, святога Юзафа Каласантага, фундаваны ад Ігнацыя Сцыпіёна дэ Кампа, старасты лідскага ў 1758 г. Будова патрабуе направы, аднак можа стаяць пакуль незакончаны новы, ужо на палову вымураваны за кошт імператара Паўла І, каторы 15 мая 1797 г. вырашыў даць 5 000 рублёў. Алтары тры: 1) Пан Езус укрыжаваны, намаляваны, 2) Найсвяцейшая Панна, 3) Юзаф Каласанты, абразы: Св. Антонія і Св. Кацярыны. Брацтвы на якіх прывязаны вечныя адпусты: 1) Сэрца Езуса і 2) Найсвяцейшай Панны Ласкавай».*

Каля гэтага касцёла, ці дакладней, капліцы быў пабудаваны невялікі драўляны дом для настаўнікаў. Мураваны калегіум пачаў будаваць рэктар ксёндз Аляксандр Вольмер у 1778 годзе, аднак з-за браку сродкаў будова прасоўвалася павольна. *«Гэты дом меў 12 пакояў для настаўнікаў, кухню, пякарню, сталовую і зал на другім паверсе»*[11].

---

[7] Рэктары піяраў ў Лідзе: у 1758—1762 гг. кс. Антоні Астроўскі; у 1763 г. па намінацыі генерала закону кс. Войцах Камароўскі; каля 1767 г. кс. Казімір Яблонскі, памёр у Лідзе; у 1768—1793 гг. кс. Аляксандр Вольмер, памёр у Лідзе 12 снежня 1802 г.; у 1793—1795 гг. кс. Фларыян Крушэўскі; у 1796 г. кс. Андрыян Шалевіч; у 1797 г. кс. Павел Выхоўскі; з 5 верасня 1797 г. па 1799 г. кс. Філіп Неруш Банарскі; у 1799—1806 гг. кс. Себасцьян Дамброўскі, пробашч вавёрскі і дылеўскі, архітэктар; з 22 жніўня 1806 г. па 1808 г. кс. Раймунд Ржашоўскі, юрыст; у 1808 г. кс. Юзаф Сангайла; у 1808-1811 гг. кс. Антон Юхневіч; у 1811—1814 гг. кс. Францішак Дашкевіч, памёр у Лідзе ў 1814 г.; у 1814 г. кс. Дамінік Серафіновіч; у 1814—1817 гг. кс. Феліцыян Пашкевіч; у 1817—1818 гг. кс. Себасцян Дамброўскі паўторна, памёр у Лідзе; з 1818 г. кс. Віктар Ежыкевіч, па намінацыі правінцыяла закону; у 1820 г. на капітуле абраны кс. Каласанты Санкоўскі, у 1826 г. ён атрымаў ад князёў Радзівілаў інвестытуру на пробаства Жырмунскае. Кіраваў лідскім калегіумам да 1829 г. Памёр у Жырмунах у 1834 г.; у 1829—1832 гг. кс. Антон Раеўскі, лідзянін, прыродазнаўца; у 1832—1835 гг. Фердынанд Шумоўскі, матэматык; у 1835—1842 гг. кс. Юзаф Вайшвіла, матэматык. — Гл: Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №1, styczeń 1937. S. 2.

[8] Лідскія прэфекты: Юзаф Кянтрынскі (1756—57); Дамінік Грабоўскі (1757—58); А. Астроўскі (1758/59); Юзаф Гермер (1759—61); Аляксандр Волмер (1761—69); Ян Пажэрскі (1769—70); Міхал Кянтрынскі (1770—71); Антон Мікуцкі (1771—72); Міхал Туркоўскі (1772—74); Яцак Красоўскі (1774—76); Дыянісій Гурыновіч (1776—78, 1781—83); Бярнард Памарнацкі (1778—79); Ксавер Янкоўскі (1779—81) ; Андрэй Свіршчэўскі (1783—84); Павел Выгоўскі (1785—86, 1789—90); Бярнард Парэмбскі (1790—91); Ваўжынец Адамовіч (1791—93, 1802/03) ; Андрыян Шалевіч (1794—96); Амброзі Сангайла (1796—97). — Гл: Kurkowski Jarosław. Pijarzy w Werenowie i Lidzie // Z dziejów Ziemi Lidzkiej. Warszawa, 1997. S. 71—72.

Далей: у 1798 г. кс. Рыгор Янкевіч; у 1803 г. кс. Ваўжынец Адамовіч, паўторна; у 1804 г. кс. Ігнацій Пляскачэўскі; у 1805 г. кс. Якуб Захарэвіч; у 1808—1811 гг. кс. Антон Юхневіч, першым быў прымушаны прыняць тытул наглядчыка школы; у 1811—1822 гг. кс. Ігнацій Пазалевіч; у 1824 г. кс. Дэмэтры Тамашэвіч; у 1833 г. кс. Фердынанд Шымборскі, рэктар і прэфэкт. — Гл: Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec-lipiec 1937. S. 62.

[9] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №1, styczeń 1937. S. 2.

[10] Volumina Legum. Petersburg, 1860. T. VIII, S. 410.

[11] Kurkowski Jarosław. Pijarzy w Werenowie i Lidzie // Z dziejów Ziemi Lidzkiej. Warszawa, 1997. S. 69.

Сейм 1775 года зацвердзіў усе фундушы ксяндзоў «Scholarum Piarum» Літоўскіх і адначасова дазволіў «*прылеглыя вёскі прыкупіць на сумы не большыя за 60 000 злотых*»[12]. Каля горада Ліда, з паўночна-ўсходняга боку знаходзіўся маёнтак Пастаўшчына з вёскай Расляхі, землі якога праз раку Лідзею межавалі з нерухомасцю лідскіх піяраў. Пастаўшчына мела доўг Міхалу Эйсманту ў суме 15 000 зл. Пад канец XVII стагоддзя гэтым маёнткам валодаў Міхал Гансоўскі, падкаморы вендэнскі. Ён прадаў гэту маёмасць Тамашу Юзафу Умястоўскаму, рэгенту земскаму лідскаму. Лідскія піяры, карыстаючыся пастановай сейма, 6 красавіка 1778 года за ўласныя грошы набылі Пастаўшчыну ў пана Умястоўскага за 26 000 злотых, прычым адразу выплацілі гатоўкай 11 000 злотых і прынялі на сябе былы доўг Міхала Эйсманта ў памеры 15 000 злотых. Разам з маёнткам Пастаўшчына, уласнасцю піяраў знаходзілася таксама вёска Расляхі з падданымі.

Згодна з інвентаром 1775 года ў склад Пастаўшчыны ўваходзілі: фальварак за ракой Лідзеяй па левай старане дарогі на Дворышча, млын на рацэ Лідзея і вёска Расляхі (6 дымоў, сем'і Федаровічаў). Падданыя былі павінны хадзіць на паншчыну, гэта значыць на работу *«з чым двор прыкажа»,* мужчыны і жанчыны па тры дні з кожнай хаты, ад усходу да заходу сонца, па чарзе вартаваць двор і адбыць штогод чатыры дарогі ў Вільню ці куды яшчэ будзе трэба.

Апрача нерухомасці ў горадзе Ліда і маёнткаў Лапацішак і Пастаўшчына лідскія піяры мелі некалькі запісаных легатаў (завяшчальнікаў). Ян Кербядзь, шляхціц з ваколіцы Кербядзі сваім тастаментам ад 1762 года надаваў піярам 7 000 злотых, пазычаных Нарбутам, дзедзічам маёнтка Крупа, сучаснае Крупава з умовай, што піяры тры разы ў год — на Грамніцы, на Св. Тройцу і на Св. Яна Хрысціцеля — удвух будуць праязджаць у крупаўскі філіяльны касцёл з імшой і навукай. 24 красавіка 1766 года адвакат Гаўрылкевіч запісаў піярам 2 000 злотых за маёнткам Лацк Пісараўскіх, які быў часткай маёмасці Шчучын Сцыпіёнаў дэ Кампа. У 1773 годзе князь Аляксандр Сапега надаў нашым піярам 15 000 злотых, забяспечаных ягонай маёмасцю ў Дзярэчыне. 1 лістапада 1781 года Тамаш і Бенедыкт Мігдалы, уласнікі фальварка Мігдалы з Забалацкай парафіі, ахвяравалі лідскім піярам 12 000 злотых, 1000 злотых з гэтай сумы гатоўкай а астатняя сума забяспечвалася застаўным правам[13] на маёнтку Несікоўшчына, потым гэта забеспячэнне было перанесена на Вялікую Перапечыцу Юзафа Нарбута, лідскага харунжага. 10 красавіка 1789 года Ежы Адамовіч, суддзя лідскі земскі, праз тастамент адпісаў піярам на мураваны касцёл 20 000 злотых, у гэтай суме 14 000 злотых — пазыковая распіска князёў Радзівілаў, забяспечаная іх маёмасцю ў Жырмунах, а 6 000 злотых — пазыковая распіска Станіслава Марцінкевіча, забяспечаных Гарнастаішкамі. Таксама было вельмі шмат дробных завяшчальнікаў і невялікіх грошай, якія ахвяравалі пабожныя людзі. Згодна з тастаментамі Стацэвіча і Мігдалаў, піяры павінны былі ўтрымліваць уласным коштам па аднаму вучню[14].

14 лютага 1782 года быў заселены новы мураваны будынак калегіума. Гмах меў два крыла, якія злучаліся пад прамым вуглом. Будынак доўгі час прастаяў нетынкаваным. Адразу пасля засялення адбыўся няшчасны выпадак: угарэлі два выкладчыкі — былы рэктар Казімір Яблонскі, які дажываў свой манаскі век, і Самуэль Галавінскі[15]. Але і ў візітацыі 1802 года пазначана: «*Кляштар мураваны з цэглы на два паверхі, няскончаны*»[16]. Гэтая неаднаразова перароблена знутры і звонку пабудова часткова захавалася да нашага часу і з'яўляецца адзіным цэлым з адміністрацыйным гмахам сучаснай царквы.

Будаваць па-навуцы было каму — ксёндз Себасцьян Дамброўкі, рэктар калегіума пры канцы XVIII стагоддзя, а да гэтага пробашч касцёлаў у Ваверцы і Дылеве, лічыўся лепшым сярод піяраў архітэктарам таго часу[17]. Менавіта ён адклаў

[12] Volumina Legum. Petersburg, 1860. T. VIII, S. 411.
[13] Застаўны пасэсар (лац. possesio) — уладальнік зямлі паводле права закладавага валодання (застаўны — закладны) — заўвага Л.Л.
[14] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №1, styczeń 1937. S. 3.
[15] Kurkowski Jarosław. Pijarzy w Werenowie i Lidzie // Z dziejów Ziemi Lidzkiej. Warszawa, 1997. S. 70.
[16] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №1, styczeń 1937. S. 2.
[17] Самусік А. Лідскі піярскі калегіум // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 199.

будоўлю калегіума і пачаў будаўніцтва муравана-га касцёла. На працягу шасці гадоў узвёў касцёл *«ажно да гзымсаў»*. І скончыліся грошы[18].

Захавалася няшмат інфармацыі пра навучальны працэс у Лідскай школе.

Лідская школа была падзелена на тры класы, у якіх павінны былі выкладаць тры выкладчыкі (прафесары). І акрамя першага 1756/57 і цяжкага 1795/96 навучальных гадоў заўсёды выкладалі тры настаўнікі.

У 1773—1775 гадах Адукацыйная камісія правяла рэформу адукацыі, якая патрабавала ўзмацнення вывучэння прыродазнаўчых фізіка-матэматычных навук. Аднак лідскія піяры не спяшаліся ўводзіць пераўтварэнні. У 1782 годзе па-ранейшаму ў кожным класе выкладаў адзін настаўнік, не было падзелу настаўнікаў па дысцыплінах. Візітатар адзначаў, што *«шмат хто з жывучых у канвікце спіць і есць у кляштары, малады магістр які сам трошкі ведае французскую мову, дае ім пачаткі гэтай мовы»*[19]. У 1783—1784 гадах змяніўся прэфект, і візітатары пачалі фіксаваць змены да лепшага, праграма навучання была прыстасавана да патрабаванняў Адукацыйнай камісіі.

У Лідскай піярскай павятовай школе ў 1801 годзе працавалі наступныя настаўнікі:

- Рэктарам (прэфект) школ ксёндз Рыгор Янкевіч, узрост 41 год, паходзіў з шляхты Упіцкага павета, першапачаткова вучыўся ў Расіенах, стаўшы манахам, вывучаў красамоўства, матэматыку і фізіку. Потым вучыўся ў Віленскай акадэміі на багаслоўскім факультэце. На пасадзе з 1798 года.
- Настаўнік права і красамоўства, ксёндз Леанард Рамашкевіч, узрост 32 гады, паходзіў з шляхты Упіцкага павета, першапачаткова вучыўся ў Паневежы, стаўшы манахам, вывучаў красамоўства, фізіку і мовы. На пасадзе з 1791 года.
- Настаўнік матэматыкі і фізікі ксёндз Андрэй Канюшэўскі, узрост 29 гадоў, паходзіў з шляхты Лідскага павета, першапачаткова вучыўся ў Лідзе, стаўшы манахам, вывучаў красамоўства, фізіку, матэматыку і рускую мову. На пасадзе з 1794 года.
- Настаўнік першага класа ксёндз Францішак Стукевіч, узрост 20 гадоў, паходзіў з шляхты жмудскага княства, першапачаткова вучыўся ў Дамбровіцы, стаўшы манахам, вывучаў красамоўства, фізіку і матэматыку. На пасадзе з 1800 года[20].

У лідскай вучэльні, як і ва ўсіх вучэльнях краю, у кожным класе вучыліся па два гады, выкладаліся наступныя курсы:

- Першы года навучання: граматыка, 1-я частка маралі (маральнай філасофіі), геаграфія, арыфметыка, катэхізіс.
- Другі год навучання: 2-я частка граматыкі, 2-я частка маралі, геаграфія, арыфметыка, выпіскі з пісьменнікаў.
- Трэці год навучання: 3-я частка граматыкі, 3-я частка маралі, 1-я частка геаметрыі, выпіскі з найлепшых месцаў з пісьменнікаў, гісторыя Асырыі, Мідзіі, Персіі, Егіпта, геаграфія.
- Чацвёрты год навучання: 1-я частка рыторыкі, 1-я частка паэзіі, 2-я частка геаметрыі, пачаткі фізікі, гісторыя Грэцыі, прыродазнаўства, пераклады замежных пісьменнікаў.
- Пяты год навучання: механіка, 3-я частка геаметрыі, алгебра, палітыка, гісторыя Рыма, батаніка, навука аб захаванні здароўя, рыторыка і паэзія.
- Шосты год навучання: заалогія, права, агульная гісторыя, логіка, рыторыка, паэзія і эксперыментальная фізіка

Лекцыі працягваліся 4 гадзіны ў дзень з 8 да 10 і з 14 да 16, акрамя аўторка і чацвярга, экзамены праводзіліся штомесяц, акрамя першых трох месяцаў вывучэння прадмета[21].

У малодшых класах па некаторых прадметах былі яшчэ і практычныя заняткі. Пад час візітацыі 6 чэрвеня 1785 года прафесару геаметрыі указана *«каб вучыў геаметрыі на практыцы, на полі,*

[18] Kurkowski Jarosław. Pijarzy w Werenowie i Lidzie // Z dziejów Ziemi Lidzkiej. Warszawa, 1997. S. 78.
[19] Там жа. S. 73.
[20] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792—1796) [С предисл. Ар. Турцевич]. Вильна, 1903. С. 229—230.
[21] Там жа. С. 247-248.

*разам з рысаваннем карт».* Школьная рада 2 мая 1791 года вызначыла час землямернай практыкі. У «Дзеях...» 25 лістапада 1797 года запісана: *«Каморнік, прызначаны Літоўскім урадам вымяраць горад Ліду і зрабіць план, прасіў аб дапамозе студэнтаў. Сход настаўнікаў, зыходзячы з вялікай практычнай карысці для вучняў, якія вывучаюць геаметрыю, каб удасканаліцца ў гэтай навуцы дазволіў. А таксама каб і настаўнікі хадзілі на тую практыку, аднак без занядбання школьных і кляштарных абавязкаў».* На гэтай карце горада бачны і кляштар піяраў і царква Св. Міхала (верагодна пасля пажару была пераасвечана з царквы Св. Мікалая), якая мела шпіталь, плябанію і могілкі, што бачна з тэксту візітацыі цэркваў Лідскага уніяцкага дэканата ў 1792 годзе[22]. Гэтым планам Ліды гісторыкі і аматары гісторыі карыстаюцца і сёння.

У 1800 годзе Міхал Богуш, генеральны візітатар літоўскіх школ, склаў пахвалу ксяндзу Андрэю Канюшэўскаму, прафесару 2-га класа, *«які злучаючы прыемнасць з практыкай, патрапіў зацікавіць сваіх вучняў батанікай, прывучаючы іх у часы адпачынку да збірання на палях і лугах тутэйшай ваколіцы розных зёлак, класіфікавання іх і складання кожным вучнем гербарыяў. Гербарыі, якія вучні паказалі візітатару, ён прагледзеў усе, запытваў іх назвы як па-грэцку так і па-польску і адказамі вучняў быў задаволены».*

У «Дзеях ...» 3 лютага 1800 года знаходзіцца цікавы запіс аб уводнай лекцыі з навукі права. Тады, згодна з даўнім звычаем, у Лідзе сабраўся грамнічны павятовы сеймік. Можна дапусціць, што такія ўводныя лекцыі права былі звычайнымі ў школьным жыцці і паходзілі з часоў Рэчы Паспалітай.

У школе звярталася ўвага і на фізічнае выхаванне вучняў. Візітацыя 13 ліпеня 1789 года занатавала: *«Найсвяцейшая камісія вырашыла муштраваць вучняў і вучыць іх жаўнерскім прыёмам як толькі дазволіць іх узрост»,* а таксама праводзіць *«звычайныя ігры падчас адпачынку — мяч і бег навыперадкі».*

У школе праводзіліся метэаралагічныя назіранні. 22—24 мая 1804 года візітатар *«агледзеў метэаралагічную абсерваторыю».* Візітацыя 1808 года адзначае, што *«у кнізе метэаралагічных назіранняў маюцца значныя перарывы, бо два разы праходзіла войска і вучняў распускалі»*[23].

Вядомы імёны вучняў, якія ў часы перад падзеламі Рэчы Паспалітай вызначыліся выбітнымі поспехамі ў навуках ці высокім узроўнем маральнасці і таму былі ўзнагароджаны медалём «Deligentiae», які кароль Станіслаў Панятоўскі зацвердзіў у 1785 годзе[24].

У 1796 годзе да піярскай школы далучана лідская парафіяльная школа. У візіце 1803 года пазначана, што парафіяльная школа ўтрымліваецца стараннямі ксяндза каноніка Вінцэнта Нарбута, пробашча лідскага, і што *«дзеці гэтай школы маюць асобнага настаўніка, ходзяць разам у тутэйшую школу і ў першым класе, сярод пачаткоўцаў, месяццаа».* Візітатар 22/24 мая 1804 года запісаў: *«1-шы клас двухгадовы, вучняў 37, у двух вышэйшых класах знайшоў 24 вучня, класы гэтыя таксама двухгадовыя».*

Дакументы калегіума даюць нам інфармацыю пра існаванне школьнага тэатру. У 1771 годзе ў віленскай друкарні піяраў кніжкай на 22 старонкі была надрукавана п'еса прэфекта Антона Мікуцкага[25], у якой ён высмейваў скаргі на недасканаласць сучаснага сусвету. 4 ліпеня 1772 года лідскі тэатр паставіў яшчэ адну трагедыю гэтага ж аўтара[26], яна была прысвечана Юзафу Пацу[27]. Тэатральная дзейнасць піяраў — цікавы эпізод гісторыі Лідчыны[28].

[22] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. Арк. 35—35 адв.
[23] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec — lipiec 1937. S. 65—66.
[24] Узнагароджаны былі: у 1787 г. Фелікс Багатка, Юзаф Лісоўскі, Антоні Лісоўскі; у 1788 г. Ян Дымітровіч, Андрэй Канюшэўскі; у 1789 г. Зыгмунт Кунцэвіч; у 1791 г. Міхал Бародзіч; у 1792 г. Мацей Гарасімовіч, Міхал Канюшэўскі, Юзаф Калясінскі; у 1793 г. Леанард Трацяк, Азары Вайчынскі. — Гл: Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec — lipiec 1937. S. 66.
[25] Гл: [Mikucki Antoni], Nieszczęśliwość, troskliwych zawsze, i nieukontentowanych osób, i całą własnej nieszczęśliwości przyczynę przypisujących czasom lub zepsutemu podług ich mniemania światu, scenicznym sposobem pod zaszczytem imienia Wielmożnych Ichmościów Panów Narbuttów chorążych powiatu lidzkiego wyrażona w szkołach Lidzkich Szkół Pobożnych roku 1771.
[26] Гл: [Mikucki Antoni], Tragedia o sprzysięzeniu Katyliny, pod zaszczytem imienia... Józefa hrabi na Różance i Dowspudzie etc. Paca starosty wilejskiego. W szkołach lidzkich Scholarum Piarum odprawiona Roku 1772 dnia 4 lipca, Wilno [b.r.], drukarnia pijarska.
[27] Юзэф Пётр Пац (1736—1797) — дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, генерал-маёр літоўскіх войскаў (1757), з 1758 года або раней — генерал-ад'ютант, стараста вілейскі. Удзельнік паўстання 1794 г. Уладальнік маёнтка Ражанка, цяпер — Шчучынскі р-н.
[28] Kurkowski Jarosław. Pijarzy w Werenowie i Lidzie // Z dziejów Ziemi Lidzkiej. Warszawa, 1997. S. 72.

Трэба сказаць некалькі слоў пра Антона Мікуцкага. Ён быў настаўнікам лідскага калегіума, прапаведнікам, аўтарам падручнікаў, задачай якіх лічыў павышэнне дасведчанасці шляхты пра формы праўлення ў іншых краінах. Мікуцкі меў вялікія палітычныя амбіцыі, ў 1787—1796 гадах быў рэктарам віленскага піярскага калегіума. Навуковыя спатканні ў Мікуцкага нават параўноўвалі з каралеўскімі абедамі ў чацвер[29]. На пасадзе рэктара ён захацеў стаць віленскім біскупам і каб атрымаць падтрымку заможных людзей, на грошы з фундушу лідскіх піяраў, арганізаваў вялікае свята, абяцаючы братам-манахам, што ўсё вернецца пасля атрымання ім годнасці біскупа. На жаль, усё скончылася велізарным фінансавым скандалам[30].

У 1779 годзе творы некалькіх лідскіх піяраў — Міхала Харкевіча, Міхала Аляхоўскага і інш. патрапілі ў зборнік панегірыкаў, выдадзеных у Вільні, у гэтым жа зборніку вядомы віленскі піяр Феліцян Выкоўскі славіў лідскага старасту Сцыпіёна[31].

Піярская школа ўтрымлівалася з фундушоў і дабрачынных ахвяраванняў. Ані скарб Рэчы Паспалітай, ані каралеўская каса не прычыніліся да стварэння і ўтрымання гэтай навучальнай установы. Пабудова мураваных кляштара і касцёла, набыццё Пастаўшчыны паглынулі большасць грошай. Лідская нерухомасць, два фальваркa, працэнты ад завешчаных сум і выпадковыя ахвяраванні былі тымі крыніцамі, з якіх лідскія піяры мелі вельмі сціплыя і ледзь дастатковыя сродкі на ўтрыманне калегіума, школы і асабістае існаванне. Былі гэта грозныя часы другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай. Пры рэктары Раймунду Ржашоўскім на пачатку XIX стагоддзя піяры засталіся без грошай. Вайшвіла пісаў, што ніколі «*мы не былі такімі беднымі, як падчас гэтага бязладдзя. Нават увайшло ў прыслоўе: Ліда — бяда!*» Калі хтосьці з кіраўніцтва закону хацеў напужаць падначаленага, дык грazіўся адправіць яго выкладаць у Ліду[32].

Ксёндз Вайшвіла трымаў у руках хронікі лідскіх піяраў пад назвай: «Кніга агульных здарэнняў горада, пачата ў 1793 г.», ён пісаў, што глава «Выпадкі 1794 г.» была напісана, але ўсе старонкі гэтага года выдраны з кнігі, заставалася толькі некалькі слоў у змесце. Вядома, што Лідскі староста Юзаф дэ Кампа Сцыпіён чынна выступаў супраць таргавічан і расійскіх войскаў, ажно да апошніх дзён бараніў вольнасць і незалежнасць Рэчы Паспалітай, а падтрыманыя ім лідскія і шчучынскія піяры верна дапамагалі свайму пратэктару і таму выклікалі супраць сябе пераслед акупантаў.

Рускае войска для сваіх мэтаў час ад часу забірала школу, ціснула піяраў рэквізіцыямі і нават адзін раз забрала піярскі касцёльчык пад ваенную царкву[33].

Зразумець, як лідскія піяры-выкладчыкі аднесліся да інкарпарацыі Рэчы Паспалітай у Расію, можна з загаду расійскага генерал-губернатара Літвы Рапніна ад 1 красавіка 1795 года: «*у горадзе Лідзе 19 мінулага сакавіка месяца па новым стылі Піяр, названы Лаўрынец* (Ваўжынец. — Л.Л.) *Адамовіч, адважыўся ў пропаведзі, замест павучання закону Божаму, супраць правілаў Евангельскіх і апостальскіх і насуперак сваёй прысягі, непрыстойна ганьбіць паводзіны Гасудароў і ўмешвацца ў справы палітычныя, якія да духоўнага сану і закона Боскага не належалі; за такую дзёрзкасць той няварты свайго сану манах быў ўзяты пад варту і пазбаўлены свайго месца, ён будзе за гэта злачынства пакараны па ўсёй строгасці законаў*». Разам з Адамовічам манахам быў узяты пад варту і рэктар Лідскага вучылішча Фларыян Крушэўскі, але «*пасля разгляду справы высветлілася, што ён бязвінны бо не ведаў, што такую пропаведзь той манах казаць будзе: таму гэты Крушэўскі адпушчаны без усялякага спагнання, хоць ён і знаходзіцца не на сваім месцы з-за слабага утрымання падначаленых, ад чаго і адбылася такая дзёрзкасць, гэтак жа вінаваты і ў тым,*

[29] Чацьвярговыя ці мудрыя абеды ў караля Станіслава Паянятоўскага паўсталі па ініцыятыве Адама Чартарыскага на узор парыжскіх літаратурных салонаў. Да караля на іх збіраліся лепшыя інтэлектуалы

[30] Ślusarska Magdalena. Felicjan Wykowski (1728—1784) — zapomniany poeta z wileńskiego środowiska pijarów litewskich. Napis. Napis. Pismo poświęcone literaturze okolicznościowej i użytkowej. T. V. 1999. S. 65.

[31] Гл: Ciapiński, J. 1779. De aedibus ill. Comitis Brzostowski Notarii M. D. L. Canon: Vilnen. R. 1769. — Zebranie rymów z rożnych okolicznosci pisanych mianowicie jmieniem konwiktu szlacheckiego wilen. XX Scholarum Piarum. Wilno: w Typografii J. K. M. y Rzeczypospolitey u XX Scholarum Piarum

[32] Kurkowski Jarosław. Pijarzy w Werenowie i Lidzie // Z dziejów Ziemi Lidzkiej. Warszawa, 1997. S. 78.

[33] Там жа. С. 284.

*што супраць сваёй прысягі адразу не прыняў залежных ад яго мер да спынення падобнага злачынства і не паведаміў пра яго куды трэба»*[34].

У канцы XVIII стагоддзя найлепшым будынкам Ліды лічыўся недабудаваны яшчэ піярскі калегіум. Ён служыў месцам, дзе спыняліся розныя высакародныя асобы. Так вядома, што ў 1797 годзе цар Павел I рабіў агляд *«новадалучанага да Расіі краю»*. Разам з ім аглядалі наш край вялікія князі Аляксандр і Канстанцін і вышэйшыя расійскія саноўнікі: Аляксандр Безбародка, Фёдар Растапчын, Дзмітры Трашчынскі, Грыгорый Кушчалеў[35], Аркадзь Нялідаў, флігель-ад'ютант, князь Галіцын, Кутузаў, Нелядзінскі, Пётр Абрэшкаў, Аляксей Аракчэеў і асобы світы. Пышны царскі поезд з Масквы праз Смаленск, Оршу і Мінск 19 мая прыбыў у Нясвіж, адкуль, пасля начлегу, рушыў на Слонім, Дзярэчын, Масты і Скідаль да Гродна, куды і прыбыў 14 мая. Пасля кароткага адпачынку ў каралеўскім замку Павел з вялікімі князямі і Рапніным паехаў на мяжу Прусіі. Назаўтра, пасля наведвання мяжы, усе разам выехалі праз Каменку Тызенгаўза і пераначавалі ў Лідзе[36].

Пра той начлег у Лідзе апавядае ў сваіх «Дзеях...» ксёндз Вайшвіла: *«Павел I, агледзеўшы літоўскія правінцыі, 16 мая 1797 г. прыбыў у Ліду. Начаваў разам з вялікімі князямі Аляксандрам і Канстанцінам у тутэйшым калегіуме і пакінуў пасля сабе добрую памяць — ахвяраваў на касцёл 5 000 рублёў. Займаў тры пакоі на другім паверсе. Сам адпачываў у тым, у якім дзверы насупраць вялікага калідору, якім уваходзяць з нізу, каля яго пакою, з правага боку, ў кутнім пакоі, адпачываў вялікі князь Аляксандр, а з левага — вялікі князь Канстанцін. Удзячныя піяры зрабілі памятную дошку, якая была галоўная асаблівасцю і аздобай гэтай пабудовы. Авальная тарча з дрэва была прымацавана на калідоры над дзвярамі пакою, дзе адпачываў цар, на тарчы меўся надпіс залатымі літарамі*[37].

*Гэта дошка згарэла пры пажары 1842 г.*

*Цар праз сваю ласкавасць і шчодрасць вырашыў даць грошы для заканчэння пабудовы мураванага касцёлу і запытаў гаспадара*[38]*: "Колькі на гэта трэба?" Той, парадзіўшыся з калегамі, і каб не прасіць болей, указаў суму ў 5 000 рублёў. Адразу найяснейшы пан уласнай рукой напісаў цыдулку да падскарбія ...»*[39]

Вайшвіла пісаў і пра другі царскі начлег ў лідскіх піяраў: *«У часы пабудовы касцёла, пануючы цар Аляксандр I наведаў калегіум і выказаў нам сваю ласку. Як мне расказваў кс. Антон Паеўскі, які сам тады быў вучнем школы, адбылося гэта ў маі 1802 г. Найяснейшы пан адпачываў у зале над сталовай, якая апрача іншых упрыгожванняў, была высыпана ружамі (у маі?) а калідор рознымі іншымі кветкамі. Будаўнік*[40] *не адважыўся прасіць аб дары на аднаўленне касцёлу, але ж меў шанц атрымаць, калі б распавёў пра неабходнасць гэтага»*.

Акрамя таго, ксёндз Вайшвіла, не даючы даты, коратка піша пра яшчэ аднаго госця піяраў у той час: *«Кніга агульных здарэнняў горада, пачатая ў 1793 г. не змяшчала нічога, акрамя адной ведамасці, што аўстрыйскія эрцгерцагі ў свой прыезд з Вены ў Пецярбург на адваротным шляху бавілі час і балявалі ў тутэйшым калегіуме»*[41].

Гасцілі ў піяраў не толькі цары, але і прыезджыя павятовыя дыгнітары. У «Дзеях ...» запісана, што 3 лютага 1800 года *«Была склікана сесія каб вырашыць, што рабіць з лекцыямі падчас сейміка, бо адзіная школа была занятая панам падкаморым, і ці маюць вучні бываць на сесіях?»* Аднак такія пастоі звычайна праносілі грошы ад гасцей. Значна больш цяжкімі былі вайсковыя пастоі.

[34] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792—1796) [С предисл. Ар. Турцевич]. Вильна, 1903. С. 270.
[35] Грыгорый Грыгоравіч Кушаль (1754—1883) — адмірал, граф, фактычны камандуючы расійскім ваенным флотам ў эпоху Паўла I.
[36] Mościcki H. Dzieje Porozbiorowe Litwy i Rusi. T. 1, 1772—1800, Wilno 1913. S. 416.
[37] Надпіс: «Paulo I Clementissimo et Sapientissimo totius Rusiae Imperatori atque Parenti optimo. Quum iter agens una cum carissimis Filiis suis magnis ducibus Aleksandro et Constantino Grodna ad Collegium Lidense quietis causa idibus maji divertisset, illugue Imperatoriae Majestatis suae gratia ac singulari patrocinio prosequatus fuisset Scholae piae grati animi, debiti amoris, profundissimae que veneratioriis percune monumentum sexto Kalendas Junii anno Dni MDCCXCVII, D. D. D.».
[38] Кс. Паўла Выгоўскага, рэктара.
[39] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №4, kwiecień 1937. S. 44.
[40] Кс. Себасцян Дамброўскі, рэктар.
[41] У 1798 г. у Пецярбург прыбылі браты імператрыцы Марыі Фёдараўна (жонкі імператара Паўла) Фердынанд і Аляксандр (яны служылі ў аўстрыйскай арміі). Зацікаўленая ў саюзніку Аўстрыя прапаноўвала заключыць саюз супраць Напалеона, а для ўмацавання саюза заключыць шлюб паміж Аляксандрай Паўлаўнай (дачка імператара Паўла) і эрцгерцагам Іосіфам, братам імператара Франца.

Руская армія не рабіла ніякіх паслабленняў для будынкаў школьных ці кляштарных, а гэтак жа і для памяшканняў, у якіх жылі вучні. Ужо падчас першага побыту рускага войска 18 мая 1793 года было *«склікана пасяджэнне школьнай рады з прычыны раскватаравання рускага войска ў пакоях вучняў ... Бо жаўнеры ў вучнёўскіх пакоях робяць перашкоду і трэба каб прэфект паразмаўляў пра гэта з палкоўнікам»*[42].

Наогул, умовы існавання школы ў Расійскай імперыі былі цяжкімі. 14 кастрычніка 1799 года зроблены такі запіс у «Дзеях ...»: «*пасля заняцця школы пад царкву для палка Эсэна 2-га, лекцыі пачалі даваць з вялікім перапынкам, прэфект пытаўся, ці не лепей было адмяніць лекцыі па палову тыдня? Аднагалосна з гэтым пагадзіліся, лічачы гэта эканоміяй часу*». Ксёндз Вайшвіла дадае да гэтай інфармацыі наступнае: *«Побыт тут нашага гаспадара (ксяндза Філіпа Неруша Банарскага) скарацiла наступная акалічнасць: пры канцы трохгоддзя яго прац для закона, праваслаўны вайсковы капелан адправіў набажэнства ў піярскім касцёле не пытаючыся пры дазвол, наш рэктар быў абвінавачаны біскупам у тым, што ён гэта дапусціў і таму зняты з пасады»*.

22 кастрычніка 1803 года *«на агульным сходзе абмяркоўвалася, як зрабіць так, каб дом, прызначаны для летняй адукацыі і гвалтоўна забраны гарадской камандай, быў вернуты. Ухвалілі: падаць просьбу да гараднічага Ліды пра падпаручніка Мернага, які супраць указаў манарха аб каталіцкім духавенстве, якія вызвалялі ад пастояў усе памяшканні законаў і асабліва памяшканні прызначаныя для адукацыі, 21 дня прыйшоў з жаўнерамі і дзясятнікамі і гвалтоўным чынам забраў школьны дом, замкі пазбіваў, кафедры і лаўкі з класаў павыкідваў»*. 26 таго ж кастрычніка *«кс. прэфект сабраў сход каб абмеркаваць адбор школы вайсковай камандай... Школьны сход неаднаразова звяртаўся да васпана выконваючага абавязкі гараднічага, камісара лідскага Ельца, але не дачакаўшыся ягонага выраку па справе аб заняцці школьнага дома, пастанавіў: даслаць рапарт да Імператарскага Віленскага ўніверсітэта»*. Але не

У канцы XVIII стагоддзя найлепшым будынкам Ліды лічыўся недабудаваны яшчэ піярскі калегіум. Ён служыў месцам, дзе спыняліся розныя высакародныя асобы. Так вядома, што ў 1797 годзе цар Павел I рабіў агляд «новадалучанага да Расіі краю»

дапамог і рапарт да ўніверсітэта, 22/24 мая 1804 года візітатар эзопавым стылем запісаў у кнізе візітацый: *«Пад палкавую капліцу забраны школьны дом, таксама за правіну пошуку дапамогі ва ўніверсітэце робяцца перашкоды і забрана бюро»*.

Падобна, мясцовыя ўлады нават змагаліся з піярскай школай. 15 красавіка 1806 года *«была сабрана сесія, каб абмеркаваць свае паводзіны з васпанам гараднічым Каралінам з-за гвалтоўнага, супраць указу Імператара, прымусу распусціць на час вучняў і каб яны пакінулі свае пакоі. Ухвалілі: як хутчэй даслаць аб гэтым здарэнні рапарт ў Галоўную Школу* (Віленскі ўніверсітэт. — Л.Л.)». Універсітэт дапамог праз чатыры гады, толькі 25 мая 1810 года візітатар пісаў: *«Дзякуючы дапамозе Універсітэту школа вызвалена ад павіннасці пастою ў кляштары і школе»*[43].

Візітацыя 4 чэрвеня 1792 года пра школьны будынак занатавала: *«Школьныя залы дастаткова зручныя»*, але візітацыя 24 сакавіка 1808 года сцвярджала, што *«асобнага будынку для школы няма (NB — падчас візітацыі быў заняты войскамі), частка класаў у кляштары, частка ў ізбе-сталоўцы, частка ў пакоях настаўнікаў»*, візітацыя ад 25 мая 1810 года выразна адзначае: *«Школьны будынак цалкам зруйнаваны а заняткі праходзяць у памяшканнях настаўнікаў»*. Дырэктар гродзенскай гімназіі Сазановіч, інспектуючы лідскую школу 21 кастрычніка 1833 года, таксама занатаваў: *«Паміж вучнямі ў класах, па магчымасці, падтрымліваецца дысцыпліна, вучні з-за браку месца знаходзяцца ў сталовай і келлях манахаў-піяраў»*. Падобна, школьны будынак быў зруйнаваны пастоем войска[44].

---

[42] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №4, kwiecień 1937. S. 44.
[43] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec — lipiec 1937. S. 62.
[44] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6-7, czerwiec — lipiec 1937. S. 63.

У 1801 годзе ў лідскім піярскім калегіуме вучылася 49 чалавек, з іх 39 з шляхты, 3 з гараджан, 2 з разначынцаў, 5 з чыноўнікаў. Бібліятэка вучэльні мела 627 кніг (з іх 38 падручнікаў)[45].

У 1803 годзе піярскі калегіум ператвораны ў 4-класную павятовую вучэльню ў складзе Віленскай навучальнай акругі, арганізацыя вучэбнага працэсу і праграма навучання пры гэтым не змяніліся, і піяры па-ранейшаму лічылі яе сваёй справай[46].

Аляксандр I, дазваляючы існаванне Віленскага ўніверсітэта, сваім рэскрыптам ад 4 красавіка 1803 года падпарадкаваў універсітэту ўсе публічныя і прыватныя школы, а таксама пансіёны, якія знаходзіліся ў Вільні і іншых месцах. На утрыманне кожнай павятовай школы з даходаў па-езуіцкай маёмасці асігноўвалася штогод 2 820 рублі. Указ гэты вызначаў, што ў Літоўскіх губернях — віленскай і гродзенскай, школы якія утрымліваліся манаскімі законамі, кіраваліся статутам *«былой Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай»* і што школы гэтыя знаходзіліся ў падпарадкаванні універсітэта. Асобнай клаўзулай указ абмяжоўвай правы манаскіх школ на атрыманне сродкаў з даходаў па-езуіцкай маёмасці і паведамляў, што *«ў Гродзенскай губерні*[47] *законы павінны утрымліваць сем школ»* і *«ў тых школах адукацыйныя праграмы павінны быць прыстасаванымі да праграм чатырохкласных павятовых школ»*. У лік гэтых сямі школ уваходзілі школы ў Лідзе і Шчучыне[48].

Указам ад 20 жніўня 1804 года было вызначана, што *«ў Літоўскіх губернях, Віленскай і Гродзенскай, вучылішча, даручаны Духоўным законам павінны кіравацца... Уставам былой Польскай Адукацыйнай камісіі»*[49]. Быў вызначаны штат і гадавыя заробкі выкладчыкаў для дзяржаўных вучэльняў і вызначана, што вучэльні Духоўных законаў будуць *«складацца з 4 класаў і 4 настаўнікаў»*[50].

У 1808 годзе ўніверсітэт паставіў лідскую школу пад непасрэдны нагляд гродзенскай гімназіі. Тады ж школа атрымала назву «Павятовая Лідская школа айцоў Піяраў».

Мовай школы ажно да яе закрыцця была польская мова. Статут Віленскага ўніверсітэта ад 18 мая 1803 года ўводзіў рускую мову ў праграму лекцый, але піяры нейкі час не прымалі гэтай навацыі: 12 лістапада 1803 года ксёндз правінцыял Юзаф Астроўскі зацвердзіў штат настаўнікаў лідскай школы, але ці выпадкова, ці адмыслова, выкладчыка рускай мовы сярод настаўнікаў не было. Відавочна, нехта звярнуў на гэта увагу і 6 снежня 1803 года на школьнай радзе разглядалі пытанне: *«справа аб неабходнасці мэтра рускай мовы і выраку, каб ксёндз Санкоўскі вучыў гэтай мове»*. Візітацыя 1804 года сцвярджала, што *«мовы французская і руская вывучаюцца»*, аднак поспехі вучняў у рускай мове былі слабыя ці рэдкія і таму універсітэт пажадаў, каб гэтая мова *«давалася як нацыянальная»*. 17 красавіка 1808 года Школьная рада *«не знайшла падручнікаў і настаўнікаў у гэтай мове і вырашана адкласці гэты пункт на наступны навучальны год»*. Але гэты наступны год прыйшоў не хутка, 25 мая 1810 года правінцыял у візітацыі адзначыў: *«Не выкладаецца абавязковая ў павятовых школах руская мова, але толькі французская на пачатковым узроўні»*. Потым на гэта звярнуў увагу дырэктар гродзенскай гімназіі і указаў на гэты факт ў лісце да кіраўніцтва школы, прыказаўшы выкладаць гэтую мову. 12 верасня 1811 года школьная рада мусіла адказаць на загады і вырашыла, што рускую мову будзе выкладаць ксёндз прафесар Дыянізі Фрайсамберг, які і выкладаў гэты прадмет да 1820 года. Спачатку давалі рускую мову па паўгадзіны штодзённа, але ад 3 лютага 1814 года пачалі, відавочна, пад ціскам, выкладаць рускую мову па гадзіне на тыдзень. 8 кастрычніка таго ж года было вызначана, што руская мова будзе выкладацца па панядзелках, серадах і пятніцах пасля *«школьнай абедні»*. У 1820 годзе рускую мову выкладаў ксёндз Та-

[45] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792-1796) [С предисл. Ар. Турцевич]. Вильна, 1903. С. 249—250.
[46] Kałamajska-Saeed Maria. Kościół p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. Kraków, 2008. T. 2., cz. III. S. 143.
[47] Да 1842 г. Ліда належала да Гродзенскай губерні. — Л.Л.
[48] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec — lipiec 1937. S. 63.
[49] Сборник постановлений по Министерству народного просвещения, 1802—1825. С-Петербург, 1864. Т. 1. С. 238.
[50] Там жа. Штаты и Приложения. С. 7-8.

дэвуш Унянтоўскі *«у двух аддзелах: пачатковым і дасканалым»,* пры чым гэтыя лекцыі *«замыкалі навуку пачатковага чытання, скланенне слоў, красамоўства і правапіс».* У 1822 годзе рускую мову выкладаў ужо ксёндз Дэмэтры Тамашэвіч, у 1824 годзе — ксёндз Алексы Тубароўскі, а ў 1829 годзе ксёндз Піюс Ясенскі[51].

З боку гледжання падзела настаўнікаў, школа складалася з наступных трох частак: 1) пачатковыя класы і парафіяльная школа, 2) два першыя малодшыя класы, 3) два старшыя класы. Пачатковы клас, які часам называўся ўступным, і парафіяльная школа мелі аднаго настаўніка, у 1824 годзе гэта быў клірык Андрэй Слявінскі, у 1828 годзе Рамуальд Панасевіч, раней ён сам быў вучнем павятовай школы і яе дамашнім наглядчыкам.

У 1-м класе выкладалі ксяндзы: у 1784—1785 гг. Ваўжынец Адамовіч, у 1787 г. Каятан Дзержаноўскі, у 1788 г. Антоні Юхневіч, у 1789 г. Рамульд Арэшкоўскі, 1792—1793 гг. Піюс Янкевіч, у 1798 г. Людвік Сцыпіён, у 1800 г. Францішак Стукевіч і ў 1803—1804 гг. Вінцэнт Кавалеўскі.

У 2-гім класе выкладалі ксяндзы: у 1784 г. Юзаф Статкевіч, у 1785—1787 гг. Караль Харват, у 1788 г. Казімір Таліцкі, у 1793 г. Казімір Янцэвіч, у 1798—1803 гг. Андрэй Канюшэўскі, у 1803—1804 гг. Казімір Заткевіч і ў 1805 г. Францішак Калясінскі.

У 1806 г. у 1-м і 2-м класах выкладаў настаўнік ксёндз Станіслаў Заверанскі, аднак у 1807 г. 1-ы клас быў аддадзены выключна ксяндзу Ежы Мігдале, а 2-гі клас — ксяндзу Адаму Юшкевічу. Аднак у 1808 г. у абодвух класах выкладаў адзін ксёндз Антані Данілевіч, пасля яго ў 1816 г. Дзіянісі Фрасамберг, у 1818—1820 гг. ксёндз Тадэвуш Унянтоўскі, у 1825 г. клірык Мацей Рапніцкі.

Праца настаўніка ў двух старшых класах была падзелена па прадметам. У 1793 і 1798 гг. у «Дзеях ...» успамінаецца ксёндз Казімір Жукоўскі з тытулам прафесара — гэтак называўся выкладчык-прадметнік, звычайна з універсітэцкай адукацыяй, які выкладаў у 3-м класе. Вядома, што некаторыя прафесары старшых класаў адначасова выкладалі і ў малодшых[52].

З актаў візітацый можна даведацца і пра колькасці вучняў[53].

Вышэй згадвалася пра два фундушы, запісаныя лідскім піярам — Войцаха Стэцэвіча і Томаша і Бенедыкта Мігдалаў. Згодна з гэтымі фундушамі, піяры былі павінны бясплатна ўтрымоўваць і вучыць двух вучняў — сваякоў фундатараў ці

[51] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec — lipiec 1937. S. 63.

[52] Спіс старшых класаў з пералікам выкладаных імі прадметаў: кс. Павел Выхоўскі, школьны прэфект, у 1785—1789 гг. выкладаў красамоўства; rс. Юзаф Статкевіч, у 1785 г. выкладаў геаметрыю; кс. Леапольд Сцыпіён, у 1792—1798 гг. выкладаў матэматыку і фізіку; кс. Ваўжынец Адамовіч, школьны прэфект, у 1792—1803 г. красамоўства і права; кс. Антоні Канюшэўскі, у 1800 г. выкладаў матэматыку і фізіку; кс. Андрэй Канюшэўскі, у 1803—1804 гг. геаметрыю і фізіку; кс. Ігнацы Плескачэўскі, у 1803—1804 гг. выкладаў красамоўства; кс. Казімір Заткевіч, у 1804—1806 г. выкладаў фізіку, у 1810 г. граматыку; кс. Ігнацы Пазялевіч, шматгадовы наглядчык школы, у 1805 г. выкладаў матэматыку (арыфметыку і геаметрыю) і фізіку, у 1820 г. натуральную гісторыю, у 1822 г. акрамя гэтага яшчэ і геаграфію; кс. Антон Вільнярскі, у 1805 г. выкладаў красамоўства; кс. Яцак Руміноўскі, будучы правінцыял, у 1808 г. красамоўства і гісторыю; кс. Антоні Данілевіч, у 1808 г. выкладаў навуку маральнасці, у 1810 г. арыфметыку, геаграфію і навуку маральнасці; кс. Феліцыян Калюсоўскі, у 1810 г. выкладаў навуку маральнасці, акрамя таго арыфметыку і геаграфію у першых двух класах, у 1818 г. французскаю мову і літаратуру; кс. Дэмэтры Тамашэвіч, у 1810 г. выкладаў граматыку, у 1822 г. граматыку, геаграфію, арыфметыку, навуку маральнасці, рускую мову, у 1824 г. хрысціянскую навуку, геаграфію, граматыку, польскую, лацінскую і французскаю мовы; кс. Павел Вансоўскі, у 1810 г. красамоўства; клірык Юзаф Каласанты Кабылянскі, у 1814 г. выкладаў красамоўства і права, у 1816 г. красамоўства, права, паэзію, гісторыю, французскі язык, у 1825—1826 гг. у старшых класах рыторыку, лаціну, агульную гісторыю; кс. Юзаф Каласанты Гаўлоўскі, у 1811 г. красамоўства; кс. Дзіянісі Фрасамберг, у 1811 г. выкладаў граматыку і лаціну. У 1814 г. пачаткі граматыкі, арыфметыку, гісторыю, геаграфію, маральную навуку, рэлігію, рускую мову. У 1816 г. настаўнік двух ніжніх класаў, навукі хрысціянскай, навукі маральнай, граматыкі, геаграфіі, арыфметыкі, рускай мовы у вышэйшых класах; кс. Францішак Калясінскі, у 1818 г. выкладаў літаратуру, права і гісторыю; клірык Тадэвуш Унянтоўскі, у 1820 г. выкладаў рускую мову, граматыку, маральную навуку, лаціну, гісторыю і красамоўства; кс. Дамінік Бенявіч, у 1821 г. выкладаў польска-лацінскую граматыку, у 1822 г. красамоўства, гісторыю, права і нямецкую мову; кс. Алекса Тубароўскі, у 1824 г. выкладаў матэматыку і рускую мову; кс. Каласанты Адамовіч, у 1825—1826 гг. выкладаў геаметрыю, алгебру, натуральную гісторыю і фізіку ў вышэйшых класах; кс. Калансанты Багуцкі, у 1826 г. выкладаў арыфметыку, геаметрыю і натуральную гісторыю ў 1-м і 2-гім класах; клірык Мацей Рапнініскі, у 1825—1826 гг. выкладаў рэлігію, польскую і лацінскую мовы ў вышэйшых класах; кс. Фелікс Юшкевіч, у 1828—1829 гг. выкладаў геаграфію ў двух ніжніх класах, арыфметыку і геаметрыю ў вышэйшых класах; клірык Караль Ліпінскі, у 1828—1829 гг. выкладаў рэлігію ў 1-м і 2-м класах і французскую мову; кс. Юстын Янушкевіч, у 1829 г. выкладаў арыфметыку і геаметрыю; кс. Піюс Ясінскі, у 1829 г. выкладаў рускую мову і звычаі. — Гл: Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec — lipiec 1937. S. 64.

[53] Акты візітацый даюць наступныя лічбы: 14 мая 1784 г., 75 вучняў з тлумачэннем, што ўзімку было болей; 6 чэрвеня 1785 г., 60 вучняў, зноў з тлумачэннем, што ўзімку было значна болей; 10 мая 1787 г., 82 вучня; 13 ліпеня 1789 г., 50 вучняў; 4 чэрвеня 1792 г., 52 вучня; 24 чэрвеня 1798 г., да 50 вучняў; 22 мая 1804 г., 1-ы клас — 37, 2-гі і 3-ці — 24 вучняў; 10 ліпеня 1806 г., 37 вучняў; 24 сакавіка 1808 г., 44 вучня; 11 ліпеня 1811 г., 40 вучняў; 4 мая 1812 г., 42 вучня; 9 мая 1816 г., 47 вучняў; 9 чэрвеня 1818 г., 36 вучняў; 16 чэрвеня 1822 г., 24 вучня, але з-за раскватаравання ў Лідзе войскаў знайшліся толькі 13. — Гл: Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec — lipiec 1937. S. 65—66.

хоць бы з такім жа прозвішчам, як у фундатараў. Візітатары заўжды звярталі увагу на тое ці выконваюць піяры гэтыя ўмовы[54]. У візітатараў знаходзім занатаваныя імі прозвішча фундушовых вучняў[55].

6 чэрвеня 1817 года, ранютка, неспадзявана, падчас праезду ў Вільню і Пецярбург прыбыў у Ліду яго светласць князь Адам Чартарыскі, тагачасны куратар Віленскага універсітэта і вучэбнай акругі. Ён адразу прыйшоў у тутэйшую школу і сам праверыў веды вучняў. Праверкай застаўся задаволены і выказаў падзяку рэктару разам з усімі настаўнікамі за адносіны вучнёўскай моладзі да навукі. Прыказаў свайму сакратару запісаць у журнале візітацый, але каб было хутчэй, запісаў уласнаручна. Перапісаў той запіс даслоўна: *«Аддаю павагу заслужанай руплівасці і пільнасці настаўнікаў лідскай школы і яе кіраўніку — высакароднаму і узорнаму ягамосці рэктару і сведчу сваю найвялікшую падзяку. Для яшчэ больш дасканалай працы гэтай школы, звяртаю увагу настаўнікаў на два важных у навучанні моманту: зразумеласць у тлумачэннях, што значыць чыстае вымаўленне слоў і цэлых сказаў з дакладнай інтанацыяй: без маркотнай аднастайнасці але і без залішняй афектацыі. Вучыць так, каб вучні не запаміналі лекцыю павярхоўна а грунтоўна даходзілі да галоўных высноў вывучаемай тэмы. Трэба каб моладзь не зубрыла лекцыі на-памяць але каб кожная навука выкладалася ясна і стасоўна да разумення, даваліся запамінальныя прыклады з жыцця і нарэшце, трэба імкнуцца да таго, каб кожнае слова з лекцыі вучні маглі самі растлумачыць. Пісана ў Лідзе 6/18 чэрвеня 1817 г. А. Чартырыскі, куратар».* Хутка падобны ж запіс князь зрабіў у віленскай гімназіі, дзе, дарэчы, прыводзіў лідскую школу як узор. Сучаснікі лічылі гэтыя словы найвялікшай хвалой і вянцом дзейнасці школы.

У канцы красавіка 1827 года школу наведаў тагачасны рэктар Віленскага ўніверсітэта Пелікан. Вынік інспекцыі ён выразіў у наступным лісце: *«Правінцыялу закона кс. Піяраў, вялебнаму кс. Крукоўскаму. Наведаўшы ў гэтым годзе некаторыя навучальныя установы Віленскай акругі, з вялікім задавальненнем магу адзначыць, што у гімназіі Мянджэца[56], а таксама ў лідскай павятовай школе, якую утрымліваюць піяры, усталяваны неабходны лад у справе выкладання навук і ў маральным выхаванні і пакаранні вучняў. Усё робіцца як належыць з-за высокай руплівасці піяраў на дабро грамадства і дакладным выбары піярскім законам асоб для навучання моладзі. Лічу сваім прыемным абавязкам выказаць вам удзячнасць за вашу працу ад імя куратара Віленскай вучэбнай акругі, які мяне на гэта ўпаўнаважыў, і ад мяне асабіста. Прашу перадаць гэтыя падзякі таксама кіраўніку школы і настаўнікам. Рэктар Універсітэта Пелікан. 6 ліпеня 1827 г. № 724».*

Апошнюю інспекцыю школы правёў 21 кастрычніка 1833 года дырэктар школ Гродзенскай губерні калежскі дарадца Сазановіч. Пратакол ягонай інспекцыі першы раз упісаны ў кнігу візітацый па-руску. Школа была ўжо асуджана на знікненне[57].

Лідскую піярскую школу скончыла шмат выбітных людзей нашага краю. Адзначу тут толькі **Станіслава Баніфацыя Юндзіла** (1761—1847), прафесара батанікі і заалогіі Віленскага універсітэта, які атрымаў сярэднюю адукацыю ў піярскіх школах Ліды, Шчучына і Любяшова[58] і **Мірона Браніслава Нарбута** — аўтара найкаштоўнейшых мемуараў пра Лідчыну, паўстанца 1863 г.[59]

9 верасня 1834 г. Лідскі павятовая вучэльня піяраў была закрыта[60]. А юрыдычна піярскі калегіум быў ліквідаваны толькі 14 мая 1845 г.[61]

---

[54] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6-7, czerwiec — lipiec 1937. S. 66.

[55] Гэта: Пётр Мігдала, 1788—1792; Ігнацій Пранеўскі, 1789; Юзаф Стэцевіч, 1792; Клеменс Стэцевіч, 1792; Караль Вільбік (па выраку управы), 1798; Казімір Шалевіч (па выраку управы), 1798—1803; Ежы Мігдала, 1798—1807 гг. (вучыўся ажно дзевяць гадоў!); Аляксандр Вербуш, 1808; Фелікс Стэцевіч, 1808—1811; Караль Арэхоўскі, 1811; Вінцэнт Мігдала, 1818—1820 гг. (пайшоў ва уланы); Марцін Стэцевіч, 1818—1820; Аляксандр Стэцевіч, 1822; Ян Місевіч, 1822; Генрык Буржынскі, 1825; Рамуальд Стэцевіч, 1828; Ян Мігдала, 1828; Аляксандр Стэцевіч, 1833; Ігнацы Цярпіцкі, 1833. — Гл: Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec — lipiec 1937. S. 66.

[56] Горад Мянджэц-Падляскі.

[57] Szymielewicz Michał. Dzieje pijarów lidzkich // Ziemia Lidzka №6—7, czerwiec — lipiec 1937. S. 66—67.

[58] Грамбецка Ванда. Станіслаў Баніфацый Юндзіл. Варшава—Ліда, 2003. С. 44.

[59] Ziemia Lidzka №5, sierpień 1936. S. 6.

[60] Kałamajska-Saeed Maria. Kościół p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. Kraków, 2008. T. 2., cz. III. S. 144.

[61] Kałamajska-Saeed Maria. Kościół p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. Kraków, 2008. T. 2., cz. III. S. 145.

Інстытут журналістыкі
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта

# ЖАНРАВАЯ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ У СУЧАСНАЙ ЗАМЕЖНАЙ ЖУРНАЛІСТЫЦЫ

Выкладчык Ягор Конеў.



Ілюстрацыя Алесі Галота.

На пачатку нашай лекцыі неабходна адразу адзначыць, што гаворка пойдзе пераважна наконт жанраў у друку Злучаных Штатаў Амерыкі і некаторых краін Еўрапейскай Супольнасці.

Вядома, у свеце існуюць ды актыўна развіваюцца і іншыя нацыянальныя мадэлі журналістыкі (паўднёваазіяцкая, арабская, лацінаамерыканская, афрыканская і г. д.), цікавыя сваёй тэматычнай, жанравай і стылёвай разнастайнасцю. Гэтаксама трэба памятаць, што кожны другі жыхар Зямлі, г. зн. звыш трох мільярдаў чалавек, ніколі ў жыцці не бачыў ані газеты, ані радыёпрыёмніка, ані тэлевізара.

Тым не менш, менавіта амерыканская і заходнееўрапейская мадэлі журналістыкі ў апошнія сто гадоў удала пазіцыяніруюць сябе як найбольш паспяховыя ў фінансавым плане і найбольш плённыя ў творчым. Наша інфармацыйная прастора ў значнай ступені адчувае ўплыў еўрапейскіх і амерыканскіх СМІ. Такім чынам, будзе карысна пашыраць свае веды наконт здабыткаў і хібаў гэтых мадэляў медыя — каб пазычыць ва ўласную творчую скарбонку самае ўдалае з замежнага вопыту і адцурацца тамтэйшых заганаў і недахопаў.

Сучаснае становішча ў класіфікацыі жанраў амерыканскіх і заходнееўрапейскіх медыя абумоўлена іх гістарычным узаемаўплывам. З XVII стагоддзя і да канца XIX стагоддзя журналістыка Злучаных Штатаў Амерыкі знаходзілася пад моцным ідэйна-тэматычным уплывам еўрапейскай журналістыкі (галоўным чынам, англійскай). У перыяд першапачатковага набыцця капіталу і прамысловага развіцця амерыканскія выдаўцы і рэдактары не толькі калькіравалі макет, дызайн і нават шрыфт лонданскіх газет і часопісаў, але і актыўна выкарыстоўвалі жанры, уласцівыя краінам Заходняй Еўропы, — памфлеты, фельетоны, рэцэнзіі ды інш.

Аднак сітуацыя пачала змяняцца ў пачатку XX стагоддзя, калі ва ўсходніх штатах Амерыкі

*Тут друкуюцца самыя цікавыя лекцыі на самыя розныя тэмы па самых розных дысцыплінах. Галоўныя ўмовы: зразумела ўсім, карысна кожнаму, цікава шырокаму колу маладых чытачоў-інтэлектуалаў. Прымаем ад выкладчыкаў тэксты ў форме лекцый з фатаграфічнымі доказамі студэнцкага захаплення.*

бурна развіваецца масавы друк, які прыносіў каласальны прыбытак яго ўладальнікам. Паколькі фінансавы поспех СМІ ў гэты перыяд набывае першаснае значэнне, то Стары Свет актыўна пазычае ў Новага Свету не толькі новы дызайн штодзённых выданняў (буйны памер газеты, агрэсіўныя загалоўкі першай паласы, вялікую колькасць фотаілюстрацый і малюнкаў ды інш.), але і ўкараняе ў рэдакцыйную практыку такія жанры, як інтэрв'ю, рэпартаж, нарыс-расследаванне і інш.

Значную ролю ў фарміраванні амерыканскай мадэлі журналістыкі адыграла створаная Кангрэсам ЗША Камісія па свабодзе друку на чале з Робертам Хатчынсам, якая ў 1947 годзе апублікавала даклад «Свабодная і адказная прэса». Гэтая фундаментальная праца стала базавай у сучаснай амерыканскай медыялогіі. Даклад Камісіі Хатчынса зафіксаваў шматлікія парушэнні свабоды слова і друку на тэрыторыі Амерыкі і, разам з тым, зрабіўся галоўнай крыніцай тэорыі сацыяльнай адказнасці журналіста — рэгулятыўнай ідэі, якая за апошнія паўстагоддзі аказала надзвычайны ўплыў на журналісцкую тэорыю і практыку ў розных кутках свету.

Паводле высноў Камісіі Хатчынса журналісты, рэдактары і выдаўцы павінны служыць найперш інтарэсам грамадскасці, а не дбаць пра ўласную кішэнь. У адваротным выпадку грамадства апынецца пад уладай дыктатуры той ці іншай эліты, ад якой СМІ першыя ж і пацерпяць. Аднак, паколькі гістарычны вопыт сведчыць, што аніякі закон не можа плённа кантраляваць інфармацыйную дзейнасць, то друкаваныя медыя, калі яны прэтэндуюць на права звацца свабоднай і адказнай прэсай, павінны добраахвотна кіравацца наступнымі нормамі дзейнасці:

1. Забяспечваць праўдзівую і ўсебаковую справаздачу пра падзеі дня ў кантэксце, які зрабіў бы іх значнымі.
2. Служыць форумам для абмену каментарыямі і крытыкай.
3. Ствараць прадстаўнічую карціну груп і катэгорый, якія складаюць грамадства.
4. Прадстаўляць і тлумачыць мэты і каштоўнасці грамадства.
5. Забяспечваць поўны доступ да інфармацыі дня.

Адпаведна дадзеным нормамі абавязаны кіравацца журналісты і рэдактары, абіраючы той ці іншы метад збору і апрацоўцы інфармацыі, жанр свайго матэрыялу і г. д.

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны краіны Заходняй Еўропы, якія адбудоўвалі эканоміку з дапамогай амерыканскіх субсідый, у значнай ступені «амерыканізавалі» ўласную інфармацыйную мадэль. Гэта тычылася не толькі арганізацыі журналісцкай працы і рэдакцыйна-выдавецкай інфраструктуры, але і творчых метадаў і праёмаў дзейнасці, жанравай і стылістычнай афарбоўкі тэкстаў.

З цягам часу інфармацыйныя мадэлі краін-членаў Еўрапейскай Супольнасці набывалі ўсё больш выразныя нацыянальныя рысы, галоўным чынам у тэматыцы публікацый, метадах асэнсавання навін і г. д. Утварыўся своеасаблівы сімбіёз тэорыі і практыкі, які пакрысе атрымаў умоўную назву заходняй журналістыкі — мадэлі, якую ўзялі на ўзбраенне рэдакцыі не толькі ў Злучаных Штатах і Заходняй Еўропе, але і ў Канадзе, Аўстраліі, Новай Зеландыі.

Таму і мы, калі гаворка будзе тычыцца жанравых рыс, агульных для журналістыкі гэтых краін, будзем выкарыстоўваць адносна шырокі тэрмін — заходняя журналістыка.

Таксама трэба ўлічваць, што паколькі інвестыцыі прыватнага і дзяржаўнага капіталу ў медыя ў пасляваеннай Еўропе раслі куды меншымі тэмпамі, чым у Злучаных Штатах Амерыкі, то ў пачатку XXI стагоддзя ўсталявалася перакананне, быццам амерыканская інфармацыйная мадэль мае значныя перавагі над еўрапейскай. Па гэтай прычыне пасля заканчэння «халоднай вайны» і развалу сацыялістычнага блоку дзяржавы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы трансфармавалі сваю інфармацыйную прастору, узяўшы за ўзор амерыканскі журналісцкі досвед. (Пэўна, сваю ролю тут адыгралі інвестыцыі, якія Дзяржаўны дэпартамент ЗША выдаткаваў на «перабудову» СМІ краін колішняй Варшаўскай Дамовы праз прадстаўніцтвы Фонду Джорджа Сораса.) Па гэтай жа прычыне краіны так званага трэцяга свету (Афрыкі, Азіі, Лацінскай Амерыкі) пераймаюць амерыканскі вопыт у галіне тэарэтычнай і практычнай журналістыкі.

Такім чынам, сёння амерыканская сістэма СМІ падаецца ў сусветнай інфармацыйнай і камунікацыйнай прасторы як найбольш прыцягальная і пасяховая. Насамрэч унутры гэтай сістэмы метадаў і жанраў шмат спецыфічных асаблівасцяў. Яны могуць падабацца або не. Але ведаць іх варта.

У сучаснай медыялогіі, якая даследуе становішча і асноўныя праблемы сусветных СМІ, існуе шмат трактовак газетных жанраў, а таксама іх класіфікацый. Але практычна ўсе яны сыходзяцца ў думцы, што жанр — гэта тып інфармацыйнага, аналітычнага або мастацка-публіцыстычнага твора, які характарызуюць агульныя структурныя, кампазіцыйныя і стылістычныя прыкметы, уласцівыя менавіта яму.

У дадзеным выпадку мы лічым мэтазгодным спаслацца на меркаванне прафесара Калумбійскага універсітэта Герберта Тэры, які сцвярджаў, што ў амерыканскім друку ў апошнія гады пераважна выкарыстоўваліцца наступныя жанры:

1. Навіны (*News story*).
2. Артыкул (*Feature*).
3. Каментарый (*Commentary*).
4. Агляд (*Review*).
5. Інтэрв'ю (*Interview*).
6. Нарыс-расследванне (*News Analysis*).
7. Аўтарская калонка (*Column*).
8. Эсэ ( болей уласцівы часопісам і альманахам).
9. Забаўляльная інфармацыя (Entertainment).

У сваю чаргу кожны з вышэйзгаданых жанраў мае свае віды, якія выкарыстоўваюцца ў рэдакцыйнай практыцы ў залежнасці ад тыпу выдання і характарыстыкі яго аўдыторыі.



Ягор Конеў, дацэнт кафедры замежнай журналістыкі і літаратуры.

Так, у «Слоўніку мовы сродкаў масавай інфармацыі Злучаных Штатаў Амерыкі» слова навіны мае два семантычных тлумачэння:

«1. Група тэрмінаў, звязаных з друкам (*newsletter* — інфармацыйны бюлетэнь, *newsman* — газетчык, *news editor* — рэдактар аддзела навін і г.д.);
2. Група назваў, звязаных з узнікненнем новых медыя (*newscasting* — радыё- і тэлевяшчанне навін, *newswire service* — служба навін інфармацыйнага агенцтва і г. д.)».

Як бачым, з развіццём інфармацыйных тэхналогій сэнс навін распаўсюджваецца на новыя сферы ўжывання.

Нас, вядома, цікавіць першае значэнне слова навіны. У сучаснай амерыканскай перыёдыцы гэты жанр мае наступныя віды:

1. «Цяжкія» навіны (*hard news* — прысвечаныя галоўным чынам падзеям у галіне знешняй і ўнутранай палітыкі, на міжнароднай арэне, зменам ва ўладных структурах і г. д.).
2. «Лёгкія» навіны (*soft news* — падзеі у нацыянальным і рэгіянальным жыцці).
3. Кароткая інфармацыйная заметка (*news in brief*).
4. Пашыраная інфармацыйная заметка (*general news account*).

Тыпалогія «цяжкіх» навін звычайна абумоўлена сферамі міжнароднай і нацыянальнай дзейнасці, кожная з якіх замацавана за пэўным аддзелам рэдакцыі газеты або часопіса. Так, выданне, якое клапоціцца наконт свайго прэстыжу і

прыбытковасці, мусіць перыядычна змяшчаць на сваіх палосах «цяжкія» навіны адносна падзей у наступных сферах:

1. Жыццё ў краіне, у рэгіёнах (сюды ўваходзяць гэтаксама навіны сістэмы судавытворчасці, заканадаўчай дзейнасці, барацьба са злачыннасцю і г. д.).
2. Эканамічнае жыццё.
3. Дыпламатыя і падзеі за мяжой (знешняя палітыка, дзейнасць міжнародных арганізацый ды інш.).
4. Сацыяльныя праблемы (злачыннасць, наркаманія, галеча, расавыя і рэлігійныя супярэчнасці).
5. Ахова здароўя (дзейнасць бальніц, найноўшыя даследаванні ў галіне медыцыны, наступствы шкоднага вобраза жыцця).
6. Экалогія (ахова прыроды і навакольнага асяроддзя).
7. Адукацыя (дашкольная, школьная, вышэйшая).
8. Навука (фундаментальныя і прыкладныя даследаванні).
9. Рэлігія (сюды уключаюць не толькі дзейнасць цэркваў і рэлігійных устаноў, але і пытанні маралі).
10. Медыя (навіны ў галіне выдавецкай дзейнасці, друкаваных, аўдыявізуальных і электронных СМІ).
11. Транспарт (аўтадарогі, чыгунка, авія- і водны транспарт). Самая частая навіна гэтага тыпу — катастрофы. Чым болей ахвяр, тым бліжэй да першай паласы будзе надрукавана гэта паведамленне.

Асобным тыпам «цяжкіх» навін з'яўляюцца сенсацыі — звесткі пра экстраардынарныя падзеі, якія тычацца вялікай колькасці людзей і адпаведна маюць значны грамадскі рэзананс. Дадзены тып можа належыць да кожнага з вышэйзгаданых тыпаў, але змешчаны будзе на першых палосах выдання.

Тыпамі «лёгкіх»» навін звычайна з'яўляюцца:

1. Падзеі грамадскага жыцця (маюцца на ўвазе новыя характэрныя тэндэнцыі ў сацыяльных паводзінах, норавах і г. д.). Аснову такіх сюжэтаў складаюць назіранні за падзеямі паўсядзённага жыцця, пададзеныя ў гумарыстычным або займальным ключы
2. Персаналіі (звесткі з жыцця палітыкаў, знакамітасцяў і г. д.). Прынамсі, часта такія матэрыялы могуць складацца не толькі на падставе супрацоўніцтва з аб'ектам даследавання. Так, самы багаты ў 80-х гадах XX стагоддзя чалавек у ЗША Сэм Уолтан доўгі час адмаўляўся сустракацца і размаўляць з карэспандэнтамі «The Washington Post». Журналісты ўсё ж апублікавалі матэрыял пра «сціплага» мільярдэра — на падставе расказаў людзей, якіх Уолтан пакрыўдзіў і пазбавіў працы.
3. Знамянальныя даты. Напрыклад, у гадавіну забойства прэзідэнта Кенэдзі газета можа надрукаваць успаміны старога паліцэйскага, які ўдзельнічаў у арышце Лі Харві Освальда.
4. Адкрыцці (археалагічныя раскопкі, архіўныя даследаванні, навуковае вынаходніцтва). Каштоўнай крыніцай для такога тыпу навін з'яўляюцца універсітэцкія часопісы і вузкагаліновыя выданні.
5. Дзівосныя прафесіі (напрыклад, мыйшчыкі вокнаў самых высокіх будынкаў у горадзе, магільшчыкі, прыбіральшчыкі месцаў, дзе адбылося злачынства і г. д.).
6. Новае (кнігі, фільмы, тэатральныя пастаноўкі, канцэрты, выхад музычных дыскаў ды інш.). Пажадана, каб такая прадукцыя мела рэзананс у грамадстве, спараджала спрэчкі ды канфлікты, як гэта назіралася, напрыклад, з выхадам на экраны фільма Марціна Скарсэзэ «Апошняя спакуса Хрыста», фільма Мэла Гібсана «Страсці Хрыстовы», брадвейскіх мюзіклаў «Ісус Хрыстос — суперзорка», «Валасы» ды інш.
7. Мода.
8. Калейдаскоп, які таксама мае назву раўндап (roundup). Сутнасць яго ў тым, што на адной паласе змяшчаецца разнастайная інфармацыя забаўляльнага характару — напрыклад, дзе можна адпачыць увечары людзям сталага ўзросту, на які курорт лепей з'ездзіць улетку, у якім рэстаране самае лепшае абслугоўванне і г. д. Зразумела, рэпарцёр абавязаны асабіста наведаць згаданыя аб'екты, праверыць: ці адпавядае рэклама сапраўднаму становішчу?

Асобным тыпам «лёгкіх»» навін з'яўляюцца міні-сенсацыі, якія маюць наступныя віды:

1. Незвычайныя падзеі (пераважна забаўляльнага характару).
2. Цытаванне (выказванні знакамітых і ўплывовых людзей на працягу пэўнага дня/тыдня/месяца/года). У 1982—1997 гадах брытанскія газеты друкавалі выказванні з любой нагоды прынцэсы Дзіяны. У 2001—2008 гадах амерыканскія газеты часта цытавалі афарыстычныя недарэчнасці прэзідэнта Джорджа Буша-малодшага. У гэтую рубрыку залічваюць і выказванні прыезджых іншаземных знакамітасцяў наконт Амерыкі, яе культуры, праблем і г. д.
3. Памылкі (памылкі ў друку ды інш.).
4. Першая дзясятка (рэйтынгі самых папулярных кніг, кінафільмаў, музычных гуртоў і выканаўцаў, прыбытковых фірм, банкаў, карпарацый, курортаў і г. д.).
5. Дуэль з бюракратыяй (прыклады няўдалых выказванняў, зробленых афіцыйнымі асобамі або дапушчаных у афіцыйных паведамленнях, і адпаведная рэакцыя аўдыторыі на іх).
6. Лісты чытачоў. Яны могуць змяшчаць арыгінальную інфармацыю. Звычайна іх друкуюць разам з аўтарскімі малюнкамі і фотаздымкамі, павышаючы такім чынам ступень судалучанасці газеты да сваёй аўдыторыі.
7. Конкурсы (асабліва тыя, якія дэкларуюць у якасці прыза нешта незвычанае, кшталту вячэры ў дарагім рэстаране ў кампаніі з экспрэзідэнтам або папулярным спеваком).
8. Дзіўныя рэчы (інфармацыя пра незвычайныя паслугі, рэчы на продаж і г. д.). Каштоўнай крыніцай такіх навін з'яўляюцца прыватныя аб'явы ў спецыялізаваных выданнях.

Артыкул у заходняй журналістыцы звычайна падзяляецца на наступныя катэгорыі:

1. Аналітычны (тлумачаць сутнасць той ці іншай актуальнай падзеі або праблемы, яе перадумовы і магчымая наступствы).
2. Фонавы (тая ці іншая з'ява разглядваецца не паасобку, а ў сукупнасці з іншымі, якія паўплывалі на яе або спрычыніліся да яе ўзнікнення, а таксама ў кантэксце тагачасных міжнародных, эканамічных, сацыякультурных і інш. падзей). Напрыклад, прычыны амерыканскай экспансіі ў Індакітаі ў 1955—1973 гадах (вельмі важнай падзеі ў найноўшай гісторыі ЗША) стануць больш зразумелыя чытачу, калі яе апісаць у кантэксце тагачасных ініцыятыў амерыканскага кіраўніцтва па ўмацаванні свайго аўтарытэту сярод краін «трэцяга свету», а таксама калі прыгадаць поспех амерыканскага ваеннага ўварвання ў Дамініканскую Рэспубліку, Гватэмалу і г. д.

Каментарый у заходняй журналістыцы выяўляе ўласнае меркаванне журналіста, які адлюстроўвае пункт гледжання сваёй рэдакцыі. Прызначэнне каментарыя — аператыўна растлумачваць сутнасць і значнасць актуальнай грамадска-палітычнай ці сацыяльна-эканамічнай падзеі. Звычайна прадмет абмеркавання абіраецца ў тым выпадку, калі ў аўтара (і адпаведна ў рэдакцыі) маецца дакладны пункт гледжання наконт пэўнага пытання і канкрэтныя высновы на гэты конт. Каментарый можа выкарыстоўвацца дзеля папулярызацыі той ці іншай станоўчай з'явы або выкрыцця негатыўнай (карупцыя, тэрарызм, фундаменталізм, ксенафобія, наркатрафік ды інш.).

Залатое правіла журналіста-аглядальніка сцвярджае: «Не варта пісаць каментарый з нагоды праблемы, якая вельмі цябе хвалюе». Як сведчыць вопыт, найбольшым поспехам карыстаюцца каментарыі, якія змяшчаюць стрыманыя і нейтральныя ацэнкі. Хоць, прынамсі, гэта зусім не выключае ўжыванне ў каментарыях метафар і красамоўных параўнанняў дзеля павышэння экспрэсійнасці выказвання, узмацнення эмацыянальнага ўздзеяння на чытача.

Лепшым каментарыям уласцівыя такія рысы, як аператыўнасць, лаканічнасць моўных сродкаў, супастаўленне, абагульненне, аргументаванасць і дакладнасць вынікаў.

***

У заходнім друку даволі шмат аўтарскіх калонак, блізкіх па сваім характарыстыкам жанру эсэ.

Гэты жанр бярэ пачатак ад калонак, у якіх у 50-я гады XX стагоддзя друкаваліся выказванні людзей, якія заваявалі сабе папулярнасць у галіне палітыкі або спорту, мастацтва або эканомікі. Знакамітасці рэгулярна выказваліся з рознай нагоды, і каштоўнасць гэтыя публікацыі



Аўдыторыя Інстытута журналістыкі.

мелі выключна з-за імя аўтара, а не той інфармацыі, якую яны змяшчалі. Пакрысе права на ўласныя калонкі, якія дзесяцігоддзямі нязменна друкаваліся на пэўнай паласе, заваявалі і карэспандэнты з багатым жыццёвым і прафесійным вопытам. Уласцівасцю аўтарскіх калонак стала тое, што яны змяшчалі толькі адзін пункт гледжання (у адрозненне, напрыклад, ад артыкула або рэпартажа, дзе часта сутыкаюцца супрацьлеглыя погляды).

Аўтара, які вядзе рубрыку на адну калонку, называюць «*column conductor*» (у Вялікабрытаніі) або «*columnist*» (у ЗША). Гэта не абавязкова павінен быць прафесійны карэспандэнт.

У апошнія дзесяцігоддзі калумністыка зрабілася неад'емным атрыбутам так званай якаснай прэсы, якая ўплывае на грамадскую думку інфармаванасцю, дакладнасцю і аналізам, а не буйнымі тыражамі. А паколькі менавіта якасны друк фарміруе настрой думак грамадскіх эліт, то і ўзровень патрабаванняў да аўтарскіх калонак у такіх газетах даволі высокі.

Кожны калумніст мае свой позірк на жыццё, свой стыль, свае метады працы. З гэтай прычыны аўтарскія калонкі звычайна маюць аўтарскі «голас». Варта прыгадаць сярод вядомых калумністаў канца XX стагоддзя экс-прэзідэнта ЗША Рычарда Ніксана і пісьменніка-сатырыка Арта Бухвальда, эсэістаў Кэтлін Стокін і Джэймса Фітцджэральда, аглядальнікаў Уолтэра Ліпмана і Джона Рэстана, журналістаў Тома Віккера і Рычарда Рыўза, крытыкаў Уолтэра Кербса і Дэвіда Дэнбі, публіцыстаў Джозэфа Олсана і Нэйла Габ'еды шмат інш.

Як бачым, часцей за ўсё права весці аўтарскую калонку дае чалавеку яго знакамітае імя. На такія калонкі звычайна падпісваюцца абаненты буйных інфармацыйных агенцтваў «Associated Press», «United Press International», «Reuters» і інш. У штаце тыповай амерыканскай штодзённай газеты працуе звыш 100—150 вопытных журналістаў — і толькі 2—3 з іх маюць права весці ўласную рубрыку і пісаць рэдакцыйныя артыкулы (вядома, з блаславення галоўнага рэдактара і выдаўца).

**Сяргей Макарэвіч**

# Мастацтва Барыса Цітовіча

**Барыс Цітовіч у свой час быў шырока вядомым мастаком. Ён рабіў ілюстрацыі да кніг Петруся Броўкі «Марат Казей», Івана Шамякіна «Зеніт», Янкі Брыля «Ля крыніцы: аповесці» і іншых пісьменнікаў. Прымаў удзел у рэспубліканскіх і ўсесаюзных выставах. Але трыццаць гадоў таму ён з'ехаў жыць у вёску Заброддзе Вілейскага раёна. Перастаў прымаць удзел у свецкіх выставах. Заняўся іканапісам і ўшанаваннем памяці салдат, загінулых на вайне 1914—1918 гадоў. Але да ўсяго гэтага ён ішоў працяглы час — ад самага нараджэння.**

Барыс Барысавіч нарадзіўся ў 1948 годзе ў горадзе Коркіна Чэлябінскай вобласці. Сам мастак свае расійскія карані называе фармальнымі.

*— Па-першае, так атрымалася, што я ў Расіі толькі нарадзіўся. Бо мой бацька паходзіў са шляхетнага роду Цітовічаў з Беларусі і нарадзіўся ён у 1916 годзе ў Мінску. А мой дзед Андрэй Антонавіч Цітовіч быў майстрам па тэлеграфе і тэлефоне на Лібава-Роменскай чыгунцы ў Мінску. Жылі яны ў доме па вуліцы Захар'еўскай, 54—26. Але бацька мой быў кадравым ваенным. У Мінску ён скончыў дзве навучальныя ўстановы. Адна яго прафесія — вайсковы аўтамабіліст, другая — вайсковы будаўнік. На вайну ён пайшоў у чыне лейтэнанта. Прайшоў усю вайну. Быў двойчы паранены. Пасля перамогі застаўся ў войску і камандаваў будаўнічым аэрадромным палком. І тады ён мусіў ездзіць па ўсёй краіне і будаваць аэрадромы. Так атрымалася, што, калі нарадзіўся я, бацька будаваў аэрадром пад Чэлябінскам. А потым у чамадане мяне прывезлі ў Мінск. Пасядзеўшы ў сталіцы, мы паехалі ў Прыбалтыку. Пасля на Камчатку... І так наша сям'я вандравала па вайсковых гарнізонах.*

Алесь Адамовіч у майстэрні Цітовіча.



**— Як вы прыйшлі да мастацтва? З чаго ўсё пачыналася?**

*— Я, колькі памятаю, заўсёды маляваў. Але ж бацька вельмі хацеў, каб я быў архітэктарам. Ён памёр вельмі рана. Яму было 47 гадоў. Калі тата памёр, я закончыў 8 класаў і здаваў іспыты ў мастацкую школу ў Мінску. І там я вучыўся тры гады. Першым нашым настаўнікам быў Леанід Аляксандравіч Дударэнка, які паходзіць з Маладзечна. Дзякаваць богу, ён яшчэ жывы і даволі плённа працуе. Ён рыхтаваў даволі вялікую групу навучэнцаў для паступлення ў інстытут. З чалавек 25, якія здавалі іспыты, амаль усе паступілі. І з 1966 года я вучыўся ў Тэатральна-мастацкім інстытуце (сёння Акадэмія мастацтваў): 6 гадоў на аддзяленні графікі. Пасля трох гадоў навучання адбыўся падзел на кніжную і станковую графіку. Я вучыўся на кніжнай. Па заканчэнні інстытута я працаваў у выдавецтвах «Мастацкая літаратура», «Беларусь»... Рабіў ілюстрацыі да кніг. Потым, калі пераехаў у вёску, ад кніжнай графікі адышоў. Бо складана было з вёскі ездзіць па выдавецтвах.*

**— Ці быў у вас у інстытуце настаўнік, які дапамог знайсці сябе ў мастацтве?**

*— Так. Справа ў тым, што настаўнікаў заўсёды шмат, але ўсе яны розныя. Заўжды знаходзіцца толькі адзін чалавек, які робіць вялікі ўплыў на цябе. І гэты ўплыў адчуваецца ўсё жыццё. Першага*

*свайго настаўніка я ўжо назваў — гэта Леанід Дударэнка. А ўжо на акадэмічным узроўні ў нас быў, дзякаваць богу таксама жывы, Арлен Міхайлавіч Кашкурэвіч. Гэты чалавек выкладаў у нас на 2 курсе. Ён неяк асабліва, і гэта цяпер відаць у яго работах, адчуваў канструкцыю кнігі, кампазіцыю. І тое, што ён укладаў у нас, з'явілася стрыжнем-асновай. Я вельмі ўдзячны, што ў мяне быў такі настаўнік. Але быў і яшчэ адзін цудоўны мастак — Аляксандр Пятровіч Мазалёў. Ён падыходзіў да нас, глядзеў нашы малюнкі. А пасля казаў: «Нешта тут недакладна зроблена». І тлустым алоўкам усё крэсліў. А ты стаяў і думаў, што ён тут пазакрэсліваў: ты ж так стараўся. Толькі потым, добра прыглядзеўшыся, ты заўважаў усе хібы. Цудоўны чалавек. Ён выкладаў у нас малюнак. Пазней я пазнаёміўся з Георгіем Паплаўскім, які быў сябрам Адамовіча і Быкава. Праз Паплаўскага з пісьменнікамі пазнаёміўся і я.*

Пасля заканчэння інстытута Барыса Барысавіча разам з жонкай Валянцінай Пятроўнай пакідалі на работу ў Мінску. Толькі маладая сям'я не хацела там заставацца. Яны хацелі нейкай экзотыкі, спакою, які меркавалі атрымаць у сельскай мясцовасці. Тым больш ні ў аднага з іх радні на вёсцы не было. Пачалі шукаць мясцовасць для жылля. Узялі мапу Беларусі і правялі акружнасць у радыусе 100 кіламетраў вакол Мінска. І так пачалі ездзіць па сваіх адзнаках. У вёсцы Заброддзе сустрэлі цікавага дзядзьку Вінцуся, дзякуючы аповедам якога там і засталіся.

Даведка. Заброддзе. У 1913 годзе засценак, у Вілейскай гміне, 10 двароў, 72 жыхары. У 1938 годзе вёска, у Каловіцкай вясковай гміне, 10 двароў, 69 жыхароў. У 2003 годзе вёска, 6 двароў, 12 жыхароў.

Да мастака ў ягоную сядзібу пачалі прыязджаць госці. Не раз там былі Быкаў, Адамовіч. Першае іх наведванне Барыс Барысавіч захацеў неяк адзначыць. Так у 1984 годзе ў Заброддзі быў закладзены парк памяці. Першыя дубочкі пасадзілі пісьменнікі-франтавікі Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч, пра гэта сведчаць таблічкі з адпаведнымі подпісамі. Праўда, як расказаў мастак, дзесьці за два тыдні да смерці Адамовіча



Барыс і Валянціна Цітовічы ў маладосці.

яго дубок звалілі бабры, нібы нешта прадчуваючы. І таблічку прыйшлося паставіць побач з бярозай. А пасля смерці Быкава дрэнна расці стаў і ягоны дубок. Ёсць там і дрэвы Георгія Паплаўскага, Сафіі Ратару. Апошняя побач з Заброддзем неяк здымалася ў фільме.

З часам у мастака ўзнікла патрэба рэалізаваць сябе і ў іншых кірунках. Ён разам з жонкай і сябрамі вырашыў у вёсцы Абадоўцы таго ж Вілейскага раёна аднавіць былы панскі маёнтак.

Даведка. Абадоўцы. У 1800 годзе фальварак у маёнтку Старынкі, уласнасць Людвігі Багдановіч і яе дзяцей; 1 сялянская душа. У 1836 годзе — маёнтак, уласнасць Ігнацыя Фадзеевіча Багдановіча, старшыні Мінскай крымінальнай палаты. У 1896 годзе ўласніцкі маёнтак Отана Ігнацьевіча Багдановіча, у Вязынскай воласці.

Але ўсё было не так і проста.

*— Мы планавалі аднавіць маёнтак. Там на той час яшчэ захаванымі заставаліся будынак бровара, карэтны «гараж», вайсковая казарма, дзве сажалкі, сад... Там можна было зрабіць цікавую рэч, накшталт таго, што атрымалася ў «Дудутках». І мы выступілі з такой прапановаю. З'явіліся нават людзі, якія збіраліся ахвяраваць грошы на такую справу. Гэта былі мае амерыканскія сябры-камп'ютаршчыкі, з якімі разам служыў у войску. Яны якраз купілі*



Вілейская Святаціханаўская царква.

ка там планавалася зрабіць дзіцячы культурна-асветніцкі цэнтр з ухілам на рэабілітацыю ахвяр Чарнобыльскай трагедыі — нешта накшталт сённяшняй «Надзеі XXI стагоддзя».

*— І калі мы выйшлі з такімі прапановамі на выканкам, то ўсё ўспрынялося ў штыкі. А мы ж пражылі на Вілейшчыне тады ўжо гадоў пятнаццаць. Павінен жа быць давер нейкі. Адным словам, падтрымкі не было. Крыўдна стала. Я нават думаў, што з'еду з раёна.*

Пазней пра гэты выпадак, а таксама *«аб тым, як малады мастак Цітовіч з жонкаю Валяй (яна ў яго рэжысёр) з'ехалі з сталіцы ў глухую вёску, дзе стварылі лялечны тэатр...»,* напіша цэлую кнігу пісьменнік Яўген Будзінас. Кніга называлася «Преждевременный конфликт» і была выдадзена ў Маскве.

Пасля канфлікту з раённымі ўладамі Барыс Цітовіч ад'ехаў на выставу ў Маскву. А па дарозе, на мінскім чыгуначным вакзале, сустрэў Яўгена Будзінаса, з якім пазнаёміліся яшчэ раней. Ехалі яны ў адным вагоне. Разгаварыліся.

*— Будзінас сказаў, што ўзяў 160 гектараў зямлі, каб рабіць музей. І патрэбны каўбасны цэх. Я яму кажу: хочаш, хоць заўтра будзе. Я звёў Яўгена са сваімі амерыканскімі сябрамі. Праз месяц яны ўжо каўбасы елі.*

**«На тэрыторыі Пухавіцкага раёна ў свой час прадпрымальніку *(Будзінасу. — С. М.)* выдзелілі ў арэнду больш за 160 гектараў зямлі. Планы былі скіраваны на тое, каб стварыць агромністую фермерскую гаспадарку. <...> І сёння ў ваколіцах вёскі Пціч працуе ўжо філіял “Паліфакт-агра”. Тут і свінаферма, і кароўнік. Ёсць і мясаперапрацоўчы цэх…»**[1]

*— А потым, калі мы ўжо засвяціліся з ідэяй Абадоўцаў, Будзінас прапанаваў нам ехаць да яго. Бо адбылося супадзенне з яго ідэямі. А ён дзядзька з добрым «нюхам» на людзей быў: такія кадры збіраў. І мы паехалі туды.*

Пачалася работа па стварэнні музея матэрыяльнай культуры «Дудуткі». **«Унікальнасць музея ў тым, што ён адрозніваецца ад іншых сваім дзеючым характарам. Аднаўляючы**

*каўбасны заводзік, чалавек на дзесяць, і шукалі месца куды яго паставіць. І вырашылі паставіць яго ў Абадоўцах. Частку прыбытку ўладальнікі меркавалі ахвяраваць на аднаўленне сядзібы. Цудоўны быў варыянт.*

Барыс Барысавіч прасіў кожнаму ўдзельніку праекта выдзеліць па адным гектары зямлі для фермерскіх заняткаў. Бо меркавалася пераехаць у Абадоўцы жыць. Акрамя рэстаўрацыі маёнт-

Быкаў і Адамовіч у Забroddзі.



[1] Карлюкевіч А. «І векавечны толькі край...». Мінск. 2000. С. 148—149.



Быкаў, Цітовіч, Адамовіч у Заброддзі.

**вобраз жыцця нашых прашчураў, музейшчыкі "Дудутак" прадстаўляюць гасцям забытыя рамёствы, беларускія народныя промыслы. Менавіта гэта і прыцягвае ўвагу ў большасці сваёй замежных турыстаў...»[2]**

І пачалася работа. Усе свае канцэпцыі, распрацоўкі сям'я Цітовічаў уклала ў «Дудуткі». Пакуль Барыс Барысавіч працаваў непасрэдна на аб'екце, Валянціна Пятроўна працавала са спецыяльнай літаратурай па бібліятэках — пісала тэксты для экскурсаводаў. Праз тры гады музей быў створаны. І Яўген Дамінікавіч, агледзеўшы ўсё і ўзважыўшы, сказаў: 85% належыць Барысу і Валянціне Цітовічам.

*— Атрымалася, што за тры гады на пустым месцы, у чыстым полі, быў пабудаваны музей. За гэты ж час у Абадоўцах зламалі тое, што яшчэ можна было аднавіць. І гэта ўлічваючы, што помнік ахоўваўся дзяржавай.*

**«Доўгія разважанні Яўгена Дамінікавіча Будзінаса падштурхнулі да ідэі: стварыць музей рамёстваў. І вось на колішняй зямлі Ельскага ствараецца і ўжо адразу працуе музей рамёстваў. Сталярны цэх, кузня, рэстаўрацыйная майстэрня, ганчарны цэх…»[3]**

*— Кузню я знайшоў. Сам зрабіў рэстаўрацыю мяхоў. Першы цвік выкаваў у гэтай кузні. Пякарню мы з сынам Данілам рабілі...*

Заўжды знаходзіцца толькі адзін чалавек, які робіць вялікі ўплыў на цябе. І гэты ўплыў адчуваецца ўсё жыццё

**«Адным з прыпынкаў экскурсіі будзе ветраны млын. Пастаўлены на пагорку, ён відаць здалёк. А прывезлі млын з далёкага ад Пухаўшчыны Кармянскага раёна. Хутка паставілі, але калі паспрабавалі прывесці ў дзеянне — усё пачало рушыцца. Не ведалі што і рабіць. Але ж трэба аднаўляць. Мясцовыя жыхары падказалі, што трэба святара запрасіць. Так і зрабілі. Млын запрацаваў. Можна везці на пцічанскі вятрак збожжа.»**

Млын быў набыты амаль задарма. Акрамя гэтага «задарма» Барыс Цітовіч разам з архітэктарам Сяргеем Дзергачовым два дні касілі дзеду — уладальніку ветрака траву на ўчастку.

Ветэран вайны ва В'етнаме і Балівіі ў Заброддзі.



[2] Карлюкевіч А. «І векавечны толькі край...». Мінск. 2000. С. 158—159.
[3] Там жа. С. 154.



Барысаглебская капліца.

*— У мяне была брыгада, з якой мы перавезлі млын-вятрак. Я яго перабраў увесь, кожную дэтальку. Траўму на рабоце атрымаў, пасля якой левая рука не працавала паўгода. Брыгада тая ж рабіла рэстаўрацыю аўто...*

**«Сапраўды ўшанаваннем таленту прашчураў... сталі “аўтадзяды” ці сапраўдны музей “аўтамотарэтра”. Аўтамабільная даўніна прадстаўлена італьянскай “Тапаліна”, аўтамабілем-салдатам “Харлеем”, амерыканскім “Джыпам”, 401-м “Масквічом”, першымі матацыкламі Мінскага мота-велазавода»[4].**

Падчас стварэння музея для сям'і Цітовічаў Яўген Будзінас пачаў будаваць хату.

*— Была зроблена прапанова застацца там жыць. Але я ўжо тады трошкі падастыў. Неяк не хацелася з'язджаць з Вілейшчыны. Валянціна Пятроўна раней з'ехала з Пухаўшчыны, бо тэарэтычная частка была зроблена. І я дамовіўся з Будзінасам, што да адкрыцця музея дапрацую, а пасля таксама з'еду.*

У выніку ўсё атрымалася цудоўна. Але ж, на думку Барыса Барысавіча, у «Дудутках», на жаль, не было духоўнага стрыжня.

*— Я тады казаў, што трэба нейкі храм будаваць ці пагост закладаць. А затым ужо ўсё астатняе. Але распачалі па-іншаму... За кіламетраў 5—7 ад «Дудутак» была цікавая царква, якую мы збіраліся рэстаўраваць. І быццам усе пагадзіліся, ды пасля ўсё зачахла.*

Барыс Цітовіч разам з жонкай вярнуліся ў вёску Заброддзе. І ўжо там пачалі рэалізоўваць тое, чаго не атрымалася ў «Дудутках».

У Заброддзі Цітовічы пачалі працаваць над стварэннем музея пад адкрытым небам, прысвечанага Першай сусветнай вайне. Бо, па словах мастака, услаўляючы герояў Другой сусветнай вайны, мы павінны памятаць пра іх бацькоў — воінаў Першай сусветнай. І няхай армія называлася тады рускай, у ёй побач змагаліся беларусы, палякі, рускія. Людзі ваявалі за сваю зямлю, за дом, за сям'ю.

На арыентаванасць сям'і ў стварэнні музея паўплывала багатая ваенная гісторыя Вілейшчыны. А яшчэ побач з вёскай Заброддзе, у лесе, знаходзіцца пахаванне салдат царскай арміі. І за ўпарадкаваннем пахавання сочыць сам Барыс Барысавіч. Для яго гэта вельмі важна, бо беларуская зямля ўсеяная знішчанымі магілкамі. І ў Заброддзі такога дапусціць нельга. Кожны год на 9 мая тут адбываецца паніхіда. *«Мы традыцыйна памінаем іх* (загінулых салдат абедзвюх войнаў. — С. М.) *адначасова, паколькі няма спецыяльнага дня памяці воінаў, што загінулі падчас вайны 1914 года»,* — гаворыць мастак. Кожны год прыняць удзел ва ўшанаванні памяці загінулых запрашаюцца ўсе ахвотныя. І такіх ахвотных з кожным разам усё больш і больш.

Справа, якой займаюцца Цітовічы, па словах Барыса Барысавіча, нічога асаблівага сабой не ўяўляе. Усё гэта ў свой час рабілі нашы продкі. І гэтаму ёсць шмат пацвярджэнняў. У Вілейскім раёне ў вёсцы Камень-Спас быў храм. І святар збіраў там асобныя вайсковыя пахаванні ў 1916 годзе і хаваў каля храма, які бальшавікі пасля знеслі. А ў Вілейскай Свята-Марыінскай царкве ў тым жа 1916 годзе быў створаны камітэт, які збіраў грошы на будаванне царквы-помніка Святога Мікалая

[4] Там жа. С. 155—156.




Дрэва, якое пасадзіў у Заброддзі Васіль Быкаў.



Заброддзе.

на ўспамін палеглых у вайне. І захаваліся паштовыя паперы, якія пацвярджаюць, што з дзеючай арміі сродкі на тую царкву слалі салдаты і афіцэры. Пасля прыйшлі рэвалюцыйныя часы. Камітэт быў знішчаны. Грошы невядома дзе падзеліся і ўсё згінула.

У 1998 годзе ў вёсцы Бараўцы (недалёка ад Заброддзя) намаганнямі Цітовіча ў гонар 80-годдзя заканчэння Першай сусветнай вайны была ўзведзена каплічка. Крыху пазней у Рускім Сяле быў пастаўлены помнік на могілках, дзе пахаваны салдаты 20-га армейскага корпуса. Гэтыя аб'екты з'яўляюцца часткай музея, які ствараецца.

У 2001 годзе Барыс Цітовіч задумаў будаўніцтва Барысаглебскай (заступнікаў усіх вайскоўцаў) капліцы-помніка па палеглых у абедзвюх сусветных войнах. Месца пад яе будоўлю блаславіў тады сам мітрапаліт Філарэт. Як плануецца, капліца павінна складацца з двух памяшканняў. Першае — бабінец, у якім размесціцца музей з экспанатамі і дакументамі. У другім будуць праходзіць паніхіды ў памяць па загінулых. Маліцца аб спакоі душ загінулых і памерлых абавязкова патрэбна.

*— Праз малітву адбываецца з'яднанне душ тых, хто жыве, і тых, каго ўжо няма побач з намі. Мы молімся за іх тут, на зямлі, яны за нас там, у лепшым свеце,* — адзначае мастак.

Але калі будзе закончана будоўля, ніхто не ведае. А яшчэ мастак хацеў бы побач з капліцай паставіць і невялікую званічку. На ўсё не хапае грошай. Хоць цяпер справа ідзе шпарчэй, чым у пачатку.

*— Тут атрымалася так. Спачатку ніякай падтрымкі не было. Бараўскую капліцу, напрыклад, рабілі намаганнямі грамадскасці. Калі мы ўжо рабілі помнік у Рускім Сяле, то дапамагаў калгас, сельсавет. Потым неяк прыехала жанчына з абласнога ўпраўлення культуры і сказала, што Міністэрства абароны дапамагае для такіх мэт грашыма. Мы звярнуліся ў Міністэрства, і нам дапамаглі. У 2003 годзе я атрымаў прэзідэнцкую прэмію ў галіне мастацтва. З сям'ёй вырашылі тады, што атрыманыя грошы, а далі іх на Нараджэнне Хрыстова, трэба і ахвяраваць на боскую справу. За тыя грошы мы пачалі будаваць капліцу. А калі ўжо тое-сёе самі зрабілі, то пачалі дапамагаць*

Заброддзе.





Малады Цітовіч падобны да Чэ Гевары.

*і простыя людзі. Дапамагалі калгас, лясгас. Напрыканцы 2005 года праз Вілейскі аддзел спорту і турызму Віталя Вайды нам выдзелілі пэўныя сродкі, на якія мы закупілі будаўнічыя матэрыялы, інструменты.*

*Недалёка ад нас размяшчаецца, як мы яе называем, Кадэцкая паляна — зона адпачынку. Калі прыязджалі навукоўцы, то ручай, што там працякае, прызналі экалагічным помнікам. І там мяркуецца зрабіць адпаведнае ўпарадкаванне тэрыторыі. Можа будзе нейкая фінансавая падтрымка.*

У 2002 годзе ў Заброддзі прайшоў пленэр «Абоз-1» (абозам мясцовыя жыхары называюць лес, дзе знаходзяцца салдацкія могілкі), у якім прымалі ўдзел мастакі з Германіі і Беларусі. Але падзея засталася, на жаль, амаль незаўважанай.

У 2004 годзе сын Барыса Цітовіча Даніла (у 2006 годзе закончыў вучобу ў Брэменскай Вышэйшай школе мастацтваў, авангардыст) выступіў у Школе з праектам правядзення пленэру «Абоз-2». Адзін прафесар яго падтрымаў. Праўда, 8 студэнтам, якія пагадзіліся прыняць удзел у пленэры, прыйшлося ехаць у Заброддзе за ўласныя грошы. З боку навучальнай установы выдаткоўваліся сродкі на праезд толькі ў адзін бок. Але для еўрапейскіх студэнтаў гэта звычайная справа. Прысутнічалі і беларускія мастакі.

*— Шчыра кажучы, я не думаў, што маладыя людзі будуць зацікаўленыя ваеннай тэмай. І яны даволі сур'ёзна папрацавалі.*

Хоць музей пакуль не створаны, справай сям'і Цітовічаў цікавяцца. Першымі, хто пачаў увогуле цікавіцца пахаваннямі салдат Першай сусветнай вайны, былі казакі. І калі яны пачулі, што ў Ганууце ў Вілейскім раёне падчас вайны было закатавана двое казакаў, то пачалі гаварыць пра тое, каб у Заброддзі зрабіць станіцу.

*— Я ім адказаў на тое, што казацкія падраздзяленні ваявалі ў складзе больш буйных вайсковых аб’яднанняў. А станіц ніколі ніякіх тут не было. Можна пабудаваць хату, у якой будзе прадстаўлена казацкае жыццё. Бо я лічу, што ўсе ўзаемаадносіны павінны быць у кантэксце гістарычнай праўды. А нешта перабольшваць мы не маем права.*

Даволі часта сюды прыязджаюць і цэлыя экскурсіі.

Са жніўня 2005 года мастак атрымаў стаўку супрацоўніка Вілейскага краязнаўчага музея.

*— З мая па кастрычнік 2005 года тут пабывала па нашых падліках 1280 чалавек. Але складанасць у тым, што няма патрэбнага штату. Я раблю нейкую работу. Раптам нехта прыязджае: ці адзін чалавек, ці цэлая група. Просяць паказаць, расказаць. Адмовіць я не магу. І праводжу на 1—2 гадзіны экскурсію. Але гэта па меншым маршруце. Большы займае амаль 4 гадзіны.*

Восенню 2005 года ў Заброддзі праходзіў круглы стол, прымеркаваны да 90-годдзя Свянцянскага прарыву і падзей Першай сусветнай вайны на Вілейшчыне. Удзел прынялі ў мерапрыемстве не толькі мясцовыя гісторыкі і краязнаўцы. Круглы стол сабраў каля сотні чалавек з розных куткоў Беларусі. Гэта фотамастак і выдавец Уладзімір Багданаў (ён жа і аўтар фотавыставы, якая праходзіла там жа), кіраўнік ваенна-гістарычнага цэнтра ў Смаргоні Уладзімір Лігута, стваральнікі комплексу «Лінія Сталіна», краязнаўцы з Мінска, Маладзечна, Мядзела…

Шмат хто з журналістаў памыляецца, калі прыпісвае Барысу Цітовічу ўжо нават пасаду дырэктара ў музеі, якога пакуль не існуе. Але работа ў гэтым кірунку вядзецца. І работа даволі плённая.

***

Пра Барыса Барысавіча маладое пакаленне ведае мала. А некалі ён быў вядомым мастакомграфікам. Яго ілюстрацыі да кніг Купалы «Песня свабоды» на малдаўскай мове, Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» змаглі пабачыць тысячы людзей. Дыпломная работа Цітовіча ў інстытуце заключалася ў ілюстрацыі кнігі «Людзі на балоце». І калі сам пісьменнік убачыў некалькі аналагічных работ, то свой выбар спыніў на ілюстрацыях Барыса Барысавіча. Ілюстрацыі да кнігі «Подых навальніцы» былі адзначаны дыпломам II ступені на рэспубліканскім конкурсе «Мастацкая кніга» (1975). А графічныя серыі мастака. Яны не пакінулі людзей абыякавымі да трагедыі вайны. Гэта серыі «Памяці Брэста», «Салдацкім удовам прысвячаецца», «Тыя, хто прынёс вайну» і іншыя. У 1978 годзе ён стаў сябрам Саюза мастакоў СССР. А з часам Цітовіч адышоў ад свецкага мастацтва. Амаль перастаў выстаўляць свае карціны. Прысвяціў сябе акрамя працы па стварэнні музея яшчэ і царкоўнаму мастацтву.



Цітовіч кожную рэч выкарыстоўвае як экспанат.



Роспіс Святаціханаўскай царкве ў Вілейцы.

*— Да гэтага я ішоў даволі шмат гадоў. Па маладосці, гадоў 20 таму, мне была зроблена прапанова напісаць абразы для адной царквы. Я падумаў, калі я мастак ды пасля акадэміі, то змагу хуценька гэта зрабіць. І ніякіх праблем не будзе. А тым часам я пазнаёміўся на Вілейшчыне з айцом Фёдарам. І ён даволі далікатна мне даў зразумець, што напісаць абраз — гэта справа, якая адрозніваецца ад напісання карціны. Я тады крыху і прызадумаўся. Той выпадак «прытармазіў» мяне гадоў на 12. Потым у мяне была спроба зрабіць ілюстрацыі да дзіцячай Бібліі. Была вялікая замова ад аднаго прыватнага маскоўскага выдавецтва. Былі зроблены малюнкі. Зрабілі нават макет. Але я адчуў, што яшчэ не гатовы да такой работы. Праект прыйшлося спыніць. І цяпер нават я не ведаю ці змагу калі-небудзь узяцца за падобную працу.*

Капліца ў Бараўцах.



Але пісаць абразы мастак працягвае. Таксама ён робіць і іх рэстаўрацыю. А ў Вілейцы Барыс Барысавіч распісвае цэлы храм — Святаціханаўскую царкву.

Хоць Цітовіч і не прымае ўдзелу у свецкіх выставах, не наведвае мастацкія сустрэчы, сяброўскія сувязі з пэўным колам творцаў у яго ўсё ж ёсць.

*— Найбольш сяброўскія адносіны склаліся з Георгіем Паплаўскім, хоць ён і старэйшы за мяне. Нягледзячы на сваю знакамітасць, ён не хварэе на «зорную хваробу». Ён даволі просты чалавек. Заўжды дапамагае маладым. Даволі часта ён бывае ў нас у Заброддзі.*

*Так атрымалася, што стыль жыцця і тыя ўмовы, якія склаліся ў нас, яны, скажам так, абмежаваныя ў нейкім сэнсе. Тыя калегі, з якімі былі кантакты, па-большасці засталіся ў Мінску. А калі я пачаў пісаць абразы, а затым была распачата работа над праектам па стварэнні музея Першай сусветнай вайны, то не стала часу ездзіць у сталіцу. Тым больш, калі займаешся мастацтвам царкоўным, цяжка займацца свецкім. Больш за тое. Трэба рабіць выбар. Складана аб'яднаць дзве гэтыя галіны ў мастацтве. І ўжо колькі гадоў запар я не ўдзельнічаю ў свецкіх выставах, не пішу на свецкія тэмы карціны. Зараз я распісваю Святаціханаўскую царкву ў Вілейцы. І работы там яшчэ не на адзін год. Там, праўда, мне дапамагае мінскі мастак Аляксей Дзмітрыеў.*

Сёння Барыс Цітовіч ужо больш за 30 гадоў жыве ў невялікай вёсачцы Заброддзе Вілейскага раёна. Будуе Барысаглебскую капліцу, як помнік па загінулых у абедзвюх сусветных войнах. Стварае музей Першай сусветнай вайны. Піша і займаецца рэстаўрацыяй абразоў. Уваходзіць у групу мастакоў «Верасень». Некалькі гадоў таму выйшаў нават альбом, у якім змешчаны рэпрадукцыі карцін і графічных лістоў мастакоў і біяграфічныя звесткі ўдзельнікаў творчай групы. Ёсць там старонка, прысвечаная Барысу Барысавічу. Жыццё памаленьку ідзе наперад. І хто ведае, можа праз некалькі гадоў, наведаўшы Кафедральны сабор у Мінску, мы здолеем і там убачыць іконы Цітовіча. А памаліцца па палеглых у сусветных войнах людзі будуць прыязджаць менавіта ў Заброддзе.

**Айцец Аляксандр Богдан**

# «Кунг-фу панда» як дапаможнік для нядзельнай школы

*Калі робіш толькі тое, што ўмееш,*
*ніколі не перасягнеш самога сябе.*
***Майстар Шыфу***

Хтосьці, мабыць, падумаў, што за трызненне? Але не спяшайцеся рабіць такія высновы. У першыя стагоддзі хрысціянства святыя айцы пастаянна прыводзілі розныя аналогіі з антычнай філасофіі, якая тады была вельмі папулярнай. Вось і я вырашыў узяць для ўзору тое, што вельмі папулярна сярод дзяцей, — мульцікі. Чаму «Кунг-фу панда»? Проста гэты мульцік вельмі падабаецца не толькі маёй пяцігадовай дачцэ, але і мне самому. Пасля таго як мы паглядзелі трэцюю частку ў кінатэатры, з’явілася жаданне напісаць аб тым, як гэты мультфільм можна выкарыстоўваць у якасці наглядная дапаможніка, напрыклад, у нядзельнай школе.

Хто яшчэ не глядзеў, папярэджваю, што пазбаўляю інтрыгі: вы будзеце ведаць, чым усё скончыцца, але затое ваш погляд будзе мець іншы вугал.

У трэцяй частцы галоўны герой — Воін Дракона, панда з іменем По знаходзіць свайго бацьку Лі Шаня. Дакладней, гэта Лі Шань знайшоў свайго сына, таму што По лічыў сваім бацькам гусака Піна. Вось, калі ласка, на гэтым прыкладзе можна дзецям у нядзельнай школе тлумачыць, чаму ў Ісуса быў бацька Іосіф Абручнік і адначасова мы ведаем, што Хрыстос — гэта Сын Божы. У мультфільме ўжо ў другой частцы По даведваецца, што ён быў усыноўлены гусаком, але тым не менш працягвае адносіцца да свайго айчыма як да роднага бацькі. Таксама і Ісус Хрыстос заўсёды ведаў, хто яго сапраўдны Бацька. Напрыклад, у Евангеллі мы чытаем, што ў дванаццацігадовым узросце ён заявіў сваім зямным бацькам: «Навошта было вам шукаць Мяне? Ці вы не ведалі, што Мне патрэбна быць у тым, што належыць Бацьку Майму?» (Лк. 2, 49).



У мультфільме кажуць пра жыватворную энергію Цы. Гэта можна ўзяць за прыклад, каб растлумачыць дзецям, што трэцяя Асоба Святой Тройцы Святы Дух Жыватворчы. Нам, дарослым, прасцей зразумець, што абазначае слова «Жыватворчы», але далёка не кожнае дзіця разважае так, як дарослыя. Майстар Шыфу, расказваючы По пра Цы, накіраваў яе на абвялую кветку, якая адразу заквітнела, ажыла. Усё жывое ў нашым свеце жыве і існуе дзякуючы падтрымцы Святога Духа. Менавіта Бог перадае ўсяму жыватворную энергію, ці па-іншаму жыццё.

У праваслаўным «Сімвале веры» кажуць, што мы верым у Духа Святога, Госпада, Жыватворчага, што АД АЙЦА ЗЫХОДЗІЦЬ. Менавіта Лі Шань, бацька панды По першым прапанаваў накіраваць Цы, каб дапамагчы свайму сыну ў барацьбе з Каем у свеце духаў. Цы накіравалі не толькі Лі Шань, але і астатнія. Так і Дух Святы можа праявіць сябе ў кожным чалавеку. Плады гэтай праявы — любоў, радасць, мір, доўгацярпенне, дабрыня, міласэрнасць, вера, пакорнасць, устрыманне. (Гал. 5, 22).

Пасля няўдалага дэбюту По ў навучанні Апантанай Пяцёркі прыёмам кунг-фу Майстар Шыфу тлумачыць Воіну Дракона, што Угвэй зрабіў свой выбар «насуперак здароваму сэнсу». Гэта адбылося яшчэ ў першай частцы менавіта дзякуючы таму, што По зваліўся, як кажуць, у патрэбным месцы ў патрэбны час, то бок проста перад указальным пальцам Угвэя. Потым ён прамовіць выдатную фразу: «Выпадковасці не выпадковыя». Гэта сапраўды так, таму што ў нашым свеце дзейнічае наканаванне Божае. Гасподзь клапоціцца аб усіх людзях і кожным чалавеку. Бог найвялікшы стратэг, хоць у нас часам у галаве не ўкладваецца, як можна рабіць такія стратэгічныя хады. Так і маленькае дзіця можа не разумець, чаму яго любімая маці (якая, скажам, медык) робіць яму балючы ўкол. Дзіця адчувае боль, і яму вельмі цяжка растлумачыць, што гэта для яго лепш. З неразуменнем глядзелі на Угвэя Майстар Шыфу з Апантанай Пяцёркай, а таксама ўсе гледачы, якія сабраліся. Аднак менавіта «вялізная і тлустая панда» (так пагарачыўшыся назвала По лепшы баец з пяцёркі Тыгрыца) аказалася адзіным выратавальнікам для Даліны Міру, для ўсяго Кітая і яго сакрэтнай вёскі. У канцы мультфільма ў свеце духаў Угвэй прызнаўся По, што пры першай іх сустрэчы ўбачыў у По будучыню кунг-фу… і мінуўшчыну. Ён убачыў панду, якая можа звязаць іх у адно.



Бог найвялікшы стратэг, хоць у нас часам у галаве не ўкладваецца, як можна рабіць такія стратэгічныя хады

У трэцяй частцы фігуруе адмоўны герой Кай, які быў калісьці лепшым сябрам Угвэя, братам па зброі. Яны змагаліся разам плячо да пляча. Аднак у Кая з'явілася вельмі нядобрае жаданне прысвоіць усю сілу Цы. Угвэю прыйшлося пазмагацца з Каем. Бойка была настолькі моцнай, што нават зямля скаланулася. У выніку Угвэй адправіў Кая ў свет духаў. Гэта проста як у вярхоўнага анёла Дзеніцы з'явілася зусім нядобрае жаданне стаць вышэй за Бога. Вось і прыйшлося Архангелу Міхаілу ўзначаліць анёльскае войска супраць Дзеніцы і спакушаных ім анёлаў (нячысцікаў). Мы можам толькі ўяўляць маштабы той бітвы між светлымі і паўшымі анёламі. Але ў выніку Архангел Міхаіл адправіў д'ябла (былога Дзеніцу) разам з нячысцікамі ў апраметную.

Майстар Шыфу адсылае ў разведку Жураўля і Багамола і дае строгі наказ не ўступаць у бой з Каем. Багамол з Жураўлём не змаглі ўтрымацца і ўсё ж такі пачалі бойку. У выніку абодва разведчыкі трапілі ў рабства да Кая. Вось выдатны прыклад таго, да чаго можа прывесці непаслухмянства. Бо забарона Майстра Шыфу мела пэўны сэнс: «З кожнага паядынку з ворагам Кай выходзіць мацнейшы, чым быў». Таксама і нам Бог даў пэўныя запаведзі, якія ўскладаюць на нас пэўныя забароны, але яны не бессэнсоўныя. Парушаючы запаведзі Божыя, мы грашым, а як казаў Гасподзь Ісус Хрыстос: «Усялякі, хто робіць грэх, ёсць раб граху» (Ін. 8, 34)

Кай разбурае Нефрытавы палац — месца, дзе жывуць і трэніруюцца байцы з Апантанай Пяцёркі. Палац выконваў не проста функцыю спартзалы, ён служыў своеасаблівым помнікам Угвэю, заснавальніку кунг-фу. Майстар Шыфу, убачыўшы сваімі вачыма страшнае разбурэнне, сказаў прароцкія словы: «Ты знішчыў Нефрытавы палац, але ты не атрымаеш перамогу». Тут можна пагутарыць з старэйшымі дзецьмі і расказаць ім пра ганенні на праваслаўных. Так, напрыклад, у XX стагоддзі ў камуністычнай Албаніі ўсе праваслаўныя храмы былі альбо разбураны, альбо закрыты. Але бязбожныя ўлады не здолелі ўтрымаць перамогу. Пасля падзення камуністычнага рэжыму царкоўнае жыццё ў Албаніі змагло адрадзіцца. Бо сказаў жа Хрыстос «Я ствару Царкву Маю, і брама пекла не здужае яе» (Мф. 16, 18).

По здолеў падкрасціся да Кая, каб выкарыстаць адменны прыём пальцавы захоп Усі. Аднак аказалася, што гэта дзейнічае толькі на смяротных, а Кай паўстаў з свету духаў. Так і д'ябла нельга перамагчы пры дапамозе мышцаў і агнястрэльнай зброі, як гэта часта бывае ў сучасных баевіках. «Гэты ж род выганяецца толькі малітвай і пастом», — чытаем мы ў Евангеллі (Мф. 17, 21). Сапраўды, ты можаш быць фізічна вельмі моцным, але калі ў цябе не будзе звароту розуму і сэрца да Бога (што, па сутнасці, з'яўляецца малітвай) і дабрачыннага жыцця, то ніякія баявыя прыёмы не дапамогуць перамагчы д'ябла і яго спакусы.

Адправіць Кая ў свет духаў не атрымалася, але По здагадаўся, што можна адвесці. Заскокнуўшы да Кая на шыю, По выконвае пальцавы захоп Усі сам сабе і адпраўляецца ў свет духаў разам з Каем. Тут яўная аналогія з дабравольнай збавіцельнай хроснай ахвярай Ісуса Хрыста, Які памёр за ўсіх нас на крыжы.

«По выратаваў нас, а хто выратуе яго?» — пытаў гусак Пін, разумеючы, што быццё По з наступленнем фізічнай смерці не скончылася. Як ужо згадвалася, Лі Шань першым прапанаваў накіраваць сваю Цы, каб дапамагчы По. Гэта падтрымка была неабходнай, і гэта сапраўды дапамагло. Атрымліваецца, што малітва за тых, каго ўжо з намі няма, то бок нябожчыкаў зусім не бессэнсоўная. Яны сапраўды маюць патрэбу ў нашай малітоўнай падтрымцы.

У свеце духаў здзіўлены Кай пытае:

— Хто ж ты?

— Я задаваў сабе тое ж пытанне. Я сын панды, сын Гусака, вучань, настаўнік, а я ўсё гэта разам.

«Ці не цесляроў Ён сын? Ці не Яго Маці называецца Марыя…» (Мф. 13, 55). Шмат хто здзіўляўся, калі чуў пропаведзь Хрыста і бачыў цуды, якія ён здзяйсняў. Дык кім жа з'яўляецца Ісус Хрыстос? Ён і Сын Чалавечы, і Сын Божы адначасова. Другая Асоба Святой Тройцы робіцца чалавекам, не перастаючы быць Богам, гэта значыць робіцца богачалавекам. Пасля ўчалавечвання боская і чалавечая прыроды ў Хрысце злучыліся нязлучна, нязменна, непадзельна і неразлучна. Гэту дагматычную

ісціну далёка не кожны дарослы можа для сябе засвоіць, што ўжо казаць пра дзяцей. Але можна паспрабаваць растлумачыць ім гэтыя чатыры прыслоўі на прыкладзе По.

НЯЗЛУЧНА, гэта значыць, не адбылося ніякага злучэння боскай і чалавечай прыроды. По застаўся сынам панды і сынам гусака, а стаў сынам пандгусака.

НЯЗМЕННА, гэта значыць, не было ніякіх змен ні боскай прыроды, ні чалавечай. По не стаў менш любіць Піна, а Лі Шаня больш. Галоўны герой абодвух бацькоў працягваў любіць аднолькава моцна.

НЕПАДЗЕЛЬНА, гэта значыць, боская і чалавечая прыроды аб'ядналіся ў АДНОЙ асобе. Хоць татаў было два, але По быў адзін і да абодвух бацькоў адчуваў сынавы пачуцці.

НЕРАЗЛУЧНА — Бог аб'яднаўся з чалавечым целам назаўсёды. Адправіўшыся ў сакрэтную вёску са сваім сапраўдным бацькам пандай Лі Шанем, По не разлучыўся з прыёмным — гусаком Пінам, які рушыў услед за імі.

Пасля смерці на крыжы душа Ісуса Хрыста накіравалася ў пекла, таму што туды траплялі душы ўсіх людзей, якія жылі ў дахрысціянскую эпоху. Пекла не змагло змясціць у сабе Самога Бога і было разбурана знутры. Так жа як і Кай не здолеў змясціць у сабе Цы, якую ён не адабраў сілай, якую Воін Дракона аддаў яму добраахвотна. Хрыстос таксама добраахвотна аддаў Сябе на раскрыжаванне.

У час Свайго паслання ў пекла Хрыстос вывеў адтуль душы старазапаветных праведнікаў, якія таміліся ў чаканні Збаўцы. Атрымаўшы канчатковую перамогу над Каем, По вызваліў усіх Майстроў кунг-фу, Цы якіх (то бок душы) былі заняволены Каем.

Калі іншыя Майстры кунг-фу вярнуліся ў свет смяротных дзякуючы заслугам По, то сам По вяртаецца без чужой дапамогі. Да Ісуса Хрыста таксама былі выпадкі ўваскрэсення, але ўсіх ажыўшых уваскрашаў хтосьці, напрыклад, прарокі ці, напрыклад, Хрыстос за час Свайго зямнога служэння таксама здзяйсняў цуд уваскрашэння. Але Сам Збаўца ўваскрэс без чужой дапамогі.

Заканчваецца мультфільм тым, што По вучыць кунг-фу не толькі байцоў з Апантанай Пяцёркі, а абсалютна ўсіх. У дахрысціянскую эпоху вера ў праўдзівага Бога была ўласцівая толькі канкрэтнаму богавыбранаму ізраільскаму народу. Хрысціянская ж Царква не мае меж ні нацыянальных, ні расавых, ні дзяржаўных, ні якіх-небудзь. Заклік стаць хрысціянамі гучыць абсалютна для ўсіх.

Не толькі трэцюю частку гэтага мультфільма можна выкарыстоўваць у якасці нагляднага дапаможніка. У першых дзвюх таксама ёсць моманты, за якія можна зачапіцца. Так, напрыклад, у другой частцы галоўная ідэя — гэта здабыццё ўнутранага спакою. По доўга спрабаваў здабыць яго, але ўсе спробы былі дарэмныя, пакуль ён проста не пакінуў усе свае крыўды лорду Шэню за тое, што той пакінуў яго без бацькоў. Тут раскрываецца тэма даравання і ўнутранага супакаення, то бок незласлівасць. Бо ўсім вядомыя словы св. Серафіма Сароўскага: «Прыдбай (то бок назапась) дух мірны і вакол цябе выратуюцца тысячы». У мультфільме менавіта так і адбылося. Дзякуючы таму, што Воін Дракона дасягнуў унутранага спакою і незласлівасці (то бок мірнага духу), гэта паслужыла выратаваннем для ўсяго Кітая.

У першай частцы, калі будзеце глядзець ці пераглядваць, завастрыце сваю ўвагу на паядынку Майстра Шыфу з Тай Лунгам. Раз'юшаны Тай Лунг пытае, ці ганарыўся Майстар Шыфу ім, бо ён як вучань усё зрабіў для гэтага. Абяссілены Майстар Шыфу адказаў, што заўсёды ганарыўся, і гонар яго асляпіў, што ён нават не заўважыў, у што ператварыўся яго вучань, а дакладней у што ён ператварае свайго вучня. Вось яно як бывае, калі ў вучня ганарыстасць, а ў Майстра празмерны гонар. Не здарма ж у Бібліі напісана: «Пачатак граху — гонар» (Сір. 10, 15). Менавіта з-за свайго гонару вярхоўны анёл Дзеніца ўпаў і стаў д'яблам.

У самым пачатку я пазначыў, што гэты мульцік цудоўна можа падысці ў якасці наглядных прыкладаў пры гутарцы з дзецьмі. Увогуле мульцікі глядзяць не толькі дзеці.

Я не прэтэндую, каб гэты артыкул стаў нейкай рэцэнзіяй на мультфільм. Хай ён застанецца місіянерскай глінай.

Калі робіш толькі тое, што ўмееш, ніколі не перасягнеш самога сябе.